## *ЗМЕСТ*






ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»



## Мікола МЯТЛІЦКІ

* * *

На краіны вялікай развале
Пад разбойным ашчэрам хапуг
Гэта мы Беларусь ратавалі,
Каб не счэз яе святасці дух.

Таўстасумы, упраўныя злодзеі,
Каму грош і не болей цана,
Нам з жальбою хітруча даводзілі,
Што сканае ў жабрацтве яна.

Ачышчэння духоўнага хвалі
Пракаціліся шыр'ю зямлі.
Гэта мы Беларусь адстаялі,
Для нашчадкаў яе зберaглі.

Хай сцінаюцца ўсе крыхаборы,
Алігарх хай самоту дап'е, —
Не расцеглі, драпежныя, ў норы
І не ўкралі ў народа яе!

На Айчыны касцях балявалі
І замежныя віскі пілі…
Гэта мы Беларусь збудавалі,
Памяць продкаў сваіх зберaглі.

---

***Мятліцкі Мікалай Міхайлавіч*** *нарадзіўся 20 сакавіка 1954 года ў вёсцы Бабчын Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці. Пасля заканчэння філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1977) працаваў карэспандэнтам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», з 1983 года — рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура». У 2002 годзе прызначаны галоўным рэдактарам часопіса «Полымя».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Абеліск у жыце» (1980), «Мой дзень зямны» (1985), «Ружа вятроў» (1987), «Шлях чалавечы» (1989), «Палескі смутак» (1991), «Бабчын» (1996), «Жыцця глыбінныя віры» (2001), «Замкнёны дом» (2005) і інш.*

*Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986) і Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы (1998).*

* * *

*Ірыне*

Твая сівенькая матуля
Вясковым клопатам жыве —
Трусоў гадуе, лашчыць-туліць,
Траву на ўзмежку ім ірве.

Хапіла ёй жыццёвай ношы,
Вазьмі — сагнуўся б з нас любы.
І сёння шчэ з надрэчча носіць
Свае асеннія грыбы.

І вочы — ясняцца лагодай,
І сэрца — поўнае святла.
Учора хмураю пагодай
На хутар родны дабрыла.

Рука к грудзям парыўна туліць
Далонь сухенькую яе…
Твая старэнькая матуля
Мне сэрца ў сцюжах саграе.

## ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ ЯКУБА КОЛАСА

У жніўня — санцалікая зара
І колас спелы, вымыты расой.
У дзень такі не стала песняра —
Махнула смерць зазубленай касой.

Аднак напроці вечнаму спачыну
Ён абраніў зярнят тугі запас,
Каб праз гады над ніваю Айчыны
Шугаў калоссем суверэнны час.

І ў дзень жыцця астатні Колас марыў
Даць слову ўсюдыісны спеўны лад,
Каб ачмурэння скрухай не захмарыў
Час роднай мовы ясны далягляд.

І сёння, ў век трывожны і суровы,
Яму жаданняў гэтых не ўтаіць.
Стаіць нязменна ён на варце Слова,
На варце нашай годнасці стаіць.

* * *

Ці дойдзем мы да тых таемных зорак,
Дзе ёсць арбіта, быццам цеціва,
Планета ёсць, дзе гэтакі ж пагорак
І гэткая ж мурожная трава?

Вітаю іх сваім крылатым духам,
Пахованых у далечах нябёс,
Планеты, дзе свавольна завірухам
І дзе вясной святліста ад бяроз.

Маё жыццё зямное — выключэнне?
Не байце казкі — час ужо не той.
Сусветам шчодра кінута насенне,
Не можа быць ён змрочнасцю пустой.

Я веру ў тое — недзе у далечы,
На гэтых шырах небных агнявых,
Чуцён і сёння голас чалавечы
І замірання мройна-сцяты ўздых.

І ў недасяжнай выстылай прасторы
З забытае, няпомнай даўніны
Яднаюць нас пабачаныя зоры,
Для ўсіх вачэй суродзічаў — адны.

* * *

Мной нічога не страчана,
А пяшчотна прымножана.
Песня — матчына спадчына —
Часам плыткім ці зможана?

Хоць багата павыстыла
Ў душах, бітых эстрадаю,
Веру — выжыве, выстаіць
І нашчадкаў парадуе.

Зачаруе, вясельная,
І расчуліць, радзінная.
Як душа, непадзельная,
На стагоддзі — адзіная.

Ёю будзе аплачана
Наша сутнасць жыццёвая.
Плача матчына спадчына
Самай шчыраю моваю.

Прыгарніце лагодліва,
У застоллі на покуці
Пасадзіце і, родная,
Збавіць душы ад пошасці.

Верне веру спатольную,
Верне сілу былінную
Песня наша, застольная,
На стагоддзі — адзіная.

* * *

Ў тумане рання хмурага,
Пачуўшы свету ціш,
На гарадзішчы Турава
У роздуме стаіш.

Не сонечна, не вусцішна —
Журба палешука.
Тут песня Златавустава
Ліецца, як рака.

Ашчадна археолагам
Узнятыя пласты —
Астанне бронзы кволае,
Як россып залаты.

Ашчэпкі гліны бітае,
Як промні даўніны, —
Стаялі тут, адкрытыя,
На прыпеку збаны.

А продкі жыта веялі.
Рыпеў ганчарны круг.
Аралі тут і сеялі,
Касілі траўны луг.

Жылі скупой падзёншчынай.
Ці думалі калі,
Што рэшта — плата дзённая
Камусь за мазалі,

Што будуць хлопцы жвавыя
Курганне іх капаць,
Каб звацца нам дзяржаваю,
Ямчэй пад небам стаць?

Пад неба зорным полагам,
Дзе хмельна б’е вясна,
Ім сніцца, археолагам,
Сівая даўніна.

Рукамі перамацаны
Жвір колькіх курганоў.
І працы пот аплачаны
Аскепкамі збаноў.

Ідзе работа чынная,
Някметная, штодня.
Святлее глыб айчынная,
Гучнее цішыня.

## НАВАГРУДАК. 2010

Вулачкі Навагрудка.
Аж праз шэсцьсот гадоў
Сечы былой пагудка
Б'ецца аб лёд муроў.

Ржанне плыве з акругі,
Як з пазабытых дзён.
Срэбна зіхцяць кальчугі,
Чуецца сечы звон.

Рушаць харугвы плошчай —
Конны і пешы строй.
Сцягі іх зноў палошча
Вецер над галавой.

З мірам ідуць здабытым
З Грунвальда напрасткі.
Поплеч Ягайла й Вітаўт,
Зноўку, як дружбакі.

З мірам спачні, краіна —
Колькі нас палягло?!
Замчышча Гедыміна
Возьме іх пад крыло.

Хмельнай падасць ім брагі,
Мёду з іскрыстых сот.
З мужнае іх прысягі
Летаў сышло шэсцьсот.

Рушаць харугвы з сечы —
Ўчора на сечу йшлі.
Будзень мой чалавечы
Зноў адстаяць змаглі.

Колькі на плошчу люду
Скліча набат званоў!
Цешыцца Навагрудак
Славай сваіх сыноў.

## СВЯТА ПІСЬМЕНСТВА

Было Палессе ў красе асенняй,
Дзе памяць гойная зноў вірыла.
На прывітальна-святочнай сцэне
Сама гісторыя гаварыла.

Сваёй суровай жыццёвай прозай,
Сваім журботна-тужлівым спевам.
І крочыў вуліцай Караль Прозар,
І нёс хатуль свой Часлаў Пяткевіч.

Усіх яднала жывое свята.
Нібы прыйшоўшы з майго маленства,
Журыў расчулены Мележ Дзятла,
Бо той не горнецца да пісьменства.

А ў парку княжым стаялі ў бронзе,
Зірнуўшы з вечнасці закахана,
Як клён з бярозаю пры дарозе,
Самоту збыўшы, Васіль і Ганна.

Я любаваўся табою, край мой,
Ты выцер слёзы бяды-навалы.
Вясёла, светла, парыўна, грайна
Душа палеская шчыравала.

Мой край, ты быў зноў у сіле-цвеце,
Ты не застаўся ў панылай скрусе.
Ты шчырым сэрцам гасцей прывеціў
Нам небам дадзенай Беларусі.

Там, дзе ў блакіце світаюць горы,
Там, дзе шырока залеглі стэпы,
Яны пра лёс твой напішуць творы,
Натхнёна дружбу жывую скрэпяць.

І кожны скажа адкрыта, смела
Пра гэта свята, пра люд гасцінны.
Праводзіў з Хойнік усіх нас Мележ,
На мовах свету для ўсіх адзіны.

* * *

У раз каторы дзверы гэтай школы
Я адчыняю з чутай асцярогай,
Нібы з-за іх у банціках-суквеццях
Ты выпырхнеш насустрач мне —
З-за Часу,
Што адшумеў віхурна ў сценах гэтых,
Нібы бруя у Віліі, праліўся

І так уцёк ужо адсюль далёка,
Азораны юнацкімі вачыма.

А ты ўсё тая ж — вечнай вучаніцай
Вандруеш па прасторы уяўлення:
То у вясновы ранак крыгаходны,
Бяздумная свавольніца, на крызе
Раку ізноў наўскос пераплываеш,
Каб каля школы самае прычаліць,
І спешліва ўзлятаеш зноў на строму —
Падалей ад дырэктаравай кары.

А то стаіш на беразе ў чаканні,
Калі матуля згледзіць з панадворку,
Стамлёная ад клопатаў надзённых
Падгоніць лодку — плёс вяслом успудзіць.

Стаю, гляджу на бераг супрацьлеглы
І бачу постаць юную на строме.
Задорная, вясёлая гулёна
Там радасна, развеснена смяецца,
І галасок — як жаўруковы трэлі —
Ліе вясна лагодліва над светам.

А я адно гляджу ўлюбёна — знаю,
Няма над плынню Часу пераправы.



Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ

# ВАЛОШКІ НА МЯЖЫ*

*(сямейная хроніка ў духу барока)*

*Роднаму гораду Брэсту прысвячаецца.*
Аўтар

## *Частка чацвёртая*

### VIII

Вяселле дасягнула ўжо той стадыі, калі па ўсім адчувалася, што госці добра падпілі і падсілкаваліся і па застоллі пачалася гучная гамана. Можна было распачынаць і танцы, бо цела ўжо прасіла нейкага руху. Пра танцы было дамоўлена з суседам Лукашом, — хросным бацькам Просі, які згадзіўся аддаць пад музыкі хату. Хата ў яго новая, прасторная, якраз падыходзіла дзеля такога выпадку. Танцаваць на вяселлі мелі права ўсе. Запрошаны ты ці не запрошаны — танцуй, весяліся. Людзей найшло — не зачыніць дзверы. Уладзімер сеў ля сцяны, на шырокай лаве, не спяшаючыся нацягнуў на плечы рамяні і, пераведшы дых, рэзка рвануў гармонню, і тая заенчыла, залілася бязладным візгатам, але гарманіст як бы перадумаў і перайшоў на памяркоўны і плаўны рытм вальса. Мікалайца грохнуў у бубен, выбіваючы «тахт», імкнучыся адшукаць патрэбную меру.

— Вальц! Вальц! — загаманілі навокал, — так па-мясцоваму гучала гэтае слова.

Першымі выйшлі маладыя, спаважна закружыліся ў танцы, пад доўгай белай сукенкай Просі замільгалі яе новыя чорныя туфлі.

— Глядзі, глядзі, як маладыя танцуюць!

За маладымі пайшлі іншыя пары, закружыліся, набіраючы хуткасць. Уладзімер у рытме вальса заспяваў: «Любіў я глазкі галубыя, а цяпер чорныя люблю. То былі нежныя такія, а гэты непако-орныя...»

Мясцовы люд, асабліва моладзь, любіў і ўмеў патанцаваць, прыскокнуць і прытупнуць. Любімы танец — полька. Манька Базылюкова, у пары з Ляксандарам Гальяшом, круцячы галавой улева і ўправа, звонка выводзіла, як бы вымаўляла, прыпеўкі:

З неба зорачка ўпала,
Яе ангел ураніў,
Не забуду тых славочкаў,
Што мне мілы гаварыў!..

---

* Працяг. Пачатак у № 9, 10, 2010 г.

— Давай! — падахвочвалі гледачы.

Мікалайца нястомна і аднастайна калаціў у бубен. На сярэдзіну хаты выйшла Фёкла. Даўно яна не танцавала. Хіба што калісьці на Фядорыным вяселлі. А цяпер, на сынавым вяселлі, успомніла маладосць, шырока ўзмахнула рукамі, топнула нагой, закружылася. Залілася ў дробным, прарэзлівым візгаце гармоня, і Фёкла заспявала, плаўна паводзячы плячыма:

Не па чаю я скучаю,
Мая чашка чайная,
Не па мілым я скучаю —
Жызнь мая пячальная.

— Смелая ў вас жонка! — сказала Наталка, стоячы побач з Лявонам. — Руская!

— Руская! — усміхнуўся сват.

— З бежанства?

— У бежанстве пазнаёміліся.

А не ўсё па гору плакаць,
А не ўсё па ім тужыць,
Трэба ж хоць адну часінку
Ды ў вясёласці пажыць!.. —

зноў заспявала Фёкла, лоўка прытупваючы абцасамі. Не ўтрымаўся падвяселены Лаўр Яўсеевіч, хоць дзякаўскі чын гэтага яму быццам бы і не дазваляў, высока падняў руку, пляснуў сябе па жываце, моцна тупнуў нагой, потым другой, потым абедзвюма разам і гонка пайшоў па крузе — услед за Фёклай, дробна перабіраючы нагамі. Тэмперамент дзяка браў сваё. Куды яна — туды і ён. І так, пакуль не стаміліся. Пасля гэтага зноў пачалася новая мяцельная полька. Лукашова хата калацілася і стагнала ад тупату танцораў.

Лаўр Яўсеевіч сказаў Фёкле камплімент:

— Я ад вас проста ў захапленні!

«Няўжо яму амерыканак тых мала? — не паверыла яна. — І ён ад мяне ў захапленні...»

Вяселле працягвалася, і пара ўжо было склікаць гасцей да «перапою» — дзяліць каравай, які чакаў сваёй чаргі ў каморы. За караваем пайшоў маршалак — гэта яго абавязак. Ішоў, прыкметна хістаючыся. Відаць было, што Хведар ужо на добрым падпітку, ручнік яго перакруціўся і з’ехаў вузлом на жывот. Праз колькі хвілін ён выйшаў з каморы з караваем у руках, нагамі намацваючы дарогу, смешна было за ім назіраць. Чалавека апанавала хвалянне, баяўся, каб, не дай божа, не ўпасці. Мінулай восенню такое здарылася з Трахімам Хлябічам, які быў за маршалка на вяселлі ў Оргія Ламакі, нёс каравай, ужо добра сп’янелы, памкнуўся нешта сказаць ды зачапіўся за палавік і ўпаў. Каравай разваліўся на кавалкі, і яго давялося збіраць. З Хведарам такога не атрымалася, ён удачна адолеў адлегласць да стала і паставіў каравай перад маладымі. Ад урачыстасці моманту ўсе на хвіліну змоўклі, а потым усе разам загаманілі:

— Удаўся каравай!

— Прыгожы!

— Румяны!

— Удаўся!

Пачалася дзяльба. Госці, па закліку маршалка, набліжаліся да стала, казалі пажаданне маладым, клалі грошы ці дакляравалі нейкі іншы падарунак, атрымлівалі за гэта кавалак каравая і выпівалі кілішак.

Першымі да каравая падступілі бацькі маладой — Мікалай з Наталкай. Музыканты зайгралі марш. Маршалак напоўніў кілішкі і паставіў на край стала.

— П'ю за вас, зяць і дачка, — пачаў Мікалай, — і кладу дваццаць пяць злотых. Пра астатняе скажа мая Наталка. — Ён дастаў з кішэні прыпасеныя грошы і паклаў на каравай, узяў кілішак.

— Каб шчасце было ў хаце, — далучылася да мужа Наталка і паклала на стол стракатую, згорнутую ў некалькі столак посцілку. — Калісьці сама выткала.

Маладыя пакорна слухалі бацькоўскія пажаданні. Васіль стрымана падзякаваў цесцю і цешчы, якія, крыху моршчачыся, асушылі свае чаркі. За Мікалаем і Наталкай падышлі да стала Лявон з Фёклай, таксама выказалі добрыя пажаданні і паклалі грошы. Хведар наліў і ім.

Наступным быў Просін хросны Лукаш з жонкай Макрынай.

Авечкаю перапіваю,
Каб жылі, як у раю!.. —

абвясціў ён пад радасную гаману і воплескі прысутных гасцей. Макрына паклала звалёк палатна.

Падняў кілішак Шпронька:

Перапіваю рабою свіннёю,
Каб згодна жылі між сабою! —

выгукнуў ён.

— Як у сук! — сказаў Макар, які ўсё вяселле прамаўчаў.

— Абмане, абмане! — загудзелі за акном.

Лавачнік выпіў і рэшткі пырснуў на столь.

Дзяльба каравая працягвалася. Маршалак біў у бэльку калатушкай, запрашаў удзельнікаў вяселля «да перапою». Дарылі грошы, рываны, посцілкі, палатно. Музыканты нястомна ігралі «маршы». Павал Гальяш пажадаў:

Кладу белы грошы,
Каб дзеці былі харошы!

Нарэшце чарга тых, хто хацеў адарыць маладых, выпіць чарку і атрымаць кавалак каравая, скончылася. Музыканты перасталі іграць, і маршалак загадаў наліць ім па кілішку. Тыя выпілі, крэкнуўшы, і танцы пачаліся ізноў, танцы да ўпаду, як жартавалі госці. Маладых павялі нанач у камору, дзе ім была паслана мяккая пасцель. У сенях замужнія жанчыны праспявалі пару брыдкіх частушак...

Лявон з Фёклай заспяшаліся дадому, каб, як таго патрабаваў звычай, назаўтра сустрэць маладых.

На наступны дзень, амаль на світанні, вясельныя госці, абдаўшы твары халоднай вадой, зноў, праўда ўжо ў меншай колькасці, сядалі за сталы, пахмяляліся, некаторыя ішлі да суседзяў адпачываць. А пад абед вяселле ўжо збіралася ў паразвы, бо скончыцца яно павінна было ў хаце маладога, куды мелася прыехаць з пасагам нявестка. На вуліцы ўжо стаяла некалькі запрэжаных фурманак. Пярэднюю, прызначаную для маладых, упрыгожылі стракатымі посцілкамі ды кветкамі. Коням паўплялі ў грывы стужкі, вазы паабтыкалі яловымі галінкамі. Рыпеў пад нагамі хрупкі лядок.

Панаваў настрой смутку. Расстанне з бацькоўскім гняздом. Жанкі-каравайніцы, якія ўчора падбадзёрвалі, калі маладая пара ішла нанач у камору, цяпер спявалі:

Ідзеш, дзіцятко,
У чужыя людзі.
Лягай пазненько-о,
Уставай раненько,
Кланяйся нізенько...

Маршалкаваў усё той жа Хведар, па-ранейшаму перавязаны доўгім вышытым ручніком, пакамечаным ужо і не надта свежым.

— Давайце скрыню! Дзе скрыня? — непакоіўся ён.

Скрыняй называлі вясельны куфар, у якім маладая везла ад бацькоў пасаг — падушкі, пасцель, радзюжкі, вопратку, звалькі палатна, абутак, ручнікі. Трэба было ўзяць яшчэ і падарункі новым родзічам.

— Глядзі, каб цэглы ды каменняў не наклалі! — пажартаваў Шпронька, які, адсопваючыся ад з'едзенага і выпітага, і, як і іншыя госці, налягаючы на квас, таксама збіраўся ў пераезды.

Вялізны, абабіты жалезам і пафарбаваны ў зялёны колер куфар Алёша з Барысам паставілі на апошнюю фурманку.

Фядора з Барбараю, стоячы разам з Наталкай, суцяшалі сумнаватую сваццю:

— Ён у нас добры, няп'ючы, — казалі пра Васіля.

«Дзякуй, дзякуй, добрае вяселле ўстроіў Мікалай!» — чулася ззаду.

— Тры вядры самагонкі выпілі! — хваліўся Мікалай. — І ніхто не п'яны.

— Бо добрая закуска!

З хаты паказаліся маладыя. Абое апрануты па-дарожнаму, у кажушках. Прося без вэлюма, але з зялёнай кветкай на грудзях. Гарманіст зайграў марш. Загрымеў Мікалайцаў бубен. Прося заплакала, пакланілася бацькам у ногі. Каравайніцы зноў заспявалі, яшчэ больш дадаючы жалю:

Каб я тое знала,
Што замужам ліха,
Той сядзела бы,
Бульбу ела бы
У матуленькі ціха-а.

Услед за маладой пачала плакаць яе маці Наталка і астатнія родзічы. Госці размясціліся ў вазках, і перад тым, як ехаць, Мікалай абнёс усіх «аглаблёвай» — выпілі па чарцы на дарогу, нарэшце рушылі. З месца ўзялі з гіканнем, крыкам, хвасталі коней пугамі, і тыя ляцелі, як бы ад кагосьці ўцякалі.

Горку, што за вёскай, адолелі без цяжкасцей. Прыпыніліся крыху наверсе. Навокал, на ўзлобінах, вызваленых з-пад снегу, зелянелі веснавою руннюпалі.

Пераехалі, падскокваючы на бярвеннях, масток. Праз Выгнанку таксама імчалі як ашалелыя. Хай усе ведаюць, што гэта вяселле!

— Але ж і хуткасць! — дзівіўся Шпронька. — Я так хутка не езджу. Ой, каб не перакуліцца! Ой, нутро навярэджу...

За Выгнанкай паказалася Пруска, але ходу не збаўлялі. Коні свежыя, застаялыя, сілы хапала.

Каля Кужалёў, ля калодзежа, поезд з паязджанамі спыніўся. Тут ужо сустракаў цэлы натоўп запрошаных. Наперадзе — Лявон з Фёклай, вітаюць хлебам-соллю. Пярэднія фурманкі ўз'ехалі на панадворак. Церусіўся дробны сакавіцкі сняжок, растаючы на тварах людзей. Хомчыха, якая, відаць, доўга рыхтавалася да сустрэчы, заспявала хрыплаватым голасам:

Вынось маці, дзежку,
Прывёз сын нявестку...

Васіль саскочыў з вазка, дапамог сысці Просі. Пакаштавалі хлеба, макнуўшы яго ў соль. Жанчыны, пераадольваючы гаману, спявалі:

Адчыняй, свякруха, варота,
Вязе сын нявестку, як злота,
Адчыняй, свякруха, камору,
Вязе сын нявестку, як зору,
А вясёлу, вясёлу, як вясна,
А рабочу, рабочу, як лета,
А багату, багату, як во-осень...

Знялі з воза і перанеслі ў хату пасажную скрыню. Аббіваючы аб парог снег з абутку, госці пасунуліся ў хату, пачалі распранацца.

На засланых абрусамі сталах ужо стаяла гарэлка і закуска. І пірагоў, і кілбас, і гусей (з грыбамі і перчыкам), і курэй накладзена — тут ужо Фёкла пастаралася. Ватрушак напякла (кнышы — па-мясцоваму) з тварагом і макам. Оргій Відэрка налавіў рыбы, і Фёкла ў гонар гасцей насмажыла акунькоў, краснапёрак, шчупакоў. Госці немітусліва займалі месцы, усаджваліся. Павал са Зміцерам, Лаўр Яўсеевіч, Шпронька. На пашанотным месцы — радня. Цэлы рад занялі Васілёвы сябры. Крыху далей сеў Цішка пахолак. Каля яго — Апанас з маці і з Дзякрэтай, Оргій Відэрка з жонкай. Ля акна, што выходзіла ў двор, заняў месца Гамон. Прыехалі Мікалай з Наталкай, Барыс з Надзяй і Алёша. Запрасілі на пераразвы і старую Васіліху, якая ўладкавалася ў самым канцы, ля дзвярэй на кухню.

Мужчыны не супраць былі пакаштаваць гарэлкі. Пілі і елі яшчэ болей, чым у Мікалая. Гаспадыня з усіх сіл імкнулася дагадзіць гасцям, пачаставаць яшчэ смачней, чым Наталка. Асабліва даспадобы прыйшлася тушаная бараніна з капустай ды свежая рыба з Лосьны. Удаўся хлеб, спечаны на капусных лісцях. Лявонава самагонка не саступала Мікалаевай «карчоўцы». Настоеная на зуброўцы, яна мела прыемны водар, пахла пушчанскай зубрынай глухаманню.

Лаўр Яўсеевіч хваліў хлеб:

— Хлеб у вас смачны, як сыр! — Усе з гэтым згаджаліся.

Маршалкаваў усё той жа Хведар. Грудзіна ў яго перавязана — крыжнакрыж — яшчэ адным вышытым ручніком, які павязала Фёкла. Запарожнікаў на пераразвах няма і маршалку ніхто не замінае. А Гамон толькі дапамагае.

— Казала качарка гуляць вяселле да чацвярга! — падахвочваў ён гасцей, каб болей выпівалі і закусвалі.

Оргій Ламака сядзеў побач з жонкай. Сынклета моўчкі ела і прыдзірліва аглядала стол. Калі муж браў нешта са стала, яна штурхала яго ў бок. Не паказвай, маўляў, што галодны. Звычайна Оргіем яна камандавала, як хацела. І дома, і ў гасцях. Часам, аднак, ён шукаў способу, каб бараніцца. І быў у яго адзін правераны, які Оргій вырашыў ужыць і на гэты раз.

— Бач, прадала карову і сядзіш! — сказаў ён і азірнуўся на жонку. Гэтак ён казаў кожны раз, калі хацеў даняць Сынклету і прымусіць яе замаўчаць.

Застолле дружна зарагатала, бо гэтую гісторыю ведалі ўсе. Павал Гальяш амаль ніколі не смяяўся, а тут ад рогату аж закашляўся. Сынклета пачырванела і злосна кальнула мужа вачыма. А справа была такая. Павяла Сынклета ў Камянец на базар карову. Бо Оргію, вядома, такую справу не даверыш — дурань. Прагадае і аддасць па дзяшоўцы. У Прусцы Хведар-японец даваў за Ланьку пятнаццаць злотых, але Сынклета не згадзілася. У Камянцы пашанцавала — за карову заплацілі шаснаццаць злотых. Радасная ад удачы, яна загарнула грошы ў хустачку і моцна заціснула скрутачак у руцэ. Тут жа на базары нейкі ўвішны дзяцюк прадаваў рознакаляровыя надзіманыя шарыкі. Надзьму-

тыя нейкім лёгкім газам, яны так і рваліся ў неба, напінаючы вяровачкі. Асабліва не цярпелася ўзняцца ў неба чырвонаму шарыку, які ажно падскокваў на ветры, наструньваючы вяровачку. Ён якраз і прыглянуўся Сынклеце. Дзецям будзе гасцінец! Сынклета заплаціла за яго дзесяць грошай. Каб лаўчэй было трымаць шарык, яна да вяровачкі прывязала скрутачак з грашыма. Цяпер усё можна было трымаць у адной руцэ, і Сынклета ўжо збіралася дадому, але загледзелася на паліваны керамічны посуд, што прадаваў мужчына ў паліняным кажушку, хацела купіць збаночак і сама не заўважыла, як выпусціла з рук вяровачку. Шарык як бы гэтага і чакаў — ірвануў уверх разам з хустачкай. Усе, хто быў на базары, пазадзіралі насы ўгору і, паказваючы пальцамі, глядзелі, як шарык усё вышэй узнімаўся ў неба. Але не спачувалі, а смяяліся з беднай жанчыны. Вярнуўшыся дадому, Сынклета пра ўсё распавяла Оргію ды яшчэ з такой крыўдай, як бы гэта ён быў ва ўсім вінаваты. Оргій чухаў патыліцу і маўчаў, бо пярэчыць Сынклеце не выпадала...

Нарэшце рогат аціх, застолле супакоілася, і Сынклета, каб паказаць, што яна не надта рэагуе на смех застольнікаў, колькі разоў кашлянула ў кулак.

— Больш ужо не магу, — пагладжваючы жывот, скардзіўся Шпронька, — хіба што каб арэхаў на стол сыпнулі.

— Але ж дзе тых арэхаў возьмеш... — развёў рукамі Зміцер Зуб, які не супраць быў дагадзіць лавачніку. У лавачніка і купіць нешта можна, калі прадасць. Гамон таксама апекаваўся Шпронькам:

— Ён чаю просіць, Фёкла, налі яму чаю!

— Ды не прашу я чаю! — абурыўся лавачнік. — З ліпавага цвету я не п’ю, а кітайскага ў вас няма.

— Кітайскага няма, — прызналася Фёкла.

— Фёкла, святла дабаў! — папрасіў нехта з гасцей. Фёкла падкруціла кнот, і ў хаце пасвятлела.

Сынклета зноў сярдзіта пакашляла ў кулак.

— Оргій, — павярнулася да суседа сердабольная Хомчыха, — а чаго гэта яна ў цябе кашляе?

— Гэта яна так! Апранула новую сукенку, дык хоча, каб на яе ўсе глядзелі.

Зноў бухнуў рогат. Сукенка на Сынклеце была ўжо далёка не новай, і ўсе гэта бачылі, але смяяліся яшчэ больш.

— Чаго гэта вы да жанчыны прычапіліся? Як вам не сорам? — устала на бок Сынклеты Фёкла.

— Але і праўда, — падтрымала залоўку Фядора, якая таксама заўсёды ўсіх шкадавала. — Людкове, адчапіцеся ад яе!

Нехта прапанаваў заспяваць — папулярную «Распрагайце, хлопцы, коні...»

У канцы і тут была дзяльба каравая, клалі грошы тыя, каго паклікалі на перазвы. З добрым словам звярнулася да маладых старая Васіліха.

— Каб у вас дзетак было, як зорачак у небе! — пажадала яна.

Маршалак заклікаў гасцей, цяпер ужо з боку маладога, да «перапою». Маладая раздавала новым сваім родзічам падарункі: Лявон атрымаў крамную кашулю, Фёкла — кофту. Разыходзіліся госці пад раніцу, ужо надта стомленыя, але вясёлыя і ўсмешлівыя. Адзін толькі Лаўр Яўсеевіч пакінуў перазвы з вечара.

— Прашу прабачэння, у мяне прызначана спеўка, — патлумачыў ён.

* * *

Фёкла палюбіла нявестку, якая аказалася добрым і працавітым чалавекам, маладухай цягавітай і пакорлівай. Са свякроўю і свёкрам ладзіла — і ў хаце дапамагала і па гаспадарцы.

## IX

Вясна 1937 года выдалася халоднай і зацяжной. Доўга не адпускалі маразы і гуляў вецер са снегавой крупкай. Надвор'е дзівіла холадам і сушшу. Глыбока, на цэлы сажань, умерзла зямля, і давялося чакаць, пакуль яна вызваліцца з мерзлаты і пусціць кволыя парасткі травіцы. І толькі ў пачатку красавіка пачало капаць з саламяных стрэх, зніклі ледзяшы, якія да гэтага нерухома звісалі над вокнамі. Паветра дыхнула веснавой разняволенасцю. Скупа прышчыліся пупышкі на кустах і на дрэвах, на ўзгорках зацвілі пралескі. Пажаўцела вярба, акідаўшыся дробнымі жоўта-зялёнымі лісточкамі.

Доўга не выганялі з хлявоў скаціну на пашу і не пачыналі сеяць. Жывёлу выгналі, калі зацвіла бяроза, звесіўшы з галін жаўтлявыя завушніцы, а ад зямлі пасля першай вільгаці адскочыла свежая травічка.

Пруска жыла чуткамі. Даходзілі весткі пра суд над палітвязнямі ў Сакольцы (гэта адразу ж за Берасцем у бок Беластока) — на гэты раз на лаве падсудных знаходзілася ажно 37 чалавек. У Берасці, як бы спецыяльна для іх, заканчвалася будаўніцтва турмы — новай, тамсама над Мухаўцом. І ў Картуз-Бярозе хапала пастаяльцаў — іх везлі туды адусюль, з усяе краіны.

Папаўзлі слухі пра камасацыю — рассяленне па хутарах. Такое ўказанне ішло з самага верху, ад урада. Людзей ахапіла трывога, бо ў Ратайчыцах, у гміне, ужо распрацоўваўся план. Прыязджаў каморнік, ды не адзін, а некалькі. Шырокае прускаўскае поле разбівалі на парцэлі, на якія меліся высяляцца з вёскі людзі. Лявон з Васілём, як і ўсе вяскоўцы, чухалі патыліцы, непакоіліся, як і чым усё гэта абернецца. На пачатку было спадзяванне, што можа дзе лепшай зямлі прырэжуць і ў добрым месцы, бліжэй да вады, да сенажаці. Але не! Кужалям адвялі месца ў Срачы — гэта дальні палетак побач з Бабіцкай гарою.

— А што там вырасце — у тым Срачы? — сумняваўся Васіль, і не адзін ён. Павал Гальяш, адзін з самых разважлівых у Прусцы, казаў:

— Калі гною даць, то, думаю, вырасце, а без гною не! Без гною нічога не будзе.

— І вада там глыбока! Не дакапацца! — кволіўся Оргій Ламака. — Не дакапацца і Сынклета мяне прыб'е.

— Ой, людкове, — стагнала Хомчыха, — пагінем мы там! Ні вады, ні выгану, адно поле, адзін пясок! А з пяску толькі вошы нараджаюцца.

Жартаваў адзін толькі Гамон, крывячыся на бок і паказваючы вышчэрблены рот:

— Гара Бабіцкая побач — з гары на Камянецкі стоўп будзем пазіраць! — гугнявіў ён, смеючыся.

Клопаты насоўваліся валам. Не было з кім параіцца. Ні таго Кляновіка, ні нават Косці, які беззваротна кудысьці знік. А думкі насядаюць адна за адной. Як падумае Лявон, што і будынкі трэба будзе пераносіць, дык не можа дайсці сваёй галавой. Але ад камасацыі, відаць, не адкруцішся. Хто не хацеў — выклікалі паліцыю. А з другога боку, калі падумаць, сам сабе гаспадар! Амаль як у той Амерыцы. Лявон успомніў фермера-амерыканца містэра Грыца, які казаў некалі:

— Мы, амерыканцы, не любім хадзіць у статку. Кожны — асобна...

Трэба было нешта рабіць, прымаць нейкае рашэнне. Пра Лявонаў клопат дачуўся Якаў Арыстархавіч і зноў падкаціўся з даўняй прапановай. Свае ідэі фальварковец выношваў доўга і ніколі пра іх не забываў. Сустрэўшы Лявона ў нядзелю ў царкве, ён, паціснуўшы сябру руку, спытаў:

— Ну, куды вас ссяляюць?

— У Срач.

— Далёка, хоба на іх.

— Далёка, і адно поле, пясок...

— Ну дык купляй у мяне «крухмальню» — гэта ўжо і жыццё падказвае. Я шмат не вазьму.

Якаў Арыстархавіч штонядзелі наведваў царкву. Але заставаўся перш за ўсё дзялком і галоўным богам, перад якім ён схіляў галаву, былі грошы.

— Трэба падумаць.

— У «крухмальні» і хутар збудуеш! Бліжэй будзем! Давай, хоба на яго...

— Абяцаю падумаць.

У той жа дзень, пад вечар, Лявон не вытрымаў і прайшоўся за рэчку, за масток, да Пана-Яна, капліца якога зарасла дзікім вінаградам і шыпшынай. Пасля зімы карчы ўжо ажылі і зазелянелі. «Крухмальня» — руіны бітай чырвонай цэглы, стары панскі сад, сажалкі, акружаныя маладым алешнікам, ляшчынай і чаромхаю — знаходзілася побач, па левы бок дарогі. Сад пачынаў цвісці, шчабяталі птушкі, свяціла сонейка, у сажалках пераклікаліся жабы. Лявон абагнуў сажалку, прайшоўшыся па высока насыпаным беразе, спыніўся ля руінаў. Агледзеўся. Зямля вакол зруйнаванай крухмальні даўно ўжо не ўраблялася і добра-такі зляжалася і ўтравела. Затое рупліва працавалі краты, густа пазначаючы сваю прысутнасць свежымі гурбачкамі чорнай зямлі. «Зямля тут добрая, урадлівая, панская. Тры з палавінай гектары. І лужок ёсць — сенажаць. І сад. Стары, але яшчэ не благі. Яблыні пасаджаны не густа — паміж дрэвамі можна нешта сеяць ці садзіць. Але як гэта ўсё прыдбаць? Патрэбны грошы. І немалыя! Якаў Арыстархавіч запрасіў тры тысячы злотых. Меней, казаў, нельга. Хіба што пазычыць дзе. Але дзе, у каго? Хто рызыкне даць?»

З гэтымі думкамі ён вярнуўся дадому, пачаў раіцца з Васілём.

— Можа, у Міколы Шпронькі пазыч? — параіла Фёкла. — Ён мае. Новую лаўку збудаваў.

— Ён мае, але з ім мне не сполка. Вялікі працэнт возьме! Да камянецкіх яўрэяў трэба ехаць. У Хайкі папрашу.

— Бясквотна яна таксама не пазычыць!

— Цяпер бясквотна ніхто не пазычыць.

Трэба было ехаць у Камянец, наведацца да Хайкі — даўняй прыяцелькі, яшчэ з 20-х гадоў. Праўда, апошнім часам у чымсьці змяніліся і камянецкія яўрэі — больш сквапныя сталі, дробязныя і мітуслівыя. Відаць, іншыя часы насталі...

У нядзелю з раніцы Лявон паехаў на базар і ў Замастах (прыгарад Камянца) спыніўся каля Хайчынай карчмы. Закруціўшы лейцы за плот, накіраваўся да ганка. У карчме нікога з наведвальнікаў не было. Кліенты звычайна збіраліся ў другой палавіне дня, пад вечар. Яго сустрэў зялёны папугай з пукатымі няўцямнымі вочкамі. Заўважыўшы незнаёмага, стаў паводзіць сябе неспакойна:

— Прыйшлі! Госці! Госці! Прыйшлі! — аднастайна і хрыпла выкрыквала птушка, тапырачы маленькія крыльцы і падскокваючы ў клетцы на сваёй тоненькай жэрдачцы.

— Ша! — махнуў рукой на папугая малады мужчына, з’явіўшыся аднекуль збоку і спыніўшыся за прылаўкам. Птушка залапатала крыламі і змоўкла.

— Добры дзень! — павітаўся Лявон.

— Добры дзень! — адказаў мужчына. Гэта быў зяць Хайкі Айзік, якому карчмарка саступіла месца за прылаўкам. — Што? Смажыць? Піва?

— Давай! — Лявон агледзеўся і сеў за крайні стол. Расшпіліў пінжак.

Падаткнуўшы пад дзягу фартух, Айзік тонкім струменьчыкам жвава нацадзіў у кружку піва і паставіў на стол перад кліентам. Лявон пакаштаваў, піва здалося кіславатым і не надта смачным.

— А дзе цешча? — спытаў у Айзіка.

— Там! — малады карчмар паказаў рукою на дзверы.

— То можа б ты яе паклікаў?

— Можна, — Айзік пакінуў прылавак і накіраваўся ў бакавушку, і праз нейкі час на парозе паказалася Хайка. Гэта была яшчэ далёка не старая жанчына з вусікамі па куточках пульхных вуснаў. Цяжкія грудзі абцягвала кофта з зялёнага паркалю. Калісьці чорныя косы пранізалі ўжо белыя пасмы.

— Добры дзень! — павіталася з госцем здалёк.

— Добры дзень!

Падышла, села насупраць Лявона, націснуўшы грудзьмі на стол, падперла рукою тоўстую шчаку. На сярэднім пальцы ў яе красаваўся залаты пярсцёнак з вялізным зялёным каменем. І рот залаты, як у цыганкі.

— Ну, як справы? — запытала яна.

— Спр-равы, спр-равы! — захрыпеў з клеткі папугай, прыглядаючыся да гаспадыні. Хайка зняважліва махнула на яго рукой:

— Дурань.

— Ну, так сабе, сына ажаніў. А ў вас?

— Дрэнна.

— А што такое?

— Няма ніякага гешэфту! Кожны хоча абдурыць! А тут яшчэ і прыцясненні!

У карчму прывалокся няпэўнага выгляду мешчанчук са спітым, набрынялым чырванню тварам, падышоў да прылаўка і пачаў гаворку з Айзікам. Лявон чуў, як ён скардзіўся:

— Слабая ў цябе, Айзік, гарэлка, учора піў, і не разабрала, і сёння цвярозы...

— На трэці дзень разбярэць! — з упэўненасцю, махнуўшы рукой, адказаў карчмар.

Лявон адпіў піва і зірнуў на гаспадыню:

— Якія прыцясненні?

— А хіба вы не ведаеце? У Мойшы вунь аптэку блакатамі аклеілі, каб лякарствы ў яго не куплялі, і да маёй карчмы прыдзіраюцца...

— А што такое?

— Як бы вы не чулі!

— Не.

— Паставілі былі на ганку таго бамбізу дурнога — паліцыянта, каб нікога да мяне не пускаў. А ў Брэсце ў многіх зноў вокны паразбівалі...

Нейкія няпэўныя чуткі ў Пруску даходзілі, але толкам Лявон нічога не ведаў. Хайка гаварыла пра падзеі вясны 1937 года. Яны адбыліся ў Брэсце 13 мая. Уладальнік мясной лаўкі Айзік Шчарбоўскі нажом смяртэльна параніў паліцыянта Стэфана Кіндзёру. Даставілі ў шпіталь, і ён памёр. Гэта здарылася на рагу вуліцы Доўгай з Брацкім завулкам, на Малым базары, дзе знаходзілася гэтая злашчасная мясная лаўка. Палыхнулі і завіхурыліся жарсці на антысеміцкай глебе. Пайшло: «Бі жыдоў!» Утвараліся групы, якія пачалі граміць яўрэйскія лаўкі, магазіны і кватэры. Грамілы — не народ. У час гэтага яўрэйскага пагрому ў Брэсце (адзінага за ўсю шматвекавую гісторыю гэтага горада) праваслаўнае насельніцтва хавала ў сваіх дамах яўрэяў, якія ратаваліся ад грамілаў. (Потым брэсцкія яўрэі атрымалі дапамогу з Амерыкі ад Джойнта, урон быў ліквідаваны. Вырасла цэлая вуліца яўрэйскіх дамоў насупраць Кальварыйскіх могілак).

— А ў Дуброве, — працягвала Хайка, — напісалі на краме: «Bij Żyda». І адзін бандыт уехаў у краму на кані, завярнуў каня і выехаў. Павыбівалі вокны ў хатах. Паліцыянтаў не баяцца. Жыды плачуць.

Хайка расказвала, жалілася. Лявон, спачуваючы, слухаў. Бо што ён мог зрабіць?

— У Берліне, кажуць, біццё вітрын у яўрэйскіх магазінах стала ўжо забавай.

— Няўжо ажно так?

— Гітлер сказаў, што хоча знішчыць увесь яўрэйскі народ. Праз сто гадоў не будуць ведаць, што калісьці быў такі народ. — Жанчына ўздыхнула, правяла рукою па скронях. — Абвінавачваюць, што быццам праз яўрэяў Германія атрымала паразу ў тую вайну, бо немцы ваявалі на фронце, а дома яўрэі распачалі рэвалюцыю. Вось усё і ляснула! А ці так? Гэта выдумляюць антысеміты, а дурні вераць. Вуй, вуй! — Хайка зноў уздыхнула. — Пры Пілсудскім было добра, ён нам спачуваў, а цяпер...

— Дык у Камянцы, здаецца, «Іголка»[1] ёсць? Хай бы, можа, яна заступілася...

— Вуй, вуй, тыя фалангісты страшныя людзі! А што тая «Іголка»? — Хайка зняважліва махнула рукой і павярнулася да зяця: — А дзе наш бахур, куды ён пайшоў? — звярнулася яна да Айзіка, турбуючыся, відаць, пра ўнука.

— Нічога з ім не здарыцца, — супакоіў зяць.

Лявон загледзеўся на прыгожы пярсцёнак на Хайчынай руцэ:

— Раней такога ў цябе не было.

Жанчына задаволена пакруціла пальцамі і сама паглядзела на пярсцёнак:

— Падабаецца?

— Прыгожы.

— Можа, вы па якой патрэбе заехалі?

— Але, не без патрэбы.

— А што ж такі вам трэба?

— Грошай хацеў бы ў вас пазычыць...

— Грошай? — азваўся Айзік, які, відаць, чуў іхнюю размову. — То вы, пэўна, блытаеце нас з Ротшыльдам.

— Гр-рошы! Рош-шыльт! — загаманіў папугай, як бы ўслухоўваючыся ў тое, пра што размаўлялі людзі. — Рош-шыльт! — Гаспадыня прыгразіла птушцы пальцам з пярсцёнкам, і тая змоўкла таксама раптоўна, як і загаманіла.

— Лявон — гаспадар! Яму можна пазычыць! — павучальна патлумачыла Хайка, крыху павярнуўшыся, каб пачуў зяць і чуў Лявон. — Яўрэі, наколькі гордыя, настолькі міласэрныя. Ты маеш уважлівы падыход, і мы маем уважлівы падыход. Ну, вядома, не бясквотна. Бясквотна ніхто не пазычыць.

— Ну, так.

— А нашто табе грошы?

— Зямлі надумаў купіць, цяпер на хутары рассяляюць.

— А я чула. І колькі табе не хапае?

— Дзве з палавінай тысячы.

— Ого! — зноў адгукнуўся Айзік.

— Але ж гэта — грошы, — пакруціла галавой Хайка і прыцмокнула. — З грашыма цяжка! А такія грошы — гэта не так сабе.

— Вы ж, здаецца, нікуды не збіраецеся ехаць? — Лявон меў на ўвазе тое, што апошнім часам пашыраўся рух у Палясціну, і многія з яўрэяў ехалі. — Бо некаторыя вашы едуць. Зямлю ў Палясціне купляюць...

— Не-е, радзіма наша тут, а не ў Палясціне. Нарадзіліся тут і жывём. А чаго нам ехаць? Хто нас надта чакае? А што з той зямлі? Каменне адно, пясок.

---

[1] У Камянцы ў 20—30-я гады XX ст. існаваў прафсаюз «Іголка», які аб’ядноўваў і абараняў шаўцоў і краўцоў.

— Мне ж трэба будзе вярнуць вам пазычанае. Як толькі з’явяцца грошы — вярну. Будзьце ўпэўнены!

— Аддасі! Добра, ты маеш уважлівы падыход, і мы маем уважлівы падыход. Каб ніхто не чапляўся, у кантракце напішам, што гэта аніякая не пазыка, а ўсяго толькі бескарыслівая дапамога. Дзесяць працэнтаў возьмем. Гэта не шмат!

— Дзесяць працэнтаў?

— А што? А хто менш возьме?

— Я згодзен. Магу і вексель даць.

— Ой, не трэба! Ужо адзін даў, Мікіта Галёнка з Прускі. Ну і вексель! Ну і надуў Еселя! — Хайка зарагатала.

— Пра гэтую гісторыю я ведаю, — пасміхнуўся Лявон, — але ж я не Мікіта.

А гісторыя была такая. Мікіта Галёнка пазычыў у камянецкага мясніка Еселя Памяранца пяцьдзесят злотых і выдаў яму вексель, у якім значылася, што вінаваты шэсцьдзесят. Не забыў пацікавіцца ў Еселя, у якой школе той вучыўся і ці ведае па-польску. Вучыўся Есель у ешыбоце, а польскую мову ведае толькі збольшага, троху чытае, калі напісана вялікімі літарамі. Але ўсё роўна трэба акуляры. «Вексель» — гэта добра, — супакоіў ён Мікіту, — і я хвалявацца не буду, і ты своечасова вернеш. Вексель — дакумант! Тэрмін абмежавалі паўгодам, і Мікіта падпісаў паперу. За гэты час ён абавязваўся выкупіць у Еселя свой вексель. Па векселі трэба плаціць — гэта ўсім вядома. Есель агледзеў змест дакумента, амаль прамацаў пальцамі пастаўленую ў ім суму і не звярнуў увагі на подпіс. Унізе стаяла Куцепаў.

Прайшло паўгода, і Есель з’явіўся па грошы своечасова, дзень у дзень. Мікіта папрасіў крыху пачакаць. Так было раз і другі, і Есель, нарэшце, вымушаны быў звярнуцца ў суд, які знаходзіўся ў Высокім. Подпіс суддзю насцярожыў: «Гэта які Куцепаў выдаў табе вексель?» «Які жыве ў Пруссцы», — адказаў Есель. Колькі гадоў назад у Парыжы невядома куды знік адзін з лідараў рускай эміграцыі генерал Куцепаў. Усе еўрапейскія газеты пра гэты выпадак трубілі. У Польшчы паднялі на ногі паліцыю. Пільны суддзя пра ўсё гэта ведаў, ведаў, што генерала Куцепава ўжо каторы год шукаюць, але безвынікова. Як у ваду боўтнуўся. Ён узіраўся ў подпіс і вачам сваім не верыў. Адразу ж пазваніў у паліцыю. Чым чорт не жартуе, а можа? Прытаіўся і сядзіць. На таксоўцы вадзіцель і трое паліцыянтаў (ледзьве змясціліся на заднім сядзенні) павезлі Еселя ў Пруску. Вядома, іх чакала расчараванне: Мікіта нічым не нагадваў Куцепава, паціскаў плячыма, робячы выгляд, што да ўсяго гэтага не мае аніякіх адносін. Вексель вярнулі Еселю, сказаўшы нешта брыдкае пра юрыдычную сутнасць дакумента. «Ай, гіцаль! Ай, гіцаль!» — войкаў абдураны Есель. У голасе яго адчуваліся не толькі злосць і абурэнне, але нават і нейкае захапленне Мікітавымі здольнасцямі.

Лявон дапіў піва і адсунуў ад сябе кружку.

— Яшчэ? — спытала Хайка.

— Не, хопіць.

— У паперу ўвогуле верыць нельга, хай нават гэта і вексель, — адазваўся з-за цешчынай спіны Айзік, але Хайка не звярнула на яго ўвагі.

— Праўда, зараз такіх грошай у нас няма, — сказала яна. — Праз месяц прыязджай. Збяром!

На гэтым і дамовіліся, і ў жніўні Лявон ужо меў патрэбную суму. І ўжо меркаваў, калі зможа аддаць: «Пазычаеш чужыя, а аддаеш свае».

## X

З Якавам Арыстархавічам дамовіліся сустрэцца на «крухмальні» ў панядзелак. Лявон узяў Васіля, і яны прыйшлі першымі. Разбураная крухмальня ўся зарасла купамі лазы, маладым асіннікам, здзічэлымі парэчкамі, бэзам і шыпшынаю. Асыпала на зямлю свае даспелыя чырвоныя ягады невялічкае дрэўца — глог. Агалілася калючая ажына і яшчэ больш калючы агрэст. Побач пачыналі ўжо жаўцець высокія кусты ляшчыны і чаромхі. Сакавітымі цёмна-пурпуровымі гронкамі, стоенымі ў яшчэ зялёнай лістве, вабіла каліна, што вырасла паміж разваленых муроў гэтага былога панскага прадпрыемства. Каліну абвівала ўсохлая амяла. Верхнюю частку муру калісьці з дазволу Падгурскага разабралі на цэглу для сваіх пабудоў прыехаўшыя з-за Буга каланісты. Да рэштка ў фундамененатаў ціснуліся калючыя парасткі спелай ажыны, конскага шчаўя і хвашчу. Расліннасць густа аздабляў дужы, але ўжо пашарэлы хмель.

Лёгка дыхаць. Паветра — як нектар. Забірай яго болей у лёгкія, удыхай, аздараўляй нутро.

Руіны — толькі частка «крухмальні». Па-за руінамі, на полі, стаялі высокія і сукаватыя дрэвы старога панскага яблыневага саду з парадзелай лістотай, ужо кранутай залацістымі плямамі ранняй восені. Крыху ніжэй, уздоўж рэчкі, сенажаць, з другога боку — сажалкі. Цяпер яны зацягнуліся зялёнай раскай — жабурыннем, як тут казалі, але ўжо не чуваць галасоў жаб. Аціх птушыны шчэбет. Была ва ўсім гэтым асеннім ландшафце свая нейкая і прывабнасць, і ўтульнасць, і нават паэзія, пазначаная непаўторнай парою асенняга завядання прыроды. Нягледзячы на запусценне, усё ж такі адчувалася прысутнасць чалавека, які калісьці рупліва будаваў гэты куточак разам з прыродай, асцярожна і ашчадна дакрануўшыся да яе ўнутраных энергетычных сіл. Магчыма, паэзія і таілася ў гэтай гарманічнасці сумесных намаганняў прыроды і чалавека, у культуры іх немітуслівых узаемаадносін? Але час, войны, палітычныя пертурбацыі, а галоўнае, неўгамонны прамысловы прагрэс — не шкадуюць і не ашчаджаюць нічога. Не пашкадавалі яны і гэтай «крухмальні»...

Лявон з Васілём доўга стаялі, разглядаліся. Мясціна, нягледзячы на закінутасць, падабалася аднаму і другому: сад, сажалкі, лужок. Калі што, дык тут можна будавацца.

Якаў Арыстархавіч з’явіўся з некаторым запазненнем. Выглядаў, як заўсёды, салідна: шырокі асенні плашч няпэўнага колеру, чорны капялюш. Тоўсты вузел гальштука падпіраў цяжкае падбароддзе. У левай руцэ, як звычайна, кульба. Угледзеў Кужаля здалёк, махнуў рукой, але наблізіўся няспешна, салідна.

— Маё шанаванне! — падаў Лявону пульхную далонь, пераклаўшы кульбу з правай рукі ў левую, усміхнуўся. Потым павітаўся з Васілём. У роце Якава Арыстархавіча зіхацелі ўжо не дзве, а тры залатыя каронкі. Значыць, справы ў чалавека ішлі някепска. Можна было толькі здзіўляцца. Ездзіў ён на такіх стаенніках, што пан бы пазайздросціў. З зайздрасцю паглядалі браты Падгурскія на дымок, які віўся над альберцінскай сыраварняй.

— Як здароўе?

— Байкі.

— Ну то добра.

Сталі чакаць землямераў. Абмерку рабіў інжынер-каморнік з памочнікам. Павінен быў прысутнічаць Караль Падгурскі, бо побач знаходзілася яго зямля, але ён не з’явіўся.

— А можа, хоба на яго, я пагавару з гэтым дурнем? — загаманіў Якаў Арыстархавіч, нецярпліва тузаючы кульбаю ў зямлю, у павуцінне бабінага лета, што слалася па траве.

За Падгурскім паслалі Васіля як маладзейшага. Караль прыджгаў у белых не вельмі свежых портках і меў пагрозліва-натапыраны выгляд.

— Пэўна, ашукаць хочаце пана? — накінуўся ён на Якава Арыстархавіча, кажучы пра сябе чамусьці ў трэцяй асобе.

— Пра гэта рэчы не ідзе, — адказаў фальварковец. Трымаўся ён незалежна, на вуснах, калі глядзеў на пана, блукала прытоеная насмешка.

Пацаў участак — «крухмальню», якую ён цяпер прадаваў Кужалю, — ад панскага аддзяляла дарога, якая вяла за сад, да панскіх агародаў і далей — у Альберцін. Па ёй таксама вазілі сена з прырэчных лугоў.

— Дарога мая! — заварушыўся Караль. — Мерце па левай каляіне! Астатняе маё!

Але Якаў Арыстархавіч хутка яго ўціхамірыў:

— Дарога агульная, бо па ёй ездзяць усе! Разумнік знайшоўся! Хіба тагды мы так дамаўляліся? З тваім бацькам? Ці ты, хоба на яго, забыўся?

— Я тады не прысутнічаў, але я мяркую, што так павінна быць!

Васіль нават падзівіўся з панскай настырнасці і зласлівасці.

— Мяркую… — ашчэрыўся фальварковец, паказаўшы залатыя каронкі ў роце. — Толькі і хапае здольнасці, каб меркаваць. Ты паглядзі, які ў цябе запушчаны сад! Гаспадар называецца... — У перакошаным абліччы Якава Арыстархавіча было нешта ад шуляка, які кінуўся на кураня. — Глядзі, а то я тупну нагою! — Караль яшчэ крыху пахадзіў, паназіраў за каморнікам, а потым завярнуўся і пайшоў у двор.

— Костка, хоба на яго, панская, але сабачым мясам абрасла, — кіўнуў у яго бок фальварковец, выняў з кулёчка ляндрынку, кінуў у рот, прыцмокнуў. Лявон паглядзеў услед Каралю, і яму чамусьці стала шкада гэтага недалужнага чалавека.

Калі справа была скончана, Якаў Арыстархавіч дастаў з кішэні стракатую хусцінку, зняў чорны капялюш і, як пасля цяжкай працы, выцер лоб і галаву. Выцягнуў з другой кішэні гадзіннік на сярэбраным ланцужку, паўзіраўся ў цыферблат і моўчкі схаваў. Падышоў Васіль, які хадзіў па садзе, аглядаў дрэвы. Утрох яны спыніліся на крутым утравелым беразе, што акаймляў бліжнюю ад саду сажалку.

— Тут карасёў шмат, — Якаў Арыстархавіч паказаў кульбай на сажалку. — Тут іх процьма, бо ніхто не ловіць.

— Можа, што і ёсць, — няпэўна адказаў Лявон. — Будзем бачыць. Хай гадуюцца.

— Лепшай стравы, чым карасі ў смятане, няма. А лавіць трэба сеткай або жакам, і каб човен быў.

— Відэрку скажу — ён зловіць...

Засталося аддаць грошы і выпіць магарыч. Каморніка з яго памочнікам яшчэ чакала работа ў каланістаў, і яны заспяшаліся туды.

— Пайшлі, належыць магарыч выпіць, — запрасіў Лявон.

— Добрую справу варта абмыць, — падтрымаў Васіль.

Якаў Арыстархавіч згадзіўся, бо трэба было, апроч усяго, атрымаць грошы. Адклад у гэтай справе таксама не ідзе на лад.

Фёкла ўжо чакала, затапіла печ. Прося ёй дапамагала, а потым пабегла адведаць маці, якая перадала, што крыху прыхварэла. Госць павітаўся з гас-

падыняй, паставіў у куток кульбу, зняў капялюш і павесіў на цвік, пачаў распранацца. Васіль пайшоў падсыпаць коням сечкі.

На стале ўжо стаяла дамашняя каўбаска, сыр, хлеб, чырвоныя памідоры і свежыя гуркі.

— У вас яшчэ памідоры і нават гуркі! — падзівіўся госць.

— Апошнія! — патлумачыла гаспадыня. — З Просяй садзілі.

Лявон прынёс з каморы і паставіў на стол бутэльку «Кляры», але перад тым, як выпіць, дастаў з шуфляды грошы — тоўсты пачак, акуратна перавязаны шнурочкам, паклаў на стол.

— Ну, вось, справа зроблена, — сказаў Якаў Арыстархавіч.

— Тры з палавінай тысячы, як лёду. Можна пералічыць.

Якаў Арыстархавіч згроб са стала грошы, прыхлопнуў далонню.

— Я табе веру.

— Давярай, але і правярай! — напомніла Фёкла. — Так калісьці мой свёкар гаварыў.

— Не хвалюйцеся, хоба на яго, усё будзе ў парадку, — супакоіў яе фальварковец, адвярнуўшы палу і хаваючы ў нагруднай кішэні пакунак з грашыма. — І мне добра, і вам.

— Яшчэ ж і да натарыуса трэба, — Лявон прыгладзіў пасмачку над ілбом. — Гэта таксама важданіна.

Якаў Арыстархавіч упэўнена махнуў рукой:

— Ну, купчую аформіць бяру на сябе! Натарыус — свой чалавек, нікуды, хоба на яго, не дзенецца.

Прыйшоў Васіль, падсыпаўшы коням корму. Памыўшы рукі, селі за стол. пасярэдзіне стала Фёкла паставіла чыгунок з гарачай бульбай, над якой узнімалася пара. Усе адчулі пах кропу, якім была запраўлена бульба, і з палёгкай уздыхнулі. Лявон наліў у кілішкі. Адчувалася ўрачыстасць моманту, нават нейкая прыўзнятасць.

— Ну, віншую! — Якаў Арыстархавіч узяў у руку кілішак, абвёў поглядам прысутных. — Каб пабудавацца і мець сваю абсаду. Каб фальварак, як у нас з Амброжыем! Добра быць свабодным, ні ад каго не залежаць! За гэта і вып'ю, не благі набытак. — Ён паднёс кілішак да вуснаў, і апошняй кропляй пырснуў у столь — на шчасце. Тое ж самае зрабілі і ўсе, прагаладаўшыся, пацягнуліся па закусь.

— Капусты, можа, квашанай ці грыбкоў? — прапанавала гаспадыня.

— Нясі! — махнуў рукою Лявон. — Прагаладаліся на свежым паветры.

— А цыбуля ёсць? — спытаў Якаў Арыстархавіч, пацягнуўшы носам паветра.

— Мой Лёня цыбулі не любіць.

— Няўжо?

Лявон адмоўна пакруціў галавой:

— Цыбулі мне не паказвай, з дзяцінства з ёю не сябрую.

— Дарэмна. Наш Мірык кажа, што і старыя грэкі цыбулю любілі, бо смачная. Смачная, хоба на яго, і спажыўная. А грэкі ж не дурныя! Козачка[1] — яна сало-одкая!

— Ой не, мне яе не трэба, — усміхнуўся Лявон.

— А я цыбулю люблю, — сказаў Васіль.

— Маладзец! — пахваліў фальварковец.

Фёкла прынесла талеркі з квашанай капустай і салёнымі грыбамі і сама прысела на столак з краю стала. Зноў налілі ў кілішкі.

---

[1] Ніжняя белая частка пёрцаў цыбулі.

— Асвоіце тую «крухмальню», там вам спадабаецца, зямля там добрая! — працягваў сваю тэму Якаў Арыстархавіч, трымаючы ў руцэ чарку і прыладжваючыся выпіць. — А з цягам часу можна будзе падумаць і яшчэ што-колечы нагледзець. Ну, будзьма!

З гэтымі словамі ён кульнуў чарку ў рот. Выпіў Васіль, прыгубіла Фёкла. Лявон таксама выпіў:

— Нічога, яшчэ трохі, і, можа, і нам пашанцуе. Можа, і мы жыць пачнём, як трэба, па-сапраўднаму, як у Амерыцы. Хопіць з нас, напакутаваліся! — Ён ужо, відаць, быў крыху на падпітку.

— Не-е, — засмяяўся Якаў Арыстархавіч, выціраючы сваёю стракатай хусцінкай вусны, — так не бывае. Калі чалавеку добра, дык ён хоча, каб яшчэ лепш было. Гэта ўжо так павялося, я ведаю, — ён засмяяўся. — А смачныя грыбы! — пахваліў ён гаспадыню, адведаўшы яе грыбкоў. — Удалыя! Хто ж гэта ў вас збірае?

— Нявестка! — пахвалілася Фёкла.

— Малайчына!

— Закусвайце, закусвайце!

— З цягам часу, можа, і крухмальню адбудуеш, — Якаў Арыстархавіч зноў вярнуўся да ранейшай размовы. — А што? Гэта не так і складана.

Усе слухмяна сцішыліся перад прамоўцам. Фёкла з павагай пазірала на вялізны голы шар яго галавы, якою госць варушыў немітуслівa і вельмі спаважна.

— Я кажу, можна было б зноў рэчку запрудзіць ды адбудаваць крухмальню. Картоплі ж уся акруга садзіць, дык звозілі б, як зерне да млына? Крухмал жа таксама патрэбен! За яго вялікія грошы даюць.

«Дык чаму ж ты не адбудаваў?» — падумаў Лявон, але ўслых нічога не сказаў.

Фальварковец пасміхнуўся, павёў галавой, у голасе гучала павучальнасць:

— Багацце — яно такое, скажу вам, што аднаго любіць, а другога — не, каму шанцуе, а каму — не надта. От тут трэба мець, — Якаў Арыстархавіч пастукаў сябе пальцам па скроні. — Калі тут няма, то нічога не будзе.

— Так заўсёды было, — пацвердзіла Фёкла. — Каму вядзецца, таму і певень нясецца, а калі не — дык не.

— Трэба ўмець жыць, а некаторыя распускаюць тое, што бацькі прыдбалі, — гаманіў фальварковец, тыкаючы відэльцам у талерку. — Прыклад таму — нашы Падгурскія. Дурні — і Караль, і Вітальд. І адзін, і другі. Хоба на іх, свістуны.

— Колішняй пыхі ўжо не відаць, — азваўся Лявон, — але ж бацька іх пан Станіслаў разумны быў, у яго і грошы можна было пазычыць.

— Гэтыя не пазычаць!

— Так і не ажаніліся нашы паны — ні адзін, ні другі, — дадала Фёкла, — можа, адчуваюць што.

— Імпэту няма, — Якаў Арыстархавіч стрымана зарагатаў. — Дрынам іх трэба перыць — аднаго і другога.

— Можа, чуюць што? Час надта неспакойны, — выказаў меркаванне Лявон, дзівячыся непрыязнасці фальваркоўца да сваіх суседзяў Падгурскіх, з набыткаў якіх ён не мала і пакарыстаўся.

— Алта з Камянца маёнтак у іх хоча купіць. Калісьці быў простым разніком. Потым анучнікам. А цяпер у лаўцы сядзіць і добрыя грошы мае.

— Алта — пранырлівы і хітры як лісіца, — сказаў Лявон.

— А я так думаю: жыві сам і давай жыць другому, — зноў загаманіў госць, ткнуўшы відэльцам у кружочак каўбасы і кладучы яго ў рот, — а мае

суседзі-бранаўцы гатовы пхнуць мяне. Абадранцы, хоба на іх! І ўсё нейкім чынам нашкодзіць хочуць. Пшадоўнік у Камянцы казаў мне: «Panie Jakube, niech się Pan nie przejmuje tym gòwnem!»[1] Але нічога не атрымліваецца. Паверыце, увесь час маю ад іх прэсінг.

Гэта была даўняя і застарэлая крыўда фальваркоўца на сваіх суседзяў з вёскі Бранавічы, што знаходзілася побач з Альберцінам, на адным беразе Лосьны.

— Непамыслота! — вінавата адгукнуўся Лявон, падумаўшы, што ў Бранавічах жывуць Хартон з Барбарай. Але паводзілі яны сябе сціпла. А я думаю, што зайздросцяць! Зайздрасць — яна точыць чалавека. Пачакай! І табе будуць зайздросціць.

Якаў Арыстархавіч змоўк і думаў, відаць, пра нешта сваё.

— А ветрака ўсё ж такі трэба купляць! — сказаў ён нарэшце. — На тым тыдні бацька зноў сніўся і параіў купляць.

— І часта ён вам сніцца? — запытала Фёкла, якая немалое значэнне надавала снам.

— Не часта, але сніцца.

— Калі так, дык трэба купляць! — падтрымаў намеры фальваркоўца Лявон. — Туды, у бок пушчы, ветракі яшчэ стаяць, яшчэ муку мелюць.

— Куплю, перавязу, пастаўлю, а бранаўцам, хоба на іх, дулю пакажу! Іхнюю збажыну прымаць не буду. І Амброжый такой жа думкі.

Яны яшчэ пра тое-сёе паталкавалі, але адчувалася, што і абед, і размова прыйшлі да свайго завяршэння. У бутэльцы заставалася толькі на дне. Яны выпілі рэшту, і госць устаў з-за стала і пачаў дзякаваць гаспадыні. Фёкла ўздыхнула:

— Гэта вам дзякуй. Цяпер у нас болей упэўненасці будзе.

Лявон праводзіў Якава Арыстархавіча амаль да самай «крухмальні». Параўняўшыся з царквою, Якаў Арыстархавіч сказаў:

— Кажуць, што цяпер маліцца будзем на польскай мове.

— У царкве?

— Ну, так.

— Ды не можа такога быць! — не паверыў Лявон.

— Яшчэ і як можа! Спольшчванне ідзе.

— Палякамі хочуць зрабіць?

— Ну, так.

Лявон моцна здзівіўся пачутаму, але ў наступную нядзелю айцец Клаўдзій вёў службу як звычайна — па-царкоўнаславянску.

Якаў Арыстархавіч зрабіў, як паабяцаў. Праз нейкі час у натарыуса афармілі купчую — казённую паперу з гербам, на якім стаяў белы арол, і пячацямі. Яна надавала юрыдычную законнасць набыццю зямлі і замацоўвала яе за новымі гаспадарамі навечна. За новымі гаспадарамі — бо адну палавіну Лявон запісаў на сябе (на той выпадак, калі давядзецца пераязджаць і будаваць хутар, то лепш тут, у «крухмальні», чым у Срачы). Другая палавіна дасталася Васілю з Просяй. Планавалася, што маладыя з цягам часу захочуць аддзяліцца і пабудаваць сваю хату і гаспадарку.

Дарэчы, у купчай набытая зямля атрымала і як бы афіцыйнае найменне — «Крухмальня».

З Хайкай Лявон разлічыўся своечасова, крыху дапамог сват Мікалай.

Пасля таго, як Кужалі набылі крухмальню, да Лявона прускаўцы, асабліва лавачнік Шпронька, пачалі ставіцца з большай павагай, але, як водзіцца ў такіх выпадках, і зайздрасцю.

---

[1] Пане Якаў, не пераймайцеся тым дзярмом! (польск.).

## XI

Прося аказалася маладухай, ахвочай да работы і ўвішнай. Яе працавітасць, нейкая як бы нават неўсвядомленая, прыроджаная любоў да працы, здзіўляла. За што ні возьмецца — усё ў яе руках рухаецца і ладзіцца. І па хаце ўмела — і тое прынясе, і гэта падасць. І ў агародзе, і ў лесе, і на жніве — усюды.

Восенню бялілі палотны. Прося складала на каленях гармонікам палатняны сувой і, склаўшы, несла да рэчкі, мачыла, а потым бухала пранікам, рассцілала па траве, мяла нагамі. Варыла луг з драўліннага попелу і адбельвала ў ім палатно. Пасля гэтага зноў высцілала яго на расу, сушыла.

Умела прасці лён і воўну на вопратку, пакулле — на мяшкі. Фёкла не магла нацешыцца з нявесткі — усё ў яе атрымлівалася. Работы шмат, з раніцы да вечара. Здаецца, не паспелі пасадзіць бульбу, а ўжо выбіраць пара. Але ад гэтага Просю вызвалілі, пакінулі ў хаце. Яна была цяжарная. Аднойчы свякроў заўважыла, як нявестка ад галкі мелу, якім бялілі печ, адкалупнула кавалачак і паклала ў рот.

— Што гэта ты?

— Ат, нічога...

— Не-е...

— Гэта, мусіць, я цяжарная, — сарамліва прызналася Прося.

— Праўда? — узрадавалася Фёкла, неяк па-новаму паглядзеўшы на нявестку. — Дык і добра! Так і трэба.

Прося сцішана ўздыхнула і нічога не адказала. Гаварыла свякроў:

— Як зачнеш — па сабе помню, — дык надта на кіслае цягне. Цябе не цягне?

— Не, пакуль што не.

— Сына каб нарадзіла.

— Сына? Мамо! Я ж жанчына — як я нараджу мужчыну? — не зразумела Прося.

Фёкла засмяялася.

— А адкуль жа мужчыны бяруцца?

Прося таксама ўсміхнулася сваёй наіўнасці і прыслухалася да сябе. Яна бачыла, адчувала, як наліваецца, круглее цела, становіцца нейкім чужым, незнаёмым і цяжкім. Нават не кранаючы грудзей, адчувала, як набухаюць сасочкі і ўся яна быццам большае і цяжэе. Па часе прыкметы цяжарнасці станавіліся ўсё болей відочнымі. Прося сарамліва глядзела на свой акруглы жывот, што тапырыў ён спадніцу, асцярожна абводзіла яго рукамі. Час ішоў і, як ні дзіўна, цяжарнасць рабілася для яе прыемным станам, і яна — Фёкла заўважыла — нават пахарашэла. Чуліся рухі дзіцяці — то яно ручкай там паверне, то ножкай прытопне. То так, то гэтак. І яна сама сабе дзівілася і ўзрадавана ўсміхалася з свякроўю.

— Мамо, а мне здаецца, што ён нешта сказаў.

— Хто?

— Малы.

Фёкла смяялася:

— Ён пэўна яшчэ гаварыць не ўмее. Вось народзіцца, тады хутка загаворыць, мы яго навучым.

Узрадаваўся, захваляваўся і Васіль, рыхтуючыся стаць бацькам. Запасаліся пялюшкамі, безрукаўкамі, дзіцячым адзеннем і цацкамі. З асенняй някрохкай лазы Лявон сплёў калыску. Усе былі ў трывожным чаканні.

Зіма прыйшла рана, у канцы лістапада. Пачаліся замаразкі, і ў іх абдымках акалелі і звялі апошнія кветкі. Учарашні дождж і паўночны вецер развесі-

лі па дрэвах шкляныя пацеркі. Яны замерзлі і пераліваліся халоднымі колерамі вясёлкі. Тонкім лядком сцягнулася на вулічных калдобінах вада. Замерзла шырокая лужына, што месцілася каля Дзванарыкавай абсады. І асушваць не трэба было — пытанне вырашыла сама зіма. Нарэшце намяло і снегу, які шчодра акрыў і лужыну, і ўсю зямлю, цэлымі сумётамі залёг на саламяных стрэхах хат, на галінах дрэў.

Не аціхаў вецер. Парывісты, пругкі, ён шукаў сабе нейкай спажывы пазавуголлю, у чорных, бязлістых галінах каштана, што нема стаяў з краю кужалёўскага падворку, завываў у коміне. Прося хадзіла ўжо на зносах і адчувала і сябе, і навакольны свет па-новаму, не так, як раней. Навакольны свет здаваўся ёй дзіўным і крыху нязвычным, як бы чужым. Ёй здавалася, што яшчэ ніколі не было такой халоднай зімы, такой снежнай. Стоена ўслухоўвалася, як трашчаў мароз, тонка рыпелі палазы на снезе. Такога траскучага марозу, здаецца, яшчэ не было. Начамі, у месяцавым асвятленні зіхоткімі плямамі блішчэў снег, і па ім хадзілі, мітусіліся нейкія цені. У хляве, чулася, скігіталі ад холаду свінні. Са свістам падвываў вецер.

Набліжаўся час зімовага сонцастаяння. Над галавой, калі Прося выходзіла ўвечары на вуліцу, мільярдамі зор іскрыўся Млечны Шлях, нібы клікаў кудысьці ўдалячынь. Зоркі пахлі начным ветрам і снегам і чымсьці яшчэ, што Прося не магла ўцяміць. І нешта нашэптвалі, чаго таксама цяжка было зразумець. Высока дымілі каміны над дахамі прускаўскіх хат. Яна ўсё выразней чула штуршкі — то пад самае сэрца, то ў ніз жывата, то кудысьці ўбок. Аднекуль падступаў здрадлівы страх...

У канцы снежня — свята Варвары. «Варвара ноч уварвала» — гаворыць народная прымаўка. Дні сталі зусім кароткія і цьмяныя.

— Трэба святой Варвары свечку паставіць — хай яна паможа, — параіла Наталка, якая прыйшла наведаць дачку, і з ёю ўсе пагадзіліся.

У нядзелю Прося пайшла ў царкву, купіла свечку, запаліла яе ад другой, паставіла на падсвечнік, стала на калені і пачала маліцца...

Роды прымала бабка Васіліха — павітуха са стажам, якая абслугоўвала ўсю вёску і нават суседнія. Усе ведалі, што ў яе ўмелая, а галоўнае — лёгкая рука. За ёю, як толькі пачаліся першыя схваткі, паслалі Васіля, а да гэтага бабку папярэдзіла Фёкла. Тая нават не спала. Пачуўшы стук, Васіліха ўстала, падышла да акна і ўсё зразумела. Апранулася і — праз колькі хат — была ўжо ў Кужалёў. Парадзісе падклалі пад паясніцу падушку, і яна ўсё сілілася, сілілася, а потым сціпласць пакінула яе і яна застагнала.

Роды — для Просі першыя — аказаліся цяжкімі.

— Фёкла, развяжы ўсе вузлы, што ёсць у хаце, разматай клубкі! — загадала Васіліха. — Ой, доля ты, доля жаночая! Мужчынам — што? пацешыўся, зрабіў сваю справу і ўсё, а жанчыне...

Фёкла кінулася выконваць загад, Лявон з Васілём дапамагалі — разматалі ўсе клубкі, маткі, мяшкі, завязаныя на гічку, вузлы, але гэта не надта дапамагло. Боль няўхільна нарастаў. Прося войкала і стагнала, адчуваючы сябе як бы не на пасцелі, а на распаленай печы, на гарачых вуголлях, і пал пранізваў яе ўсю.

— Грамнічную свечку трэба запаліць! — успомніла Фёкла, дастала з шуфляды свечку, запаліла і паставіла на покуце пад абразамі. Свечка ціха зацеплілася роўным жоўтым язычком.

Парадзіха па-ранейшаму крычала і стагнала ад болю, так працягвалася ўвесь дзень. Вакол мітусіліся напалоханыя сямейнікі, бяссільныя ў сваім спачуванні. Мужчын усё гэта, мусіць, як бы раздражняла, і яны час ад часу выходзілі з хаты, курылі.

— Ну, тужся, тужся! — дапамагала павітуха. — Шырэй рассунь калені, шырэй!

Кароткі дзень змяніўся глухой цёмнай ноччу. Васіліха загадала зноў:

— Васіль, прасі бацюшку, каб райскія вароты адчыніў!

Айцец Клаўдзій паставіўся да просьбы з разуменнем — насцеж адчыніў царкву і царскія вароты. Пасля гэтага схваткі сталі часцей, як бы падганяючы адна другую. Раз за разам.

Але роды цягнуліся яшчэ доўга, парадзіха, здавалася, канчаткова змаглася і цяжка дыхала. Разрадзілася Прося толькі на трэці дзень пад раніцу. Боль дасягнуў свайго апагею, і нарэшце паказалася галоўка дзіцяці. Васіліха асцярожна абхапіла яе рукамі і выцягнула з матчынай утробы чырвона-ружовае цельца, вымазанае ў матчыну кроў і пакрытае слізззю. Злёгку шлёпнула па азадку. Пачуўся вісклівы крык нованароджанага. Потым крык перайшоў у плач. У хаце ўсталявалася цішыня.

— Малец! — узрадавана загаманіла Фёкла. — Малец!..

— Баіцца, бедны, жыцця таго нашага, — па-свойму зразумела плач нованароджанага Васіліха, уздыхнула і дадала: — Дай бог табе, дзіцятка, добрай долі. Каб вырас дужы! Бог хай гадуе і долю гатуе! — Яна завязала народжанаму пупавіну, яна ж і бабіла, змывала кроў. Васілісе здалося, што галоўка дзіцяці мае залішне выцягнутую форму. Каб выправіць, яна асцярожна націснула на яе зверху, — мяккія костачкі паддаліся, галоўка акруглілася.

— Віншую цябе з нараджэннем сына! — звярнулася яна да Просі, але тая, знясіленая, нарадзіўшы дзіця, адразу заснула і не пачула віншаванняў. З дапамогаю Фёклы Васіліха выкупала маленькага, і жанчынам, адной і другой, стала радасна ад думкі, што ў свет прыйшло дзіця, якога яшчэ не было. Тварык зморшчаны, як у старога. Крычыць і плача — як бы патрабуе чагосьці. Хоча жыць.

— Ну, пакрычы, пакрычы, — шаптала павітуха. — Дзе вашы пялюшкі?

— Есці хоча! — сказала Фёкла.

Пяшчотна, але шчыльна звінулі нованароджанага чалавечка ў прыгатаваныя пялюшкі, абвязалі хусцінай. Пабудзілі маці. Стомленая, яна не адразу ачнулася.

— Прося, дай яму цыцы! — Васіліха падала парадзісе дзіця. — Бач, тоўсценькі які! Карапузік!

Маладая маці асцярожна ўзяла сына, паднесла да грудзей і ўбачыла, як малое ўжо чмокае слюнявымі губкамі — шукае матчыну цыцку.

— Малодзівам губкі яму памаж! — вучыла павітуха. — Малодзівам!

Прося рассунула на грудзях краі сарочкі, дастала набрынялую цыцку, капнула колькі кропель малому на вусны, і тое, чмокнуўшы яшчэ раз, прагна ўхапілася роцікам за сасок. Парадзіху ажно кінула ў жар. Адчула прыемную насалоду, калі малое сапло, смокчучы і патрабавальна цягнучы цыцку. Маладая маці ціха радавалася. Яе крыху атупелы за час цяжарнасці твар цяпер паступова праясніўся і прасвятлеў, наступіла палёгка. Малое адрыгнула ёй на сарочку і зноў пачынала шукаць сасок. Просю перапаўняла пяшчота, яна не адрывала ад яго вачэй.

Фёкла дастала з шафы стракатую ватную коўдру, пачала спавіваць, абвязала доўгім шоўкавым паяском.

— Туга ты яго! — зрабіла заўвагу Васіліха.

— Гэта я як у Расіі робяць — па-расейску, па-руску.

Мужчыны даглядалі гаспадарку і за ўсім назіралі збоку, задаволеныя, што ўсё добра скончылася. Кожны думаў, што ў яго жыцці нешта змянілася ці зменіцца, бо, як-ніяк, сям'я пабольшала яшчэ на аднаго чалавека.

— Няўжо я такім быў? — шчыра дзівіўся малады бацька.

— Наш род — платонаўскі! — з гонарам сказала Фёкла. — Скуласценькі, і вочкі вясёлыя. Наш!

У павітухі свае прыкметы:

— Бачыш, пятачка ў яго якая выгнутая — жыць будзе доўга!

А Лявон пачапіў ужо да бэлькі сплеценую з лазы і загадзя падрыхтаваную калыску.

На пяты дзень у малога адвалілася падсохлая пупавіна. Прося з Фёклай закапалі яе ў глыбіні двара, дзе расла вішня і куст чорных парэчак.

Завітала Хомчыха:

— Дай глянуць, што там у цябе нарадзілася? Сын? І добра! — З кошыка, які прынесла з сабой, яна дастала кавалак крамнай тканіны: — Вось, на сарочачку. Хай расце здаровенькі!

Так у сям'і Кужалёў з'явіўся маленькі пястун, які, у падвешанай пад столь калысцы, пачаў абжываць самую сярэдзіну хаты і, нібы той генерал, усім камандаваць. Прося ззяла ад шчасця. Яна з гонарам трымала на руках сваё дзіця, і твар яе адлюстроўваў спакой, ураўнаважанасць і мацярынскую пяшчоту. Сачыла, каб усё — у свой час. Купалі малога часцей за ўсё баба з дзедам — Фёкла з Лявонам. Пакупаўшы, спавівалі, клалі ў калыску: «Спі, унучак, спі!» Калыхалі:

Люлі, люлі, люлі,
Пайшоў кот на гулі,
Адмарозіў лапкі,
Прыйшоў грэцца ў хатку...

На вуліцы і сапраўды гаспадарыў Зюзя, не схільны да літасці. Набліжалася Вадохрышча і даймалі, як звычайна ў гэтую пару года, маразы. Праз пару тыдняў нованароджанага збіраліся хрысціць і пачалі шукаць кума з кумою, а таксама выбіраць імя.

Васіль, успомніўшы напэўна Косцю Хлябіча, прапанаваў:

— Хай будзе Уладзімір. У гонар Леніна...

— А пры чым тут ён? — не зразумела Фёкла.

Лявон пасміхнуўся:

— Добрае імя! Уладзіміраў і апроч Леніна шмат было...

Падумаць, дык і сапраўды шмат. Прося з Фёклай згадзіліся.

— Каго за кума ўзяць? — працягваў Лявон. — Каб добры чалавек!

У Прусцы ў такіх выпадках згадвалі прымаўку: «Сыр не закуска, кум не сваяк». Але ж хрышчоны бацька хоць і не сваяк, аднак жа і абаронца, і настаўнік. І дапаможа, калі трэба, а на свята і падарунак прынясе. Апякун.

— Можа, Паца?

— Якава Арыстархавіча? — здзівілася Фёкла.

— А што?

— Ці згодзіцца. Багатыя трымаюцца з багатымі, а бедныя з беднымі.

— Ну, можа, пасля таго, як купілі крухмальню, да бедных нас і не залічыш...

— А кумою хто?

Куму прапанавала Просіна радня — Алімпіяду з Рудаўца, якая Наталцы даводзілася пляменніцай. З тою паспелі ўжо перамовіцца, і яна згадзілася. Згадзіўся і Якаў Арыстархавіч, і Кужалі палічылі гэта немалым для сябе гонарам. Хрысціны прызначылі на нядзелю пасля набажэнства.

Кум з кумою ў гэты дзень святочна апранутыя, выглядалі вельмі імпазантна. Алімпіяда — чырванашчокая, усмешлівая маладзіца, абвязаная стракатаю

хусткай, у фасоністым, аздобленым ніцянымі карункамі кажушку, і Якаў Арыстархавіч — таксама чырванатвары, у камізэльцы колеру спелага жолуду, пры гальштуку і пры гадзінніку на тоўстым і бліскучым ланцужку, — паводзілі сябе проста і па-свойску.

Малы, ні аб чым не здагадваючыся і адначасова да ўсяго гатовы, ляжаў упоперак ложка і цягнуў уверх крываватыя ножкі.

— О, дуцік які! Прыгажун! — сказала, усміхаючыся, Алімпіяда, чмокнула вуснамі, спрабуючы завалодаць яго ўвагай. — Малеча! Нічога! З маленькага зярнятка вунь якое вялікае дрэва вырастае.

— Хлопца зрабілі! — уторыў ёй кум, кідаючы ў рот ляндрынку. — Гэта добра, бо што — дачка? Выйдзе замуж, хоба на яе, і памінай, як звалі. Сын — лепш! Сын гаспадарку будзе весці. Наследнік!

Малога спавілі, загарнулі ў коўдру, бо пара было везці ў царкву. Сані з запрэжанай Лялькай ужо чакалі. Каля санак тупаў Лявон.

— Глядзі, дзіця не ўпусці! — папярэдзіла Алімпіяду Фёкла, калі кум з кумою выходзілі з хаты на двор. — На вуліцы слізгота.

— Што вы, што вы, цётко! Маглі б таго і не казаць, — засакатала Алімпіяда. — Будзьце спакойныя, не думайце нават!

— Спакайнота! — сказала Прося, быццам апраўдваючы ці абараняючы сына, які, здавалася, ніяк не зрэагаваў на тое, што трапіў на рукі да незнаёмага чалавека.

На дварэ было сцюдзёна, і холад стаяў у царкве, таму айцец Клаўдзій рабіў усё не марудзячы — дунуў, плюнуў, адганяючы нячысціка, памазаў лобік алеем, акунуў попку малога ў падагрэтую купель, надзеў прыгатаваную белую сарочачку і начапіў на шыю крыжык. Алімпіяда хуценька спавіла і загарнула ў коўдру. Кум Якаў Арыстархавіч важна стаяў побач, расшпіліўшы полы кажуха.

— Пеставаць дзяцей нельга, трэба загартоўваць, каб не баяліся ні холду, ні ветру, ні вады! — павучальна заўважыў ён.

Імя запісалі — Уладзімір, як таго хацеў Васіль. Айцец Клаўдзій неахвотна згадзіўся на гэтае імя, бо ў святцах зачылася: Спірыдон, — але вымушаны быў улічыць думку бацькоў.

Калі вярнуліся з царквы, стол быў ужо накрыты. Фёкла панастаўляла прысмакаў. У вялікай місцы — кісель з аўсянай мукі з уторкнутай у яго драўлянай лыжкай. Каляды, як-ніяк! Сабраліся госці. Жанчыны прынеслі хатнюю выпечку: пернікі, аладкі, хрусцікі. У хаце цёпла, натоплена. Маленькага паклалі ўпоперак ложка, ён гуліў, матляючы ручкамі і ножкамі, намагаючыся сунуць іх у рот.

— Агу-у, Валодзік, агу-у! — прычмоквала Алімпіяда, седзячы на ложку побач з малым. — Гожы Валодзік, гожы!

Кум, распрануўшыся, сеў на покуце і рыхтаваўся выпіць чарку.

— Апуцак які! — хваліла малога Дзякрэта, якая прыйшла на хрысціны разам са свякроўю.

— Прося, не паказвай, а то яшчэ паўрочаць, нельга на малога доўга глядзець, мала ці што якое! — папярэдзіла бабка Васіліха і кіўнула маленькаму: — Кладзіся ўжо спаткі!..

Госці паводзілі сябе весела і нязмушана, дарылі прынесеныя падарункі, расказвалі навіны. З’явіліся Фядора з Барбараю, прынеслі палатно: «Даруй, Прося, што не багата. Можа, калі і разбагацеем». Павіншавалі Просю і дзіця, пажадалі здароўя і шчасця, каб вада, агонь і вецер не чапалі, каб Бог ахоўваў ад голаду, холаду і ўсякага гора. Налівалі і выпівалі гарэлку.

Выпіла чарку і Прося, каб малое лепш спала і каб долю мела. На ганаровым месцы ля сцяны сядзела бабка Васіліха. Каля яе — Гэлька Відэрка. Яшчэ

жанчыны. Кума Алімпіяда была ўжо на падпітку. Яна неяк шырока калыхнула ўсёй сваёй мажнай постаццю і заспявала-павяла жартоўную песню, астатнія падхапілі:

Ці я табе не казала,
Ці не гаварыла —
Не лягай ты разам спаці,
Бо будзе Гаўрыла.
А мяне ты не пытаў,
Каля мяне клаўся,
А цяпер пытаешся,
Скуль Гаўрыла ўзяўся.
А ты мяне не пытай,
Бяжы за кумамі,
Бо Гаўрыла на пячы-ы
Соўгае нагамі-і...

Якаў Арыстархавіч засмяяўся:

— Але ж і ўмеюць, хоба на іх!

— Умеюць! — падтрымаў яго Лявон.

Фальварковец адтапырыў палу і дастаў з бакавой кішэнькі гадзіннік на тоўстым і бліскучым ланцужку:

— Та-ак, што нам скажа Павал Бурэ? Ого!

— Пасядзіце яшчэ! — запрашала Фёкла, але Якаў Арыстархавіч спаслаўся на позні час і стаў апранацца. Развітаўся з усімі за руку.

Астатнія госці, нягледзячы на ранняе змярканне, доўга не разыходзіліся, весяліліся і гаманілі.

## XII

Так яны і жылі ў адной хаце — дзве сям'і як адна. Звычайная вясковая сітуацыя. Гадавалі Валодзіка. Гэтае ласкавае імя з лёгкай рукі кумы Алімпіяды трывала замацавалася за малым. Яго так і называлі: «Валодзік». Аднойчы, ужо напрыканцы студзеня, Прося, пакарміўшы дзіця, узрадавана паведаміла:

— Усміхнуўся ў першы раз!

Узрадаваліся ўсе, асабліва дзед з бабай, якія, мусіць, болей за ўсіх цешыліся і апекаваліся ўнукам. Калі дзіця па нейкай прычыне плакала, Фёкла трывожылася: «Ой, каб не накрычаў пупок!» — і брала на рукі, гушкала. Лявон таксама няньчыў, люляў малое на руках: «Гожы Валодзік, гожы!» Хлопчык супакойваўся і пазіраў на дзеда не мігаючы, а толькі чамусьці пасміхаўся. З яго вачэй, здавалася, праменілася нейкая як бы нават мудрасць, і Лявон міжвольна ўспомніў амерыканскага пісьменніка Генры Тора, кніга якога аднойчы трапіла на вочы, калі Лявон яшчэ знаходзіўся ў Амерыцы. «Я заўсёды шкадую, — пісаў гэты Тора, — што не такі мудры, як у дзень свайго з'яўлення на свет. Відаць, гэтую мудрасць чалавек па часе траціць?..»

Убачыўшы, як Валодзік падносіць кулачок да рота і няўцямным рухам патрабуе есці, Фёкла адразу шукала нявестку.

— Прося, дзе ты? Малы цыцкі хоча.

Мацала ў малога далонькі. Калі далонькі станавіліся гарачымі, казала: «Спаткі хоча», — і клала ў калыску.

Малы хоць ужо і трымаў галаву, але быў поўнасцю бездапаможны, і гэтая бездапаможнасць рабіла яго ўсясільным.

— Дудоля ты мая! — гаварыла Прося, накарміўшы дзіця і ўлагоджваючы яго ў калысцы. Там-сям прыпудрыла яго дзіцячай прысыпкай, акруціла

ў пялюшкі, абвязала шырокім блакітным паяском. Пасля народзінаў Просіна постаць стала ямчэйшай, сукенка там-сям разыходзілася па швах. Малое патрабавала шмат сіл. Маладой маці хочацца спаць, Фёкла з Лявонам бачаць гэта.

— Ідзі паспі! — звычайна спачувала свякроў, і Прося была ёй за гэта ўдзячная.

У адзін з дзён, падвесну, з'явіўся Кузёмка, пра якога ў Прусцы даўно нічога не чулі. Адчыніў дзверы, зняў шапку і па-блазенску пасміхнуўся.

— Ну, як жыццё?

— Байкі, — адказаў Лявон.

Зыбалася падвешаная да столі калыска — Прося люляла малога. У гарошынках Кузёмкавых вачэй запраменілася лагодная ўсмешка:

— О, дык у вас ужо і нявестка, і калыска! І памідоры спеюць! — ён кіўнуў на акно. На падаконніку стаяла скрыня, у якой рунела памідорная расада.

— А гэта наша Прося, — сказала Фёкла, — Васева жонка. А ты як пажываеш?

— Жыву патроху, — Кузёмка зірнуў у люстэрка, паправіў на скронях валасы, потым перавёў погляд на боты, у якія быў абуты. Боты ажно ільсніліся ад бляску, але іх уладальнік выглядаў сумнаватым. — Нешта душа стала цяжкай, — паскардзіўся ён.

— Душа не цяжкая, — запярэчыла Фёкла. — Гэта цела цяжкае, а душа не. Душа — як пух!

— Каб жа так! — стаяў на сваім Кузёмка. — Тады б усё інакш было. Не! Душа ў сто разоў цяжэйшая за цела.

Фёкла не стала спрачацца, бо пераспрэчыць гэтага дзівака было немагчыма. Перавяла размову на іншае:

— Не ажаніўся?

— Не.

— Галодны, мусіць?

— Яно то і галодны, бо даўно не еў. А што ў вас ёсць?

— Бульба, сала, кіслае малако, — пералічыла Фёкла.

— Вось зараз бы бліноў аўсяных з гусіным шмальцам!

— Хіба што іншым разам, — паабяцала гаспадыня, — прыходзь у нядзелю!

На стале з'явілася абяцаная гаспадыняй ежа. Лявон запрасіў Кузёмку за стол, накроіў хлеба.

— Дзякуй! Да не аскудзеет рука дающчага! — сказаў вандроўнік і пералжагнуўся шырокім жэстам правай рукі. — Гасцінныя вы ўсё ж такі, Кужалі, людзі. — Сеў за стол і пачаў з бульбы.

— Што добрага чуваць? — спытала Фёкла, прыпыніўшыся ля стала.

Лявон пасміхнуўся:

— Спачатку дай чалавеку пад'есці, а потым пра навіны пытай.

Нібы пачуўшы дзеда, засмяялася сваім бяззубым роцікам малое, а потым раптам ні з таго, ні з сяго заплакала. Госць кіўнуў на калыску:

— Пахрысцілі ўжо?

— Пахрысцілі, — адказала Прося.

— А каго за кума ўзялі? — Кузёмку ўсё цікавіла.

— Якава Паца.

— О, згадзіўся?

— Згадзіўся.

— А ў Саветаў не хрысціны, а акцябрыны. Бо рэвалюцыя была восенню, у акцябры.

— У акцябры, — кіўнуў Лявон, — я помню.

— Дык таму — акцябрыны.

— Цікава.

— У сваю веру пераводзяць, ужо каб з маленства бальшавіком быў. А ў нас, аднака, спольшчванне ідзе. Войт выклікаў у гміну трасцяніцкага бацюшку і пятнаццаць злотых паабяцаў, каб набажэнства ў царкве вялося па-польску. Але бацюшка не згадзіўся.

Пра гэта Лявон ужо чуў ад айца Клаўдзія, які надта пакутаваў у сувязі з тым, што казанні ўсё ж такі давядзецца гаварыць па-польску. (К канцу 30-х гадоў польскія ўлады пчалі патрабаваць, каб праваслаўныя святары казалі пропаведзі ў цэрквах толькі на польскай мове. Закон Божы ў школе даўно, яшчэ з 1934 года, выкладаўся па-польску). Члены царкоўнага савета параіліся і падказалі айцу Клаўдзію гаварыць казанні на мясцовай мове, гэта значыць, па-беларуску, аднак той рашуча адмовіўся, нават рукамі замахаў («Что вы, что вы, на этом языке всего не скажешь!»)

У Кузёмкі, як звычайна, шмат навінаў:

— У Гродне разбурылі царкву Аляксандра Неўскага, а ў Беластоку — царкву Спаса. Пратэсты давалі ўсе, нават камуністы, нават жыдоўскія радныя ў гэтых гарадах, і ўсё ўпустую.

— Што робіцца! — пляснула рукамі Фёкла.

— Каб апалячыць, падпрагаюць нават лірыгію, — скрушна хітнуў галавой Кузёмка і перастаў есці. Потым зноў спорна запрацаваў лыжкай. — А гэта ўсё, каб вы ведалі, за грахі!

— Мусіць што так, — згадзілася Фёкла. — За грахі. А за што ж?

— А я аднака не буду маліцца па-польску! — зацята прабубнеў госць і апарожніў кубак з кіслым малаком.

— Ну, вядомая рэч, — азваўся Лявон.

— Буду ціха маліцца па-свойму, як і маліўся да гэтага.

Пад'еўшы, госць перахрысціўся і падзякаваў гаспадарам. Гаспадыня прыбрала са стала пустыя талеркі. Прачнуўся Валодзік, зноў нагадаўшы піскля-вым галаском аб сваёй прысутнасці.

— Ці прарэзаліся ў яго зубкі? — папытаў Кузёмка.

— Яшчэ не, — пасміхнулася Прося, люляючы калыску.

— Прарэжуцца, — запэўніла Фёкла. — Больш тварагу трэба есці.

— Я ем, — азвалася нявестка.

— Ад тварагу зубкі будуць крэпкія.

Кузёмка ўзяў з падаконніка аловак і ўклаў у далоньку малому, дзіця моцна сціснула яго сваімі маленькімі пальчыкамі і не адпускала.

— Грамацеем будзе — бач, як аловак зашчаміў!

— Будзе! — упэўнена паабяцала Прося, узяла сына на рукі і адышлася з ім у другі куток.

Мужчыны загаманілі пра іншае.

— Лявоне, чуў я, што ты зямлі купіў...

— Купіў, — Кужаль усміхнуўся. — Купіць — што! Галоўнае, каб яе загаспадарыць. Гэта — самае галоўнае.

— Ці будзе калі так, што чалавек нацешыцца той зямлёй і скажа: «Не, дзякуй, не трэба мне тая зямля!»?

— Не, такога, пэўна, ніколі не будзе.

— Думаеш?

— Ну, а як жа інакш?

— Нас на хутары маюць рассяляць, — патлумачыла Фёкла, — дык калі што якое, туды будзем перасяляцца. На Крухмальню.

— Я чуў, — махнуў рукой вандроўнік. Аказваецца, ён і пра хутарызацыю ведае. — У іншых месцах перасяляюць ужо.

— Дык вось мы таксама падрыхтаваліся.

— Калі што, лахі пад пахі і ўпярод, — дадаў Лявон.

Кузёмка згодна пахітаў галавой:

— Зразумела, ды і, калі падумаць, сям'я ў вас прыбавілася, пэўна і дзяліцца давядзецца. Усё здараецца. А я ў Іерусалім хачу схадзіць, сам усё пабачыць. Там, кажуць, лампада ад святога агню вазгараецца.

— Вазгараецца! — пацвердзіла Фёкла, як бы яна толькі што адтуль. — Сам патрыярх запальвае!

— Патрыярх? Як жа ён можа запаліць, калі ў яго запалкі адбіраюць? Не, тут нешта вышэйшае. Тут без Бога не абыходзіцца. Месца ж надта святое!..

На гэты раз вандроўнік доўга ў Кужалёў не затрымаўся. Можа таму, што і сапраўды ў Лявонавай хаце стала крыху цеснавата, і запраўляў усім Валодзік.

— Ну, мне аднака пара! — сказаў ён, пакланіўся, перахрысціўся на абразы, насунуў шапку і знік за дзвярыма. Як і не было.

Прайшоў нейкі час. Кузёмка як у ваду глядзеў: двум гаспадарам і гаспадыням у адной хаце ўжыцца не проста. Васілю ўжо не раз прыходзіла думка, як аддзяліцца ад айчыма. Самастойнасці прагнуў, незалежнасці. Прося хацела гэтага, відаць, яшчэ больш. Цяпер, пасля набыцця Крухмальні, з'явілася і месца, дзе можна было будавацца. Спачатку паставіць часовую хатку — «урамянку», як казала Фёкла, успомніўшы, як называлі падобнае жыллё ў Расіі, а потым будзе відаць. Лявон разважыў і таксама быў не супраць. Параіліся з цесцем Мікалаем, які падтрымаў задуму і яшчэ абяцаў дапамагчы з грашыма.

— Будавацца — паўжыцця каштуе, — паспачуваў ён. — Пачынай, а там відаць будзе!

Набыты ўчастак — Крухмальню — падзялілі папалам. На той палавіне, што бліжэй да вёскі, ля царквы, і планаваў будавацца Васіль. Паўстала пытанне, дзе купіць дрэва.

Дзе купіць — настрэнчыў Якаў Арыстархавіч, які лепш чым хто ведаў усё, што робіцца ў акрузе, хто што збывае, хто набывае. Ён і параіў Васілю:

— У Дварцах, кажуць, Дацкевіч падхадзяшчы хлеў прадае.

Дварцы — пушчанская вёска, кіламетраў за дваццаць ад Прускі. Васіль паехаў туды і згаварыўся з гаспадаром, адзін і другі ўдарылі па руках. «Хлеў» аказаўся магутнай будынінай з новага дрэва, больш за пяцьдзесят метраў у плошчы. І будаваўся ён на продаж, Васіль заплаціў пяцьсот злотых.

Перавозілі талакой, у такіх выпадках ніхто не адмаўляецца, кожны з вяскоўцаў хацеў пасобіць. Нават Грышка Латушка, з якім у Лявона заўсёды былі нелады, вырашыў дапамагчы і з'явіўся з канём і возам. Не было хіба аднаго толькі Хвядзюшкі Шпунта, якога пасадзілі. Трапіў у турму разам са Свіціянам з Алешкавіч — укралі ў Ліпне, у гаспадара, авечку. Пра Хвядзюшку нават як бы і забылі, не ўспаміналі.

У Дварцы ехалі раніцай, кожны на сваёй падводзе. Усе знаходзіліся ў добрым настроі і апрануліся як бы нават па-святочнаму, у белыя кашулі. Прося не блага пакарміла. Дарога не блізкая, таму ўзялі перакусіць і з сабой. У Дварцы ехалі даволі доўга, праз Навіцкавічы, Угляны, па дарозе перамаўляліся, курылі, саскоквалі з вазоў, разміналіся. Побач, адна за другой, рухаліся падводы. Апошняя — Міхаля Тупчыка.

Лета ўжо хілілася на спад. На палях працавалі людзі. Азімыя зжалі, прыступалі да ўборкі яравых. Закрывавіліся рабіны, што пасаджаны былі ўздоўж дарог, асабліва пры вёсках. Ехалі праз пушчу, прыслухоўваючыся, як пра нешта шэпчуцца паміж сабой калматыя вершаліны дрэў. Зялёныя елкі стаялі, абвешаныя ўверсе вялікімі карычневымі шышкамі. Лявон ішоў побач з падводай і любаваўся на магутныя пушчанскія дрэвы-волаты.

У Дварцах сустрэў Дацкевіч, паказаў будыніну. Бярвенні ў сценах, амаль новыя, у застылых смаляных падцёках, былі пазначаны ўжо лічбамі, каб не пераблытаць пры складанні на новым месцы. Прускаўцы не марудзячы разабралі іх і пагрузілі на падводы, рассунуўшы вазы, падоўжыўшы адлегласць паміж пярэднімі коламі і заднімі, бо некаторыя бярвенні з ніжніх вянцоў зруба былі надта доўгія. На Лявонаву падводу паклалі самы цяжкі груз — пустакі пад падмурак. Воз ажно прасеў пад гэтымі магутнымі бярвеннямі, якія трэба было везці вельмі абачліва і асцярожна, асабліва на калдобінах.

Пераехаўшы па мосце нейкую рачулку, што ўпадала ў Лосьну, падводчыкі спыніліся, каб крыху адпачыць і перакусіць і даць падсілкавацца коням.

— Ну, хлопцы, хто вып'е вады дваццаць кубкаў, пачак махоркі даю, — прапанаваў Хрысан. Прынада не малая — пачак махоркі (хочаш купіць — заплаці Шпроньку шэсць злотых), хоць, вядома, і дваццаць кубкаў выпіць не проста, згадзіўся наіўны Оргій Ламака. Стаў піць. З ракі чэрпаў Мікіта Галёнка. Удалося выпіць толькі палавіну — дзесяць кубкаў, і вада ў Оргія пайшла і ротам, і носам. Яго доўга рвала. Шкада было глядзець.

— Давай паўпачкі! — накінуўся на Хрысана Ахрэм. — Палавіну ж выпіў.

— Не, мы так не дамаўляліся, — круціў галавой Хрысан, — каб усе дваццаць, дык атрымаў бы пачку.

Такі ўжо чалавек быў Хрысан.

Вечарам падводчыкі вярнуліся дадому, згрузілі бярвенне вакол будучага фундамента. Прося паклікала ўсіх на вячэру. Васіль не паскупіўся, паставіў глыбокую чарку. Талакоўцы падпілі і зноў загаманілі.

— Кажуць, бальшавікі вяртаюць палякам караля, — сказаў, каб крыху здзівіць вяскоўцаў, натарэлы ў палітычных справах Мікіта Галёнка, які ездзіў у Дварцы разам з усімі. Талакоўцы пазмаўкалі, не ў стане ўцяміць, што мае на ўвазе Мікіта. Ён быў больш дасведчаны, бо чытаў газеты, але і прысачыніць часам любіў. Сачыняў нават вершы.

— Пра што ты, Мікіта? — здзівіўся Сяргей Сталетнік, які таксама меў нахіл да палітычных навін, асабліва калі вярнуўся з войска.

— Пра тое! Станіслаў Панятоўскі ж пахаваны ў Пецярбурзе (ну, цяпер — Ленінград), у касцёле Святой Екацярыны, а бальшавікі гэты касцёл разбураюць, бо нешта перашкаджае ён ім, дык кажуць палякам: «Забірайце Панятоўскага, калі ён вам патрэбен!» Станіслаў Панятоўскі — апошні польскі кароль. Я ў газеце пра гэта чытаў.

— Глядзі ты, што на свеце адбываецца! — загалдзелі талакоўцы. — Ну і ну!

— Гэта ўсё Сталін! Магутны чалавек, што хоча, тое і робіць! — сказаў Павал Гальяш і нават прысвіснуў.

— Але і Гітлер не дурань! — едка ўсміхнуўся Гамон, які таксама прымаў удзел у талацэ. — Аўстрыю падмяў ужо, а цяпер на Чэхаславакію нацэліўся — Судзеты аддай!

— І ніхто яму здачы не дасць! — здзіўлена пакруціў галавой Ахрэм Чапёрка.

Нехта патлумачыў:

— Бо дужы.

— Час пакажа! — прабубнеў Павал.

Лявон моўчкі слухаў, думаў пра пасынка, які сабраўся гэтак рашуча аддзяляцца.

А назаўтра за працу — паставіць хату — узяліся майстры, Васіль наняў Якіма Кавеньку з Завадзькавіч, які з'явіўся з двума сынамі — Пятром і Паўлам. Кавенькі — цеслі знакамітыя. Не адну хату склалі. Дапамагаў Просін бацька — Мікалай. Цесць не забываў пра дачку. Работа пасоўвалася спорна.

На фундамент паклалі пустакі, а на іх бярвёны. Пахла залацістай смалою — жывіцай, свежымі трэскамі, мохам, якім перасцілалі бярвенне. Па бярвёнах там-сям поўзалі божыя кароўкі. Гатовы зруб зладзілі хутка і пачалі ставіць кроквы. Рыхтавалі на латы дошкі. Гэтую справу добра ведалі Пятро з Паўлам. Нацягвалі шнур, мазалі яго чорнай, абпаленай галавешкай і на шырокай паверхні дошкі, збоку, адбівалі роўную лінію. Па ёй, пачынаючы з камля, цясалі. Неўзабаве стаяла ўжо першая, з краю, кроква, а зверху на ёй красаваўся букецік кветак. Гэты момант у будаўніцтве — «кветку» — адзначалі.

Прыйшла з радном Прося, набрала трэсак, каб смажыць яечню. Зверху Кавенька гукнуў:

— Ну, гаспадыня, хутка ў сваю хату жыць пойдзеш!

— Праўда? — як бы не паверыла маладзіца.

— А чаму ж не? Каб я так жыў! Праўда.

Адзначыўшы «кветку», паставілі астатнія кроквы і прыбілі латы. Дах насцілалі гонтай, якую Васіль раздабыў у таго ж Дацкевіча. Работа марудная, затое дах атрымаўся роўны і прыгожы.

Прося адчувала сябе шчаслівай.

— Не забудзь перад пярэбарамі, — напомніў Кавенька, — занесці ў хату пеўня, каб паначаваў, а то нячыстая сіла завядзецца. У мяне былі выпадкі, што ў новай будыніне па начах у каморы хтосьці хадзіў, кублы з салам перастаўляў.

— Не завядзецца, тут царква побач, — запярэчыў яму Мікалай, кіўнуўшы на царкву, што стаяла насупраць, па другі бок гасцінца.

— Не завядзецца! — пераглянуліся між сабой Пятро з Паўлам.

Да хаты прыбудавалі такія-сякія сенцы з бярозавых аполкаў. Паляк—каланіст Касарала, які працаваў у Падгурскіх агароднікам, склаў печ.

Складалася хата з двух невялікіх пакояў, кухні, каморы і сенцаў. Выглядала досыць утульна. З левага боку пры ўваходзе стаяла печ, на якую добра было залезці, асабліва зімой, ды паспаць. У куце пад абразамі знаходзіўся стол, зроблены з габляваных дошак, без жалезных цвікоў. Пры стале ўздоўж сцен стаялі дзве лавы, з трэцяга боку — столак. На ложках ляжалі прыгожыя посцілкі — чырвонае з жоўтым і зялёным — і падушкі ў белых навалачках.

Вокнамі хата выходзіла з аднаго боку на царкву, з другога — на лаўку Шпронькі. З трэцяга боку віднеліся сад, рэчка, лужок, руіны Крухмальні, сажалкі. Маладыя навасёлы не маглі нарадавацца свайму новаму становішчу. У абаіх узняўся настрой.

— Праўду кажуць — у сваёй хаце і качарга маці, — цешылася Прося.

Аддзяліўшыся ў новую, хоць яшчэ і не ўладкаваную як трэба хату, пачалі абжывацца. Падворак Васіль абгарадзіў плотам, паставіў новыя веснічкі, параіўся з Просяй:

— Вельмі добра, калі каля хаты прыгожае дрэўца расце. Давай пад вокнамі чаромху пасадзім! — Так і зрабілі — пачала расці прынесеная з Крухмальні чаромха.

Хата на дарозе — госць на парозе. Агароднік Касарала, які склаў печ, ідучы ў лаўку да Шпронькі, ніколі не мінаў Васілёвай хаты, заходзіў, выпіваў кілішак гарэлкі і казаў: «Я тэн дом будовал, я в нім бендэ скакал», — і пачынаў адбіваць чачотку. Надта любіў гэтыя скокі.

Унука Лявон з Фёклай пакінулі ў сябе. Валодзік вельмі прывык да хаты, у якой нарадзіўся, да дзеда з бабуляй. Ён ужо не браў грудзі, і гэты момант Прося перажывала як нейкае аддаленне ад сына ці сына ад яе. Параіўшыся з Лявонам, Фёкла сказала:

— Валодзіка пакіньце нам. Пуп яго тут закапаны. Можа, пад старасць суцяшэнне будзе.

— Што, пакідаеце яго? — здзівілася суседка Марчыха, што забегла, каб узяць жару распаліць печ. — Бярыце і яго!

Малы, як бы пачуўшы яе словы, захныкаў, і Фёкла сунула яму ў рот соску (Лявон купіў яе ў Шпронькі), але хлопчык выплюнуў яе з такой сілай, што соска адскочыла некуды ўбок. Бабуля ўзяла ўнука на рукі і шчыльна прыціснула да грудзей.

— Гожы, Валодзік, гожы! — супакоіла малога, гладзячы па галоўцы.

— Малачка хоча, — засмяяўся Лявон, — ты ўскіпяці, а я яго тым часам патрымаю. Малюпатка наш...

Фёкла наліла ў бутэлечку паранага малака.

## XIII

Неяк падвечар Лявон зайшоў у лаўку да Шпронькі — нешта хацеў купіць. Апроч гаспадара, у лаўцы знаходзілася яшчэ адна асоба — настаўнік Мандрашчак, як звычайна ў напаўваенным адзенні, пры гальштуку. Таксама нешта купляў.

— Не, — казаў, седзячы ў шырокім крэсле, што месцілася за прылаўкам, Шпронька, — кароль павінен быць пахаваны на Вавэлю! Пілсудскага пахавалі на Вавэлю? На Вавэлю! Чаму ж Панятоўскі павінен быць у Волчыне? Што яму там рабіць?

З таго часу, як Лявон апошні раз бачыў Шпроньку, лавачнік, здавалася, яшчэ болей патаўсцеў і нават расплыўся. Спасылаўся на амерыканскіх мільянераў: тыя, маўляў, усе тоўстыя, бо з капіталам. І сябе ў думках уяўляў мільянерам (гэта было яго блакітнай марай), але апошнім часам гаварыў пра свае мільянерскія амбіцыі радзей.

Настаўнік выглядаў сухаватым і падцягнутым, часта разводзіў рукамі і паціскаў плячыма як бы дзівуючыся Шпронькавай някемлівасці. Ад напружанасці на нагах у яго рыпелі крагі.

Лявон павітаўся, але на яго не звярнулі асаблівай увагі. Мандрашчак даказваў сваё, ён быў рашуча нязгодны:

— Панятоўскі, проша пана, русафіл! Куды яму да начальніка паньства! Гэта слабы кароль. Падумайце! Ён быў мецэнатам, але не аказаў супраціўлення ворагам Польшчы! Не даў ім адпору! А гэта недаравальна! Больш таго, па сутнасці, стаў кацапам!

— Але колькі ён зрабіў для культуры! — зацята пярэчыў Шпронька, як бы ў гэтым ён шмат разумеў.

У пытаннях культуры тоўсты лавачнік можа і не шмат цяміў, але апошнім часам ён купіў радыёпрыёмнік і меў магчымасць слухаць навіны. І ў спрэчцы з настаўнікам адчуваў сваю дасведчанасць і нават перавагу.

— Ён любіў Варшаву і павінен быць пахаваны ў Варшаве! — пераконваў ён настаўніка, пераключыўшыся з Кракава на Варшаву.

Мандрашчак пацінуў плячыма:

— Але дзе?

— У Варшаўскім зборы! Або пабудаваць маўзалей на Лазенках! Ён вельмі любіў Лазенкі. Там была яго каралеўская лазня!

Як бы ў доказ правільнасці таго, пра што ён сказаў, Шпронька пазяхнуў, шырока разявіўшы рот, і затуліў яго далонню.

Настаўнік скептычна пакруціў галавой:

— Не, не і не!

— Але чаму?

— Не!

Лявон зразумеў, што гэта ўсё яшчэ доўжыцца дыскусія аб перазахаванні колішняга польскага караля, які жыў у васемнаццатым стагоддзі. Толькі праз некалькі месяцаў стала вядома, што кароль перазахаваны ў Волчыне, у касцёле, — гэта ўсяго якіх-небудзь дзесяць кіламетраў ад Прускі. Прускаўцы адчулі каля сябе лёгкі павеў гісторыі. Перазахоўвалі караля ноччу, у сакрэтнасці, але, як кажуць, усё таемнае па часе становіцца яўным.

— Добры дзень! — у лаўку завітаў яшчэ адзін Шпронькаў кліент — Лаўр Яўсеевіч. Выглядаў ён надта ўзбуджаным, відаць было, што чалавеку не цярпелася нешта сказаць: — Ці чулі? Гэта неверагодна!

— Што такое, Лаўр Яўсеевіч? — сустрэў яго Шпронька, варухнуўшы адвіслым падбароддзем. — Што, проша пана, здарылася?

— Панове, камуністам канец!

Спачатку ўсе мўчалі, уражаныя такой нечканай навіною, а потым падаў голас Мандрашчак:

— Якім чынам?

— КПЗБ распушчана! На свае вушы чуў, як сёння ў Камянцы паліцыянт казаў: «Няма ўжо КПЗБ, канец ёй!» Дырэктыва Масквы! Вось так, панове. Неверагодна!

— О Езус Хрыстус! — вырвалася ў Мандрашчака. — Дык гэта ж падзея!

— Не можа быць, — ачнуўся, варухнуўшыся ў сваім крэсле, Шпронька і чамусьці расшпіліў пінжак і пачаў абмацваць гузікі на камізэльцы. — Нешта нават не верыцца, я штодзень слухаю радыё, а радыё пра гэта нічога не перадавала.

— Гэта тэн! — па-польску сказаў Мандрашчак, але ніхто не зразумеў, хто гэта — тэн.

— Хто? — зноў падаў голас лавачнік, які нічога не мог уцяміць з таго, што адбылося.

Апошнім часам Лявон ужо не раз заўважаў, што калі ў свеце адбывалася нешта незвычайнае ці загадкавае, прычынным да яго называлі Сталіна, які, здавалася, як аграмадны павук, увесь свет ублытаў у свае тугія мярэжы. Так было і на гэты раз.

— Сталін, — патлумачыў Мандрашчак і зняважліва зірнуў на Шпроньку. — Апроч яго ніхто гэтага зрабіць не мог.

— Сталін? — Шпронька зарагатаў і ажно схапіўся за жывот. — Дык выходзіць, што Маскве не дагадзілі? Гы-гы-гы! — зноў зарагатаў ён.

— Можа і так, — сказаў Лаўр Яўсеевіч. — Усялякае здараецца. КПЗБ — падмаскоўная партыя. Перакрылі кісларод. Вось і ўсё. Ад бальшавікоў усяго можна чакаць! Я іх добра ведаю.

Вестка, якую прынёс Лаўр Яўсеевіч, была абсалютна праўдзівая. Як стала вядома пазней, сапраўды КПЗБ спыніла сваё існаванне. 16 жніўня 1938 года Выканкам Камінтэрна прыняў рашэнне аб роспуску Кампартыі Польшчы і заадно КПЗБ у сувязі з абвінавачаннем у шырокім пранікненні варожай агентуры ў рады яе кіраўніцтва і актыву. Вядома, аб падрабязнасцях камінтэрнаўскага рашэння ніхто на той час не ведаў — уключаючы і тых прускаўскіх «палітыкаў», якія сабраліся ў Шпронькавай лаўцы. Гэтае рашэнне было ці не найбольшым дзяржаўным сакрэтам Краіны Саветаў.

Лявон падзівіўся здольнасцям Лаўра Яўсеевіча — і ў царкве служыць, і палітыкай вунь як цікавіцца, і да жанчын вялікі ахвотнік, апошнім часам улёгся за Пахолкавай Нінай. Каваль — у кузню, а ён — да яе.

Шпронька, жадаючы звярнуць увагу на сваю асобу, падняў уверх тоўсты палец:

— Панове, і Троцкага нельга скідаць з рахунку! — загаманіў ён. — Ён жа арганізаваў новы, ажно чацвёрты свой Інтэрнацыянал. Я б не скідаў яго з рахунку! Гэта не жарт!

— Але ж, дазволю сабе сказаць, і ў Еўропе няма спакою! — важна прамовіў Мандрашчак. — Гітлер, панове, Гітлер! Мілітарызуе Германію. Хто б падумаў? Ідзе напралом! Версальскі дагавор 1919 года быў крушэннем Германіі, што пасля гэтага яна наўрад ці хутка аправіцца. Але яна адрадзілася, як фенікс. Гітлер! Зрэшты, калі трэба, мы дадзім яму па зубах! У нас урадам кіруюць людзі з вайсковым вопытам. Гэта для нас, панове, выратаванне!

— Аўстрыю ўзяў, відаць, і Чэхаславакію возьме, — перабіў яго лавачнік. — Колькі тых чэхаў, ды і народ, кажуць, спакойны.

— Мусіць, як і мы, беларусы, — далучыўся нарэшце да гаворкі Лявон, які да гэтага маўчаў. Як звычайна, больш любіў слухаць, чым гаварыць.

— Беларусаў болей! — не згадзіўся Шпронька. — Значна болей!

— Польшча магла б дапамагчы, але, відаць, Бэк не хоча — зазначыў Мандрашчак, як быццам яму было вядома штосьці такое, пра што суразмоўцы і не здагадваліся.

Зноў пажвавеў лавачнік.

— Ці не немец ён — гэты Бэк? Як думаеце? Падобна, што немец! — выказаў ён здагадку. — Эх, няма маршалка Пілсудскага, за ім было добра, жылі, як у Бага за пазухай. Без Пілсудскага прападзём...

— Не прападзём! — заверыў настаўнік, рыпнуўшы крагамі. — Нашы вайскоўцы каму хочаш шыю скруцяць. Адна кавалерыя чаго значыць! А артылерыя! А панцэрныя войскі! А самалёты! А пяхота на ровэрах! Хіба гэта не сіла?

Лаўр Яўсеевіч пазіраў то на аднаго, то на другога.

— А вось бальшавікі, — крутнуў галавою Шпронька, — я чуў сам, радыё перадавала, пра руку помачы гавораць.

— Гэта — фальш.

— Бальшавікі яшчэ нікому не дапамаглі, — усміхнуўся Лаўр Яўсеевіч, — а калі дапамаглі, дык толькі перасяліцца на той свет.

— Nie będzie jako świat światem Rusin Polakowi bratem![1] — рэзюміраваў Мандрашчак.

Мандрашчак і Лаўр Яўсеевіч, купіўшы ў Шпронькі па баначцы ваксы (усё адно як змовіліся), пакінулі лаўку. Лаўр Яўсеевіч на момант вярнуўся і ўзяў яшчэ і цюбік зубной пасты. Шпронька лісліва пахваліў дзяка:

— Гэта вельмі правільна, Лаўр Яўсеевіч, што вы бярэце пасту. Зубны парашок пасты не дакажа, бо гэта чысты мел. Глінка! А паста — ого! У вас добры густ.

Лаўр Яўсеевіч кіўнуў і пайшоў, не зачыняючы за сабой дзверы.

— Ну, а ты, пане каханы, што купіш? — Шпронька звярнуўся да Лявона. — Цяпер ты гаспадар, маеш Крухмальню. Гэта прэстыжна!

— Мне дай селядца.

— Толькі селядца?

— Нешта салёнага захацелася.

Шпронька спачатку задумаўся, потым лянiва споўз з крэсла, падышоў да бочкі, што стаяла ў кутку, і закасаў рукаў. Нейкі час быццам вагаўся, а потым запусціў руку ў бочку і доўга ў ёй шукаў, мацаў, як бы лавіў, як бы тыя селядцы былі жывыя і ўхіляліся ад «рыбака». Нарэшце-такі дастаў рыбіну фунты на два і падаў пакупніку.

---

[1] Не будзе, пакуль свет стаіць, рускі паляку братам! (польск.).

— На!

Селядзец выглядаў не надта апетытна, з бакоў крыху як бы заіржавеў і сплюшчыўся.

— Смачны! — пахваліў лавачнік. — Лепшага нідзе не купіш. Першы гатунак! З самага дна Балтыйскага мора!

Лявон узяў.

— Колькі гэта каштуе?

— Паўзлота як з цябе. Каб на спажытак!

Лявон узяў селядца і моўчкі расплаціўся. Лавачнік загарнуў рыбіну ў кавалак газеты.

— Дужа ты спакойны чалавек, Лявоне! Нічым цябе не праймеш, ніякай палітыкай. Ты як бы нейкай сваёй дарогай ідзеш. Гэта таму, відаць, пане каханы, што ты ў Бога верыш і ў царкву ходзіш.

Лявон усміхнуўся.

— Чаго ты смяешся?

— Гэта я так сабе.

— Лявоне, ты, дружа, і мяне да Бога набліжай.

«О, якраз, цябе наблізіш! Цябе і на вяроўцы не завядзеш!» — падумаў Кужаль, а ўголас сказаў:

— У наступную нядзелю пойдзем разам. У царкву.

— Ну, пабачым...

Пра пачутую вестку аб забароне КПЗБ з Масквы Лявон расказаў Васілю, але той ужо пра гэта аднекуль ведаў.

— У цяжкіх грахах абвінавачваюць...

— У якіх грахах? — не зразумеў Лявон.

— У здрадзе...

— А хто абвінавачвае?

— Камінтэрн.

Праз нейкі час стала вядома, што польскія ўлады пераглядаюць судовыя справы камуністаў і, каго палічаць драбязой, адпраўляюць дадому — пад нагляд паліцыі. Косці сярод такіх, хто вяртаўся з турмы, не было.

І ўсё ж такі восенню нехта раскідаў лістоўкі на Камянецкім базары...

* * *

30 верасня 1938 года чэхаславацкі ўрад падпарадкаваўся мюнхенскаму дыктату чатырох дзяржаў, а ў сакавіку наступнага года гітлераўскія войскі перайшлі чэхаславацкую мяжу. Выкарыстаўшы момант, польскі ўрад па прыкладу Гітлера, і не жадаючы ад яго адстаць, — запатрабаваў ад чэхаў частку Сілезіі, і ў кастрычніку гэтага ж 1938 года Польшча акупіравала гэтую чэшскую тэрыторыю, так званую заользенскую правінцыю — 650 міляў, дзе пражывалі 95 тысяч палякаў і 133 тысячы чэхаў.

Весткі пра ўсё гэта не міналі і Прускі, але як бы не тычыліся яе, праходзілі па-за ўвагай. Людзі займаліся сваім: аралі, сеялі, жалі, малацілі...

* * *

На «Крухмальні», на сваёй палавіне, Лявон пасеяў пшаніцу. Зямля там добрая, панская, і ўраджай сабралі неблагі. А восенню малацілі. Роўна хадзілі коні, запрэжаныя ў керат. Коней паганяў пляменнік Лявона — Барбарын Сенька. Лявон час ад часу браў у рукі маслёнку, абыходзіў прывад і аглядаў малатарню,

падліваў масла ў машынныя вузлы. Міжвольна ўспаміналіся словы Грыцька, якія Лявон не раз чуў ад яго ў Амерыцы: «Толькі тэхніка зробіць чалавека шчаслівым. Тэхніка і Біблія». Думаў: «А, можа, і сапраўды так?»

З застаронка падносіў снапы Павал Гальяш. Падавальшчыцай — Фёкла. На шырокім, вызлізганым да бляску стале яна развязвала перавяслы, распускала снапы, роўным палатном рассцілала іх і накіроўвала ў ненасытную пашчу машыны. Фёкла — лепшая падавальшчыца. Спачатку суне пад барабан каласы, а потым адцягне сноп назад і, раўнамерна разаслаўшы па стале, пусціць увесь. Жырыло малатарні гудзе, прарэзліва енчыць і прагна глытае разасланае жыта, патрабуючы новай порцыі. Унізе, з-пад саламатрэса, хвалямі плыве ручай выцерабленай саломы і асцюкоў. Плыве і на вачах расце. Прося з Гальяшавай Арысяй спешна адграбаюць салому, якую Васіль на вілах носіць за клуню — дзеля гэтага частка сцяны клуні насупраць тока разбіралася, бярвенні складваліся на вуліцы.

Надсадна гудзе машына, жыта пасмамі ідзе ў барабан, пад саламатрэсам, на вачах, расце купка намалочанага зерня. Зерне цвёрдае і буйнае. Лявон час ад часу бярэ ў рукі шоплю і адгортвае зерне ад саламатрэса.

Рух! Работа! Увішнасць! Толькі паспявай!

Ад малатарні шэрымі клубамі ўзнімаецца саламяны пыл, скрозь які відаць, як блішчаць вочы работнікаў, выдаючы захопленасць агульным працоўным рытмам. Канвеер. Працуюць зладжана. Сарочкі ўзмакрэлі ад поту, валасы ў мякіне. Ноздры казыча свежы хлебны пах. Рытм задае машына — як на тым канвееры ў Форда. Хутчэй, хутчэй! Памалу яна круціцца не можа, калі памалу, тады ўсё спыняецца. І паганяльшчыка з коньмі яна прыспешвае. Калі ход машыны замаруджваецца і барабан вурчыць і дае збой, Лявон падае Сеньку знак, каб барджэй паганяў коней.

І гэтак гадзіны тры ці нават чатыры, а потым — перапынак на абед.

— Гэта табе не цэпам! — пасміхаецца Павал. — Тэхніка!

Пасля таго, як малацьба была скончана, Лявон з Васілём скірдавалі абмалочаную салому. Салома пасля малатарні ішла на падсцёл скаціне.

Трэба было ўправіцца таксама і з намалочаным зернем. Зерне веялі ўжо пад вечар. Дапамагала Фёкла.

— Ілью Аляксандравіча помніш? — звярнуўся Лявон да жонкі.

— Помню.

Ілья Аляксандравіч — свёкар Фёклы па першым мужы.

— Магутны быў чалавек.

— Царства яму нябеснае! — перахрысцілася Фёкла, згадаўшы колішняга свёкра.

— Калі веялі пшаніцу, ён казаў: «Трэба адабраць, што на емя, а што на семя!» Гэтак і нам варта зрабіць.

Карысталіся Лявонавай малатарняй і суседзі. Не адмаўляў. Пасля таго, як абмалаціў сваё і вызваліліся застаронкі, малаціла Хомчыха. Прывозіў збажыну Павал Гальяш. Абмалаціўшы, сказаў:

— А табе ўжо, Лявоне, некаторыя і зайздросцяць!

— Я ведаю...

Хто не карыстаўся Лявонавай малатарняй — дык гэта Грышка Латушка. Адносіны з ім так і заставаліся нясвойскімі і насцярожанымі. Зрэшты, ён, як і раней, ні з кім не вадзіў кампаніі.



## Мікола МАЛЯЎКА

### ДВАЦЦАТЫ ВЕК

Дваццаты век,
Трывожны век,
Ты раўнадушным быў і чулым.
Як стогадовы чалавек,
Знайшоў спакой сабе
Ў мінулым.

З вайной,
З хрушчоўскаю адлігай,
З застоем і перабудовай,
Ты закалыхваў хваляй ціхай,
Будзіў пасля
Паводкай новай.

Жыццёвы круг
Звужалі, знаю,
І Калыма, і Курапаты,
Ды я цябе не праклінаю
За грэх злачынцаў,
Век дваццаты.

---

*__Маляўка Мікалай Аляксандравіч__ нарадзіўся 13 снежня 1941 года ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Пасля заканчэння дзесяцігодкі працаваў у Карэліі лесарубам. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1965). Настаўнічаў у вясковых школах. Працаваў на рэспубліканскім радыё і тэлебачанні. Цяпер — у часопісе «Вясёлка».*

*Піша для дарослых і дзяцей. Аўтар паэтычных зборнікаў «Едуць маразы» (1966), «Лотаць» (1973), «Эстакада» (1982), «Аднавякоўцы» (1988), «Зімні дождж» (1991), «Ручнічок на крыжы» (1995), «Покуць» (2001), «Сядзіба, або Хата з матчынай душою» (2002), «Старая зямля» (2005), «Ой, бярозы ды сосны...» (2006), «Дзічка ў полі» (2007) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1992), прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (1997), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (2002).*

Ты праўдай горкай
Абнадзеіў,
Адстаўку даў правадырам —
І нас прывёў ад Маўзалея
У пакаяння
Божы Храм.

Ты рос і крэп,
Не падаў духам,
І я цябе такім прымаю:
З вінтоўкай,
З молатам і плугам,
З бярозавай галінкай маю.

Ты адарыў
Мяне каханнем,
Ты акрыліў маю душу
Тугой, і светлым хваляваннем,
І верай, што ў душы
Нашу.

Паклон зямны
За ўсё табе,
Як дарагому чалавеку:
Я твой у працы й барацьбе,
Хоць і жыву —
У новым веку.

## НА СКРЫЖАВАННІ МАЛАДЫХ ГАДОЎ

*Якубу Коласу*

На скрыжаванні маладых гадоў
Жыццё збівала з ног, ламала крылы,
Але ставала таленту і сілы
Падняцца зноў — для смелых думак, слоў.
Адзін ішоў і духам слабых вёў
За небасхіл, у барацьбы гарніла, —
Любоў да прашчураў душу жывіла,
Натхняла да сучаснікаў любоў.

У змене дзён мінаюць вёсны-зімы.
Ён не пакінуў нас, Пясняр любімы,
А проста ў вечнасці знайшоў начлег,
Бо прытаміла доўгая дарога:
Любоў народная — той абярэг,
Які яго ўзвышае як жывога.

## ВЯСНА ЯШЧЭ ЎСМІХАЕЦЦА ЗДАЛЯ

Вясна яшчэ ўсміхаецца здаля.
У сад вярнуўся снег — густы, раскошны,
Цвітуць, здаецца, дрэвы, кусцік кожны.
І не хапае ў квецені галля
Хіба што басавітага чмяля
Ці сонечнага промня — з пчолкай Божай,
Каб стала ява казкаю прыгожай,
Каб ты паверыў, што цвіце зямля.

Жаночы дзень, пяшчотны і духмяны,
Кладзецца снег на ружы і цюльпаны —
Цнатлівую святочную красу.
Я выйшаў з крамы кветкавай, як з саду, —
І разам з ружамі табе нясу
Крыштальную галінку снегападу.

* * *

Вышэе неба. Прыбывае дзень.
Адтаяў ад марозу дол чыгунны.
Зямля — як скрыпка, ручаінкі — струны,
І не хаваецца ў захмарны цень
Смычок вясёлы — сонечны прамень.
Вясна прыйшла, і цешыць скрыпкай чуйнай
Штодзень яна, маэстра вечна юны, —
Пад музыку працуй і летуцень.

Слабеюць ручаінак гукі-зыкі,
Але смычок не хібіць у музыкі,
Не анямела скрыпка, як у сне:
Вясна натхнёна-лёгка, без заганы,
Іграе на адной жывой струне, —
І свет увесь замёр, зачараваны.

* * *

У свет наш жыццёвы
Яны прылятаюць вясною,
Жаўрук і зязюля —
Дзве птушкі,
Любімыя мною.

Я з лесу выходжу на поле.
Пад сонцам зямля залаціцца,
Для мар запаветных — раздолле,
Купаюцца мары ў блакіце.

Пад кроны лясныя вярнуцца
Спяшаюся зноў з паднябесся:
Глыбінныя думкі снуюцца
Не ў полі адкрытым, а ў лесе.

Так з полем і лесам
Я звязаны доляй адною,
Жаўрук і зязюля —
Дзве птушкі,
Любімыя мною.

## ВЕЦЕР З РОДНАГА БОКУ

Вецер з роднага боку,
Ён павеяў у спёку,
Наталяючы смагу, —
І яго я пазнаў
Па наднёманскім паху
Спелых кветак і траў.
Госць жаданы здалёку —
Вецер з роднага боку.

Вецер з роднага боку,
Ён без сонца, у змроку,
Не згубіўся ў бязмежжы,
Самы лепшы з вятроў:
Лёгкі, мяккі і свежы,
Як дыханне сяброў.
Госць жаданы здалёку —
Вецер з роднага боку.

Вецер з роднага боку,
Ён да мілых вытокаў
Кліча ў госці, няйначай,
За круты небасхіл, —
Да калыскі дзіцячай,
Да бацькоўскіх магіл.
Госць жаданы здалёку —
Вецер з роднага боку.

## ЯБЛЫНІ Ў ЦВЕЦЕ

Школьны сад пастарэў неўпрыкмет,
Ды з прыходам вясны абнаўляецца.
Дакрануўся —
І з яблыні цвет
На далоні мае асыпаецца.

Пасівелі настаўніцы нашы,
Каля Нёмана — сонцу не рады:
Загараюць яны не на пляжы,
А ў гародчыку, полючы грады.
Маладосць адляцела далёка
І журбоціцца ў выраі дзесьці.
А цвілі, красавалі на ўроках
Прыгажуні — вачэй не адвесці.
Ах, пара́ непаўторная тая!
Ах, настаўніцы — яблыні ў цвеце!
Я адну з іх у думках вяртаю
У вясну, у сваё паўналецце.

Як вясёлкай аздобіўшы свет,
Яна ў садзе стаіць, усміхаецца.
Дакрануўся —
І з яблыні цвет
На ўспаміны мае асыпаецца.

## Я ЦЯБЕ КАХАЮ

Не хтосьці з продкаў адзін
Прыдумаў гэтыя словы.
Іх час шліфаваў, як бурштын,
У светлых глыбінях мовы.

Старыя яны як свет
І вечна новыя, словы:
У іх і надзей першацвет,
І шлюбу ўзятак мядовы.

Шчаслівыя, мы не крычым,
А шэптам агучваем словы,
Як песні сардэчнай зачын —
З магічнаю сілай замовы.

О, як бы свет абяднеў,
Каб зніклі гэтыя словы —
І біў бліскавіцаю гнеў
У нашай сям'і асновы!..

Іду я да рэчкі той,
Іду я да той дубровы,
Дзе нас парадніл з табой
Тры запаветныя словы.

## ХАЛОДНАЕ СОНЦА

Халоднае сонца ў нябёсах,
Халоднае сонца ў вадзе.
Па шэрай атавы пракосах
Халодная восень ідзе.

А нашы ўспаміны сагрэты,
Прашыты зялёнай травой.
Наперадзе бабіна лета —
Святла і цяпла астравок.

Не часта, ды цуда бывае:
Ты ў час гэты побач са мной,
І, можа, галінка жывая
Ў душы расцвіце, як вясной.

Праменьчык пяшчоты, як посах,
У познюю казку вядзе.
Халоднае сонца ў нябёсах,
Халоднае сонца ў вадзе.

## ЗОРКА

След твой даўно на зямлі
Снег і пясок
Замялі.

Ты мне ўсміхаешся з вечнасці,
Зоркаю ззяеш уранні,
Зоркаю ззяеш увечары —
І абяцаеш спатканне.

Смутак палыніцца горка,
Страціць яшчэ раз баюся:
Ты не зляціш, мая зорка, —
Сам да цябе падымуся.

Толькі там, угары,
Знічкаю ты
Не згары!

## ШЧАСЦЕ

Шчасця многа не бывае:
Міласэрна дзеліць Бог,
І на ўсіх яго хапае
Ў свеце смутку і трывог.

Шчасця многа не бывае.
Усміхаецца яно,
І танцуе, і спявае,
Хмеліць горка, як віно.

Шчасця многа не бывае.
Шчасце — гэта ўздым і спад,
Як туман, яно сплывае
І вяртаецца назад.

Шчасця многа не бывае:
Я ў душы святло нясу —
І пад вейкамі хаваю
Жальбы чыстую слязу.

* * *

Я хрысціўся ў храме Божым,
Я цікаўным змалку рос,
І мяне ў жыцці трывожыў
Таямнічы свет нябёс.

Вусцішна было і пуста,
Колькі б ноччу ні глядзеў,
Толькі месяц ззяў, як люстра,
Там, у храме без людзей.

Продкі і сябры сардэчныя
Шляхам Млечным адышлі:
Родных душ у храме вечным
Стала больш, чым на зямлі.

І даўно ўжо не трывожыць,
І даўно ўжо не чужы
Свет завоблачны прыгожы —
Храм і для маёй душы.



Міхась ЮЖЫК

# ЛЕАПАРД НА БАЛКОНЕ

***Раман***

## 1

Пятро Мігуля вяртаўся з адпачынку ў няпэўным настроі. З аднаго боку, ён нібыта прыняў важнае і лёсапаваротнае рашэнне, а з другога, сумняваўся, што яно правільнае. Што дваццацічатырохгадоваму аспіранту філалагічнага факультэта прыспела пара жаніцца, разумелі не толькі яго бацькі, а і ён сам. Было відавочным і тое, што Ксеня Шпачык, з якой Пятро знаходзіўся ў сувязі апошнія два гады, на ролю жонкі не падыходзіла. Крызіс у іхніх адносінах пачаўся так даўно, што стаў цяпер надакучлівай, неадчэпнай хваробай. Апошнія месяцы гэта было не жыццё, а нейкі апраметны кашмар. Якой толькі брыдоты яны адно аднаму не нагаварылі, якіх дробных і буйных подласцей не нарабілі. Нават рукапрыкладства сталася паміж імі звыклай справаю. Здавалася, так пасварацца, што не тое каб сужыцельстваваць нельга пасля такога, а нават выпадкова ў горадзе сустрэцца — сорамна. Аж не. І трох дзён не праходзіла, каб фатальная сіла не прыцягвала іх, быццам розныя полюсы магніта. То Пятро з павіннай вяртаецца да Ксені, то яна ўсімі магчымымі спосабамі — праз агульных сяброў часцей, праз родзічаў — шукае свайго каханка. І знаходзіла, нават калі ён з'язджаў з Мінска. Прычым, што прыгадваецца асабліва балюча, Пятро, калі мірыўся, то перад ёй заўсёды прыніжаўся. А яна, пані, хоць сама хацела мірыцца, абстаўляла гэта так, нібы не яе тут ахвота, праяўляючы пры тым нешараговы рэжысёрскі талент…

Ну ды што там казаць, цяпер усё. Завязаў. Адно здзіўляла Пятра Мігулю: чаму ён цэлы год так пакутаваў? Бо падшукаць Ксені замену аказалася лягчэй лёгкага. Толькі цяпер Пятро адкрыў вочы на іхнія заганныя ўзаемаадносіны, калі пакахаўся з сапраўднай, чыстай, добрай дзяўчынаю. Дачкой старога бацькавага прыяцеля, дзевятнаццацігадовай Нінай Сулеевай. Бацька яе, праўда, аднекуль з Усходу, а маці як быццам беларуская полька, з заходнікаў. Ад

---

***Міхась Южык (Сотнікаў Міхаіл Юр'евіч)*** *нарадзіўся 4 сакавіка 1969 года ў Мінску. Скончыў Мінскі радыётэхнічны інстытут (1992), працаваў на ВА «Гарызонт». З 1997 года — супрацоўнік літаратурна-публіцыстычнага часопіса «Акно».*

*Аўтар кніг прозы «Мёртвае дрэва» (2001), «Перакулены час» (2002), «Марыянеткі і лялькаводы» (2008), кнігі паэзіі «АнтыРЫФМАР» (2009). Друкаваўся ў часопісах «Полымя», «Маладосць», «Крыніца», «Бярозка», «Родная прырода», штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва».*

бацькі ў Ніны вузкі разрэз вачэй, выразныя рысы твару, усходняя акрэсленасць сцёгнаў і таліі, ад маці — светлаватыя валасы і блакітныя вочы. Ладненькая такая фігурка, а галоўнае, было вялікае спадзяванне на дзявочую чысціню. На Усходзе, адкуль родам яе бацька Амар Рашыдавіч, з гэтым надзвычай строга. Пятро Мігуля, як усялякі распуснік, вельмі цаніў дзявочую чысціню.

У яго цяпер ужо прамінулай сувязі з Ксеняй Шпачык цноты не было ні на грам. Менавіта гэта з першых жа дзён развярэджвала. Старэйшая яна за яго на год, калі сышліся — Ксені ўжо дваццаць тры споўнілася. Мужыкоў у яе да яго, мабыць, перабывала — аж страшна падумаць. Вопытнасць, яна для ночы прыдатная, а для сур'ёзнага сужыцельства пажадана браць матэрыял неапрацаваны ды цэласны. Каб не параўноўвала яна цябе ні з кім, каб лічыла, што на зямлі ад самага стварэння больш мужчын не было. Толькі — ты. Любімы, дарагі, разумны, уладарны, надзейны.

Можа, для каго ўсё гэта пустое, але псіхіка Пятра Мігулі задужа датклівая. Не даруе ён нікому ніводнай крыўды, усе насмешлівыя позіркі ў свой бок заўважае і ў куточак памяці занатоўвае. І хацеў бы забыць, ды не можа. Бывала, пасярод ночы прачнецца і прыгадае, як мучыў яго ў дзяцінстве хуліган Мішка Падброўкін, як не даваў праходу і адбіраў грошы, як не мог рашыцца Пятро на адпор. Да таго ж крыўдна, што Мішка, хоць і старэйшы на год, але шчупленькі быў такі, нізкарослы. Нахабствам браў і сувязямі з навакольнай шпаной. Ведаў, што крануць яго мала хто з хлопцаў наважыцца. І шкадуе цяпер Пятро, што так і не расквітаўся з хуліганістым Мішкам: бацька ягоны мачыху п'яны зарэзаў, у турму сеў, а сірату забрала родная цётка. Словам, назаўжды з'ехаў тады Мішка Падброўкін з двара.

## 2

Падняўшыся па сцёртых прыступках на чацвёрты паверх, Пятро Мігуля адамкнуў дзверы і прайшоў у кватэру.

На двары панавала спёка, сухмень, жнівень рэдка расшчодрываецца на дажджы. Смаліла ўжо трэці тыдзень, таму ў кватэры, нягледзячы на завешаныя перад ад'ездам шторы, было горача, душна. Пятро перш-наперш разнасцежыў усе тры акны, у кухні і двух пакоях. У зале да таго ж адчыніў створкі лоджыі. Гэта прынесла палёгку не адразу: вецер, што імпэтна ўрываўся ў кватэру, быў гарачы, сухі. Ну ды хоць кіслароду паболела.

Трэба было б абдацца пад душам, бо ў аўтобусе, што вёз яго ад Браслава, Пятро ўпацеў данельга. Аднак ён нагэтулькі змарыўся, што, управіўшыся з вокнамі, плюхнуўся ў фатэль і прасядзеў у ім у задумлівасці хвілін дваццаць.

Думаў Пятро ўсё аб тым жа: як ён самавіта зажыве без Ксені Шпачык, як у хуткім часе жэніцца на прыгажуні Ніне Сулеевай і як увойдзе ў сям'ю Амара Рашыдавіча, чалавека заможнага, уплывовага.

Амар Сулееў патрапіў на Беларусь па размеркаванні пасля заканчэння аднаго маскоўскага інстытута. Тут ён праявіў немалы спрыт і ўчэпістасць, даволі хутка ўзышоў па чыноўнай лініі ды яшчэ за савецкім часам заняў пасаду ў адным міністэрстве. Там і пазнаёміўся з Пятровым бацькам, Сямёнам Паўлавічам Мігулем, цяпер даволі адказным чыноўнікам у адным міністэрстве. Сулееў жа гадоў дзесяць таму перакінуўся ў бізнес, дзе зараз з'яўляўся адным з дырэктараў сумеснага прыватнага прадпрыемства. Займаюцца яны шмат чым, і адной важнай галіной іх дзейнасці з'яўляецца пастаўка аўтамабільнага паліва.

Пятро трохі пабойваўся свайго будучага цесця, гэта калі па шчырасці. З'яўляючыся чалавекам даволі млявым і пазбаўленым не толькі камерцый-

ных, а і ўвогуле якіх-небудзь прабіўных здольнасцей, ён падспудна пазбягаў людзей з моцнай жыццёвай энергіяй. Судакрананне з імі прыносіла яму ўсведамленне сваёй нікчэмнасці, душыла рэшткі свабоднай волі. Карацей, паніжала ягоную і без таго невысокую самаацэнку. Пятро выдатна ўсведамляў, што да дваццаці чатырох гадоў ён жыў, як кажуць, на бацькавых плячах і ні разу адтуль не саскокваў. Дый, з інстынкту самазахавання, жадання такога не меў. І ўніверсітэт ён скончыў дзякуючы бацьку, і ў аспірантуру там пастурпіў, і тэму атрымаў, якую мала каму даюць: нічога канкрэтнага, адна цьмяная філасофія. І ўжо ясна, дзе і перад кім будзе ён у наступным годзе абараняцца, і што, калі бацька будзе жывы і здаровы, абароніцца абавязкова. Дысертацыя, праўда, і дагэтуль знаходзіцца ў страшэнна разбэрсаным стане, і калі б не навуковы кіраўнік, таксама прыстаўлены старэйшым Мігулем, які пастаянна падганяў ды, па сутнасці, пісаў тую дысертацыю, то нават невядома, што б адбылося. Хаця не, і ў гэтым не падманваў сябе Пятро Сямёнавіч, будучы навуковец: вытурылі б яго з аспірантуры яшчэ ў мінулым годзе.

Кватэра, у якой Пятро пражывае амаль пяць гадоў, дасталася яму ад памерлага дзеда, ветэрана, партызана, заслужанага ў краіне чалавека, які сапраўды ваяваў, а не бавіўся па тылах. Можа, таму і не дажыў да сямідзесяці пяці. Сорамна сказаць, але разам са смуткам страты — а Пятро дзеда любіў — з'явілася тады і патаемная радасць: вось цяпер я сюды пераеду ды *зажыву*, без бацькоў, без іх камандзірскага ціску. Так другакурснік Мігуля стаў уладальнікам кватэры, якую дзед атрымаў толькі ў сорак гадоў.

Зрэшты, не без напругі тады абышлося, доўга бацькоў угаворваў. Яны ж задумалі кватэру здаваць, а грошы класці на сынаў рахунак. І грошы б тыя не малыя былі — дом у цэнтры горада, усе вокны на двор глядзяць, цішыня. Аднак, выпрошваючы дазвол на пераезд, Пятро казаў, што хоча быць самастойным, даводзіў, што быццам толькі тады ён зможа нармальна спасцігаць навукі, калі адчуе адказнасць сам за сябе, ну і гэтак далей. Купіліся на гэта бацькі ці не, паверылі цалкам ці не — у душу ім не зазірнеш, аднак дазвол свой далі.

Пятру ж самастойнасць была патрэбная з адзінай мэтаю: прывольна аддацца жыццёвым слодычам. Так сталася, што алкаголю яго арганізм не прымаў. У пятнаццаць гадоў гэтак напаілі яго ў турпаходзе прыяцелі, што не можа на спіртное глядзець. Гэта мы да таго вядзём, што не шумных хаўрусаў, не пагулянак-папоек прагнула Пятрова душа (дарэчы, блізкіх сяброў у яго амаль не было), а стасункаў вольных з жанчынамі. Тут варта сказаць, што першы любоўны вопыт Пятро прыдбаў у чатырнаццаць гадоў, у лагеры адпачынку. Разбэсціла яго маладая паварыха Святлана. Ды так ашаламіла сваім поўным, дужым і адначасова мякка-падатлівым целам, сваімі неверагоднымі ў бессаромнасці ласкамі, што прыехаў з таго лагера падлетак зусім другім чалавекам. І ўжо, як без допінгу, без жанчын не мог абыходзіцца Пятро Мігуля. Тым больш што поспех у дзяўчатак і дзяўчат меў ён, заўсёды будучы і вышэйшым, і прыгажэйшым за сваіх аднакласнікаў.

Калі ўжо зайшла гаворка пра цялесныя дадзеныя спадара Пятра Сямёнавіча, то не палянуемся апісаць яго знешнасць. Ростам пад сто дзевяноста сантыметраў, нешырокай косці, сціплай мускулатуры, з маленькімі кісцямі рук, не знаёмых з фізічнай працаю, памер ступні невялікі, пакатыя, але досыць шырокія плечы, вузкі таз. Адным словам, Пятро на атлета не выдаваў. Уся яго прывабнасць для жаночага полу была ў высокім росце, дакладных прапорцыях, тонкіх і вельмі выразных рысах твару. Цёмныя бровы навісалі над светлашэрымі добрымі, як магло здацца, вачыма. Светла-русыя, злёгку кучаравыя валасы. Твар без маршчын, з яго не сыходзіў румянец — прыкмета здароўя і лёгкай душы.

Але знешнасць нярэдка бывае дужа падманлівая, бо Пятро Мігуля ні лёгкім, ні добрым чалавекам не быў. Усё гэта засталося ў пары бестурботнага дзяцінства і юнацтва, авеянага дзявочай увагаю. Цяпер жа хлопец жыў напружаным душэўным жыццём, адчуваў пастаянную незадаволенасць сабой і ўсім акаляючым светам. Хацелася нарэшце гэты свет пакарыць, ці хаця б заявіць пра сябе так, каб усе ахнулі. Аднак падспуднае разуменне свайго бяссілля мацавала раздражненне, уганяла ў маркоту.

Акрамя таго, Пятро мусіў сабе прызнацца, што баіцца памерці. Не, гэта не было тым дзіцячым пачуццём раптоўнага жаху, калі нешта цябе агаломшвае думкай пра смерць, а кволы розум не ў стане з ёй справіцца. Апошнія тры гады Мігуля грунтоўна і напружана думае пра канец існавання жывых істот і асабліва балюча — пра ўласны свой скон. Пачалося тут з розных фактараў, а найперш са спалучэння дзвюх акалічнасцей — пакутлівай хваробы і смерці дзядзькі Валодзі, матулінага роднага брата, і канвы Мігулевай дысертацыі, дзе ў філасофскім сэнсе разглядаюцца пуцявіны людзей, што нязменна заканчваюцца адным — смерцю.

О, як радаваўся напачатку Пятро, выбіўшы праз бацьку такую тэму для дысертацыі. Ён страшэнна не любіў канкрэтыкі, ведаў, як пакутуюць аспіранты ў бібліятэках і ўсялякіх архівах, вышукваючы і супастаўляючы разрозненыя звесткі пра тую ці іншую постаць, падзею. Уседлівасць не была ўласціва Пятру. Ён не мог і гадзіны за сталом выцерпець. А вось да філасофіі, як меркаваў Пятрусь, ён заўсёды меў цягу. Тут, праўда, ён зблытаў навуку з жаданнем пакрасамоўнічаць, здольнасцю быць, калі трэба, гаваркім і дасціпным. Гэтую якасць вельмі цаніў у сабе Мігуля, падабалася яна і таварышам, асабліва дзяўчатам, якія гатовыя былі слухаць яго балбатню не толькі ўдзень, а і ноччу.

Карацей, напісаць філасофскую дысертацыю, лежачы на канапе, не ўдалося, а давялося пабегаць па тых жа бібліятэках, пакарпець над кнігамі, праз сілу ў сябе нешта ўвабраць і жахнуцца таму, якая страшная і безвыходная штука жыццё, калі да яго ставішся вельмі сур'ёзна. Хаця не, жахнуўся Пятро не адразу. Спачатку нават узнікла цікавасць, што паступова перайшла ў азарт і жаданне станавіцца дзень пры дні разумнейшым. Падабалася адчуваць сябе мудрацом, чалавекам, што стаіць над убогімі кузуркамі — проста людзьмі, — якія ў абыдзеннай валтузні нічога пра сябе не ведаюць.

Зрэшты, ён даволі хутка вырашыў для сябе, што гэтыя «проста людзі» не толькі не ведаюць сэнс свайго існавання, не толькі не хочуць знаць нейкага філосафа Пятра Мігулю, а жывуць такім чынам, каб не дай бог не даведацца, што ж гэта за рэч такая — жыццё. Пятро колькі разоў спрабаваў выказаць свае думкі прыяцелям, субяседнікам, палюбоўніцы Ксені і адчуваў, што яны не проста не разумеюць яго, а не жадаюць марнаваць час з-за такой лухты, і ўвогуле, ставяцца насцярожана. Чуццё падказвала, што трэба неадкладна заткнуцца і ніколі нічога такога не паўтараць, бо ад здаровага арганізма людской супольнасці адпрэчыцца яго хворая клетка — Пятро Мігуля.

Размовы ж з навуковым кіраўніком дысертацыі ішлі неяк дзіўна, не закранаючы сутнасці рэчаў — як пра гайкі, балты, батоны ці чаравікі. Маўляў, закруцілі вы энную колькасць гаек, Пятро Сямёнавіч? Не? А вось гэта вельмі вам не пасуе. Даю вам тэрміну максімум тыдзень. Праверу. Словам, не адчувалася, што чалавек, які кіруе Пятровай дысертацыяй, дужа захоплены сваёй справай. А досвед, якім ён валодае, найхутчэй мае для яго душы такое ж значэнне, як веданне ўсёй паднаготнай англійскай прэм'ер-лігі па футболе. Ва ўсякім разе, пра футбол Раман Анатольевіч Пейцуховіч гаварыў на рабоце з непадробным азартам.

### 3

Пятро схамянуўся ў фатэлі. Гэта залямантаваў тэлефон, што стаяў на часопісным століку.

— Ало, — ён паднёс трубку да вуха, — ну я гэта, хто ж яшчэ можа быць, мама.

Маці, Наталля Ціханаўна, прасіла прыехаць да іх дамоў:

— Слухай, бацька хоча цябе сёння пабачыць.

Пятро паморшчыўся.

— Дык мы ж з ім тры дні таму рассталіся, а ўчора я яму на мабільны званіў. Не ведаеш, што ён ад мяне на гэты раз хоча? — спытаўся сын і адчуў, што размова скіроўвае ў непатрэбнае нікому напружанае рэчышча.

— Ну як так можна пра бацьку казаць! — абурылася сынавай рэзкасці маці. — Ён на кафедры тваёй быў, там нейкія пытанні трэба вырашыць. Пеця, я цябе прашу, не сварыся там, не лезь у бутэльку…

«Пачалося!» — скрывіўся Пятро і на колькі секунд заціснуў далонню слухаўку, каб не чуць матчыных ушчуванняў.

— Дык ты прыедзеш? — пачуў ён, калі зноў прыклаў трубку да вуха.

— Ну, зразумела, прыеду, мам. Вось толькі памыюся, драману трошкі… Колькі ў нас зараз часу?.. — Пятро глянуў на насценны гадзіннік.

— Без пяці дванаццаць… — апярэдзіла яго Наталля Ціханаўна.

— А дзень — серада… — Сын пашкроб патыліцу. — Ну дык раней як у шэсць вечара бацька ўсё роўна не з'явіцца. Мам, ну пасля сямі буду. Лады?

Развітаўшыся з маці да вечара, Пятро прайшоў у ванны пакой, набраў вады, уключыў магнітафон і ляжаў так хвілін сорак. Расслабіцца, праўда, не ўдалося. Даймалі думкі пра сваю недалёкую будучыню. А іменна, якім чынам паведаміць Ксені пра сваё рашэнне з ёй разысціся. Яшчэ дзень таму, у Браславе, гэта ўяўлялася вельмі простай і не вартай увагі справаю. І нават сёння, ужо ў Мінску, Пятра гэта не надта трывожыла, бо розум быў апанаваны Нінай Сулеевай. Дарэчы, учора вечарам, калі яны прагульваліся пад хвоямі, ён упершыню паклаў ёй руку на талію, а затым, калі Ніна спынілася і пытальна зірнула яму ў вочы, залучыў у абдоймы і прыпаў да яе салодкіх вуснаў… О, што гэта было за імгненне! Потым, праўда, пачуўся сабачы брэх і на алею вывалілася шумная гурма адпачываючых. Аднак, як ні круці, першы пацалунак адбыўся, і было ясна, што працяг будзе. Ніна вяртаецца ў Мінск у наступныя выхадныя.

Дык вось, здавалася прасцей простага паставіць завяршальную кропку ва ўзаемаадносінах з Ксеняй, якія, можна сказаць, самі сябе зжылі. Але як гэта зрабіць, каб абысціся без усялякіх непрыемных сцэн, Пятро, як выявілася, толкам не ведаў. Не пасылаць жа, далібог, банальную эсэмэску. За тры тыдні, што Пятро знаходзіўся на азёрах, Ксені ён не званіў. Не тэлефанавала і яна яму на мабільны. Развітваючыся, яны пагадзіліся, што ім трэба пажыць паасобку, адпачыць адно ад аднаго, і ўсё ў такім духу. Паўтара месяца таму Ксеня зноў перабралася ад Пятра да сваёй цёткі, дзе атабарылася пасля інстытута (родам яна з правінцыі). Гэты пераезд сам па сабе мала што азначаў. За паўтара года іхняй сувязі такое адбывалася разоў пяць.

І ўсё ж тое, што апошні месяц яны сумесна не жылі, цяпер аказалася для Пятра вельмі зручным. Не, пасылаць эсэмэскай паведамленне тыпу «паміж намі ўсё скончана» ён, канешне ж, не будзе. Не будзе ставіць апошнюю кропку і ў тэлефоннай размове. Трэба сустрэцца і спакойна даць ёй зразумець, што адносіны іх у такім выродлівым выглядзе доўжыцца больш не могуць. Холадна, з годнасцю падзякаваць Ксені за, так бы мовіць, сужыцельства

і разысціся. Можна нават прапанаваць сяброўства, хоць гэта будзе звычайнай пошласцю. Пятро ў сяброўства з мужыкамі не верыў, а з дзяўчатамі — тым болей. Напрактыкаваўшыся ў філасофскім мысленні, ён добра ўсведамляў, што каханне і сяброўства па сутнасці рэчы палярныя. Што каханне — гэта барацьба і адзінства супрацьлегласцей, дзе любая адзінка жадае падпарадкаваць сабе партнёра. І чым больш супраціўляецца гэтаму другая адзінка — тым каханне мацнейшае. Калі ж авалодванне воляй другога адбылося, каханне памірае і яго месца займае або раўнадушнасць, або дружба паміж сужыцелямі. Раўнадушнасць найчасцей вядзе да разрыву. У дружбе жыве мноства так званых шчаслівых сем’яў.

Пятро ўжо выбраўся з ванны, ужо з’еў марожанае, якое дастаў з маразілкі, ужо лёг на канапу і шчоўкнуў пультам тэлевізара, — а разважаць пра фінал іхніх з Ксеняй узаемаадносін не перастаў. Ён мусіў сабе прызнацца, што адчувае нейкую боязь, нейкую няёмкасць, быццам у чымсьці перад ёй вінаваты. Непрыемна ўяўлялася магчымая сцэна расстання, калі ён з каменным тварам прамовіць жорсткія і бязлітасныя словы. Ведаючы характар палюбоўніцы, рэакцыя яе можа быць самая небяспечная. Колькі разоў, у парыве рэўнасці ці проста ў крыўдзе і шале, яна кідалася на яго з кулакамі, аднойчы падрапала твар. Колькі разоў шпурляла ў яго тым, што пад руку трапіць: талеркамі, тапкамі, кніжкамі, відэльцамі, а аднаго разу кухонным нажом. І ён выкручваў ёй рукі за спіну, даваў аплявухі… Пятро пакутліва зморшчыўся ад гэтых успамінаў. Не, каб не сапсаваць добры настрой пасля адпачынку, Мігуля вырашыў сёння з Ксеняй не сустракацца. Аднак тут жа стрэмкай засела ў душы тое, што пасля сёння несумненна настане і заўтра, і паслязаўтра, што цяжкая размова з Ксеняй Шпачык усё адно непазбежная. «А калі зусім не даваць пра сябе знаць?» — раптам варухнулася баязлівенькая думка. Так, проста збочыць з той мінулай дарогі і рухацца не азіраючыся. Балазе Мінск — горад вялікі… Вялікі, ды не зусім. Надта ўжо шмат у іх з Ксеняй агульных знаёмых ды прыяцеляў. Усё адно сутыкнешся з ёй у кампаніях. Не рваць жа з-за гэтага адносіны з усімі блізкімі людзьмі. Дый Ксеня сама, Пятро быў упэўнены, патэлефануе яму, калі ён у бліжэйшыя тры дні не аб’явіцца… Карацей, нервовай размовы тут не мінеш, як ні круці. Зрэшты, любіш катацца — любі і санкі вазіць. Пятро цяжка ўздыхнуў, выключыў тэлевізар і адвярнуўся тварам да сцяны.

Сон не ішоў. Замест яго навалілася нейкае ліпкае ачмурэнне, дзе змяшалася ў адно ўсё, што так ці інакш турбавала апошнім часам Пятра Мігулю. Мільгалі твары бацькоў, трызніўся пляск хваляў, гайдаліся лодкі і катамараны, усміхалася прыгажуня Ніна Сулеева, пясчаная сцяжынка вілася між соснаў, сцяжынку змянялі асфальтаваная дарога і тарахценне матора аўтобуса; з’явіўся хуліган Мішка Падброўкін, які чамусьці пастарэў так, што меў сівую доўгую бараду; раптам над Пятром нахіліўся Амар Рашыдавіч, стаў катурхаць, а затым груба затрос за плечы і загаварыў па-казахску, ці што; «Падлюга! Я ненавіджу цябе!» — закрычаў Амар Рашыдавіч тонкім жаночым голасам: то быў голас Ксені Шпачык; спалатнелая, вастраносая, яна выскаліла доўгія зубы, намерваючыся ўпіцца ў Мігулеву шыю… Пятро ўскрыкнуў, падхапіўся і сеў. Парыў ветру з балкона ўздымаў цяжкую штору. На імгненне здалося, што за ёй стаіць жывы чалавек…

«Не, гэта ўжо зусім невыносна!» — прастагнаў Пятро. Ён зачыніў балкон, прайшоў на кухню, спаласнуў твар халоднай вадой і, узяўшы новы пачак цыгарэт, выйшаў з кватэры. «Я разбяруся з ёй, толькі не сёння, не сёння!» — мармытаў ён, калі спускаўся па лесвіцы.

## 4

Наталля Ціханаўна Мігуля была жанчына пяцідзесяці сямі гадоў, пенсіянерка, а да гэтага яна працавала эканамістам на адным буйным прадпрыемстве. Рашэнне выйсці на пенсію па ўзросце прыйшло не таму, што нібыта яна сама хацела, а з прычыны трагічных абставін. Яе пяцідзесяціпяцігоддзе супала з хваробай малодшага брата Валодзі. Брату, які на той момант даўно быў у разводзе і разладзе з жонкай і двума дзецьмі, паставілі страшны дыягназ, і ўсе турботы і клопаты па доглядзе за цяжкахворым леглі на плечы Наталлі Ціханаўны. Брат зачах за які год, паступова ператвараючыся са здаровага веселуна ў абцягнуты скурай шкілет. У такім выглядзе і адышоў Валодзя туды, адкуль не вяртаюцца, праклінаючы жыццё, якое напрыканцы прынесла яму такія пакуты. Усё гэтае пераўтварэнне даўжынёю ў год, ператварэнне з румянага жыццялюба ў труп, прайшло на вачах гаротнай сястры.

Аднак ашаламляў яе нават не выгляд пакутнага брата, а тое, як кардынальна мяняецца характар чалавека падчас цяжкай хваробы. Куды толькі дзяваюцца чуласць, спагада, далікатнасць і здольнасць разумна ацэньваць сітуацыю. Іх няўмольна замяняюць раздражняльнасць, нецярпімасць да акаляючых, крыўдлівасць — усё тое, што добра вядомае ў медыцыне як эгаізм хворага. Чым невыноснейшымі робяцца пакуты асуджанага на смерць чалавека, тым больш ён пачынае цікавіцца самім сабой, тым менш здольны стаць на месца ўрачоў і тых, хто яго даглядае. Увесь свет для яго — гэта нясцерпны боль і не менш нясцерпныя думкі. Пра гэта распавёў Наталлі Ціханаўне святар, да якога яна звярнулася ў часіну роспачы. Айцец Аляксей на многае ёй адкрыў вочы ў тыя жахлівыя месяцы, а вера, да якой прыхінулася колішняя атэістка, прынесла такое жаданае суцяшэнне.

З таго часу яна і наведвае прыход айца Аляксея, і не жадае вяртацца на працу, як прапаноўвае муж. Наталля Ціханаўна загружана царкоўнымі дабрачыннымі клопатамі, адведвае цяжкахворых і адзінокіх людзей, дапамагае ім па гаспадарцы. Сямён Паўлавіч на гэта бурчыць, а таму згоды ў іхняй сям'і няма. Няма поўнага спакою і ў душы Наталлі Ціханаўны, таму што, прыняўшы праваслаўе, яна не стала бясплотным духам і акружана ўсё тымі ж матэрыяльнымі абставінамі, што і раней. Як і раней, падазрае яна, што муж, які не быў ёй верны ўсё жыццё, і цяпер падманвае пры любым зручным выпадку. Доказаў, праўда, няма ў Наталлі Ціханаўны, але яна добра ведае мужаў характар і тэмперамент, не забылася на яго маладыя подзвігі-здрады. Да таго ж выдатна ўсведамляе Ціханаўна і тое, што ёй ужо не да жаноцкай прывабнасці, асабліва пасля перажытага гора з братам, якое адабрала нямала здароўя, дадало маршчын і сівых валасоў. А муж усё жыццё нічога блізка да сэрца не браў, любіў выпіць, пад'есці, цаніў жаночыя вабноты, не ведаў згрызотаў сумлення, а таму зараз як агурок. Румяны, гладкі твар, нічым не прыхворвае, праз дзень у басейн ездзіць.

Другая турбота, вядома ж, сын, які такім доўгачаканым чалавечкам «зазбіраўся» на свет, калі Наталля Ціханаўна дасягнула трыццацігадовага ўзросту і яны з мужам амаль страцілі надзею, што ў іх будзе дзіця. Канешне, рэдка калі бацькі задаволены сваімі нашчадкамі. Іх, бацькоў, можна параўнаць з мастакамі, што даводзяць і даводзяць да ладу сваё палатно і ніяк не могуць спыніцца. Зрэшты, як бываюць бяздарныя мастакі, што радыя любой сваёй нікому не патрэбнай мазні, гэтак бываюць і кепскія бацькі, якія досыць раўнадушныя да лёсу сваіх дзяцей. Але такіх бацькоў, у адрозненне ад такіх мастакоў, вельмі мала і Наталля Ціханаўна не была ў іх ліку. Пятрусь турбаваў яе ў свае дваццаць чатыры гады не менш, а можа, і больш, чым у чатыры.

Бо цяпер не схопіш яго за руку, як у маленстве, не накіруеш вокрыкам туды, куды трэба, а даводзіцца адно ўгаворваць ды баяцца, каб не пакрыўдзіўся, не аддаліўся ад яе яшчэ больш.

Цяжка перажывала маці, калі Пятрусь пяць гадоў таму пажадаў жыць асобна ад іх, у кватэры яе памерлага бацькі. Баялася — і небеспадстаўна — што з’едзе ён з рэек, зблытаецца абы з кім. І нават узрадавалася Наталля Ціханаўна, што бавіліся ў сынавай кватэры, як выявілася праз суседзяў, пераважна прадстаўніцы жаночага полу. Шумных пагулянак і алкаголю амаль зусім не было. Праўда, яе засмучала, што дужа часта мяняліся сынавы сяброўкі, што ён не знаёміў яе з імі і, відавочна, сур’ёзных планаў на іх не меў. Пры сучаснай разбэшчанасці ў грамадстве і заразе, што гуляе паўсюль, гэта выглядала як бы і небяспечна. Але тут заставалася адно спадзявацца, што «пранясе». І небяспека, па вялікім рахунку, была не большая, чым захварэць на нешта жудаснае без дапамогі блудлівых дзевак, чым патрапіць у аўтааварыю ці атрымаць цагліну з даху на галаву. Дарэчы, пры слове «аўтааварыя» маці заўсёды скаланалася, бо Пятрова машына, падораны бацькам старэнькі «фольксваген», ужо трэці месяц стаяла на прыколе пасля таго, як сын уехаў на скрыжаванні ў бок тралейбуса. Траўмаў ніякіх любімы нашчадак не атрымаў, але аўтамабілю патрабаваўся сур’ёзны рамонт, на які Сямён Паўлавіч грошай сыну не выдзеліў. У дадзеным выпадку бацька паддаўся на ўмольныя просьбы Наталлі Ціханаўны, дый сам быў не супраць адлучыць сына ад аўтамабіля на колькі месяцаў. Ён, звычайна паблажлівы да Пятра, аб’явіў свой прысуд сурова і безапеляцыйна. «Зрэшты, калі хочаш ездзіць, сам рамантуй», — сказаў ён сыну. А на яго недаўменнае пытанне пра грошы хітравата прыжмурыўся і прапанаваў нашчадку зарабіць самому. Зарабляць грошы самастойна дваццацічатырохгадовы аболтус не ўмеў, а таму пайшоў ад бацькі ні з чым.

## 5

Наталля Ціханаўна чакала прыходу, а дакладней, прыезду мужа з работы. Дый сын павінен быў падысці праз якія паўгадзіны. Яна паставіла ў духоўку нафаршыраваную яблыкамі ды блінамі курыцу і пачала рабіць па новым рэцэпце салату з кальмараў.

Сямён Паўлавіч сапраўды ехаў дадому. Ён праглядаў свежую газету, разваліўшыся на заднім сядзенні службовай «Волгі». Зрэдку пазіраў наперад, паўз ладны карак негаваркога вадзіцеля Сашкі, нечаму ўсміхаўся, задумваўся, зноўку ўнурваўся ў газеціну.

Сямён Паўлавіч быў мужчына, як ужо казалася, дужы, здаровы і выглядаў значна маладзей за свае пяцьдзесят восем гадоў. Даволі высокую пасаду займаў пяты год. А дагэтуль меў самыя разнастайныя чыноўныя пасады — ад райкама камсамола, райвыканкама, дзе пачаў сваю кар’еру, да аднаго міністэрства. Родам Сямён Паўлавіч Мігуля быў з невялікай лясной вёскі з-пад аднаго раённага гарадка. Там і дагэтуль жывуць у добрым здароўі яго бацькі. Дарэчы, ён вельмі ганарыцца сваім сялянскім паходжаннем і не праміне ўзгадаць гэта пры любой зручнай і нязручнай нагодзе. Нават прымаўку займеў: «ад сахі» — у тым сэнсе, што ў трывалай повязі з роднай зямлёй усе яго поспехі. Зрэшты, з вёскай і звязаным з ёй ладам жыцця Сямён Мігуля разлучыўся гадоў трыццаць таму, прытым з непрыхаванай радасцю і спадзевам на паспяховую самарэалізацыю ў сучасным горадзе. Што і спраўдзілася. У бацькоў ён бывае не тое каб рэдка, але, мяркуйце самі, навошта туды ездзіць цяпер, калі ён даволі-такі добра ўсім забяспечаны? Раней, асабліва ў галодныя часіны гарбачоўскай перабудовы, няблага падмагла яму бацькоўская сядзіба мясам і салам. Ну

і ён у сваю чаргу наладзіў ім праз старшыню калгаса бясплатныя кармы для свіней і каровы, дый шмат чым іншым садзейнічаў праз высокія сувязі. Але пра гэта зараз шырока не будзем. Варта толькі сказаць, што да фізічнай працы Сямён Паўлавіч ахвоты даўно не меў і ўласнымі рукамі бацькам не дапамагаў ужо гадоў дваццаць пяць, не меней. Тым больш што ў вёсцы засталіся дзве родныя сястры, з мужамі і шматлікімі дзецьмі. Словам, ёсць каму паспрыяць. На радзіму ж цяпер Сямён Паўлавіч наведваецца як дарагі і шаноўны госць, якога ўсе тут ведаюць — пасада ж у самой сталіцы!..

— Стань тут, Сашок, — загадаў вадзіцелю Сямён Паўлавіч. — Я на хвілінку заскочу. — І паказаў, калі яны спыніліся, у бок супермаркета.

— Мне з вамі ісці? — абярнуўся Сашка да гаспадара.

— Не-не, сядзі, — махнуў рукой Мігуля, спрытна вылузваючыся з «Волгі». — Я мігам.

Ён рушыў да ўвахода, пранік унутр, прайшоў пару касавых радоў і дастаў з кішэні мабільнік.

— Алена, — шапнуў ён у трубку праз колькі секунд. — Я сёння не прыеду. А? Ну, сын завітае, размова ёсць. А? Ну, заўтра ўдзень найхутчэй. Ну, ладна, заўтра раскажаш мне пра ўсе свае клопаты. Няма калі, далібог…

Сямён Паўлавіч насцярожана азірнуўся і сунуў мабільны ў кішэню пінжака. Каб занадта не інтрыгаваць чытача, скажам адразу, што Алена, якой ён званіў, была яго, можна сказаць, другая сям'я. Неафіцыйная, зразумела. Там расла трохгадовая дачка, якая часам называла Мігулю татам. Гэта, дарэчы, вельмі расчульвала і адначасова бянтэжыла Сямёна Паўлавіча. Алене ж, сакратарцы ў адной прыватнай кампаніі, ішоў усяго дваццаць восьмы год. Далей пакуль што не развіваем.

Праз колькі хвілін Сямён Паўлавіч паважна выходзіў з «Волгі» ў двары свайго дома, які мясціўся ў досыць рэспектабельным раёне цэнтра горада, непадалёк ад праспекта Незалежнасці (тады яшчэ Скарыны). Кватэра ў Мігулі знаходзілася на зручным чацвёртым паверсе дзевяціпавярховага дома, чатырохпакаёвая, жылой плошчай каля шасцідзесяці квадратных метраў, з кладоўкай і вялікай кухняю. Гэта пры тым, што ўжо пяць гадоў пражывалі там толькі яны з жонкай. Праўда, адзін пакой быў зарэзерваваны за Пятром, які час ад часу там начаваў, ці прыходзіў пасярод белага дня адаспацца, папярэдне злазіўшы ў запоўнены халадзільнік.

А пакуль Сямён Паўлавіч Мігуля крочыць, адпусціўшы вадзіцеля, да свайго пад'езда, пакуль падымаецца па лесвіцы да ліфта, заходзіць у яго, націскае кнопку і едзе, трэба сказаць пра яго яшчэ пару слоў. А то можа ўзнікнуць выключна адмоўнае ўражанне ад гэтага, у прынцыпе, прыстойнага і дастойнага чалавека. Што ў яго ёсць маладая палюбоўніца — гэта грэх, але грэх, па сучасных мерках, не надта вялікі. Што ёсць пазашлюбная дачка — нядобра, але многія заможныя і ўплывовыя людзі здольныя выгадаваць нашчадка і ў семдзесят год. Што Сямён Паўлавіч эгаіст — дык многія з нас у той ці іншай ступені такія, проста або добра гэта скрываем, або жыццё не дае нам свой эгаізм праявіць. Усё, што думае пра яго жонка, вечна ахопленая падазрэннямі і затоенай рэўнасцю, — насамрэч далёка не так. І зусім ён не абыякавы да яе з сынам, і за памерлага Валодзю, яе брата, перажываў, і дапамагаў, чым мог, з бальніцамі, дактарамі, лякарствамі.

А зараз, напрыклад, Сямён Паўлавіч надзвычай заклапочаны сынавым лёсам. Не зманіла Наталля Ціханаўна Пятру — бацька сапраўды хацеў з ім сёння пагаварыць. Ды толькі не пра кафедру, не пра дысертацыю — бог з ёй, напішацца, — а паставіць пытанне рубам пра сватаўство і жаніцьбу на Ніне Сулеевай. Гэта ж ён сам і звёў з ёй Пятра, прапанаваўшы паехаць

на Браслаўскія азёры пагасцяваць да свайго прыяцеля Амара Рашыдавіча. У таго там дом свой, абслуга, ну і ўсё адпаведнае. З Амарам яны амаль што змовіліся, сышліся на тым, што калі маладыя спадабаюцца адно аднаму, то можна біць па руках. Сямёну Паўлавічу было ўсцешна, што яго шалапутны сын увойдзе ў сям'ю грашавітых людзей. Ведаў ён таксама, што і Амарава самалюбства будзе спатолена тым, што дачка звяжа свой лёс з сынам высокапастаўленага чыноўніка. Словам, шлюб вырысоўваўся на ўсе сто. Аднак чым бліжэй насоўваліся лёсавызначальныя дні, тым больш трывожыўся Сямён Паўлавіч. Бо надта вялікую стаўку ён зрабіў на гэтую справу. А сын, магло так стацца, успрыме ўзаемаадносіны з Нінаю як чарговы флірт, ці — не прывядзі божа — проста пакарыстаецца ёю. Трэба адразу расставіць кропкі над «і», бо ў адваротным выпадку можа здарыцца шмат чаго непрыемнага. Не па тых правілах жыве клан Сулеевых, каб дапускаць падобныя вольнасці. Тут не толькі сяброўства страціш, а яшчэ ворага сабе нажывеш.

Падлівала масла ў агонь і веданне сынавага ладу жыцця, а таксама тэмпераменту, успадкаванага не ад каго іншага, як ад самога Сямёна Паўлавіча. Памятаў старэйшы Мігуля, што сам у свае дваццаць пяць быў гатовы прадаць душу д'яблу, каб авалодаць жанчынай, да якой адчуў пожад. Нішто тады стрымаць не магло. Гэтыя сынавы путаны, што жывуць ці проста начуюць у таго ў кватэры, — справа адна. Тут нават Амар, калі даведаецца, зразумее. Але каб Пецька на ліха не падумаў, што і з Нінай так можна. «Ну не ідыёт жа ён канчаны, у рэшце рэшт!» — злаваўся Сямён Паўлавіч, абмазгоўваючы размову, якая павінна сёння адбыцца. Хоць сын не ідыёт, а папярэдзіць яго неабходна па ўсёй строгасці. Гэта раз. Па-другое, у вясёлкавых фарбах абмаляваць яму перспектывы, што адкрыюцца пасля жаніцьбы на Ніне. Пераканаць. Заклікаць да розуму. Убіць у галаву, што жыццё чалавечае мае каштоўнасць толькі ў сям'і, толькі тады, калі ты ўсе сілы кладзеш на працяг свайго роду. Сам Сямён Паўлавіч, дарэчы, гэта апошнім часам асабліва адчуў. Яго пазашлюбная дачка Танечка прыемна ўзнавіла ў ім даўнія пачуцці, якія ён перажываў у часы нараджэння і першых гадоў Пятровага жыцця. Свет, які быў звузіўся для яго, які пагражаў ператварыцца ў тунэль з выхадам у магілу, неспадзявана пашырыўся, пасвятлеў, заззяў святочнымі барвамі. Нібы гадоў пятнаццаць Сямён Паўлавіч з сябе скінуў. З'явілася нейкая неўтаймоўная энергія, аптымізм, узрасла цікавасць да акаляючага. Усё раптам стала неабыякавым — ад сусветнай палітыкі да галубоў, што таўкліся перад пад'ездам. Гэтая неабыякавасць і прымусіла задумацца пра Пятроў лёс, азарыла геніяльнай задумай ажаніць яго, ды не абы з кім, а з дачкой самога Сулеева. Так загарэўся гэтай ідэяй бацька, што нават бяссонне прыдбаў.

## 6

Сямён Паўлавіч націснуў кнопку званка. Наталля Ціханаўна яму адчыніла.

— Ну Пецькі, бачу, няма, — сказаў муж, зірнуўшы на паліцу для абутку. — Даўно ты з ім гаварыла?

— Ды тады яшчэ, у абед. — Жонка ўзяла ў мужа пінжак, акуратна пачапіла на плечукі вешалкі. — Прыйдзе ён, не турбуйся.

— Прыйсці то прыйдзе, маці, — хмыкнуў Сямён Паўлавіч, прычэсваючыся перад люстэркам. — Не гэта мяне хвалюе.

— А што? — Наталля Ціханаўна стаяла, трымаючы мужаў пінжак, збіраючыся павесіць яго на балконе.

— Ну давай пройдзем у залу, ды, пакуль сына няма, я табе дам наконт яго інструктаж.

Муж сунуў ногі ў тапкі, паклыпаў у залу і паваліўся там у фатэль. Жонка, з пінжаком у руках, кіравала за ім. Сямён Паўлавіч з паўхвіліны памаўчаў, аддыхваючыся ад гарачыні працоўнага дня. Затым скоса зірнуў на Наталлю Ціханаўну, якая павесіла пінжак праветрывацца і села на канапу. Скразнячок кудлаціў яе пасівелыя валасы. У простым хатнім халаце яна выглядала значна старэй за мужа, у якога ніводнага сівога воласа не было. Поўны румяны твар, на лбе няма рэзкіх зморшчын…

— Вось што, маці, хачу я табе сказаць, — пачаў Сямён Паўлавіч адказным голасам, які выпрацаваўся ў яго за доўгія гады чыноўнай службы. — Я звёў у Браславе Пятра з дачкой Амара і, не буду скрываць, вельмі спадзяюся, што ўсё вырашыцца як мае быць.

Муж зрабіў паўзу. Жонка пытальна на яго пазірала.

— Ну, ты разумееш, што яму нарэшце жаніцца пара?! — сказаў ён, нечакана раздражняючыся.

— Дык я гэта ўжо два гады гавару. У яго ўзросце, ды з яго характарам…

— Ды кінь ты гэты характар! — махнуў рукой Сямён Паўлавіч. — Во дзе ён мне, яго характар, вышэй даху! Ты мне скажы, падабаецца табе Амар у якасці родзіча ці не?

— Пачакай, бацька. — Наталля Ціханаўна сціснула пальцамі скроні, быццам збіраючы свае думкі ў кропку. — Пачакай, не спяшайся. Ты ж не на Амару Рашыдавічу яго жэніш — на Ніне. А вось яна мне падабаецца. І калі Пеця…

— Ат, Наташа, не ўдавай з сябе дурніцу! Ты цудоўна ведаеш, што сыну нашаму падабаюцца ўсе доўгія ногі і прыгожанькія тварыкі. Не пра тое гаворка. — З гэтымі словамі бацька ўстаў і пачаў нервова хадзіць па пакоі. — Ты мне лепш падкажы, як давесці нашаму ахламону, што жаніцьба яму неабходная як паветра. І менавіта на Ніне Сулеевай. А? — Ён спыніўся перад жонкай.

Яна ўжо збіралася нешта адказаць мужу, але той схамянуўся, ледзь не падскочыў на месцы і прыклаў палец на вуснаў:

— Тсс! — зашыпеў ён з перакошаным дзіўнай напругаю тварам. — Позна ўжо. Пятро ключом у дзвярах калупае, чуеш?!

Наталля Ціханаўна, што напачатку знячэвілася ад мужавага вокрыку, зараз адчула палёгку — бо нічога трагічнага не адбылося, проста прыйшоў сын.

Аднак Сямён Паўлавіч так не лічыў, а таму памкнуўся ў вітальню і з парога ўчыніў сыну разборку.

— Я колькі разоў цябе, як чалавека, прасіў, — гаварыў ён узвышаным тонам, — не залазіць у кватэру як злодзей! Хочаш адчыняць ключом — тваё права. Але спярша пазвані, каб мяне ў стрэс не ўганяць.

Сын, скідаючы абутак, моўчкі пазіраў на сярдзітага бацьку і ўсміхаўся.

— Ён маўчыць! — развёў рукамі Сямён Паўлавіч, апелюючы да Наталлі Ціханаўны, што падышла ўслед за ім. — І яму яшчэ смешна!

— Ды не гарачыся ты так, бацька. — Пятро паблажліва паклаў яму руку па пляча. — Нервы трэба лячыць. Я ж не вінаваты, што ты такі нервовы ў нас. — І пасунуўся ў ванную; не зачыніўшы дзверы, стаў мыць рукі і апаласкваць твар.

Бацька з маці стаялі і чакалі, пакуль ён закончыць. Але Пятро з паказной асалодай фыркаў і плёхаўся хвілін пяць. Нарэшце выцерся і няспешна прайшоў у залу.

— Есці тут будзем? — спытаўся ён, сядаючы на канапу. — А то я не абедаў сёння. Што ты нагатавала, мам?

— Галодны не будзеш, — супакоіла яго Наталля Ціханаўна і пайшла на кухню.

Бацька, адчуваючы трывогу ў душы, сеў насупраць Пятра. Ён доўга хмыкаў, адперхваўся, перш чым пачаць.

— Ведаеш, сын, — сказаў ён нечакана для сябе панібрацкім тонам, — давай пагаворым, як мужчына з мужчынам. Скажы мне, што ты думаеш наконт сябе і Ніны… І толькі прашу цябе: прыбяры з твару гэтую глумлівую ўсмешку і адказвай сур’ёзна.

— Ну, калі сур’ёзна, то нічога асаблівага не адбылося. — Пятро закінуў нагу за нагу, а пальцы рук сашчапіў за патыліцай. — А што ты чакаў?

— Слухай, я не буду зараз корпацца ў тваіх пачуццях, але я не сляпы, і мне хапіла двух выхадных, каб зразумець, што ты нездарма каля яе завіхаешся.

— А перад кім мне завіхацца, калі яна там адна з маладых ды прыгожых? Было, праўда, пару сябровак. Ды яны не на мой густ — таўстаногія.

— Яшчэ раз прашу не крыўляцца… — Тут Сямён Паўлавіч міжволі панізіў голас, бо ўвайшла жонка з падносам. — А зрэшты, ад маці тайнаў няма. Так што і ты, Наташа, слухай, што адказвае наш сын. Слухай і на вус намотвай.

— А ў жанчын няма вусоў! — хіхікнуў Пятро.

— Сынок, не злуй бацьку, не скамарошнічай, — папрасіла яго Наталля Ціханаўна і выйшла з залы з пустым падносам.

— Я разумею, Пеця, што пасля адпачынку ў цябе выдатны настрой. Ведаю таксама тваю дасціпнасць, — пачаў пакрыўджаны сынавай заўвагай Сямён Паўлавіч. — Але ж калі ты бярэшся выпраўляць бацькавы памылкі, то дазволь і мне табе сказаць па шчырасці. І тады ўжо ты не крыўдуй…

— Ды ладна табе, тата… — пайшоў нібыта на міравую сын.

— Не ладна, а падрыхтуйся слухаць і адказваць! — Бацька пасунуўся ў крэсле наперад. Іх раздзяляў абедзенны стол.

— Мама! Хутка там ці не? Я есці хачу — паміраю.

— Не памрэш! — прыкрыкнуў Сямён Паўлавіч; ён, аднак, адчуваў, што размова яўна не клеіцца, што ён гаворыць зусім не так і не тое. — Дык вось, адказвай мне адразу і не марудзячы! Гатовы ты стаць мужам Ніны Сулеевай ці не? Ну! — зыкнуў бацька. — У вочы, у вочы мне глядзець!

— Не крычы ты так, суседзяў спалохаеш! — Маці ўвайшла з блюдам, на якім ляжала доўгачаканая курыца.

— Мам, ён думаў мяне збянтэжыць такім пытаннем! — ускрыкнуў Пятро і пацягнуўся рукамі да тлустай курыцы. — Ножку, верх ножкі мне! — Ён схапіў сцягно курынай нагі і прагна ўпіўся зубамі.

Наталіўшы голад, Пятро хмыкнуў, абцёр рукі сурвэткай і наліў ліманаду.

Бацька яшчэ не дакранаўся да ежы і нецярпліва, сярдзіта глядзеў на сына. Маці, чарговы раз схадзіўшы на кухню, толькі што прысела за стол.

— Дык вось, бацькі мае дарагія, — Пятро гучна сербануў з фужэра газіраваны напітак, — я не такі дурань, як, мабыць, вы пра мяне думаеце. А таму ніколі б не завёў шуры-муры з дачкой Сулеева, каб не бачыў пэўную перспектыву.

Пры гэтых словах Сямён Паўлавіч крыху расслабіўся. Але многае яшчэ ў сынавым голасе яго насцярожвала.

— Я цудоўна зразумеў, навошта мяне туды запрасілі. Зразумеў адразу, як прыехаў, — працягваў сын.

«Мая кроў!» — адзначыў пра сябе бацька. І тут жа засаромеўся гэтай думкі.

— А зразумеўшы, што да чаго, — гаварыў Пятро, беручыся за новы кавалак курыцы, — я добра і старанна выканаў сваю ролю. Ні гаспадар, ні яго дачка, мяркую, на мяне не пакрыўдзіліся.

— Пеця, не крыўляйся, прашу… — нясмела пачала маці.

— Стоп, Наташа, не перабівай! — абарваў яе Сямён Паўлавіч. — Я хачу не прапусціць ніводнай ягонай рэплікі.

— Правільна, бацька! — ухваліў яго Пятро. — Слухай уважліва. Слухай і наталяйся! Я прыняў правілы гульні не з дзяжурнай ветлівасці, а проста

таму, што Ніна мне спадабалася. Не скрыю, спадабалася яна чыста знешне, вузкая талія, шырокія клубы, мілавідны тварык і ўсё такое…

— Хм, аднак жа! — Тут Сямён Паўлавіч ужо не мог прамаўчаць. — Глядзі, маці, якi, аказваецца, густ у нашага сына. Не ведаў, не ведаў, што дзяўчат цяпер ацэньваюць па шырыні клубоў, вузкасці таліі ды… трэба ўжо было дадаць — акругласці ягадзіц.

— Бацька… — паморшчылася Наталля Ціханаўна. — Ну давайце будзем сур'ёзнейшымі.

— А гэта вельмі сур'ёзна, мам! — запярэчыў Пятро. — Пакладзі мне вунь той салаты. Ага. Дзякуй. Дык вось, былі б мы дурнямі ці крывадушнікамі, каб выбіралі сабе жонак ці палюбоўніц не па цялесных вартасцях. Гэта закон прыроды, які не аб'едзеш. Чаму мне падабаюцца жанчыны з акрэсленымі клубамі і таліяй? Таму, што шырокія клубы дазваляюць лепей вынасіць і нарадзіць маё будучае дзіця. А вузкая талія, па-першае, падкрэслівае шырыню клубоў, то бок, ідэнтыфікуе жаноцкасць, а па-другое, мае патэнцыял пашырацца пры цяжарнасці.

— О Божа, ён зноў з нас здзекуецца, — уздыхнуў Сямён Паўлавіч і без апетыту надкусіў курынае крылца. — А я ўжо думаў, што будзе грунтоўная гутарка.

— Бацька, бацька! Чакай. Ты ніколі не хочаш выслухаць мяне да канца. Павер, і ў думках здзекавацца з вас у мяне не было. Я гавару цалкам сур'ёзна і шчыра. Я гавару вам, як думаю. А вы ацаніце, можа такі чалавек прэтэндаваць на дачку спадара Сулеева, ці не. Вам рашаць, адным словам.

Пятро наліў яшчэ ліманаду і падкурчыў адну нагу пад сябе.

— Такім чынам, я пачаў тлумачыць сэнс жаночай прывабнасці пры выбары нявест ці проста сужыцелек. Далей ідуць грудзі — гэта вельмі важны і незаменны ў сямейным жыцці атрыбут. Жаночыя грудзі кормяць нашчадкаў. Чым яны большыя, крамянейшыя — тым большая верагоднасць, што мае дзеці не застануцца без малака і будуць здаровыя. Так? Зрэшты, празмерна вялікія, віслыя грудзі — гэта ўжо перабор. Не эстэтычна і ў жыцці замінае. Словам, жаночыя грудзі павінны быць вялікімі, поўнымі, але не празмерна. У Ніны Сулеевай тут усё як мае быць. Ні дадаць, ні адняць, як кажуць.

— І ўсё ж не трэба так вульгарна, сынок… — Маці са шкадобай глядзела на сына.

— А хай выдурваецца далей. — Бацька махнуў рукой. — Я набяруся цярпення і выслухаю яго да канца. А ўжо потым скажу колькі ласкавых слоў. Хай тады не крыўдуе.

— Згода! — усклікнуў Пятро. — Працягваю: у нявесты павінны быць маленькія ступні і кісці рук, бо гэта таксама атрыбуты жаноцкасці. Вялікія ступні выяўляюць або нешляхетнае паходжанне, або наяўнасць мужчынскіх генаў, што недапушчальна. У Ніны Сулеевай і тут поўны парадак. — Пятро хітравата прыжмурыўся. — Далей ідзе самы важны аспект — твар. Ён не павінен быць прышчавым, пухлашчокім, насатым, таўстагубым. Твар павінен быць досыць худым, прапарцыянальным, багатым разнастайнай мімікай, а значыць, сімпатычным, прывабным. Важны момант: худым павінен быць твар, а не цела. Цела жанчыны мусіць быць паўнаватым, каб утвараць мяккасць і грацыю. Але паўнаватым — не тоўстым!

— Вось што робіць з людзьмі сучасная філасофія, — уздыхнуў бацька, выціраючы сурвэткай вусны. — Але працягвай, працягвай…

— Усе прыкметы жаноцкасці, якія я назваў, узяты не «ад балды», не па маёй прыхамаці, а выпрабаваны прыродай цягам тысячагоддзяў. І калі мы выбіраем прыгожую жонку, то ведаем, што і нашчадкі нашы будуць здаровы-

мі, прыгожымі, а значыць, сексуальна прывабнымі. Адсюль вынікае, што і ў іх не будзе праблем пры выбары палавога партнёра і што наш бясцэнны род не спыніцца ў таўшчыні будучых вякоў, а, наадварот, узбуйнее і расквітнее…

— А ты не дапускаеш, чалавеча, — з іроніяй перарваў бацька сына, — што, акрамя ўсіх гэтых тваіх попак, грудзей і тварыкаў, ёсць яшчэ нешта вельмі істотнае, нейкі, так бы мовіць, крытэрый, па якім ствараюцца шлюбы. А? Можа, ёсць яшчэ блізкасць інтарэсаў, псіхалагічная сумяшчальнасць ды іншае… А галоўнае, каханне, на якое цяпер усе чамусьці забыліся.

— Не, тата, — пярэчыў Пятро, — усё я дапускаю і ні на што не забыўся. А толькі перакананы, што ў каханні цялесныя вартасці з'яўляюцца найважнейшымі. Ну ды не будзем пра гэта. Лепш пачнём расстаўляць кропкі над «і». Ці кахаю я Ніну? У маім разуменні — кахаю. У вашым — яна для мяне жаданая як жанчына. Ці гатовы я стаць яе мужам? Ахвотна — каб яна не была дачкою такога крутога дзядзькі. Бо, згаджаючыся легчы з ёю ў сямейны ложак, я фактычна згаджаюся падкласці туды і яе татачку, які будзе атручваць наш інтым, пастаянна ўмешвацца, падглядваць і ціснуць на маю псіхіку. Гэта ўжо пэўна.

— Аднак… — прабурчаў бацька.

— Сыночак, пабаяўся б ты Бога. Такую брыдоту вярзеш…

— Ды ладна табе, мама. Бог тут зусім не пры чым. Хай да яго звяртаюцца хворыя і ўбогія. Я ж, як здаровы матэрыяліст, што прывык адказваць за свае ўчынкі, а не цягнуць рукі да неба і бесперастанна хрысціцца, скажу: жаніцца на Ніне Сулеевай я хачу, але на прапанову рукі і сэрца пакуль не гатовы. І замінае мне ў гэтым багацце і ўладарнасць спадара Амара Сулеева. Спадзяюся, мая пазіцыя вам зразумелая.

— Хм… — крыху падумаўшы, пачаў Сямён Паўлавіч, — і гэтыя баязліва-расплывістыя разважанні ты называеш пазіцыяй? Не, шаноўны, я хачу не тваёй мудрагелістай балбатні, а пэўнага, акрэсленага, дакладнага адказу на маё прамое пытанне: будзеш ты браць у жонкі Ніну ці не? Папярэджваю, што ў дадзеным выпадку марудзіць і дурыць галаву дзяўчыне не толькі непрыстойна, а і небяспечна. З Сулеевымі такія штукі не пройдуць. Я не збіраюся ахвяраваць сваёй рэпутацыяй, таму не стану чакаць, пакуль ты пазабаўляешся з Нінай і дасі лататы. Папярэджваю!

— Ну, якія мы сёння грозныя ды сур'ёзныя! — Пятро ўзяў у рот скрылёк сухой каўбасы і, жуючы, працягваў: — Спадзяюся, мы зараз не падпісваем кантракт на дваццаць мільёнаў долараў? У сардэчных справах спешка недапушчальная. Вось ты пытаеш: ці гатовы я ўзяць Ніну? А трэба было б казаць: ці гатовы я аддацца Сулеевым? Розніцу адчуваеш?

— Пеця, ты мяне прабач, але ты наўмысна хочаш папсаваць бацьку нервы. Нядобра гэта, не па-сыноўску… — Наталля Ціханаўна дакорліва пахітала сівой галавой.

— Яму на мае нервы пляваць, — сцепануў бацька плячыма. — Але ж справа не ў маіх нервах. *Яму* я дабра жадаю, майму крэўнаму нашчадку, які б ён дурны ні быў. А таму, Пятро, давай пастаўся да жаніцьбы сур'ёзна. Абдумай, абмазгуй, я цябе не ганю… Не ганю, але і марочыць дзяўчыне галаву не дазволю. Тут ужо наша з Амарам шматгадовая дружба на карце. Дый мая рэпутацыя сумленнага чалавека… Адным словам, напрамілы бог, не напаскудзь з Нінай. Калі адчуваеш, што не зможаш увайсці ў іх сям'ю, лепш спусці ўсё на тармазах. Не абрывай узаемаадносін, але перавядзі іх у спакойнае, сяброўскае рэчышча. Ну ды не цябе ж тут вучыць, ты сам каго заўгодна навучыш.

— Добра бацька. — Пятро яшчэ раз выцер вусны і ўстаў з-за стала. — Дзякуй вам за абед. І асабліва — за тое, што абышлося без скандалу. Бо я ж, ідучы сюды, ведаў, якая чакае гаворка…

— Дык ты не застанешся на ноч? — Маці таксама ўстала. — А то заначуй…

— Не, мам, я люблю позна класціся і спаць да паўдня. Ты ж ведаеш. Ды і сустрэцца яшчэ з сім-тым неабходна.

— Гэта не з тваёй, часам, старой пасіяй сустрэча? — занепакоіўся Сямён Паўлавіч і грузнавата падняўся на ногі. — Глядзі, Пеця, калі рашыў з Нінай сур'ёзна — то на два франты не шчыруй. Лепш падчышчай старыя хвасты. Як мага хутчэй падчышчай.

— О'к, бацька. Правільна мысліш, слушна гаворыш. Прыкладна так і зробім. Толькі не сёння, а ў бліжэйшыя дні.

— Пажадана — да выхадных, — удакладніў Сямён Паўлавіч. — У суботу Ніна, відаць па ўсім, сюды пераедзе. Спадзяюся, ты да іх заявішся?

— Заяўлюся, куды я дзенуся.

Пятро перад развітаннем не забыўся папрасіць у бацькі грошай. Вымаючы з самавітага партманета некалькі «пяцідзесятак», Сямён Паўлавіч зірнуў сыну ў вочы і з цёплымі ноткамі ў голасе прамовіў:

— Я ўсё-ткі веру ў цябе, сынок. Веру, што не падвядзеш і што ўсё будзе цудоўна.

Расчулены гэтымі словамі Пятро, прымаючы грошы, абняў бацьку і прытуліўся шчакою да ягонай шчакі. Яны былі амаль аднаго росту.

Затым добры сын абняўся і пацалаваўся з Наталляй Ціханаўнай, паабяцаў заўтра завітаць і выйшаў за дзверы.

## 7

Пятро Мігуля з лагоднай усмешкай на твары збег з ганка дома, дзе жылі бацькі. Але па меры таго, як ён прамінаў двор, усмешка паступова спаўзала з яго твару і, нарэшце, ператварылася ў даволі кіслую і заклапочаную міну. Гэта адбылося не таму, што Пятро не любіў летняй гарачыні (хаця ён яе сапраўды не любіў), нават не таму, што бацька паставіў яго перад жорсткім выбарам, а таму, што зноў успомнілася Ксеня Шпачык. Зноў уявілася будучая непрыемная размова з ёй, зноў узнікла прыкрая боязь сустрэчы.

Хоць пераваліла за восем вечара, калі жнівеньскае сонца хаваецца за дамы, але было яшчэ спякотна і душна. Паветра, што ўдзень разганялі вятры, зараз нібы здранцвела. Прайшоўшы некалькі крокаў, Пятро адчуў, што спацеў. Майка пагана ляпілася да спіны, а чупрына — да мокрага лба.

На выхадзе з двара, у драўлянай альтанцы і каля яе, гужавалася моладзь, чалавек дзесяць. Рагаталі, крычалі, брынькалі на гітары. Адна грудастая дзеўка ганялася вакол альтанкі за худым і высокім хлопцам. Пятро зірнуў на яе ладныя, абцягнутыя цёртымі джынсамі клубы, што спакусліва трэсліся на бягу. «Ідыёты!» — вылаяў ён праз зубы маладзёнаў, адвярнуўся ад іх і пайшоў хутчэй. Хутка ён ужо быў на вуліцы, якая праз два кварталы ўлівалася ў праспект. Пятро вырашыў не чакаць аўтобуса, а прайсці пехатою.

Вось пра што ён разважаў па дарозе. Яшчэ некалькі месяцаў таму ён пакляўся быць надзвычай шчырым у размовах з кім бы там ні было, а галоўнае, з самім сабою. З людзьмі, канешне ж, гаварыць з усёй шчырасцю амаль ніколі не атрымоўвалася. А вось перад сабой Пятро навучыўся душой не крывіць. Прынамсі, пачаў выкрываць сябе ў крывадушнасці, вяртаць у думках назад і прызнаваць праўду, якой бы непрыемнай яна ні была. Зараз ён мусіў прызнацца, што ўзлаваўся менавіта з-за той пышнай дзяўчыны, што ганялася вакол альтанкі за хлопцам. Яе крамянае цела выклікала ў Мігулі імгненны пожад. То было не звычайнае жаданне, што ўзгараецца пры позірках на ножкі

заваблівых маладзіц. Зараз гэта быў страшны голад, прага жаночага цела, якое ён не трымаў у сваіх абдоймах каля месяца. Ён быў апошняга разу блізкі з Ксеняй Шпачык за тыдзень да ад'езду на адпачынак. Рассталіся яны холадна, там было не да інтыму. Тры ж апошнія тыдні Пятро разыгрываў з сябе цнатлівага кавалера перад Нінай Сулеевай і ўсё, што сабе дазволіў, гэта прытуліць яе і злёгку пацалаваць.

Далей жа з інтымам нічога хуткага не вымалёўвалася. З Ксеняй ён мусіць расстацца. Класціся спачатку з ёю ў пасцель, а затым аб'яўляць, што паміж імі ўсё скончана, — несамавіта. Гэта ўжо на вераломства нейкае выдае. А наважыўшы засяродзіцца на Ніне Сулеевай, можна разлічваць адно на гарачыя пацалункі, дый тое — з асцярогай, аглядкай на яе суровага бацьку. Авалодаць жа прыгажуняй Сулеевай ён зможа толькі пасля вяселля. Да гэтага ж яшчэ месяцы пройдуць. Хм… Пятро нават спыніўся на тратуары, уражаны такой нярадаснай думкай. Паколькі стрымліваць свой юр ён не прывык (дый гэта вельмі няздорава), то пакуль адзіным выйсцем уяўлялася знайсці сабе часовую палюбоўніцу. Зрэшты, асабліва шукаць і не трэба — Мігулеў нататнік захоўваў імёны і тэлефоны некалькіх кандыдатак, старых прыяцелек. Некаторыя пэўна ж пагодзяцца ўзнавіць ранейшыя адносіны. «Вось Наташка Баграва… Ці Анжэлка, калі замуж не выскачыла… Або Светка Самусевіч, даўно я ёй не званіў…» — мармытаў Пятро, набліжаючыся да праспекта.

Нататнік з тэлефонамі прыгажунь ляжаў дома ў надзейнай схованцы. Гэта павялося з часоў, калі Ксеня пераехала да яго жыць. Зараз Пятро не мог успомніць ніводнага нумара і вырашыў, калі прыйдзе дамоў, заняцца гэтым.

Але так атрымалася, што дамоў ён сёння трапіў запозна — настолькі, што званіць дзяўчатам не выпадала. Перад спускам у падземку ён націснуў кнопку мабільніка, якая выклікала адзін з унесеных у спіс нумароў. То быў нумар Сяргея Страмца, равесніка, таго рэдкага чалавека, з кім Пятру заўсёды было цікава. Ён званіў наўдачу, амаль не спадзеючыся застаць Страмца дома: апошнія месяцы хатні апарат не адказваў, а мабільны знаходзіўся па-за зонай прыёму. Пятро ведаў, што Страмец у ад'ездзе, на шабашцы ў расійскай глыбінцы.

Цяпер жа тэлефон адгукнуўся, і хрыпаты Сяргееў голас вымавіў знаёмае «Ну?» замест «Ало».

— Прывітанне, старэча! — узрадаваўся Пятро.

— А… ты, галава… — стрымана, але цёпла прамовіў прыяцель.

Неўзабаве Мігуля выходзіў з метро на станцыі «Трактарны завод». Затым сеў у аўтобус і праехаў чатыры прыпынкі. Страмцова кватэра знаходзілася ў цагляным чатырохпавярховым доме. Дом стаяў у глыбіні даволі змрочнага і крымінагеннага квартала, таму Пятро ішоў паспешліва, азіраючыся. Зрэшты, дайшоў ён да патрэбнай кватэры без усякіх прыгод.

Сяргей Страмец нарадзіўся дваццаць чатыры гады таму ў сям'і мінскіх інтэлігентаў. Ён быў другім дзіцём у сям'і, познім дзіцём. Яго сястра Надзея была на дзевяць гадоў старэйшая.

Сяргей ледзь не з немаўлячага ўзросту выявіў надзвычайныя разумовыя здольнасці. Чытаць навучыўся ў чатыры гады, у шэсць перайшоў на сур'ёзную літаратуру. У першым класе «шчоўкаў» задачкі за чацвёрты клас, агаломшыўшы гэтым настаўнікаў. Бацькі не маглі нарадавацца на сына, іх проста распірала ад гонару. Далей адбылося ўсё тое, што здараецца з няшчаснымі дзецьмі-вундэркіндамі: датэрміновыя пераходы з класа ў клас, экстэрны, гурткі, чароды прыватных настаўнікаў, конкурсы, алімпіяды, камандзіроўкі… Нават маскоўскі навуковы інстытут Сяргея даследаваў. І яшчэ вершы ён пісаў, у дванаццацігадовым узросце ставячы ў іх такія пытанні, што і саракагадовы мужчына не вырашыць. Страмцу прадракалі вялікае літаратурнае (як

і матэматычнае, і фізічнае, і музычнае) будучае. Аднак стала здаваць здароўе. З'явіліся хранічная стома, апатыя, малакроўе, Сяргей, бывала, губляў прытомнасць; на гэтым фоне развівалася дэпрэсія. Прыйшлося легчы ў адпаведную клініку. Нічога смяротнага там у Страмца не знайшлі, але калі яго выпісалі з клінікі, бацька, дашчэнту напалоханы папярэджваннямі дактароў, катэгарычна забараніў сыну перагружаць мозг, пазбавіў ад навуковай муштры і, па сутнасці, выгнаў гуляць на вуліцу да нармальных дзяцей. Ён перавёў яго ў звычайную школу па месцы жыхарства. Маці цалкам падтрымала бацьку.

Сяргей не прыжыўся ў сябрыне разбітных хлапчукоў; яго крыўдзілі, лупцавалі, ён прыбягаў дамоў у слязах, зачыняўся ў сваім пакоі, сядзеў маркотны, задумлівы. Так працягвалася амаль два гады. Потым усё як быццам наладзілася. Сяргей супакоіўся і калі не ўліўся ў калектыў «звычайных» дзяцей, то навучыўся ў ім жыць досыць бязбольна. У яго паявіліся таварышы, сябраваў ён і з аднакласніцай. Аднак па-ранейшаму заставаўся нейкім патухлым, ні да чаго жывой цікавасці не праяўляў. Зрэшты, талент яму дазваляў вучыцца амаль на адны пяцёркі.

Пятро Мігуля ведаў Сяргея Страмца па той яго першай школе — для вундэркіндаў, дзе сам вучыўся з трэцяга класа. Пятро адмысловых здольнасцей ніколі не праяўляў, але бацька ўладкаваў яго ў гэтую школу, падключыўшы ўсе свае магчымыя сувязі. Тым не менш, Пятро давучыўся там да выпуску, прычым у яго атэстаце не было ніводнай дрэннай адзнакі. Вучыўся з Сяргеем Страмцом Пятро ў гэтай школе ўсяго два гады, у паралельных класах. Але Страмцова гучная слава, гэтак сама як і рэзкі яе канец тады моцна ўразілі Мігулю, убіліся ў памяць. Гэта і пабудзіла потым Пятра адшукаць апальнага аднакашніка, даволі блізка з ім сысціся.

Але прадоўжым уласна пра Сяргея Страмца. У сямнаццаць гадоў, будучы студэнтам першага курса політэхнічнага інстытута, Сяргей здзейсніў учынак, які спарадзіў яшчэ адзін зігзаг у ягоным лёсе. Адбылося гэта на сямейнай вечарыне з нагоды дня народзінаў яго пляменніка, дзе прысутнічаў сам трохгадовы Косцік, яго маці — Сяргеева сястра Надзя, яе муж Максім, а таксама Сяргеевы бацькі і Максімава маці.

У той вечар было весела: багата віна, далікатэсаў, галасу, магнітафоннай музыкі і спеваў пад гітарны акампанемент. Аднак, як аказалася, нявесела там было аднаму чалавеку — Сяргею. Праўда, яго вечна кіслы выгляд даўно не выклікаў ні ў каго ні здзіўлення, ні падазрэння. Усе ведалі, што ў Надзінага брата кепскі апетыт, што ён не ўжывае алкагольных напояў і неахвотна ўступае ў размовы. Таму ніхто не насцярожыўся, што сярод агульнай весялосці юнак увесь вечар быў неяк асабліва хмурны, засяроджана маўчаў, часта выходзіў з-за стала «ў ванную». Напрыканцы вечарынкі, калі ў зале было надзвычай шумна і звонка, Сяргей чарговы раз вярнуўся з прыбіральні, няспешна падышоў да стала… А тады ўсе ахнулі і здранцвелі: пачуўся ўсхліпісты хрып, Сяргееў бацька, барвова-сіні, сіліўся ўстаць з-за стала, хапаючыся рукамі за горла. Бацька не мог падняцца таму, што, накінуўшы зашмаргу на шыю, яго душыў родны сын. Сяргей стаяў ззаду з каменным тварам і цягнуў шнурок на сябе. Бацька ж хіліўся з крэслам назад, адчайна намагаючыся ўскочыць на ногі і аслабіць рукой зашмаргу.

Гэтая пачварная сцэна доўжылася якое імгненне. Прарэзліва завіскатаў голас сястры, яму адгукнуліся галасы маці і свекрыві. Праз секунду Максім, дужы рашучы хлопец, ужо авалодваў Сяргеевымі рукамі. Яшчэ праз секунду бацька быў вызвалены з абдымкаў гвалтоўнай смерці. Што там далей насамрэч адбылося — ніхто з прысутных толкам не распавёў, а староннія ведаюць толькі па чутках. Адны кажуць, што прыехала міліцыя і забрала Сяргея. Дру-

гія баюць, што прымчалася «хуткая» і павезла бацьку з інфарктам у бальніцу. Трэція запэўніваюць, што «хуткая» забрала не бацьку, а сына, прычым у псіхіятрычную клініку. Трэцяя версія больш выдавала на праўду, да яе, дарэчы, схіляецца і Пятро Мігуля, хоць за гады прыяцельства з Сяргеем ён так і не асмеліўся спытацца прама.

Гэтае здарэнне не ўдалося ціха-мірна замяць, таму што і «хуткая», і міліцыя сапраўды прыязджалі. Па Мігулевай версіі, заснаванай на ўскосных фактах, падзеі разгортваліся наступным чынам. Бацька з гарачкі хацеў аддаць сына правасуддзю, але праз некаторы час сваю заяву забраў. Або, наадварот, напісаў заяву, што не мае да Сяргея прэтэнзій. Юнака накіравалі ў псіхіятрычную клініку для дэталёвага абследавання і медыцынскага заключэння. На той момант яшчэ не было вырашана, будуць яго прыцягваць да крымінальнай адказнасці ці не. Істотных парушэнняў у Сяргеевым здароўі абследванне не выявіла. Сур'ёзны дыягназ яму пастаўлены не быў, хаця эскулапы канстатавалі пэўныя адхіленні ў псіхіцы. На момант замаху на бацькава жыццё ён прызнаваўся адэкватным і мог панесці адказнасць па ўсёй строгасці закона. Але ж, паўторымся, бацька — сам або пад уплывам гаротнай маці — адумаўся і зняў свае прэтэнзіі да Сяргея.

За два з паловай месяцы, што малодшы Страмец валэндаўся ў клініцы, яму споўнілася васемнаццаць, прыйшла пара паўналецця і самастойнасці. Выпісаўшыся, Сяргей у бацькоўскі дом не вярнуўся. З пашпартам на руках ён, найхутчэй, з'ехаў за межы рэспублікі. Ва ўсякім разе, Пятру вядома, што ўсе наступныя шэсць гадоў Сяргей раз-пораз з'язджаў за мяжу на заробкі. Летам гэта былі шабашкі па тры месяцы або служба вахтавым метадам (месяц бесперапынная праца, месяц дома); зімой жа Страмец уладкоўваўся ў Мінску вартаўніком, вахцёрам, качагарам, не грэбаваў працай грузчыка на чыгунцы, у крамах, на таварных складах. Ён моцна змяніўся за гэтыя шэсць гадоў, і той, хто некалі ведаў бледнага маўклівага юнака, здзівіўся б, пабачыўшы жылістага, барадатага, з залысінамі і абветраным тварам гаваркога мужчыну. Сяргей нагадваў Пятру калі не бывалага зэка, то нейкага галаварэза, мімаходзь занесенага ў наш ціхі край. Кісці рук у яго былі парэпаныя, на левай не было фалангі мезенага пальца. Усе пальцы — тоўстыя, мускулістыя, звыклыя да самай цяжкой і натужлівай працы. Шэра-блакітныя вочы сядзелі глыбока ў вачніцах, хаваючыся пад цёмнымі, цямнейшымі за валасы, бровамі. За тры гады даволі блізкага знаёмства, нягледзячы на дзесяткі праседжаных разам вечароў і гутаркі, якія можна назваць задушэўнымі, Пятру Мігулю не ўдалося вызначыць, што за душа скрываецца за гэтым дзіўным абліччам. Але менавіта гэта і прыцягвала яго да Страмца, асабліва апошнім часам, калі праца над філасофскай дысертацыяй абудзіла ў Мігулю дапытлівасць. Хто ён, Сяргей Страмец, — гэтае пытанне не давала спакою Пятру, падштурхоўвала яго раз за разам тэлефанаваць прыяцелю, ехаць да таго і падоўгу, бывала, да самай раніцы весці тамлівыя, але такія зваблівыя размовы. Пятра азадачваў жыццёвы досвед чалавека, які свядома аддаліўся ад свету, прынцыпова не мае тэлевізара, не чытае прэсы, рэдка слухае радыё, па паўгода калыміць на абшарах Расіі, не мае блізкіх сяброў, не падтрымлівае зносінаў з родзічамі.

Як яны сышліся, чаму нелюдзімы Страмец не адштурхнуў ад сябе Мігулю і стаў таварышаваць — пра тое нам не вядома. Ёсць, праўда, меркаванне, што гэтыя двое, нягледзячы на вонкавае і побытавае непадабенства, насамрэч з'яўляюцца блізкімі псіхалагічнымі тыпамі.

Дзівацтваў, розных эксцэнтрызмаў, усялякіх адхіленняў ад так званай нормы выявіў Мігуля ў свайго прыяцеля досыць. Але ж часта пра такіх людзей меркаванне складваецца ці не па двух пунктах: дачыненні з праці-

леглым полам і алкаголем. Пра апошняе скажам з усёй адказнасцю — выпіць Страмец любіў, піў многа, але ніколі не тое што не дапіваўся «да ручкі», а і п'яным, у звычайным разуменні, яго не выпадала пабачыць. Гарэлка дзейнічала на яго як моцная кава на звычайных людзей, узбуджала, развязвала язык, ды не заплятала яго, а прасвятляла розум і рабіла мову больш зладжанай, каларытнай. Мігуля, які сам гарэлку не пераносіў, здзіўляўся яе дабратворнаму ўплыву на Сяргея.

Пра жанчын. Ні жонкі, ні сужыцелькі, ні сталай палюбоўніцы ў Сяргея Страмца не было. Пра каханне размаўляць ён не любіў, а калі ўжо ўцягваўся па волі Пятра ў развагі пра жаночыя вабноты, то меў пра іх нейкае пагардлівае, калі не сказаць — грэблівае меркаванне. Яго нельга было ўявіць у віры любоўнай жарсці, тым больш — у стане рамантычнай закаханасці.

Спяшаемся, аднак, супакоіць чытача тым, што ў Сяргея не было гомасексуальных ці якіхсьці вычварных сексуальных адхіленняў. Усё-ткі з жанчынамі ён знаўся. Наколькі рэгулярна і што гэта былі за жанчыны — тут амаль што туман. Але нават тое, што бачыў Пятро за апошнія два гады, калі зачасціў наведваць Страмцову кватэру (здымную аднапакаёўку), магло каго заўгодна і здзівіць, і ўразіць. Жанчын было ўсяго дзве — з тых, што паяўляліся ў кватэры ў прысутнасці Мігулі. Падкрэслім, не жылі, а адно паяўляліся. Першая, на працягу двух месяцаў, паўтара года таму — пышная брунетка бальзакаўскага ўзросту, жонка багатага чалавека, вышэйшая за Страмца ледзь не на паўгалавы. Нягледзячы на сваю магутную камплекцыю і высокі сацыяльны статус, паводзіла сябе гэтая дама з Сяргеем неяк прыніжана, можна сказаць — парабску. Зрэшты, бачыў яе Пятро ўсяго тры разы. Другую ж Сяргееву пасію ён назіраў куды часцей, можа, разоў дзесяць за паўгода. Быў перыяд мінулай зімой, калі ён амаль кожны дзень наведваўся да Страмца. І нярэдка заставаў там тую дзяўчыну. Было ёй усяго чатырнаццаць гадоў — як сказаў сам Сяргей, — і пры гэтым яна праяўляла не адпаведную ўзросту разбэшчанасць. Залазіла Страмцу на калені, не зважаючы на Пятра, цалавала яго і аблізвала. А гаспадар адно міласціва дазваляў ёй гэта рабіць — як сабачку ці кошачцы. Нават Пятра, даволі вопытнага ў стасунках са слабым полам, гэта шакіравала. У дзяўчынкі жаноцкасць адно спелілася, грудзі і клубы выдавалі амаль на дзіцячыя. Гэта кантраставала з яе нястрымным юрам, прымітыўнай вульгарнасцю. Дарэчы, за ўвесь час яна не перакінулася з Мігулем ніводнай разумнай фразаю. Дый з Сяргеем — адно муркала і шаптала яму нешта на вуха.

Апошнія разоў пяць, пасля таго як Страмец вярнуўся ў траўні з Астрахані, Мігуля ўжо гэтую паненку не бачыў, чаму быў невыказна рады, бо яна сваім сядзеннем на прыяцелевых каленях дужа раздражняла, замінала іх размовам.

## 8

Страмец адчыніў не адразу, давялося націснуць на кнопку званка двойчы. У дзвярах ён паўстаў з паднесеным да вуха мабільнікам, кіўнуў Пятру, каб той уваходзіў, і адышоўся на кухню. Зрэшты, хутка вярнуўся, развёўшы рукі для сяброўскіх абдымкаў. Хлопцы павіталіся, парукаліся. Сяргей быў у цяльняшцы, прасторных бавоўняных штанах і ў тапках. Густая кароткая барада, на левай руцэ груваcткі гадзіннік. Загарэлы да чарнаты. І хітрая, непранікальная ўсмешка.

— Ты прабач, што я з пустымі рукамі, — сказаў Пятро, скідаючы абутак. — Калі табе званіў, ужо ў падземку спусціўся.

— А ты думаеш, у мяне шаром пакаці? — невысокі Страмец пазіраў на яго знізу ўверх. — Не, і выпіць, і закусіць знойдзецца. Нават піва для цябе ёсць.

— А во гэта выдатна. Слухай, я ў ванне шкарпэткі свае памыю. Каб паветра табе не псаваць.

— Давай, давай, — падміргнуў яму гаспадар. — А потым адразу на кухню падрульвай.

Неўзабаве Мігуля пялёхаўся ў ванным пакоі.

— А ты даўно ў горадзе?! — стараючыся перакрычаць шум вады, сказаў ён.

— Дык другі тыдзень ужо.

— І надоўга збіраешся застацца?

— Ну пару-тройку тыдняў пабуду.

— А куды падацца плануеш? — крыкнуў Пятро і дамыўшы шкарпэткі, залез пад халодны душ.

— Не рашыў яшчэ да канца. Хутчэй за ўсё — на расейскі поўдзень, на Стаўраполле. Ці ў Малдову, на благі канец, на вінаград.

— Сяргей! — пракрычаў Пятро, ужо вылезшы з ванны. — Гэтым жоўтым ручніком можна выцерціся? Я душ прыняў.

— Валяй.

— Ну, расказвай. — Асвежаны воднымі працэдурамі, з мокрымі валасамі і голым торсам, Мігуля нарэшце з’явіўся на кухні, дзе перад плітой спрытна завіхаўся Страмец.

— Ага, захацеў. Хто ж табе будзе на сухую расказваць, — зірнуў на яго Сяргей, сагнуты перад адкрытай духоўкай; ён выцягваў адтуль на блясе нешта вялікае, загорнутае ў фольгу.

— Ну тады я табе пра сябе раскажу. — Мігуля ўсеўся за столік перад адчыненым акном. — На Браслаўскіх азёрах я быў, з дзесятага чысла. Толькі сёння прыехаў.

— Ну-ну, — хмыкнуў Страмец. Ён разгортваў на тумбачцы фольгу, пад якой аказалася свіная выразка. Па кухні распаўсюдзіўся водар вострай і смачнай стравы. Пятро, нягледзячы на тое, што добра павячэраў у бацькоўскім доме, адчуў апетыт.

Затым прыяцелі ўладкаваліся ў адзіным пакоі гэтай кватэры, прынёсшы туды з кухні тоўста нарэзанае мяса, смажаную бульбу і салату са свежых памідораў пад маянэзам. Яны сядзелі ў нізкіх старэнькіх крэслах перад столікам, на якім месціліся ўжо згаданыя стравы, а таксама запацелыя пляшкі гарэлкі і піва, пачак апельсінавага соку і гара чорнага хлеба.

Колькі слоў пра гэты жылы пакой. Ён меў два акны, бо знаходзіўся ў куце дома. Адно акно, балконнае, — у тарцы, другое — злева ад увахода, Пятро сядзеў да яго спінай, а Сяргей — тварам. Траціну пакоя адгароджвала секцыя, за якой мясціўся спальны закутак гаспадара, там стаяла кушэтка, крэсла і тумбачка. Астатняя плошча была запоўнена самымі рознымі рэчамі, прычым досыць бязладна. Тут стаялі скрыні, ляжалі высокія стосы патрапаных кніг і часопісаў, на сцяне віселі сталярна-слясарныя прычындалы, рэпрадукцыя карціны Шышкіна, дзе дарога віецца праз жытнёвы палетак, а на даляглядзе высіцца дуб. Адразу ля ўвахода, праваруч, стаяў дарожны веласіпед, які заўсёды пах свежай змазкаю, быў начышчаны і блішчэў як новенькі. Вось далёка не поўны пералік рэчаў, што загрувашчвалі гэты вялікі пакой і рабілі яго цесным і не надта ўтульным. Але гаспадару, па ўсім відаць, тут было хораша, незважаючы на адсутнасць тэлевізара, магнітафона, камп’ютара — усіх гэтых абавязковых атрыбутаў сучаснасці. Ва ўсякім разе, Пятро не прыгадае, каб у Страмца калісьці быў кепскі ці дэпрэсіўны настрой.

— Ну, па традыцыі, каб дарогі нашы яшчэ не аднойчы сышліся. — Сяргей узняў гранёную шклянку, у якой гарэлкі было напалову. — Люблю я пачынаць з беленькай… Хаця іншай не п’ю.

Пятро працягнуў яму насустрач шклянку з халодным светлым півам.

— Давай, дружа.

Сяргей паважна, не моршчачыся, як крынічную ваду, выпіў саракаградусную. Няспешна запіў яе апельсінавым сокам з другой шклянкі. Адкінуўся ў крэсле, усмешліва назіраючы за Мігулем — як той, моршчачыся, цадзіў шклянку лёгкага піва. Сяргей ведаў, што Пятро не любіць алкаголь і ўсё-ткі патрабаваў, каб той выпіваў з ім нязменную пляшку піва. На гарэлцы ён па дабраце не настойваў.

— А цяпер можна і пабалакаць, — сказаў Страмец пацяплелым голасам. Твар яго не пачырванеў, не расслабіўся, як бывае ў прывычна пітушчых ад першай жа чаркі. Пятро ведаў, што і пасля бутэлькі ў Сяргея будзе светлы розум.

— Якія ў цябе праблемы, каліся. — Гаспадар падкурыў і працягнуў запальніцу Пятру, які скарыстаўся сваімі цыгарэтамі — «Бондам», тады як Страмец закурыў «Беламор».

— А з чаго ты ўзяў, што ў мяне праблемы? — Пятро зірнуў на прыяцеля, твар якога завалакваў густы папяросны дым. — Хаця ты ўгадаў, яны ёсць — хаця б таму, што я яшчэ не памёр. Нашы праблемы мусяць знікнуць з нашай смерцю. Праўда, я не зусім упэўнены, што гэта так.

— Верыш у бессмяротнасць душы, замагільны свет? — выдыхнуў едкім дымам Сяргей.

— Веру не веру, а апасаюся, што ён ёсць. Дакладней, не выключаю такую магчымасць… А мяса супер! — Пятро пракаўтнуў першы кавалак. — Ды ты сам чаго не ясі?

— Паспеецца. — Сяргей, не міргаючы, глядзеў на Пятра. — Я зразумеў, што ты мучышся ад няпэўнасці сваёй будучыні, малады чалавек. У гэтым твая бяда. А яшчэ ты хочаш быць шчаслівым і адначасова свабодным, што ніколі не сумяшчальна.

— Угадаў. Я хачу быць шчаслівым, толькі не ведаю, што такое шчасце. Хачу быць свабодным, ды не ўяўляю, што такое свабода. Я хачу…

— Скажам прасцей, — перабіў Страмец, — ты адчуваеш дыскамфорт і хочаш ад яго пазбавіцца. Аднак гэта немагчыма. Бо з самага нараджэння мы ўступаем у барацьбу, у заклятую барацьбу жывых арганізмаў за існаванне. З першага ўздыху мы…

— Чакай, Серж, — узняў руку з лустай хлеба Пятро, — гэтак мы непазбежна ўваб'ёмся ў разважанні пра натуральны адбор, пра здольнасць матэрыі самаразвівацца ды іншую трывіяльную балбатню.

— Хм. Я зусім не прыхільнік тэорыі барадатага аматара малпаў, — хітравата пазіраў на яго Страмец, па звычцы цярэбячы правы вус. — Але ж не бачыць відавочнага — значыць заставацца дзіцём. Можна называць гэта дарвінізмам або ўласцівасцю арганізмаў самаарганізоўвацца — не тое важна па сутнасці. Паўтараю: кожны, хто з'явіўся на свет, адразу ж сутыкаецца з сіламі, якія намагаюцца яго знішчыць усялякімі спосабамі.

— Развівай, — згодна кіўнуў Пятро і закінуў нагу за нагу.

— Немаўля пастаянна крычыць, яму дыскамфортна. Яно супакойваецца толькі на кароткі час, калі насмокчацца малака і засне. Дадамо сюды пакуты бацькоў, іх вечныя недасыпанні, турботы, страх перад шматлікімі недамаганнямі свайго дзіцятка. Немаўля амаль безупынна хварэе. Гэта плоймы мікробаў атакуюць істоту, карыстаючыся яе слабасцю, тым, што яна маларухомая, неразумная і не выпрацавала яшчэ спосабаў барацьбы. Заўваж, уся гэтая жудасная барацьба за жыццё, усе гэтыя жахі адбываюцца на фоне нібыта бязмернай радасці маладых бацькоў ад таго, што Бог адарыў іх такім прыгожым дзіцёнкам. Яны ззяюць ад шчасця. Тады пытанне: што ёсць іхняе шча-

сце — усведамленне таго, што ў пакутлівых турботах пражыты яшчэ адзін дзень? Дык жа заўтра будзе такі самы турботлівы дзень, абавязкова з'явяцца прастуды, паносы, алергічныя сыпы ад нашых ненатуральных прадуктаў і іншае, што не дасць маладым бацькам ані хвіліны прадухі. Бацькі дарэшты натомленыя, і падтрымлівае іх адно надзея, што калісьці ж дзіцё вырасце і не будзе гэтак часта хварэць. Але тое самападман. Падросшы, яно неадменна выйдзе на вуліцу, патрапіць у дзіцячы садок, пойдзе ў школу…

— А там яго будуць чакаць бармалеі-выхавацелі і суровыя настаўнікі, розныя верхаводы і хуліганы — гэта ты, я падазраю, хочаш сказаць. — Мігуля, ледзь дакурыўшы цыгарэціну, падпаліў новую. Яго суразмоўца зараз не курыў і не еў.

— Правільна мысліш, малады чалавек. За гэта табе яшчэ шкляначка піва. — Страмец пацягнуўся па бутэльку, але Пятро выкінуў руку наперад, дакрануўся да прыяцелевай далоні.

— Не-не, гэты раз я прапускаю. Не забывайся, што мне бутэлька на вечар. Ты ж п'еш па сто, а я па дзвесце.

— Ладна, — згадзіўся Сяргей, пацягнуўся па другую пляшку і наліў сабе паўшклянкі гарэлкі. — Ну, будзем. — Выпіў нетаропка, са смакам, накалоў на відэлец кавалак мяса і закусіў.

Прыяцелі крыху памаўчалі. Страмец жаваў і запіваў сокам, а Мігуля дыміў «Бондам» і выпускаў кольцы ў столь.

— Так, Пятро Сямёнавіч, — прыкурыўшы, прадоўжыў гаворку Сяргей. — Усё будзе акурат так, як вы адзначалі: немаўля падрасце, стане крыху менш хварэць, пойдзе ў дзіцячы садок і школу. Словам, увальецца ў калектыў, дзе пануюць тыя ж законы, што ў любым статку тысячы і мільёны гадоў таму. У яго адразу ж адбяруць дадзеную выхавацелем цацку. Зробіць гэта грубы і шустры хлапчук, неабавязкова самы нахабны і дужы ў групе. Вось ён ужо гуляе з цацкай нашага пестуна. Затым дзіцё паспытае нясмачнай маннай кашы, якую яго прымусяць даесці. Вып'е пад наглядам выхавацеля паранага малака з агіднаю пенкай. Потым яго пакладуць на ціхую гадзіну на рыпучы і мулкі ложак. Праўда, спаць там ніхто не будзе, а, карыстаючыся тым, што адсутнічае нянька, пачнуць кідацца падушкамі, гарланіць і лаяцца. Адна падушка трапіць у нашага пестуна, які ляжаў ціха, як мышка. Магчыма, нехта прабяжыць, дурэючы, па ягоным ложку, наступіць яму на жывот. На пасляабедзеннай прагулцы ў яго кінуць каменем, або спадцішка штурхнуць у сумёт, лужыну ці пясочніцу. Яму будзе балюча і крыўдна, а пару хуліганаў зарагочуць і пакажуць на яго пальцамі. Іх рогат падхопяць усе астатнія, нават дзяўчаткі, і гэта будзе яму асабліва балюча.

— Карацей, дадому твой хлопчык вернецца сумны, — усміхнуўся Пятро. — Наскардзіцца матулі ды, рыдаючы, будзе прасіць, каб яго больш не вадзілі ў гэты страшны садок.

— Ён можа наскардзіцца, але не далей як наступнай раніцай яго павалакуць туды зноўку. У яго, бедака, зрэшты як і ў ягоных бацькоў, выйсця не будзе. Вольным ад пажыццёвага валэндання сярод людзей ён будзе толькі ў выпадку невылечнай хваробы, нерухомасці, якая прыкуе яго да ложка на ўсё жыццё. Але ж, пагадзіся, гэты варыянт далёка не лепшы. Відаць, штодзённая лупцоўка ад хулігана і завадатара Грышкі падасца куды прыемнейшай, чым пакуты ляжання. Дый ляжанне само па сабе не дае свабоды, не пазбаўляе ад гвалту. Нехта будзе цябе варочаць, устаўляць клізмы ў анус і зонды, каб карміць праз іх. Нехта стане бесперапынна пароць цябе ўколамі, бо без лекаў тваё кволае нерухомае цела не выжыве.

— Але ж… — хацеў нешта сказаць, ды запнуўся Пятро.

Сяргей спачатку памаўчаў, чакаючы, што скажа прыяцель. Затым, мусіць задаволены зробленым на таго ўражаннем, працягваў:

— Што, па-твойму, гэта не так? — прыжмурыўся ён і выпусціў воблака дыму. — Яно можа адрозніцца толькі ў дэталях. Напрыклад, што не нашага пестуна будуць штодня мардаваць, а ён сам усталюе сваю ўладу над групай. Але тады ён будзе яшчэ больш несвабодны, змушаны штохвіліны адстойваць свой статус. Да таго ж ёсць дужэйшыя за яго выхавацелі, бацькі, якія дзяруць за вушы, лупцуюць дзягай, пакідаюць без марожанага і тэлевізара за любую правіну. І гэтак далей…

— О'к, ты пакуль перадыхні, пажуй, — сказаў Пятро. — А я разгарну тваю тэму. Выкажу і сваё меркаванне на гэты конт.

— Ну-ну. — Страмец падкінуў сабе памідорнай салаты, паклаў на талерку мяса.

— Справа ў тым, што ўласцівасць людзей утвараць калектыўныя структуры — рэч стыхійная і амаль не залежная ад іх волі. Гэта ўжо навукова даказана. Некаторыя тлумачаць гэта інстынктам выжывання, што дазволіў калісьці абараніцца ад лютых драпежнікаў. Нехта тлумачаць закладзеным у нас прыродай імкненнем да самарэалізацыі…

— А вось пра самарэалізацыю ўдакладні.

— Ну, гэта ў тым сэнсе, што… — Мігуля задумаўся і раптам спужаўся, што не зможа хутка і слушна сфармуляваць думку. — У сэнсе… што мы заўсёды хочам быць лепшымі, даказваць сваю значнасць. Але мы можам праяўляць сябе толькі ў нейкім асяроддзі, калі ёсць канкурэнцыя. Інакш наша значнасць не атрымае ацэнкі.

— Прымаецца. — Страмец згодна кіўнуў.

— Іншая справа: цяжка вызначыць, што з'яўляецца першасным — гуртаванне ў статак з мэтай выжывання або сама мэта псіхалагічнай самарэалізацыі ў статку.

— Тое ж можна запытацца пра яйка і курыцу. Разумееш? — Сяргей пастукаў па стале костачкамі пальцаў, узняў указальны палец уверх. — Адказу не знойдзем, а таму давай пакінем адкрытым і пытанне наконт статку і мэты. Пакуль жа яно, гэтае пытанне, вісіць у паветры, мы хуценька прымем трэцюю дозу. Прынамсі, мой арганізм яе зажадаў. — Ён спрытна ўхапіў піўную бутэльку за рыльца.

На гэты раз Мігулю прыйшлося-такі выпіць піва, хоць у галаве пашумлівала, а думкі, ён адчуваў, «буксавалі», нібы колы ў пяску.

— А, во! Пакуль мы канчаткова не затлумілі сабе галовы, — успомніў нешта Страмец, — давай, дружа, пройдземся на балкон. Хачу паказаць табе адну штуку.

— Ну добра, заадно і праветрымся.

Яны вылезлі з нізкіх крэслаў і падаліся праз спальны закутак да балкона. Праходзячы, Пятро зірнуў направа, на ложак, які быў дбайна засланы заўсёднай клятчастай посцілкай. На прыложкавай тумбачцы стаяў старадаўні радыёпрыёмнік з даўжэзнай антэнай.

Прыяцелі прайшлі праз адчыненыя дзверы на балкон. Мігуля ўжо палез у кішэнь па цыгарэты, але Страмец яго прыпыніў:

— Стоп-стоп. Курыць будзем там. Не для таго я цябе сюды клікаў.

— А калі я хачу пакурыць? — здзівіўся Пятро, і ўсё ж пакінуў цыгарэты ў спакоі.

На двары даўно звечарэла. Балкон асвятляўся слаба рассеяным святлом адзінокага ліхтара і акон бліжэйшых дамоў. Падлога, як заўсёды, была завалена грудамі начыння сумніўнай вартасці.

— Вось паглядзі. — Сяргей нагнуўся, узяў вялікую сумку і падняў яе на ўзровень грудзей.

Пятро зазірнуў: сумка была поўная грыбоў. З яе павеяла пахам баравікоў і яшчэ якіхсьці высакародных грыбоў.

— Ого! Сам назбіраў? Дык сухмень жа стаіць. Дзе?..

— На першае пытанне, так і быць, адкажу: назбіраў сам. Далейшае — без каментарыяў. — Страмец, ухмыляючыся ў вусы, паставіў сумку на месца.

Затым ён прапанаваў Мігулю зірнуць наверх, дзе пад перакрыццем віселі на цвіках два вялізныя ляшчы. Далей было такое ж здзіўленне госця, як і наконт грыбоў, і такая ж самазадаволеная ўсмешка гаспадара.

— На Мінскім моры, між іншым, злавіў. З прычала, ад якога адыходзяць прагулачныя катэры.

— Малайчына, што я магу сказаць… — не пераставаў здзіўляцца Пятро. — На піва цяпер заві.

— Будзе і піва, — паабяцаў Страмец і ўзяўся за дзвярны вушак правай рукой. — Ну, хадзем назад. Так бы мовіць, прадоўжым.

Калі яны вярнуліся і ўселіся на ранейшыя месцы, Сяргей наліў сабе чацвёртыя паўшклянкі гарэлкі, выплюхнуў Пятру з бутэлькі рэшткі піва і сказаў:

— Ну, каб здарова жылося. — Выпіў, крактануў, выцер запясцем вусны. — Ты думаеш, я цябе на балкон выклікаў, толькі каб пахваліцца? Не. Гэта я да нашай размовы даў ілюстрацыю.

— У сэнсе? — Пятро замёр з паднесеным да рота скрылікам смажанай бульбы.

— Паглядзіш. Я табе ўсё растлумачу. А пакуль запомні: грыбы, назбіраныя ў засушлівае надвор’е; і ляшчы, злоўленыя амаль што ў гарадской рысе.

— Хм. Не, ну…

— Цяпер нагадаю, на чым мы спыніліся, — працягваў Сяргей. — Чалавек на зямлі шчаслівым быць фактычна не можа, а знаходзіцца толькі ў чаканні ці ў ілюзіі шчасця. На гэтым мы пагадзіліся?

— Увогуле так. Толькі я табе назаву нямала людзей, што крычаць пра сваё шчасце на кожным рагу…

— А кінь ты! — Страмец пагардліва матнуў галавою. — Патрымай мяне тыдзень у яме без жратвы і святла, а потым выпусці на волю і дай чэрствага хлеба — я табе дыфірамбы шчасцю салаўём праспяваю. Але заснавана яно будзе на кантрасце чорнага з белым. Шчасця няма. Ёсць шэры фон жыцця, і, каб адчуць белізну, нас спачатку трэба ў цемры зняволіць.

— Ладна, а калі чалавек цалкам здаровы, мае грашавітую творчую працу, прыгожых дзяцей, каханую жонку, жывых бацькоў, мноства сяброў — ты лічыш, ён будзе няшчасны? Ці ўсё ж...

— Я не лічу, а проста-такі сцвярджаю гэта, — задзірыста зірнуў на субяседніка барадаты Страмец. Таршэр няроўна высвечваў яго твар, абвастраючы скулы і нос; вочы цалкам патаналі ў вачніцах. — Ужо адно тое, што ты выстраіў доўгі спіс атрыбутаў шчасця, пераконвае мяне, што яно немагчымае. Абавязкова падвядзе нейкі атрыбут: захварэе дзіцё, памрэ нехта з бацькоў, растаўсцее да агіднасці жонка. І гэтак далей. Акрамя таго, ты не ўлічыў, што наш здаровы і шчаслівы абывацель круціцца не ў беспаветранай прасторы, а жыве ў асяроддзі людзей, яму дадзены розум, памяць, ён здольны ацэньваць тых, хто яго акружае і параўноўваць іх з сабой любімым. Такія непрывабныя якасці, як зайздрасць, злапамятнасць, крыўдлівасць, ніхто не адмяняў. Яны былі адвеку і будуць. А таму наш чалавек N неадменна заўважыць, што ў супрацоўніка Іванова машына навейшая і даражэйшая, чым у яго, што жонка прыяцеля Сідарава мае круглейшыя грудзі і страйнейшыя ногі, чым ягоная

Машка, што ў Сідарава сын ужо майстар спорту па плаванні, а ягоны, абывацеляў, Сашка — проста хуліганісты ёлупень. Толькі гэтыя маленечкія факты здольныя прывесці нашага здаровага жанатага мнагадзетнага чалавека ў раздражненне. А яшчэ ёсць такія паняцці, як беспадстаўная рэўнасць, як беспрычынны, здавалася б, страх смерці бацькоў, страх страты прэстыжнай працы і грошай. Я магу, Пятро, пералічваць амаль да бясконцасці…

— Я цябе зразумеў, — паблажліва кіўнуў Мігуля. — Новага ты не сказаў анічога. Гэта старая як свет байка аб тым, што багаты не можа быць шчаслівым, што трэба ўсё раздаць, ад усяго адмовіцца і пайсці з торбай. Ды толькі ўсе з торбамі не пойдуць. На жаль гэта ці на шчасце — не ведаю. Але факт навідавоку. Камусьці ж трэба служыць, вырошчваць хлеб, гадаваць дзяцей, перадаваць веды з пакалення ў пакаленне, каб чалавецтва зноў не апусцілася на чатыры лапы…

— А хто табе сказаў, што яно не адразу хадзіла на дзвюх нагах? Дарвін? Энгельс? — Сяргей падаўся наперад, сказаў цішэй: — А ты ведаеш, што многія навукоўцы схіляюцца да таго, што малпа паходзіць ад чалавека, а не наадварот. Што яна — прадукт яго дэградацыі.

— Чуў, але разважаць пра гэта не буду. Несур'ёзна. Зрэшты, не адстойваю і паходжанне чалавека ад малпы. Не ў гэтым сутнасць. Не пра тое мы гаварылі.

— Добра. Давай не будзем спяшацца і гарачыцца. Думаю, рознагалоссяў у тым, што чалавек не можа быць цалкам шчаслівы, не будзе?

Пятро нехаця кіўнуў.

— Тады працягваем. Здароўе, сям'я і высокае грамадскае становішча не гарантуюць спакою — гэта ясна як дзень. — Страмец спадылба глядзеў на прыяцеля, адсочваў яго рэакцыю. — Поўнасцю здаровы і насычаны зямнымі дабротамі чалавек заўсёды знойдзе, чым атруціць сабе жыццё. Дэкларацыі асабістага шчасця — лухта, хаця б таму, што любы адэкватны чалавек ведае, што ён смяротны, што рана ці позна памрэ. Ён можа гнаць ад сябе гэтую думку, захінацца ўсялякімі дабротамі, але ж ён не сляпы і бачыць, што людзі вакол паміраюць. Прычым не абавязкова ад старасці. Ды смерць смерці не роўная. Паміраюць пакутліва, гадамі, нерухомыя, пад крапельніцамі і апаратамі. І наш здаровы абывацель гэта ўсё заўважае, міжволі прымярае на сябе, і ў падкорцы яго сядзіць магчымая пакутлівая хвароба і непазбежны скон. Так? — Страмец уважліва зірнуў на Мігулю; той не пярэчыў. — Магчыма, верніку тут прасцей, чым атэісту. Аднак верніка ўсё жыццё мучыць будучая расплата за свае зямныя грахі, а матэрыяліст у такую расплату не верыць. Ён банальна баіцца памерці, бо жыццё для яго заканчваецца з апошнім уздыхам.

— Упэўнены, што і любы атэіст таемна баіцца гэтай пасмяротнай расплаты, — удакладніў Пятро. — Мяркую, такі страх закладзены ў нашай прыродзе. Гэта я табе па сваім вопыце гавару… Але працягвай.

— Магчыма, спрачацца не буду, — сказаў Сяргей; ён даліваў рэшткі гарэлкі ў шклянку. — Я ніколі не быў ні перакананым атэістам, ні вернікам. Я той, хто ва ўсім сумняваецца. У мяне няма страху смерці як заканчэння жыцця, гэтага нашага жыцця, да якога я раўнадушны. Я цаню толькі волю. Я табе паказаў грыбы і рыбу як яе сімвал. Я не пайшоў у спякотлівы дзень на работу, каб дагаджаць самадуру начальніку, а выправіўся ў лес у грыбы. Я не павёз жонку з вывадкам маіх няўдзячных нашчадкаў на курорт, а падняўся на досвітку і паехаў па рыбу. Мне не рыба важная, не грыбы, а сам факт маёй волі. Гэта цаню, Пятро. — Ён асушыў шклянку, якую з хвіліну трымаў перад ротам. — Але ж я не дэбіл і ўсведамляю напоўніцу, што гэта толькі адносная мая воля. Воля працаваць, дзе і калі захачу. Воля адпачываць, калі захачу. Воля не западаць на чалавечыя страсці, не паддавацца рабству кахан-

ня, бацькоўства, сыноўства і іншае. Аднак я далёка не свабодны, Пятро. Я не свабодны ад хваробаў і смерці, і калісьці — не прывядзі божа — памру не адразу, а патраплю пад уладу людзей. Для мяне лепей сканаць, як сабака пад плотам, чым аддацца ў рукі эскулапаў, якія пачнуць мучыць маё цела ўколамі, кропельніцамі, клізмамі і зондамі. Будуць рэзаць яго насуперак маёй волі, калупацца ў кішках. Гэта жахліва, браце. Я аднаго разу паспытаў прымусовага кармлення, больш не хачу.

Страмец паморшчыўся, пацягнуўся па цыгарэту, падкурыў, зрабіў пару глыбокіх зацяжак і толькі тады прадоўжыў:

— Гэта ў клініцы было, калі я там ляжаў другі і, спадзяюся, апошні раз у жыцці. Нічога вульгарнейшага, гвалтоўнейшага і бессаромнейшага не прыдумала чалавецтва. Калі табе заціскаюць нос прышчэпкай, каб ты змушана растуліў рот, а затым пхаюць цвёрды шланг праз горла ў страўнік. Прабачце!

…Пятро Мігуля выходзіў ад Страмца а першай гадзіне ночы. Апынуўшыся ў глыбіні змрочнага квартала, сярод абрысаў камяніц і разлапістых дрэў, ён моцна пашкадаваў, што не выклікаў таксоўку да самага пад'езда. Не зрабіў ён гэтага, адно каб Сяргей не падумаў, што яму страшна. Але страшна было. У асветленым толькі асобнымі вокнамі наваколлі раз-пораз чуліся п'яныя выгукі тутэйшых п'янюг і шпаны. Увесь час здавалася, што вынырне з-за якога рага ці з кустоў хеўра бамбізаў, адбярэ грошы, надае па фізіяноміі, а то і зарэжа проста так. Не любіў Мігуля гэты раён, і ніколі б сюды нават днём не завітваў, каб неадольная сіла не цягнула яго да размоў са Страмцом. Вось і сёння ён быў уражаны прыяцелевай філасофіяй, хоць і не атрымаў адказу ні на адно пытанне са сваіх набалелых. Акрамя таго, яму зноў не ўдалося дарэшты ўразумець, што за фрукт такі гэты Страмец. Зноў іхняя размова, нягледзячы на застолле і выпіўку, аддавала кніжнасцю, акадэмічнасцю. З такім жа поспехам Мігуля мог чытаць чыйсьці трактат, рабіць перапынкі, каб услых прааналізаваць прачытанае. Не адчувалася цеплыні, Сяргей нагадваў яму бясплотнага духа. Дый чаго можна чакаць ад чалавека без сям'і, без біяграфіі, які выракся сваіх бацькоў. Усё, што ён ведае пра Страмца, думаў Пятро, вынікае толькі з яго расповедаў. Адзіная рэальнасць — дзве ненармальныя жанчыны, якіх ён бачыў у кватэры за апошнія паўтара года. Астатняга — шабашак, вандровак па абшарах Расіі і блізкім замежжы — па вялікім рахунку, магло і не быць. Ва ўсякім разе, праверыць гэта не выпадае, бо няма агульных знаёмцаў. З такім жа поспехам, знікаючы на два месяцы, Страмец мог праходзіць чарговы курс лячэння ў той жа клініцы, а потым жыць паўтара месяца на бацькоўскія грошы… Такія вось бязглуздыя думкі прыходзілі ў Мігулеву галаву, пакуль ён баязліва мінаў двор за дваром, спяшаючыся выйсці на адносна людную вуліцу.

Падазроныя думкі пра Сяргея Страмца, найхутчэй, навеяліся гэтым змрочным кварталам. На асветленай ліхтарамі вуліцы Пятро іх адрынуў, а на Партызанскім праспекце і наогул з задавальненнем успамінаў праведзены ў прыяцеля вечар. Ён ужо планаваў праз пару дзён зноў туды завітаць. Дні ж гэтыя, асабліва заўтрашні, абяцалі стаць неспакойнымі. Чакае нялёгкая развітальная размова з Ксеняй Шпачык. Рассекшы гэты вузел, жыць стане значна лягчэй. Праўда, наперадзе маячыла сям'я Сулеевых, куды воляй-няволяй давядзецца ўвайсці. Пятро гэта ведаў. Прынада ў выглядзе раскошнай смуглянкі Ніны была прывязана да лёскі, а вудзільна трымаў у руках яе магутны і ўладарны бацька Амар… Ад гэтага станавілася вусцішна, але гэта адначасова і ўзбуджала. Тым больш што іншай жыццёвай дарогі пасля расстання са Шпачык у яго не вымалёўвалася. Рана ці позна прыйдзецца ажаніцца. Дык ці не лепей гэта зрабіць своечасова і выгадна? Бацька, Сямён Паўлавіч, дрэннага не нараіць, як бы ні пацвельваўся з яго наравісты Пятро. Бацьку сын паважаў.

## 9

У скверы перад рэстаранам «Каменная кветка» было нешматлюдна. Вакол яго па вуліцах так і снавалі тралейбусы і аўтобусы. Праспект Скарыны шыпеў, грымеў і скрыпеў разнамасным транспартам.

Пятро Мігуля праходжваўся па сцяжыне ўздоўж невысокіх ялін. Большасць лавачак пуставала, на адной сядзелі два падлеткі, курылі, пілі піва і гаманілі. На другой бесцырымонна цалавалася даволі немаладая парачка. Пятро моршчыўся, раз-пораз прамінаючы прахожых. На падлеткаў ён пазіраў з насмешлівым выклікам, на гарачую парачку — амаль што з агідай. Курыў. І зіркаў па баках, спрабуючы ўгледзець, адкуль з'явіцца Ксеня. Яны змовіліся тут сустрэцца а сёмай гадзіне вечара. Цяпер было пяць хвілін на восьмую, і Пятро нерваваўся. Гэта не была, зразумела, нервовасць палкага закаханага, што чакае не дачакаецца даму свайго сэрца. Гэта было раздражненне на чалавека, які прычыняе табе ўсялякія невыгоды адным фактам свайго існавання, а зараз — прымушае марнаваць час, чакаць, пакуль яна, яе вялікасць, паявіцца. Акрамя таго, нягледзячы на папярэднюю псіхалагічную падрыхтоўку, Пятро хваляваўся і адчуваў прыкрую няўпэўненасць у сваіх сілах. Дзесяткі разоў ён пракручваў варыянты іх сустрэчы пасля адпачынку, рэпеціраваў сваю прамову, рыхтаваў рэакцыю на Ксеніны словы. Але ж цяпер усё нібы вылецела з галавы.

Сёння перад абедам, калі Мігуля заявіўся на кватэру яе пенсіянеркі цёткі, ён не застаў былую каханку. Яна была не на змене, як можна было чакаць, а ў адпачынку. На яго пытанне ж, ці ў горадзе Ксеня і дзе яе можна знайсці, Эльвіра Мазэпаўна, цётка, адказала даволі груба, са слаба прыхаванай непрыязнасцю: у горадзе, маўляў, а дзе — не ведаю. Што ж, яна даўно і ўстойліва ненавідзела кавалера сваёй пляменніцы і лічыла, што ён сапсаваў той жыццё. Ні многа ні мала. Эльвіра Мазэпаўна дужа жадала выдаць Ксеню замуж за дастойнага чалавека. Пятро ж такім у яе вачах не з'яўляўся, а таму толькі «краў час» у яе пляменніцы і тлуміў галаву. Аднак Мігуля ніколі не прэтэндаваў на прыязнасць з боку цёткі сваёй палюбоўніцы і адно цярпеў яе як непазбежнае зло. Дарэчы, азначэнне «непазбежнае зло» ён прыдумаў для ўсіх абставін, што атручваюць яму жыццё, але якіх нізашто не пазбыцца і якія трэба трываць.

Зрэшты, Эльвіра змякчылася і сказала, каб Пятро патэлефанаваў гадзін у пяць вечара — Ксеня як быццам абяцала да гэтага часу вярнуцца. Мігуля так і зрабіў. У голасе палюбоўніцы, калі ён такі да яе дазваніўся, яму не спадабалася халоднасць, амаль абыякавасць. Так, рассталіся яны не па-добраму. Сапраўды, апошнім часам усё ў іх ішло пагана. Але гэта не давала ёй права так з ім размаўляць — нейкімі аднаслоўнымі, косназыкімі рэплікамі: «Ага», «Угу», «Прывітанне», «Ну?», «Буду». Магла б хоць для прыліку пацікавіцца, як ён адпачываў, магла б і пра сябе сказаць пару слоў. Заела таксама тое, што Ксеня раней казала, быццам пойдзе ў водпуск пад Новы год. Падманвала? Ці змянілася нешта? Нягодніца.

Карацей, цяпер Пятро ненавідзеў Ксеню Шпачык яшчэ большай нянавісцю і вырашыў, што размова з ёй будзе як мага кароткай, халоднай і нават суровай.

Але ж калі ён згледзеў яе на дарожцы, рухавую, у новым эфектным плацці, з новай прычоскай і новым колерам валасоў, то нешта ў ім тарганулася. Што ні кажы, а фігурка ў яго палюбоўніцы была прыцягальная. Невысокая, але, як той казаў, добра скроеная паненка. Надзвычай правільныя прапорцыі, лёгкае і адначасова дужае, імклівае цела. Крутыя клубы адцяняюцца вузкай таліяй. Порсткія стройныя ногі. Тонкая пяшчотная шыя. Правільныя абрысы плячэй. Высокія круглыя грудзі. Шляхетная пастава пры хадзе. Заўсёды кароткія, хлапчуковыя валасы. Твар нервовы, прыгожы. Усё гэта калісьці паланіла

Пятра настолькі, што два тыдні ні спаць, ні есці толкам не мог, пакуль не стаў яе палюбоўнікам. Мігуля, зрэшты, заўсёды любіў жанчын з падобнымі знешнімі дадзенымі. Амаль усе яго каханкі былі невысокімі, ладна збітымі, з пышнымі формамі. Дарэчы, і Ніна Сулеева, да жаніцьбы на якой ён усё болей схіляўся, была шмат чым на Ксеню падобная. Толькі вышэйшая сантыметраў на пяць і паўнейшая трохі.

— Прывітанне. — Яна наблізілася да яго, працягнула руку.

Гарачая, сухая далонь. Энергічнае пацісканне.

— Як ты? — па завядзёнцы спытаўся Пятро. Ён рашыў, у знак непрыхільнасці, не рабіць Ксені кампліментаў наконт яе новай прычоскі, колеру валасоў і сукенкі. Да таго ж было непрыемна, што яна так абнавілася ў яго адсутнасць і відавочна ззяла ад шчасця.

— Нармальна. — Яе чорныя вочы слізганулі па Пятровым твары і спыніліся на чымсьці староннім за яго спінай.

— Я не ведаў, што ты ў адпачынку, — сказаў Мігуля, абы не маўчаць.

— Так здарылася, — амаль раўнадушна прамовіла Ксеня. Яна не ўзяла яго пад руку, як звычайна бывала пры сустрэчах. Пайшла поруч.

— Доўга яшчэ будзеш гуляць?

— Два тыдні.

Так, размова яўна не клеілася. Ксеня не хацела ісці на кантакт. Мігулю гэта напружвала. У наступныя пяць хвілін ён, шпацыруючы са Шпачык па сцяжынах сквера, знаходзіўся ў дзіўнай разгубленасці. Развітальная прамова, якую ён доўга і пакутліва рыхтаваў цягам апошніх дзён, ніяк не «хацела» ўкліньвацца ў гутарку. Замест таго каб расставіць кропкі на «і», Пятро мармытаў пра тое, як ён адпачываў на Браслаўскіх азёрах, пры гэтым мусіў пастаянна маніць — не распавядаць жа ёй пра свае заляцанні да Ніны. Ён нёс лухту і разумеў, што Ксеню зусім не цікавяць падрабязнасці яго водпуску. Яна не жадала падтрымліваць гэтае пустаслоўе. Адказвала аднаскладова, нехаця.

Перад кожным выгінам сцяжынкі Мігуля кляўся сабе, што скіруе размову на іхнія ўзаемаадносіны, што прапануе ціхамірна расстацца. Але кожны раз ганебна пасаваў і працягваў нязвязную балбатню. Ксеня цярпліва маўчала.

І вось перад новым паваротам сцяжынкі, калі Пятро ўжо зарокся сказаць падрыхтаванае, выпакутаванае за апошнія тыдні, — яна раптам спынілася і ачужэлым голасам вымавіла:

— Пеця, давай нарэшце скажам тое, што неабходна.

— А? — Пятро адчуў, як часта запульсавала ў скронях.

— Нам трэба расстацца, — прамовіла Ксеня і зірнула яму ў вочы непранікальным, сцюдзёным паглядам. — Дзякую табе за праведзены разам час. Усё было не так і дрэнна ў нашых адносінах. Але жыццё рушыць наперад. Ты разумееш…

— Што я разумею? Што ты хочаш сказаць? — у юначай разгубленасці, не пазнаючы сябе, пралепятаў Пятро.

— Мы з табой зусім розныя людзі… Гэта стала ясна даўно, — няўмольна доўжыла Шпачык. — Толькі мы па інерцыі працягвалі сябе мучыць. Карацей, усяму ёсць мяжа. Дзякуй табе яшчэ раз. — Яна паклала руку Пятру на плячо. — Не думай пра мяне дрэнна.

Мігуля быў ашаломлены. Ён адчуў мяккі дотык яе рукі на сваім плячы, міжволі зірнуў уніз на разрэз Ксенінай сукенкі, які адкрываў белізну яе тугога сцягна.

— Ты знайшла другога мужчыну… — сказаў Пятро, не зводзячы вачэй са спакуслівага сцягна. — Гэтага трэба было чакаць… Так? Ты пакахала другога... — мармытаў ён.

— Якое гэта цяпер мае значэнне? — спакойна глядзела на яго былая каханка. — Няўжо табе стане лягчэй ад таго? Давай лепш расстанемся падобраму. Рэчаў маіх у тваёй кватэры няма. Аб адным прашу, Пеця. Вярні мне альбом з нашымі сумеснымі фота… Вышлі па пошце. Не палічы за клопат…

— І ты можаш усё вось так проста абарваць? — ахрыплым голасам абурыўся Пятро. — Усе нашы спатканні, прызнанні, бурныя ночы, сняданкі, вячэры ў маёй кватэры — для цябе нічога не значаць?

— Не крычы. — Ксеня сціснула яго локаць. — Тут ходзяць людзі… Ты выдатна разумееў, што роля тваёй выляжанкі магла задавальняць мяне толькі да пэўнага часу. Мне дваццаць шосты год, Пеця. Я хачу быць жонкай і маці. Няўжо гэта табе няўцям?

— А хто табе сказаў, што я не збіраўся з табой ажаніцца? — прамовіў Пятро словы, пра якія паўгадзіны таму і падумаць не мог.

— Не ў гэтым справа, Пеця. — Ксеня, вабная як ніколі, пазірала на яго знізу ўверх; яна была больш чым на галаву ніжэйшая за яго. — Нават, калі б ты мне прапанаваў, я б не згадзілася. Мы абсалютна не падыходзім адно аднаму. Каб у гэтым упэўніцца, мне хапіла тых месяцаў, што мы былі разам. Прабач.

— І гэта ўсё, што ты мне маеш сказаць пасля двух гадоў сумеснай пасцелі? — не сунімаўся Мігуля. — Ну ты даеш…

— Не перажывай, такіх пасцеляў у цябе будзе досыць. У нашым жа выпадку прашу аб адным, Пеця: дашлі мне той фотаальбом. І павер, успамінаць цябе я буду з самай добрай душою. Бывай… — Яна павярнулася і стала аддаляцца па сцяжынцы ў бок праспекта.

«Вось як усё проста і подла ў жыцці», — думаў Пятро, пазіраючы ўслед былой палюбоўніцы. Так, цяпер ужо пэўна — былой. Як на злосць, ён не мог адарваць вачэй ад яе правільных плеч, ад налітых, падкрэсленых тугой сукенкай клубоў і зграбненькіх лытак. О, колькі разоў усім гэтым багаццем непадзельна валодаў Пятро! А зараз яно, такое ж спакуслівае, аддаляецца незваротна. Аддаляецца, каб стаць уласнасцю нейкага вульгарнага кабяля!

«Ну і чорт з ёю! — раптам ледзь не ўголас вылаяўся Пятро. — Яна сама пазбавіла мяне ад сябе!» — Ён размахнуўся нагой і выцяў бардзюр кветніка.

Што ж, цяпер ён свабодны і можа нарэшце заняцца ўладкаваннем асабістых спраў. А іменна жаніцца на Ніне. І халера з той Шпачык! Ніна ў сто разоў прыгажэйшая. Гэта ясна як дзень.

Дадому Пятро прыйшоў надзвычай узрушаны. Ён пазваніў бацькам, доўга размаўляў з маці, нагаварыў бацьку розных недарэчных, бязглуздых і нават дзёрзкіх слоў. Ён тэлефанаваў, таму што не мог заставацца адзін. І курыў несупынна, высмаліўшы за дзве гадзіны ці не цэлы пачак «Бонда». Нездаровае ўзбуджэнне, якое авалодвала ім, не праходзіла. І тады Пятро дастаў са схованкі запаветны нататнік, адшукаў у ім патрэбны тэлефон і пазваніў адной даўняй знаёмай. Нягледзячы на позні час, ён угаворваў яе прыехаць. Прасіў, маліў, утрапёна крычаў у трубку, запэўніваючы, што таксі ён аплаціць у абодва канцы. Нарэшце дзяўчына згадзілася, прыехала да Пятра. Яны моцна забавіліся і практычна не вылазілі з пасцелі да вечара наступнага дня. А тады выклікалі таксі, якое Пятро сапраўды аплаціў.

## 10

Пятніца загрузіла Сямёна Паўлавіча Мігулю, як кажуць, пад завязку. Мала таго, што на рабоце адбылася напружаная і тамлівая нарада, дзе вышэйшае начальства распякала ўсіх па поўнай праграме, дык яшчэ вечарам трэба

было ехаць на ўрачыстае пасяджэнне і канцэрт майстроў мастацтваў. А гэта абяцала заняць гадзіны чатыры, калі не больш.

Але гэтыя турботы мелі статус рабочых і звыклых. Не тое — асабістыя справы Мігулі-старэйшага. Яго асабліва непакоіла, як бы чаго не выкінуў, не адмачыў у выхадныя дні сын Пятро. Як бы, не дай бог, яго паводзіны адносна Ніны Сулеевай не скампраметавалі Сямёна Паўлавіча. Бацька не бачыў сына з серады, з той самай размовы за вячэрай, калі Пятро філасофстваваў наконт вартасцей Ніны. «Скамарох!» — злаваў бацька і адначасова маліў вышэйшыя сілы аб тым, каб усё прайшло гладка. Ён, па вялікім рахунку, ужо быў не рады, што змовіўся з Амарам Сулеевым ажаніць Пятра з Нінаю. Па шчырасці, пад чаркай ён быў тады, калі па руках з Амарам ударылі. У рэстаране тое было. Хмель падзейнічаў, безумоўна. Прыемная музыка, асобны кабінет на трэцім паверсе «Галілея»… А яшчэ падштурхнула на тую дамову непазбыўнае самалюбства — вечны насмешнік і вораг Сямёна Паўлавіча. Хацелася сыну будучыню забяспечыць — гэта так. Але ж, прызнаваўся сабе бацька, больш за сынаў лёс вабілі яго статус і грошы клана Сулеевых. Парадненне з імі аўтаматычна падвышала грамадскі статус самога Сямёна Паўлавіча. Чыноўнае месца заўсёды хісткае. Да таго ж — узрост, як ні круці. А з Сулеевымі і без пасаднага крэсла не прападзеш.

Эх, не падвёў бы Пятро, небеспадстаўна трывожыўся бацька. Хоць ты едзь да яго дадому і зноў давай інструктаж. Сёння ў час абеду, нягледзячы на занятасць, Сямён Паўлавіч так і хацеў зрабіць, выкраіў паўгадзінкі. Аднак, калі папярэдне пазваніў сыну на кватэру, той адказаў нейкім няўцямным — сонным, ці што — голасам, што не можа зараз бацьку прыняць, бо неадкладна бяжыць з дому па справах. І абарваў сувязь. Як потым Сямён Паўлавіч ні званіў, абураны і раззлаваны, і на хатні Сяргееў тэлефон, і на мабільнік — той трубкі не браў (бо якраз знаходзіўся ў пасцелі з сяброўкай).

А яшчэ напружвала Мігулю-старэйшага тое, што ў прамежку паміж нарадай у кіраўніцтва і канцэртам неабходна было наведаць Алену. Тую самую, ад якой у яго дачка пазашлюбная, Танечка. У блін разбіся, а заскоч да маладой палюбоўніцы, Сямён Паўлавіч. Так і пагнаў ён вадзіцеля ў далёкі кут горада, па пакручастых калдобістых вуліцах, на Ангарскую, дзе ў дзевяціпавярхоўцы, у двухпакаёвай кватэры, жылі Алена і яе маці. Дарэчы, маці, Валянціна Валер’еўна, трымалася з Сямёнам Паўлавічам нацягнута, падазрона. Пераважна маўчала, а часцей сыходзіла ў другі пакой, забіраючы з сабой Танечку. Калі ж «маладым» неабходна было адасобіцца, то Валянціна Валер’еўна проста з’язджала на колькі гадзін, часцей да брата ў Шабаны. Пры гэтым калі яна выходзіла з кватэры, на яе твары выяўляліся маўклівы дакор і пакорлівая неабходнасць несці свой крыж — што паробіш. Варта прызнаць, што пажылая жанчына, якую жанішок пакінуў цяжарнай, мела ўсе падставы не даваць дужаму полу; з таго часу яна з мужчынамі, найхутчэй, не зналася. Прынамсі, Алена кажа, што «новага тату» маці ніколі ёй не навязвала.

Алена вельмі хутка пасля нараджэння дачкі вярнулася на працу на сваё месца сакратаркі. Бо ўвесь цяжар нянькі-даглядчыцы ўзяла на сябе маці. Танечцы нядаўна споўнілася тры гады. Дзяўчынка часта хварэла, і Алена нярэдка сядзела на бальнічным, нягледзячы на тое, што Валянціна Валер’еўна была на пенсіі. Алена разам з маці выходжвала хваравітую дачушку. У Танінай хваравітасці Алена вінавацiла — праўда, толькі ў душы — не каго іншага, як Сямёна Паўлавіча. Лічыла, што яе дачка нездаровая таму, што бацька пажылы чалавек. Да сябе ж прэтэнзій Алена не прад’яўляла, хоць задуму нарадзіць ад Мігулі дзіця яна сама, што называецца, і вынасіла і ажыццявіла. Зацяжарала насуперак яго волі, падманам, а затым паставіла перад фактам

і нібы прывязала Сямёна Паўлавіча да сябе трывалай вяроўкаю. Алена, між іншым, прыгажуняю не была, і яшчэ невядома, як бы склаўся яе жаночы лёс, каб яна не завабіла ў свае цянёты Сямёна Паўлавіча. Калі яны пакахаліся, ёй ішоў дваццаць пяты год — узрост, які прымушае жанчыну спяшацца і часам прымаць неабачлівыя рашэнні. Магчыма, Сямён Паўлавіч — і не горшы варыянт для Алены, пэўна нават далёка не горшы, аднак маладзіца лічыла сябе няшчаснай, пакінутай, абдзеленай ды ўшчэмленай. Яна пастаянна папракала, прыдзіралася і мучыла свайго высокапастаўленага палюбоўніка, знаходзячы ў гэтым, відаць, пэўную асалоду.

Вось і сёння яна закаціла яму па тэлефоне істэрыку, запатрабавала да сябе звышзанятага чыноўніка і мерылася спагнаць на ім свой кепскі настрой. Алена сядзела на бюлетэні з прычыны чарговай прастуды Танечкі. Перад прыездам Мігулі яна выправіла маці да дзядзькі.

— Ну і чаго ты скандаліла, Лена? — Сямён Паўлавіч са строгім абліччам пераступіў парог яе кватэры. — Я ж сказаў, што заеду ў бліжэйшыя дні. А сёння — ну ніяк мне было. Пятнаццаць хвілін толькі выкраіў. І галодны.

— А то цябе тут не пакормяць ніколі, — звыкла пакрыўдзілася Алена, прапускаючы госця ў абутку, праз прыхожую, у светлую і прасторную залу.

Сямён Паўлавіч зняможана ўпаў у крэсла, расхінуў пінжак, расшпіліў верхні гузік кашулі, нервова апусціў гальштук.

— Ды не буду я есці ўжо. Няма калі. Там у перапынку паем. Што Таня? — паспяшаўся ён пацікавіцца сваёй пазашлюбнай дачкой.

— Спіць, дзякуй богу. Тэмпература ўпала. — Алена села на край канапы, насупраць Мігулі.

— А што ўрач гаварыў?

— Што ён можа сказаць! Прапісвае адно і тое ж. Нават толкам не паглядзеў Танечку… І бачна, што надакучыла яму выпісваць мне бюлетэні.

— А яму ўжо якая розніца? — Сямён Паўлавіч узяў газеціну з тэлевізійнай тумбачкі і абмахваўся ёю, як веерам. — Фу, ну і спякоцце пры канцы лета. Хто б мог падумаць. А такі быў ліпень дажджлівы…

— Я ўжо баюся, як бы мяне з работы не папрасілі. Начальнік бурчыць з-за бальнічных. Больш за тры дні не дазваляе адсутнічаць.

— Ды глупствы якія! Нічога ён не зробіць табе. А будзе выпендрывацца — з ім пагутараць яшчэ тыя таварышы. Хочаш, заўтра ж яму будзе званок?

— Не, не трэба мне гэтага. — Маладзіца выняла босую нагу з тапка і штосьці разглядвала на ступні. — На мяне і так коса глядзяць. Падазраю, што ўся фірма пра нашы адносіны ведае… Не трэба.

— Ну глядзі, Лянуля. Калі што, гавары… А ўвогуле, старайся не весці па мабільніку такія размовы, як сёння. Дый па тэлефоне. Я ж цябе папярэджваў.

— Ох, я зусім знервавалася з Таняй. Ты ж зразумей… — Алена саслізнула з канапы і шмыгнула Сямёну Паўлавічу на калені, абняла за шыю. — Сёмік, чаму ты так рэдка ў нас стаў бываць?..

— Харошая мая, ды не забывайся ж ты пра маю сітуацыю, — гаварыў Мігуля, цалуючы каханку ў пухлую шчочку; адной рукой ён пагладжваў месца, ніжэйшае ад спіны. — У выхадныя, абяцаць не магу, але на паўдня вырвацца пастараюся. Хутчэй у суботу. Бо ў нядзелю адзін бізнесмен запрасіў, даўні таварыш. Нельга адмовіцца…

— Не ведаю нават, што з Таняй рабіць, — шаптала яму на вуха каханка. — Ты б падшукаў якога ўрача для нашай дачкі, са свяцілаў. — Яна зрабіла націск на слове «нашай». — Гэта ж нейкая ненармальнасць — кожныя тры тыдні хварэе.

— Зробім, Лянулечка, зробім, — гаварыў разамлелы ў яе абдоймах Сямён Паўлавіч.

Але часу на сур’ёзныя мілаванні не было, таму праз колькі хвілін Мігуля ўжо зашпільваў у вітальні пінжак і кашулю, прычэсваўся. Спырснуўся адэкалонам, які па-гаспадарску трымаў тут на паліцы перад люстэркам.

— Дык што, нават на Таню не паглядзіш? — папікнула Алена, любоўна апраўляючы полы ягонага пінжака.

— А можна, не разбуджу?.. — няўпэўнена прамовіў Сямён Паўлавіч.

— Ат, ладна. А то і праўда разбудзіш. Ідзі, — згадзілася гаспадыня. — Хаця пачакай, Сём! Туфлі твае… — Яна схапіла з абутковай паліцы шчотку, укленчыла і мігам вычысціла запылены Мігулеў абутак. — Ты ж у нас дзяржаўны чалавек усё-ткі.

— Дзякуй, мая харошая. — Сямён Паўлавіч узяў яе за галаву аберуч, нахіліўся і пацалаваў у лоб, амаль па-бацькоўску.

— Дык у суботу чакаю, — нагадала яму каханка ўжо на лесвічнай клетцы.

— Абавязкова! — Сямён Паўлавіч шуснуў у дзверы ліфта, што адчыніліся, націснуў кнопку. Не марудзячы дастаў мабільнік, прашчоўкаў набор, дачакаўся адказу і выгукнуў: — Сашка, заводзь.

…Прывычна адкінуўшыся на заднім сядзенні службовага аўто, ён імчаўся ў цэнтр горада. Штосьці — ужо, дарэчы, не ўпершыню — ціснула ў грудзях, злева. Гэта быў трывожны сімптом. «Духата праклятая. Трэба купіць валідолу», — падумаў Сямён Паўлавіч, які ніколі ў жыцці не хварэў.

## Леапард

Я адчуў гэта на лесвіцы, у пад’ездзе аднаго з дамоў горада, па вуліцах якога каторы месяц блукаў маркотліва і бяздзейна. Гэта не быў ні рык, ні тупат яго магутнага цела. Гэта не быў рэзкі драпежны пах і не вокрык Гаспадара. Мне проста стала ніякавата каля дзвярэй на трэцім паверсе. Звычайныя дзверы, абабітыя цёмным дэрмацінам з незвычайнымі, зрэшты, лічбамі «33». Можа, думаецца цягам часу, менавіта лічбы мяне насцярожылі. Можа, у сілу сваёй забабоннасці і вечнай нервовай напругі, я выдумаў усё тое, што чакала мяне пазней там, за дзвярыма. Не ведаю. А каб ведаў, усё адно не падзяліўся б ні з кім.

Я пастукаўся асцярожна: тут-тук. Хаця можна было званіць. Ніякіх варушэнняў і сцішаных крокаў не пранікала праз тоўшчу дзвярэй. Але ж я чакаў рэшту хмарнага асенняга дня, і таксама наступныя колькі дзён. Я прыходзіў зранку, безвынікова стукаўся, затым званіў адным кароткім сігналам, націскаючы кнопку над лічбамі «33». Калі шорхалі нейчыя ногі па сцёртых прыступках, я адлятаў ад дзвярэй і рабіў выгляд, што прыкурваю, або завязваю шнуркі, або здымаў і засяроджана разглядаў свой капялюш. Я не падымаў вачэй і не бачыў, хто рушыў паўз мяне ўніз і наверх. То былі самыя розныя грамадзяне: дзеці, старыя, моладзь і закаханыя. Нехта вадзіў паўз мяне вялізную псіну, яна азірала і абнюхвала мяне з зацятай нянавісцю. Раз нехта спытаў у мяне, што мне тут трэба? Я нешта няўцямна прабурчаў у адказ і рынуўся ўніз. А затым, калі чалавек рушыў сваёй дарогай, я вярнуся да дзвярэй пад нумарам 33.

Я працягваў чакаць. І неяк сцюдзёным вечарам, калі ў пад’езд прабівалася святло ад першага снегу, мне адчынілі. Дакладней, дзверы проста падаліся ад лёгкага націску маёй галавы, калі я чарговы раз прыклаў да іх вуха.

— Можна да вас? — з хваляваннем запытаўся я, пакуль яшчэ не ўваходзячы.

Ціша была мне адказам.

Уваходзіць ці не? Што чакае мяне ў гэтай таямнічай кватэры? А можа, пакуль не позна, адмовіцца ад свайго рызыкоўнага намеру? Але як жыць, як паважаць, як цярпець сябе пасля гэтага?

Я пераступіў парог і аказаўся ў цьмянай вітальні. Зрэшты, з аднаго пакоя, праз прачыненыя дзверы, выцякала святло: зеленаватае, з аранжавым адценнем, няпэўнае.

Сцярожка ступаючы, я пайшоў на святло. Страшэнна баяўся на нешта наступіць, спатыкнуцца і ўзлаваць строгага Гаспадара. Ён сам аклікнуў мяне, калі я ўжо ўзяўся за металічную круглую ручку на дзвярах.

— Не рыпі, ты патрывожыш яго, — прагучаў старэчы нямоглы голас. — Пасоўвайся паволі. І здымі свае дубовыя чаравікі.

Я паслухаўся, далікатна пасунуў дзверы наперад, зняў важкія чаравікі і, трымаючы іх у руках, баязліва ступіў у пакой.

Змрочна. Начным таршэрам асвятлялася толькі канапа, на якой, падкурчыўшы і загарнуўшы ў плед ногі, сядзеў сам Гаспадар. Шторы акна шчыльна завешаны.

— Як ты нас адшукаў? — спытаўся стары і, кіўнуўшы галавой, прапанаваў мне сесці на кілім, што быў разасланы перад канапай.

Я паставіў чаравікі на халодныя дошкі падлогі і ўладкаваўся на кіліме, як загадаў Гаспадар.

— Я абышоў усе дзверы горада, — адказваў я на яго пытанне, — і нідзе вас не было. Засталіся адны, толькі адны дзверы…

— І ты падумаў, што нас не магло за імі не быць… Чаму? — крактануў голас.

— Таму што вы ёсць, — адказваў я так, нібы нехта насуперак маёй волі варочаў маім языком.

— Добра, мы ёсць. І што з таго? — дапытваўся Гаспадар, зябка расціраючы рукамі ногі пад пледам. — Каму мы перашкаджаем? І каму да нас справа?

— У горадзе нельга трымаць леапардаў, — нагадаў я. — Усё гэта можа трагічна закончыцца.

— Для каго?

— Для людзей, якія ходзяць пад вашым балконам.

— Ты так дбаеш пра іх? — вяла ўсміхнуўся стары.

Толькі зараз я змеціў, якая доўгая і густая ў яго барада; яна звешвалася на плед і дасягала каленяў.

— Мне шкада людзей. Але яшчэ больш шкада леапарда. Навошта вы мучыце жывёлу, спадар? Кожнаму месца ў сваім свеце. Людзям — у свеце людзей. Леапарду — сярод жывёл. Акрамя таго, цяпер зіма, яму дрэнна ў нашым сцюдзёным клімаце.

— Яму добра. Пакуль што добра, сынок… — прашамкаў стары. — Іначай бы ты чуў яго рык, яго неспакойнае тупатанне. Леапард спіць, зарыўшыся ў кучу кляновага лісця, якое я нацягаў яму з восені.

— Але ж ён захоча есці, прачнецца… Чакайце, — спахапіўся я, — а балкон у вас не зашклёны?

— Не. А што?

— А ён у вас не прывязаны?

— Не.

— І вы так спакойна пакідаеце яго на трэцім паверсе! — спалохаўся я. — Божа мой! Вы ненармальны. Вы псіх.

— Магчыма. Але леапард спіць, і нішто не ў сілах яго разбудзіць раней часу.

— А я магу хаця б на яго паглядзець? — нечакана папрасіў я пасля некаторай паўзы. Так, я не чакаў ад сябе такой дзёрзкасці.

— Ты думаеш, я маню? — зажмурыўся Гаспадар.

— Наадварот, упэўнены, што гэта не так. Але ж мне цікава…

— Набярыся цярпення, сынок. Зараз ты ўсё адно нічога не ўбачыш, акрамя кучы пашэрхлага лісця ў левым куце балкона. Да таго ж лісце зацерушыў снег.

— Але я б пабачыў, як лісце варушыцца ад яго ўздыхаў…

— Не, і гэтага табе не заўважыць. Ён дыхае ціха, і сон яго нагадвае смерць.

— Хм… а вы ўпэўнены, што ён яшчэ жывы? — насцярожыўся я.

— Упэўнены.

— Чаму?

— Я доўга жыву, чалавеча, і навучыўся чуць не толькі вушамі. Да таго ж леапарда нельга не адчуваць. Ты яго ўчуў нават праз тоўшчу дзвярэй, праз нерухомае паветра пакоя і прыхожай. Ці не так?

Я збянтэжыўся. Бо гэта сапраўды было так.

— Набярыся цярпення, сынок, — паўтарыў Гаспадар. — І прыходзь пасля таго, як снег тройчы растане, а той, што выпадзе, схопіцца моцнымі маразамі.

— Калі гэта будзе? — прашаптаў я.

— Пераканаяны, яшчэ да Новага года. Ідзі. Мне трэба паліць печку і спаць.

— У вас у кватэры печка?

— Ідзі. — Стары прагаварыў настойліва, з раздражненнем.

Калі я выходзіў, то абярнуўся і ўбачыў, што ён не глядзіць мне ўслед. Ён наогул нікуды не глядзеў, павекі былі апушчаны. Грудзі не ўздымаліся. Так прынамсі мне падалося. Не развітваючыся, я ціхутка прычыніў дзверы, прайшоў праз доўгі цёмны калідор, намацаў баранок замка.

Я быў невыказна рады, што апынуўся спярша на лесвіцы, а затым на двары.

Наіўны, я зарокся больш сюды не вяртацца.

## 11

Надышла нядзеля, а гэта азначала, што Пятру Мігулю прыйдзецца ехаць да Сулеевых. Амар Рашыдавіч ладзіў званы прыём з нагоды вяртання яго сям'і з адпачынку. З панядзелка пачынаецца вучэбны год, а Ніна была студэнткай эканамічнага ўніверсітэта, трэцякурсніца.

У суботу спадар Сулееў асабіста патэлефанаваў Пятру і запрасіў яго к пяці вечара ў свой асабняк, што знаходзіўся на Цнянскім вадасховішчы. Амар Рашыдавіч, надзвычай ветлівы і гасцінны, прапанаваў прыслаць за Пятром машыну, але той адмовіўся.

У той жа дзень бацька, Сямён Паўлавіч, дазваніўся да Пятра і прапанаваў яму, каб той ехаў разам з ім. І зноў хлопец адмовіўся, адно падрабязна распытаў у бацькі месцазнаходжанне Сулеевага асабняка. Сямён Паўлавіч застаўся незадаволены сынавым настроем, хацеў быў даць яму настаўленні і рэкамендацыі, ды перадумаў, рашыўшы — чаму быць, таго не мінуць.

Але не далей як у нядзелю, у дзевяць трыццаць раніцы, калі малодшы Мігуля дрыхнуў непрабудным сном, бацька пачаў атакаваць яго званкамі. Спярша на мабільны, а затым — на гаманкі, прарэзлівы апарат, што стаяў у зале. Пятро, злы і разбэрсаны са сну, дацёгся да незмаўкальнага тэлефона і, пачуўшы бацькаў трывожны голас, сарваўся і пасварыўся са старым за яго бязглузды ранні званок. Сямён Паўлавіч усяго ж толькі хацеў нагадаць, каб сын, адпраўляючыся да Сулеевых, не забыўся купіць вялізны букет дарагіх кветак — Ніне. Пачуўшы пра кветкі, сын зусім раз'ятрыўся і пракрычаў:

— Ты што, з мяне ідыёта хочаш зрабіць?! Як я буду выглядаць з гэтым вульгарным букетам у чужым доме! Я табе не паўлін!

— Ды чаго ты псіхуеш, сынок… — збянтэжыўся бацька. — Ніне, наадварот, будзе прыемна…

— І наогул, — загарлапаніў Пятро, адчуўшы бацькаву разгубленасць, — яшчэ нічога не вырашана! Чуеш: ні-чо-га! Жаніха ён з мяне зладзіў… — І з асалодаю кінуў трубку, прадчуваючы, як усхвалююць бацьку яго апошнія словы.

«Хай цяпер увесь дзень локці кусае!» — злосна ўхмыльнуўся Пятро; ускудлачаны, у сямейных трусах ён тырчаў пасярод залы.

Раздаўся званок. Гэта, канешне ж, Сямён Паўлавіч.

Пятро, не зважаючы на тэлефон, які несупынна трэнькаў, пайшоў у ванную, залез пад душ і заспяваў благім голасам апошні шлягер гурту «Карані».

Да вечара бацька яшчэ колькі разоў спрабаваў звязацца з сынам. Але Пятро паставіў мабільнік на рэжым аўтаадказчыка і на бацькавы званкі не зважаў.

Тым не менш а палове чацвёртай Пятро быў фарсіста апрануты, бездакорна паголены і наадэкалонены. Наўмысна не абедаў, каб захаваць воўчы апетыт на сулееўскае застолле.

Мігуля наважыўся ўзяць таксі, але не адразу. Спачатку ён выйшаў і хвілін сорак бязмэтна шпацыраваў па вуліцах і скверах цэнтра горада. Хаця якаянiякая мэта была — у чарговы раз разабрацца з сабой, сцяць думкі ў кропку, а волю ў кулак і выпрацаваць план далейшых паводзінаў.

Перад выхадам з дому Пятро залез у Інтэрнэт і паглядзеў прагноз надвор'я. Спякота крыху спадзе, але і дажджу не прадбачылася. Гэта цудоўна. Таму хлопец выйшаў улегцы: кашуля, штаны, летнія туфлі, без парасона, без валізы ды іншага. Адзінае, што ляжала ў нагруднай кішэні кашулі, — важкі партманет.

Вось аб чым думаў на прагулцы Пятро, вось што яго турбавала. Яшчэ ўчора вечарам ён адчуў незразумелую трывогу. Яна падпільнавала яго ў ванне, дзе ён па звычцы бяздзейна валяўся перад тым, як перабрацца да тэлевізара. Здавалася б, пасля доўгачаканага развітання са Шпачык, пасля цэлых сутак, праведзеных у абдоймах новай старой прыяцелькі, ён павінен быў пачувацца бадзёра і здарова. Так, у прынцыпе, і было ўсю суботу, да вечара. Пятро доўга спаў, многа гуляў па горадзе, зазнаўшы пры тым бяздумную лёгкасць, свабоду. Яго абсалютна не турбавала тое, што можа адбыцца ў асабняку Сулеевых, куды ён быў асабіста запрошаны. Усё пройдзе як мае быць, гэта ён ведаў.

У суботу Пятро паабедаў у недарагім рэстаране, вярнуўся дамоў, пасядзеў з гадзіну ў Інтэрнэце, а тады забраўся ў ванну з газецінай. Газету ён, праўда, не чытаў, а крыху драмануў у духмянай пене. І вось, па абуджэнні ў гэтай лагоднай цёплай ваце, ён адчуў нейкі неўсвядомлены верад. Стала настолькі няёмка і няўтульна, што Пятро напачатку падумаў, быццам справа ў астылай вадзе. Ён крутануў гарачы кран, целу пацяплела, але трывога не аціхала. Ён вылез, похапкам выцерся і ў адных трусах, з доўгім ручніком на плячы стаў хадзіць па кватэры. Закурыў. Выйшаў на балкон. Цёплае вечаровае паветра. Нізкае сонца барвяніць верхні паверх вышыннага дома насупраць. Унізе ціха. Ніхто не крычыць, не лаецца, не дурэе. Нават машыны на вуліцы, што справа за дрэвамі, не асабліва шумяць, не клаксоняць… І тым не менш Пятро пачуваўся так, быццам сусед уключыў электрадрыль і мерна, гадзіну за гадзінай, цвяліў яго нервы. Мігуля памераў пульс — каля сямідзесяці ўдараў за хвіліну, нармальна.

Неадольна пацягнула з кімсьці пагаманіць. Але з кім? Бацька пачне настаўляць яго наконт заўтрашняга дня. Абрыдзела. Маці завядзе заўсёдную катрынку пра Бога, праваслаўе, грэх і мараль. Зусім яна апошнім часам здала, пасівела, счаўрэла, нябесным цікавіцца. Такія тэмы адно маркоту могуць нагнаць. Пазваніць сяброўцы, з якой куляўся ўчора і пазаўчора? Не, няма пра што з ёй размаўляць. За суткі ў пасцелі ўсё ўжо гаворана-перагаворана. Голасу чуць яе не хочацца. Хм… І вось тады Пятро рашуча набраў нумар Сяргея Страмца — з намерам ехаць да прыяцеля і сядзець, калі выйдзе, хоць бы да

самай раніцы. Аднак не выйшла, бо і хатні, і мабільны Страмцовы тэлефоны маўчалі. Прычым мабільнік быў па-за зонай прыёму або адключаны. Мігуля ўсю наступную гадзіну паўтараў свае нецярплівыя званкі. Безвынікова.

Ён заснуў вельмі позна, адолеўшы бяссонне толькі дзвюма таблеткамі тазепаму. Таму бацька, які званіў а дзесятай гадзіне раніцы, доўга не мог яго дабудзіцца і ў выніку нарваўся на лаянку.

Першая палова нядзелі прайшла ў Пятра больш-менш спакойна. Ці то снатворнае пагасіла нервовасць, ці то проста святло пагоднага дня падзейнічала — Пятро ўчарашняга вераду доўга не адчуваў. Але па меры таго, як набліжаўся вечар, трывога зноў пачала абуджацца, імкліва расла і пагражала набыць ранейшую, калі не большую моц.

Пятро меркаваў прыглушыць яе жвавай хадой, для чаго выбраўся з дома загадзя і з паўгадзіны шпацыраваў, безупынку смалячы цыгарэты. Калі гэта і дапамагло, то вельмі нязначна. А таму, падкаціўшы на таксоўцы да чарады катэджаў на Цнянскім вадасховішчы, Мігуля быў досыць узрушаны і ўсур'ёз апасаўся за адэкватнасць сваіх далейшых паводзінаў.

Асабняк Амара Сулеева доўга шукаць не давялося: ён, як і ўказваў бацька, мясціўся, бадай, на самым высокім пагорку берагавой паласы, выгадна вылучаўся сярод бліжэйшых дамоў архітэктурай, памерамі і яскраваю афарбоўкай. У архітэктуры выразна праглядаўся ўсходні каларыт. Але ж цалкам ацаніць асабняк Пятро змог, толькі пранікшы за браму.

Пранікнуць за браму, праўда, удалося не з лёту. Стрымана-ветлівы вартаўнік у камуфляжнай форме прапанаваў Мігулю здаць усе металічныя прадметы і прайсці праз металадэтэктар, падобны на тыя, што стаяць у аэрапортах. Пятро пакорпаўся ў кішэнях, вывудзіў запальніцу, уручыў яе вартаўніку і паспяхова прайшоў кантроль. Затым давялося назваць сваё імя, прозвішча; вартаўнік пазваніў па селектары і перадаў трубку Пятру.

— А, гэта ты, мой дарагі, праходзь, хутчэй праходзь, чакаем! — пачуўся ў слухаўцы развязны, настолькі ж ветлівы, наколькі фальшывы голас самога Амара Сулеева.

— Добры дзень… — прамармытаў Пятро.

Вартаўнік ужо націснуў патаемную кнопку, і ацынкаваныя дзверы з дзяжуркі на двор адчыніліся без найменшага шуму.

Хлопец апынуўся ў агромністым двары, утвораным самім домам, што ахінаў яго літарай «п». Трохпавярховы груваcткі фасад і два аднапавярховыя рукавы ад яго. Дах нізкі, усходняй формы. Вокны вузкія, высокія, бясстворкавыя. Панадворак спаласаваны бардзюрыстымі сцяжынамі, засаджаны газонам і кветнікамі. Пасярод высіўся фантан у выглядзе статуі голага атлета — вада струменіла з выцягнутых угору атлетавых рук. Адразу каля ўвахода, праваруч, знаходзілася адгароджаная пляцоўка, дзе за металічнай сеткай сноўдала некалькі застрашлівага выгляду сабак. Леваруч жа, уздоўж крыла дома, праходжваліся тры здаравенныя дзецюкі, апранутыя ў прыстойныя касцюмы. Яны раз-пораз падносілі да шчакі цёмныя прамакутнікі з антэнамі і перамаўляліся. Іх чэпкія вочы сачылі за кожным Пятровым крокам.

Зрэшты, пражываючы тры тыдні на браслаўскай дачы Сулеева, Мігуля прывык да нечага падобнага. Там пастаянна шнарылі гаспадаровы людзі, сачылі за парадкам. З Нінай наогул немагчыма было адасобіцца, каб нейкі «цень» не тырчаў у радыусе трыццаці метраў. Пятро нават не ўпэўнены, ці засталося для Амара Рашыдавіча тайнай тое, што ў мінулую пятніцу ён цалаваўся з Нінай. Найхутчэй не. Ну ды чорт яго вазьмі.

Перад уваходам у дом, на шырачэзным нізкім ганку, абгароджаным біламі, таўклося багата народу. Рушачы ў гэтым кірунку, Пятро намагаўся згле-

дзець хоць адну знаёмую фізіяномію. Ён не тое што апасаўся, а быў перакананы, што будзе тут пачувацца няёмка, што не будзе ведаць, чым сябе заняць і да каго прыткнуцца. Бо нічога агульнага з запрошанымі спадарамі ў яго не было і быць не магло. Не тырчаць жа ўвесь вечар каля бацькі, як цуцык… Хаця не, на выручку яму, як і заўсёды, прыйдзе прыродная здольнасць знаходзіць паразуменне з жанчынамі. Гэта выручала яго на Браславе, калі ён цэлымі днямі аціраўся каля Ніны і яе трох сяброўак і ўмудраўся ўхіляцца ад размоў з Амарам Рашыдавічам. Дарэчы, спадар Сулееў, як чалавек дзелавы, паяўляўся ў Браславе толькі наездамі. Як і сын яго, Валерый, які — адчувалася — знелюбіў Мігулю адразу. Вось ужо каго пабойваўся і стараўся ўсяляк унікаць Пятро.

Між іншым, каржакаватую постаць Валерыя Пятро згледзеў ці не першай са знаёмых людзей. Ён, пастрэльваючы калючымі позіркамі па баках, гаманіў з трыма хлопцамі ў чорных пінжаках. Сам жа Валерый быў у светла-шэрым летнім касцюме. Чарнявы, невысокі, дужы, схільны з гадамі да паўнаты, ён быў вельмі падобны на свайго бацьку. Не ў прыклад Ніне, у ім было больш усходняга, чым славянскага. Шырокі скуласты твар і вузкія вочы асабліва падкрэслівалі гэта. Пятро скурай адчуў у Валерыю непрыяцеля, калі той наведваўся ў Браслаў. Малодшы Сулееў і пагатоў не хацеў мець ніякіх адносін з Пятром, ставіўся да яго з непрыхаванай пагардай, у лепшым выпадку — пры вітанні-развітанні — удастойваў кіўком галавы. Зараз жа ён, яўна заўважыўшы Пятра, абыякава адвярнуўся.

— Дарагі ты мой! — раптам вынырнула з натоўпу бочкападобная круглатварая фігура Амара Рашыдавіча; гаспадар асабняка з дзіўным для сваёй камплекцыі спрытам падскочыў да хлопца, схапіў таго за руку, прыцягнуў да сябе і тройчы, па сваім усходнім звычаі, прыклаўся шчакой да шчакі.

Румяны, нізкарослы, напалову пляшывы, з вузкімі хітрымі вочкамі, Амар Рашыдавіч заўсёды выклікаў у Пятра надзвычай супярэчлівыя пачуцці. З аднаго боку, ён быў сама гасціннасць і дабрадушнасць, а з другога — Пятро адчуваў, што не прывядзі божа стаць яму ўпоперак дарогі. Раздушыць і не мігне. Пятро спадару Сулееву не давяраў. Ён падазраваў, што гэтыя пачуцці ўзаемныя, нягледзячы на тое, што той заўсёды паляпваў яго па плячы, паблажліва ўсміхаўся і звяртаўся не інакш, як «Мой дарагі!» Аднойчы падумалася, што Амар Сулееў гэтак жа — «Мой дарагі!» — звяртаўся б да свайго барана, якога б потым накрышыў у плоў без усякай шкадобы.

Але гэта быў суб'ектыў і таемныя разважанні. Напаказ жа Пятро імгненна зляпіў найветлівейшую ўсмешку, якая так і застыла на яго твары на час, пакуль Амар Рашыдавіч, несупынна балбочучы, ці не за ручку вёў яго ў дом, у залу на першым паверсе, дзе ўжо быў накрыты шведскі стол.

Сноўдалі афіцыянты і ўсялякія служкі. Было многа кветак: дарагіх, у вазах, кошыках, вазонах — паўсюль. У тон ім пярэсцілі дамы сваімі квяцістымі, строгімі, бліскучымі, самымі рознымі ўборамі. Каля жанчын увіхаліся мужчыны рознага ўзросту. І амаль усе яны не былі знаёмыя Пятру Мігулю. Але ж, ледзь толькі ён апынуўся тут, як чуццём вопытнага лавеласа, нібы ўштукаваным у мозг лакатарам, вызначыў месца, ад якога ідзе адмысловы зарад. Ён кінуў туды косы позірк, не адварочваючы галавы ад Амара Рашыдавіча, і ўбачыў Ніну. Яна стаяла ў далёкім правым куце, каля століка з напіткамі, у атачэнні дзяўчат. І адразу, са звярынай упэўненасцю, несумненна і неабвержна адкрылася Мігулю адно: сярод дзесяткаў салідных і багатых мужчын, што знаходзіліся ў зале, цікавіць гэтую прыгажуню, гэтую дачку фінансавага магната толькі сціплая персона Пятра Сямёнавіча Мігулі. Вядома ж, пацалункі на сцяжыне пад хвоямі, што дазволіў сабе Пятро ў мінулую

пятніцу, прынеслі свой плён. Ад усведамлення гэтага факта Мігулю, што набліжаўся з гаваркім Сулеевым да Ніны, стала ніякавата. З аднаго боку, ён зазнаў прывычны сверб старога залётніка, заваёўніка жаночых сэрцаў. А з другога, з'явілася і мацнела нязводнае пачуццё, што Амар Сулееў, такі ўсмешліва-ветлівы, на самай справе валачэ яго цупкай рукою ў вязніцу, выйсця з якой не будзе да скону.

Вось перарэзаў ім шлях, выскачыўшы з купкі гасцей, Пятроў бацька. Неяк прыніжана парукаўся з сынам, сказаў пару фраз, якія Пятро прапусціў міма вушэй. А затым усё змяшалася ў карагодзе пачуццяў, уражанняў, сустрэч і знаёмстваў на гэтай дзівоснай вечарыне, праведзенай у такім пашанотным доме, куды хлопец яшчэ месяц таму і не спадзяваўся ўвайсці.

**12**

Пятро, хоць па завядзёнцы амаль нічога не піў, мала чаго запомніў канкрэтнага з гэтага вечара. Яго знаёмілі і змушалі размаўляць з такой колькасцю людзей, што самы раз было ўносіць імёны ў свой электронны нататнік. Людзі ўсё былі важныя, дзелавыя, высокапастаўленыя, шмат сулееўскіх родзічаў, а Пятро тут жа забываўся, як іх завуць, збіваўся, блытаўся і пры любой зручнай магчымасці адыходзіўся.

З непрыемнага запомнілася тое, як Амар Рашыдавіч прыцягнуў яго да купкі жанчын, дзе стаяла Нэля — нявестка, жонка яго бясцэннага сына Валерыя. Пятро быў знаёмы з ёй па Браслаўскіх азёрах, яна пражыла на дачы дзён дзесяць і, калі муж адсутнічаў, упарта заляцалася да Пятра. Ну, прынамсі, какетнічала з нуды па звычцы заўзятай месаліны. Нэля была прынята ў сямейства Сулеевых чатыры гады таму, калі Валерыю было дваццаць два. Узята як вядомая фотамадэль, як дарагі і прэстыжны экзэмпляр для выконвання пэўных функцый. Цяжка сказаць, на што, апроч грошай, разлічвала Нэля, калі ўлівалася ў сям'ю Сулеевых. Але ж у адным яна памылілася істотна: яе тут жа запрэглі выконваць свае непасрэдныя, прыродныя функцыі — насіць і нараджаць шмат дзяцей, прадаўжальнікаў гэтага слаўнага роду. Таму з зоркі салонаў і подыумаў прыйшлося перайсці ў разрад цяжарніцы, парадзіхі і нянькі. Нэля нарадзіла аднаго за адным траіх дзяцей, і гэта моцна сапсавала яе фігуру, раней такую вытанчаную, бездакорную.

Яна была высокая, ростам амаль з Пятра — недзе метр восемдзесят пяць. Колісь, што было бачна па фотаздымках, якія Нэля любіла паказваць, — вельмі стройная, худая, з далікатнымі формамі. Цяпер жа, пасля тамлівых родаў, таз яе непрыгожа расшырыўся, ягадзіцы папаўнелі і абвіслі, на клубах назапасіўся тлушч, яны сталі друзлымі. Змяніліся і грудзі, перасталі быць тугімі і пругкімі. Твар, праўда, застаўся худым. Але ўсмешка, якая нязменна панавала на ім, выглядала ненатуральна, лялечна, што ўзмацнялася празмернай касметыкай — усялякімі фарбамі ды пудрай.

І пры ўсім тым яна нястомна маладзілася, старалася выглядаць прыгажэй і сексуальней, чым ёсць, пры любой магчымасці выпрабоўвала свае чары на мужчынах.

Побач з мужам Валерыем Нэля глядзелася надзвычай негарманічна, была вышэйшая за яго сантыметраў на пятнаццаць, а на абцасах — на цэлую галаву. Але адчувалася, што муж не толькі не саромеецца, што ён на многа ніжэйшы за жонку, а, наадварот, ганарыцца, што яна ў яго такая высокая, прыгожая. Пятро падазраваў, што Валерый у сямейным жыцці тыран. Аднойчы на дачы, выйшаўшы ноччу на галерэю перакурыць, ён чуў яго павышаны, скандальны голас, што даносіўся з боку спальні. Выразна пачуўся пляскач, глухія

ўдары, нешта важкае кудысьці ўпала… На наступны дзень, яшчэ да сняданку, Валерый пакаціў у Мінск, а Нэля цэлы дзень не выходзіла са сваёй спальні. Гаспадары гэта растлумачылі яе недамаганнем. Праўда, праз дзень яна паявілася і была, як заўсёды, ненатуральна вясёлая, без яўных слядоў пабояў. І нават напорысцей, чым раней, заляцалася да Пятра. Гэтыя прыставанні былі яму тым больш непрыемныя, што не ўкрываліся ад пільных вачэй Ніны, якая хмурылася, дзьмулася на Пятра, быццам ён у чым вінаваты.

Карацей, толькі пазнаёміўшыся з гэтай сямейкай, стала ясна, што трэба быць гатовым да ўсялякіх правакацый і сцэн. Мець слых на семярых. Трымаць сябе ў жорсткай аброці. І ўжо напэўна — не натурыцца, не злаваць Валерыя, чалавека з крутым характарам, другога па значнасці ў гэтай сям'і, які да таго ж паставіўся з падазрэннем да прышлага чалавека — Пятра Мігулі.

…Пасля ўступнай прамовы Амара Сулеева, дзе ён даволі блытана дзякаваў шаноўным гасцям за тое, што наведалі яго дом, зайграў аркестр, які знаходзіўся на невысокай пляцоўцы ў куце залы. Іgraлася лёгкая, ненавязлівая музыка, без спеваў. Гаспадар запрасіў гасцей частавацца стравамі, шчодра расстаўленымі на прамакутных сталах і круглых століках. Усе з вялікім задавальненнем і апетытам пачалі есці. Пятро Мігуля, які прывык харчавацца адзін, пастараўся як мага хутчэй наталіць голад і не мітусіцца перад людзьмі з талеркамі і набітым ежай ротам. Бо тут, як на любым свецкім раўце, было заведзена, жуючы, збівацца ў гурты і весці няспешныя, манерыстыя размовы.

Пятро, тым не менш, добра перакусіў, выпіў паўфужэра сухога віна і падаўся да Ніны, з якой дагэтуль адно абмяняўся адпаведнымі сітуацыі позіркамі. Каля Ніны стаялі тры дзяўчыны. Гэта палегчыла падыход, і Пятро імгненна завёў з імі настолькі ж вясёлую, наколькі пустую гаворку.

Далей, помніцца, да яго падышоў Сямён Паўлавіч — немаведама для чаго. Разамлелы ад гарачыні, выпітага віна, у расшпіленым касцюме, бацька панёс нейкую лухту, выглядаў недарэчна і змушана сярод маладых. Пятру прыйшлося праявіць немалую вытрымку, перш чым Сямёна Паўлавіча нехта аклікнуў і той адышоўся.

Потым танцавалі. Закусвалі. Гаманілі. Зноў танцавалі. Зразумела, што Пятро браў сабе ў пару выключна Ніну Сулееву. Прычым заўважыў, што ніхто іншы не наважваецца яе запрасіць. Гэта выглядала на нейкую змову, нібы ўсе прысутныя ведалі, хто такі ёсць Пятро Мігуля для сямейства Сулеевых. А можа, гэта проста здалося Пятру, узбуджанаму віном, музыкай і акаляючым тлумам. Аднак тое, што Ніна ў той вечар больш ні з кім не танцавала, — факт. Гэта і цешыла і насцярожвала хлопца.

Пачуцці яго падзяліліся на дзве супрацьлеглыя катэгорыі — так бы мовіць, цэнтрабежныя і цэнтраімклівыя. Першыя неадольна цягнулі яго да Ніны, змушалі шчыльней, як толькі дазвалялі межы прыстойнасці, танцуючы прыціскацца да яе крамянага цела, сыпаць кампліментамі і пошласцямі, якія, зрэшты, выклікалі на твары яго абранніцы румянец задавальнення. Другія пачуцці прытрымлівалі першыя, яны не дазвалялі ні на хвіліну забыцца, чыю дачку трымае Пятро Мігуля ў абдымках; яны нашэптвалі, што бясплатнага сыру ў мышалоўку не пакладуць, што пакарыстацца дзявочымі вабнотамі проста так яму ніхто на гэты раз не дазволіць.

І тым не менш Пятро ўвесь вечар шукаў магчымасці адасобіцца з Нінаю. Гэта не ўдавалася добрыя дзве гадзіны. Каля іх пастаянна круціўся нехта трэці, чацвёрты, пяты. Нехта кудысьці запрашаў, нехта аклікаў, нехта прапаноўваў з ім выпіць. Перад тварам снавалі афіцыянты. Мільгала ўсюдыісная лысіна гаспадара. А галоўнае, Пятро часцяком лавіў на сабе чэпкія, нядобрыя позіркі Валерыя, Ніністага брата. Гэты спадар не даваў Мігулю спакою адным

фактам сваёй прысутнасці. Ён раўнаваў сястру да Пятра, лічыў яго не вартым яе пазногця, лічыў чалавекам выпадковым — гэта было відавочна.

Дапамог сам Сулееў-старэйшы, які, чарговы раз падскочыўшы да дачкі, прапанаваў ёй паказаць госцю дом, асабліва рэкамендаваў другі паверх, дзе ў пакоях, як ён казаў, віселі дарагія і рэдкія карціны.

Узяўшы Пятра пад руку, Ніна накіравалася да выхаду з залы. Як на зло, там стаяў каржакаваты Валерый і трымаў сваю высачэзную жонку за талію. Яны гаманілі з іншай параю. Мінаючы іх, Пятро апусціў вочы долу і ўсё-ткі скурай адчуў заўсёдны непрыязны позірк Валерыя.

— Куды? — спытаўся той даволі абыякава ў сястры.

— На прагулку, — аджартавалася ад яго Ніна; яна, трэба заўважыць, ставілася да старэйшага брата з дзіўнай іроніяй, з адчуваннем сваёй перавагі, ці што. Пятро яшчэ многага не разумеў у іхніх адносінах.

На другім паверсе Ніна завяла Пятра ў пакой, які меў некалькі акон і адметную форму: адна сцяна выгіналася паўкругам, яе вокны выходзілі на ўчастак, працілеглы двару. Пятро глянуў і абамлеў: аб'ёмны басейн, паўнаварты тэнісны корт — і яшчэ нямерана плошчы занята пад кветнікі, дарожкі, разнастайныя дрэвы, маляўніча падстрыжаны хмызняк і мураваны флігель. Усё гэта атачалася высознай бетоннай агароджаю. Цэлы парк адпачынку, дый годзе.

— Ну і ну, — толькі і мог вымавіць Мігуля.

— Уражвае? — усмешліва зірнула на яго дзяўчына.

— Не тое слова.

— А ты ў тэніс гуляеш? — Ніна, як здалося, мацней сціснула Пятрову руку.

— Хм… даводзілася ракетку трымаць. Але ж назваць гэта гульнёй…

— Хочаш, я цябе навучу? У мяне быў харошы трэнер.

— Ніна… — Пятро ўдастоіў яе паглядам, даўно адпрацаваным для такіх момантаў. — Ніначка, атрымаць такога напарніка — мара майго жыцця…

— Тады прыходзь на тым тыдні… скажам, у аўторак пасля пяці. Зможаш?

«О, што за вочы, што за валасы… што за цела скрываецца пад гэтым цудоўным уборам!» — падумаў Пятро.

— Я прыйшоў бы да цябе нават мёртвы! — вымавіў Мігуля фразу, якую казаў розным жанчынам не менш, як дваццаць разоў.

Але ж Ніне, якая, мусіць, чула гэтую пошласць упершыню, яна спадабалася.

— Дамовіліся. А цяпер давай пяройдзем на другі бок дома, я табе бацькаву калекцыю пакажу.

Яны выйшлі ў калідор, які, відаць па ўсім, падзяляў галоўны корпус асабняка на дзве часткі. Даўжэзны калідор, з шэрагам карычневых драўляных дзвярэй і дывановай дарожкай паўзверх паркету. Ён быў пусты. Толькі ў самым канцы, у дзвярным праёме, хіснуўся і схаваўся за вуглом чалавек. Гэта, хутчэй за ўсё, быў адзін з людзей Амара Рашыдавіча, služka. У даўніну такіх называлі лёкаямі.

Пятро з Нінай рушылі направа па калідоры.

— Слухай, Нін, а што гэта я Ганну Вікенцьеўну сёння не бачыў?

— А мама на Кіпры. Учора паляцела. У санаторый.

— А…

— Яна там па два разы на год павінна бываць. Слабыя лёгкія. Яна звычайна там адпачывае ранняй восенню і позняй вясной.

— Ну так, канешне. Клімат там не тое, што нашанскі…

— Сюды. — Ніна павярнула медную ручку важкіх дзвярэй, штурхнула іх наперад.

Яны апынуліся ў вялікім пакоі. Яркае святло загарэлася само, адразу як яны ўвайшлі. Сонца ж сюды не пранікала, яму заміналі шчыльныя шторы, што завешвалі два высокія акны. Блішчаў дбайна начышчаны паркет.

Пакой быў цесна застаўлены і завешаны так званымі творамі мастацтва. Паколькі Мігуля ў мастацтве не надта разбіраўся, то і ацаніць вартасці змешчаных тут экспанатаў не змог. Але чыста па-дылетанцку ён быў уражаны колькасцю палотнаў, скульптур, усялякіх прадметаў даўніны, што стаялі, ляжалі, віселі і ўкрываліся за непрабіўнымі шыбамі адмысловых тумбачак. Яму асабліва спадабалася скульптурная кампазіцыя з коньмі, якія ўставалі на дыбкі, а вершнікі люта замахваліся адно на аднаго шаблямі. Увогуле, тут пераважалі матывы дужасці, гвалту. Адзін атлет утрапёна душыў змяю. На адной карціне жылісты маўр трымаў на каленях белацелую жанчыну з каласальнымі бёдрамі, прычым дамагаўся яе насуперак волі.

— Гэта ўсё тата сабраў, — паясніла Ніна адразу па ўваходзе ў хатні музей.

— Ну, зразумела… А брат твой, не таго… не цікавіцца? — Асоба Валерыя не давала Пятру спакою.

— Не, ён у нас пазбаўлены пачуцця прыгожага.

— Гэта заўважна.

Потым яны хадзілі ад сцяны да сцяны і між экспанатаў. Дзяўчына нешта паказвала і тлумачыла. Але ж не зместам расповеда наталяўся Пятро, а салодкім, шчабятлівым галаском спадарожніцы, водарам тонкіх духоў і дзявочага цела, дасканалымі абрысамі кісцей рук, шыі… А яшчэ вочы так і наравілі зазірнуць зверху ўніз, у разрэз сукенкі, што прыадкрываў тугія, высокія, вялікія грудзі…

І вось, калі яны стаялі між буйных скульптур, крыху дакранаючыся адно да аднаго клубамі, Мігуля адчуў такі электрычны ток, што адно паспеў зладзеявата зірнуць на зачыненыя дзверы і… Прывычна, упэўнена, як мае быць, ён паклаў правую руку Ніне на клуб, адчуў яго трапятлівую мяккасць і моўчкі, засяроджана стаў з сілай туліць да сябе. Ад гэтага намагання Нініна цела мацней і мацней прыціскалася да яго, спатольнае дзявочае цяпло як бы пацякло па ім.

Ніна, калі і збянтэжылася, то выгляду не падала, а працягвала гаварыць тое, што пачала яшчэ да рашучых Пятровых дзеянняў. Ніякага супраціўлення і незадавальнення. Наадварот, галасок яе крыху падрыгваў, млеў, а затым і цалкам заціх.

Яны стаялі доўга, хвілін пяць, наталяючыся гэтым маўклівым дотыкам.

«Божа, што б я зрабіў з ёю ў пасцелі! — думаў Пятро, ледзь стрымліваючы юрлівы імпэт. — Якое цела, які страшны патэнцыял! І ніводная сволач раней за мяне яе не краналася!»

Пачуліся крокі па калідоры, і гэты салодкі кантакт абарваўся.

Стук у дзверы. Чалавек прыйшоў сказаць, што Амар Рашыдавіч просіць іх спусціцца ў залу на нейкую цырымонію.

***Заканчэнне будзе.***



## Ігар ПРАКАПОВІЧ

* * *

Для цябе мае пішуцца вершы
У цішы вечаровай парой.
І ў апошнім радку, і ў першым —
Думкі побач заўсёды з табой.

Ты і лёс, і жыццё, і каханне,
Маці дзетак прыгожых маіх.
Кожны верш — у пачуццях прызнанне,
Кожны верш — новы свет для дваіх.

У штодзённай рабоце і справах
Ты даеш мне цяпло і спакой.
Ты — сямейная ціхая гавань
У жыццёвай віхуры марской.

Для мяне дзень наступны, як першы:
Ён напоўнены будзе табой.
...Для цябе мае пішуцца вершы
У цішы вечаровай парой.

* * *

Нават у добрых гасцях
Цягне дадому хутчэй
Сціплая радасць жыцця —
Блізкасць каханых вачэй.

---

*__Пракаповіч Ігар Міхайлавіч__ нарадзіўся 9 снежня 1960 года ў горадзе Паставы. Скончыў геаграфічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1985), аспірантуру Нацыянальнага інстытута адукацыі (1999). Працаваў у Апідамскай базавай школе. Цяпер — настаўнік геаграфіі Пастаўскай СШ № 1.*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Рэха малітваў» (1993), «Намагнічаны космас» (1996), «Шляхі наканаванага бязмежжа» (1999), «Я Вас каханнем растрывожу…» (2005), «Белая Панна» (2007), «Калядны ранак» (2007) і інш., шэрагу кніг па краязнаўстве.*

Час-летуценнік імчыць,
Лічыць няўмольна гады.
Хочацца ў шчасці пражыць,
Не напаткаўшы бяды.

Хочацца многа паспець,
Хочацца многа спазнаць,
Многіх — душою сагрэць,
Многім — пяшчоту аддаць.

* * *

У сумесных жыццёвых турботах,
У гадах, што ідуць чарадой,
Буду помніць шаптанне чароту
І чароўнасць усмешкі тваёй.

У пакоі запалены свечкі.
Я, шчаслівы, да зорак лячу.
Як і ў першую нашу сустрэчу,
На цябе ў захапленні гляджу.

І няхай паўтараецца гэта:
Родны дом і святочныя дні.
...Пралятае над хатай камета,
І танцуюць на свечках агні.

* * *

Закружыла белая мяцеліца
Пад аркестры сіверных вятроў.
Снегу мітусня танцуе, сцелецца
У слупах віхурных між дамоў.

У хаціне смачна пахне стравамі...
І на кухні на зыходзе дня
У прыкуску з жартам і забавамі
Весела вячэрае сям’я.

* * *

Паглядзім у вочы... Памаўчым...
Усміхнёмся, як у час спаткання.
Што — жыццё? Ўсяго салодкі дым
Над зямлёй з усходу да змяркання.

І няма прычыны сумаваць,
Што ў мінулым заімгліўся ранак,
І што птушкі з поўдня не ляцяць,
І што зноў намок дажджамі ганак.

Ёсць у нас сухі і ўтульны дом.
І яшчэ далёка да змяркання.
Мы кахаем — значыць, мы жывём.
Мы жывём — і, значыць, ёсць каханне.

Паглядзім у вочы... Памаўчым...
Усміхнёмся, як у час сустрэчы.
Хай жыццё — ўсяго салодкі дым,
Але час змяркання — у далечы...

* * *

Досвітак першага ранку вясны.
Побач з табою — чароўныя сны,
Сны, у якіх зіхаціцца світанне
Фарбамі шчасця, пяшчоты, кахання.

Сёння на небе рассунуцца хмары,
Сонца заззяе. І светлыя мары
Пахам вясны ледзь прыкметным, няўлоўным
Зробяць ізноў свет магічна-чароўным.

Змрок і няўдачы растаюць ільдзінай.
З выраю зноў чарадой жураўлінай
Вернецца радасць. І, можа, у сне
Ты нечакана убачыш мяне.

Ціха прыйду я ў твой сон, каб сказаць,
Што не стамлюся цябе я кахаць,
Што ад чароўных і родных вачэй
Свет навакольны глядзіцца зырчэй.

Добра, што ў шчасці мы зноў не адны —
З намі настроі і фарбы вясны,
Светлыя мроі у часе світання,
З імі — надзеі, пяшчота, каханне...



Віктар СУПРУНЧУК

# АПАВЯДАННІ

## Валя

Галава баліць, галава… Ой, як баліць! Цётачку Гандзя, цётачку Гандзя!.. Галава баліць… Ага, таблетку. Чорную таблетку, чорную.

— Дык у цябе, Валя, мусіць, ціск. У ложку паляжы трошкі, — кажа цётка Гандзя.

Нядзеля, на вуліцы цёпла, рабіць нічога не трэба. Толькі ў абед свінні ды курам даць паесці. Цётка Гандзя сядзіць з суседкай Гэляй на лавачцы ля плота пад хатаю.

— На, таблетку, на… Можа, вады запіць даць?

— Не, не, не трэба, — хітае галавою Валя і, хоць, пэўна, ёй сапраўды баліць галава, радасна ўсміхаецца, паказваючы рукою ў бок царквы, адкуль ляціць прыгожы звон. «Бум-бум-бум…» Радасны звон. Здаецца, ад яго нават душа ўзнімаецца над зямлёй. Адчуванне свята, незвычайнасці ахапіла ўсю істоту.

Валя апранула чырвоную сукенку, на галаве хустка ў чырвоных кветках з зялёным лісцем. На нагах старэнькія туфлі, якія некалі былі чорнымі, а цяпер рудыя, патрэсканыя. Накінула на сябе яшчэ і сіні пінжак. Ён мужчынскі, але чысты, не парваны і ў ім цёпла, нават калі на двары вятрыска. Гэта самае лепшае Валінае ўбранне. У ім яна выходзіць на людзі ў святы і калі ідзе ў краму па хлеб альбо ў аптэку ці ў бальніцу.

— Куды ты, Валя, ідзеш? — пытаецца ў яе цётка Гандзя. — А ці паела сёння?

— Так, так…— смяецца Валя і радасна махае рукою.

---

*__Супрунчук Віктар Пятровіч__ нарадзіўся 6 снежня 1949 года ў вёсцы Сялец Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў вучылішча электратэхнікі, факультэт журналістыкі БДУ (1976). Працаваў электрамантажнікам, карэспандэнтам «Сельскай газеты», на тэлебачанні, у часопісах «Полымя» і «Всемирная литература», намеснікам старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі, галоўным рэдактарам аўтамабільнага часопіса «Карвет». Цяпер працуе галоўным рэдактарам газеты «Наш банк сегодня» і часопіса «Вестник» «Беларусбанка».*

*Аўтар кніг «Страсці» (1983), «Недзе баліць ля сэрца» (1987), «Набат» (1987), «Жывеш толькі раз» (1988), «З плоці і крыві» (1992), «Баю-бай, мой генерал» (1996), «Ратуйце вашы душы» (2007) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа (1997).*

Праз хвіліну да яе далучаецца маці — поўная, пажылая ўжо кабета Анасіха. Ёй цяжка ісці, апухлыя ногі ледзь уставіла ў чаравікі. І яна адзела сваю святочную чорную спадніцу, накінула на сябе шэрую вязаную кофту, якую гадоў дзесяць назад прывёз брат з Данбаса, калі прыязджаў на пахаванне маці. Ужо і брата няма — у шахце недзе знік, — а кофта цэлая і цёплая.

— І куды ж вы, Тафіля, сабраліся? — пытаецца і ў яе цётка Гандзя. Надта ўжо ўсім цікава, куды сабраліся Анасіха з дачкой. Гэта так думае Тафіля, бо для цёткі Гандзі ўсё роўна, куды ідуць суседкі. Проста нешта трэба спытаць у чалавека, які некуды выбраўся ўранні з хаты, калі звоняць званы, а на вуліцы вялікае свята.

— Сходзім на могілкі з Валяю. Сёння ж многа там будзе людзей, — гаворыць Анасіха. — Пайшлі, Валя. А то, бач, сонца ўжо высака…

Яны ідуць нетаропка па вуліцы, вітаюцца з усімі, каго сустракаюць. Спераду шыбуе Валя, а за ёй, перавальваючыся на тоўстых нагах і праз кожную хвіліну цяжка аддыхваючыся, валачэцца маці.

Некалі ў іх была вялікая сям'я. Быў яшчэ і тата, і сястра… Іх ужо няма. Як і не было. Толькі калі моцна-моцна баліць галава, успамінае Валя тату. Ён яе шкадаваў. З пенсіі заўсёды купляў вялікую цукерку альбо шакаладку. Быў добры, ласкавы, ніколі не лаяўся на Валю. І, калі памёр, ляжаў у труне ціхі, на вуснах застыла ўсмешка. Валі здалося, што ён нешта скажа, пагаворыць з ёй і дасць цукерку. Аднак яго панеслі мужчыны з хаты, і Валя плакала разам з маці, сястрой і братам, які пасля напіўся гарэлкі і пачаў скакаць пасярод двара і выштурхваць людзей на вуліцу. Яна тады з'ела многа смачнага і ніхто ёй не замінаў. Усе шкадавалі Валю, не смяяліся з яе.

Яна амаль ужо забыла пра бацьку і твар ягоны не помніць. Як паглядзіць на фотакартку, што на сцяне, дык адразу ўспамінае цукерку з мядзведзем. Але ёй больш ніхто гэткую смакату не даваў ніводнага разу. Нават Кагор… Ён толькі б'е яе, калі яна да яго прыходзіць. Але чамусьці яна ўспамінае яго з радасцю і ў сярэдзіне, па ўсім целе робіцца цёпла і хочацца спяваць…

Потым памерла сястра Алеся. Яна была вельмі прыгожая, нібы кветачка. Мама ёй ганарылася, любіла хадзіць з Алесяй у краму. Каб усе бачылі, якая ў яе красуня дачка, не тое, што Валя. Дурніца, без мазгоў… І наогул, чаму яна не памерла пры нараджэнні? Усім тады было б добра, і самой Валі таксама. Але ж Валя аднойчы спытала: хто б тады бульбу палоў і капаў, свінню карміў? Хто?.. І маці здзіўлена захітала галавой, а сястра сказала: «Бач, дурная, дурная, а галава варыць лепш, чым у разумных…»

Потым сястра памерла. Яе пахавалі, і больш маці ніколі не казала благога пра Валю, толькі хваліла, але цукерку ні разу не купіла. Вось каб зараз з'есці такую цукерку, можа, і тату ўспомніла б…

Які прыгожы дзень, і паветра — нібы салодкі бярозавы сок, які Валя любіць. Толькі не помніць, калі піла яго апошні раз. І галава пасля таблеткі цёткі Гандзі ўжо не баліць. Хутка яны прыйдуць на могілкі, а там птушкі пяюць, крыжы блішчаць на сонцы. І ціха, ціха, хоць шмат будзе людзей. Усе добрыя, ніхто не пакрыўдзіць. Валю пачастуюць нечым смачным. І маму таксама. Яна любіць частавацца.

На царкве пяюць званы. Здаецца, навокал рай, пра які калісь казаў бацюшка. Валя тады яго слухала і марыла, што трапіць у рай, дзе яе ніхто не пакрыўдзіць, і там усё будзе смачнае і яго будзе многа. Бо ёй зараз хочацца есці. З мамаю згрызлі ўранні апошні акрайчык чорнага хлеба.

Яны ідуць міма хаты, ля якой пад вязам сядзіць у калясцы барадаты дзядзька Мікола. У яго няма ног, хоць нібыта і ёсць, але не могуць хадзіць. Ён усміхаецца Валі:

— Куды ідзеш?

Валя смяецца, але нічога не кажа. Ёй няма калі. Сонца ўжо высака.

Людзі хутка дадому паедуць. І мама гаворыць, пыхкаючы:

— Ты мяне не прытрымлівайся. Бяжы, Валька, хутчэй бяжы. Што рабіць ведаеш?

— Ыгы-ыгы, — радасна трасе галавой Валя і дадае хады.

Перад могілкамі шмат розных машын: чорных, белых, зялёных, чырвоных. Валя ніколі не ехала ў машыне, але і не хоча. Яна машын баіцца. Машыны не такія, як людзі: не гавораць, не смяюцца, толькі равуць, пыхкаючы смярдзючым дымам.

Яна не памятае, дзе пахаваны бацька і сястра, але ёй гэта і непатрэбна. На могілках Валя, схаваўшыся за шырокім сівым кустом, дастае з кішэні пакет, а з-за рэменя, што надзеты пад сукенкай, пустую пластыкавую бутэльку. Ціха смяецца, задаволеная тым, што ніхто гэтага не бачыць. О, якая яна хітрая, ды разумная!.. Хай сабе думаюць, быццам дурная. Хто лепш за яе прыдумаў бы схаваць гэтак спрытна бутэльку?..

Недалёка праз некалькі крокаў ля магілы завіхаецца вялікая сям'я: жанчыны, мужчыны, дзеці. На лавачцы стаіць поўная бутэлька гарэлкі, на сурвэтцы раскладзена розная ежа: кілбаса, сала, хлеб, агуркі, памідоры, цукеркі, пячэнне. Усё гэта яна ахоплівае імгненна адным позіркам: ад гэтай смакаты поўны рот сліны.

— Валя, ідзі сюды! — крычыць сівая жанчына ў белых штанах і белай кофце, махае рукою, запрашаючы яе да стала. Налівае паўшклянкі гарэлкі і разам з кілбасою, агурком і хлебам падае Валі. Аднак Валя не п'е. Гарэлку вылівае ў пластыкавую бутэльку. Хуценька есць хлеб з кілбасою. Яна чуе ўжо за спінай маміна хаканне і баіцца, што тая забярэ кілбасу, якая неверагодна смачная, ажно сама лезе ў рот.

— Нічога не з'ядай, — шыпіць Тафіля, з зайздрасцю гледзячы, як глытае дачка ежу.

— Ыгы-ыгы-ыгы, — смяецца Валя, бо кілбаса даўно ў жываце. Адтуль яе не дастанеш. Людзі даюць ім яшчэ і хлеба, і сала. Потым зноў варанай кілбасы. Усюды наліваюць гарэлкі, якую Валя старанна, баючыся страціць хоць кроплю, пералівае са шклянак у бутэльку. О, дома яны з мамаю павячэраюць як на сапраўднае свята. Мусіць, і паўпакета сабралася рознай ежы. Яго прыемна несці. Каб быў бы і цалюткі мех, усё роўна не было б цяжка.

Могілкі былі вялікія, даўгія, выцягнутыя ад вёскі да самага возера, якое пры сонечным надвор'і зрэдку блішчэла праз прагалы лесу. Людзей заставалася ўсё менш і менш: раўлі машыны, на якіх яны ад'язджалі адсюль. І хоць Валя з мамаю пад'елі ўжо ды колькі разоў глынулі пякучкі, усё ніяк не маглі спыніцца ў сваёй ахвоце здабыць ежы яшчэ і яшчэ. У гэтай гарачцы палявання яны пачалі зліваць і рэшткі гарэлкі са шклянак, пакінутых на магілах, забіраць цукеркі, лусты белага хлеба, булкі. Валя не хацела гэтага рабіць, але Тафіля, захмялелая ад гарэлкі, перастаўшы нават пыхкаць, жвава перасоўвалася па горадзе мёртвых.

Нарэшце яны рушылі дахаты. У царкве ўжо не званілі. Людзей на вуліцы не было відаць. Яны, пэўна, святкавалі ў сваіх хатах, седзячы за багатымі сталамі. Смачна елі: кілбасу, масла, пірагі, мяса…

Валя таксама была негалодная. Ад гарэлкі хацелася спяваць і танчыць, як гэта робіць моладзь у клубе. Па ўсім целе разлілася цеплыня. Можна было б скінуць пінжак, але ж боязна, каб хто не ўкраў яго па дарозе. У ім да падкладкі прышыта вялікая і глыбокая кішэня, у якой Валя схавала пластыкавую бутэльку з гарэлкай, што нават не плёхала, так была поўная.

О, зараз яны прыйдуць з мамкай дамоў і таксама сядуць за стол, будуць святкаваць. Не будуць ужо галоднымі. З'ядуць, вып'юць… Мама паспявае песню, якую любіць Валя. Потым яны паплачуць, выйдуць на вуліцу і сядуць на лаўку, як цётка Гандзя. Будуць разглядаць усіх, хто пройдзе міма. Пасядзяць да таго часу, як кароў пагоняць з пашы… Малы ўжо гурт, але Валя любіць, як рыкаюць каровы, салодкі пах малака… У іх некалі была карова, і Валя яе даіла. Потым піла малако проста з вядра, не працэджваючы праз марлю, як гэта рабіла мама… А вось цяпер у іх няма каровы. Малака хочацца… У краме ёсць малако, але, каб яго купіць, грошай няма. Учора маме прынеслі пенсію. Можа, дасць грошай на малако. Некалі яна дала пяць тысяч на таблеткі, але Валя купіла пячэнне і ўсё яго з'ела. Якое смачнае было пячэнне!..

— Ты так хутка ідзеш, Валька, што ў мяне моцы няма,— кажа Тафіля, зноў хакаючы, бы свіння, аб'еўшыся бульбаю. Не, усё-ткі недарэмна схадзілі на могілкі. Не, недарэмна. Гэтай ежы цяпер ёй з Валяй на тыдзень хопіць. І пенсія цалейшая будзе. Каб толькі сынок, Казік, не прыйшоў. Бяда з ім, бяда… Зноў распіўся. Столькі гадоў кроплі ў рот не браў. Яны з Валяй схаваюць гарэлку. Не, сама, сама схавае бутэльку з гарэлкаю ў хляве ў саломе. Не знойдзе злыдзень. Хай хоць для іх з Валяй трошкі свята будзе…

А вось і родная хата. Слава богу, дайшлі. Суседкі як сядзелі на лаўцы, дык і цяпер на тым жа месцы. Грэюцца на сонцы, таўкуць ваду ў ступе.

— Валя, нешта здабыла? — пытаюцца яны, а вочы вясёлыя. Тафіля ўсё заўважае, але маўчыць. Гэтая дурніца паказвае бутэльку, хваліцца поўнаю торбаю. Ну, што ты зробіш. Не разумее. У людзей вочы зайздросныя. Да чужога ласыя.

Сонца ўжо нахілілася ўбок да Брэста. Значыцца, і да вечара недалёка. Свінчо трэба было б пакарміць. Чутно на вуліцы, як яно ные ад голаду, сцяну грызе. Ай, пачакае. Трэба з дарогі ім з Валяй падсілкавацца. Пакаштаваць гарэлкі, з'есці што-колечы смачнейшага, а пасля падрамаць, каб ногі астудзіліся, бо, здаецца, гараць ад гэтай доўгай хады.

— Слава богу, мы і дома, — Тафіля як села за стол і ўжо — не ўстаць. Выбілася з сілы, цела зрабілася непад'ёмным, непадуладным, а есці хочацца. — Давай міску, чаркі. Будзе і ў нас свята. Мы ж не горшыя за астатніх. Праўда, Валька?..

— Ыгы-ыгы-ыгы, — Валя радасная, проста шчаслівая, што яны з мамаю зараз смачна паядуць. Бутэлька на стале, сала, мяса, хлеб у місцы. Каб яшчэ кіслай капусткі. Валя збіраецца наліваць у чаркі пякучку-гарэлку.

Тафіля чуе ў сенцах тупат. Вось безгаловая, забылася зачыніць на засаўку дзверы. І як мухі на салодкае, нясе некага нячысцік. Іншага часу няма яму.

— Хавай хутчэй, хавай, — махае Тафіля дачцы. Тая нічога не чуе, мармыча нешта сабе пад нос, уладкоўваючы стол. Сама схавала б, але няма сілы падняцца, дацягнуцца да ўсяго гэтага дабра, каб схаваць хоць пад услон ці пад якую дзяругу.

— Бач, якія паны! — на парозе сын, Казік.

Нездарма ўспамінала нячысціка. Усю абедню сапсуе. Не дасць спакойна пасвяткаваць, адпачыць. «Эх, доля, мая ты доля-нядоля», — уздыхае Тафіля.

— Няйнакш зноў на могілках ашываліся, збіралі аб'едкі, — грэбліва адтапырыўшы ніжнюю губу, гаворыць Казік. — Хоць падумалі б, што мяне ганьбіце. Хлопцы ўжо з мяне смяюцца. Ніякага ў вас сумлення няма, ні гонару, ні павагі да мяне. Што за сваякі гэткія абы-якія, нікуды нявартыя…

Валя, не звяртаючы ўвагі на братавы словы, налівае ў шклянку гарэлкі.

Казік імгненна выпівае і выхоплівае з яе рук бутэльку. Потым высыпае з міскі ўсё, што туды сястра налажыла, назад у пакет.

— Аўтарытэт уздумалі мой падрываць перад хлопцамі. Вось вам, вось вам! — паказвае дулю маці і сястры.

Тафіля маўчыць. Яе ахапіў такі страх, што не можа расціснуць вусны. Яна бачыць толькі шалёныя, налітыя крывёй сынавы вочы, ведае, што ён можа стукнуць яе сваім маленькім, але балючым кулаком. Ён ужо біў яе. І нават па галаве. І Валю, якая, бы аслупянеўшы, раскрыла рот і таксама маўчыць, толькі дробна-дробна трасецца.

— Паштарка казала, што ты ўчора атрымала пенсію… А ну, давай сюды! Я пералічу…

Як загіпнатызаваная, Тафіля дастае з хованкі за шафкаю торбачку і падае сыну. Той лічыць, лічыць. Нават разглядвае на святло паперкі. Нешта думае, не забываючы есці сухую і цвёрдую кілбасу, якую марыла пакаштаваць Валя. Ён вяртае торбачку з адной паперкай, а астатнія забірае, схаваўшы ў кішэню.

— Ну, бывайце. Няма ў мяне болей часу… Свінню хоць пакарміце, а то зараз дзверы выламае. Самі наеліся, а жывёла хай пакутуе! — ляпнуў дзвярыма і — як не было яго, нібыта хвіліну назад не стаяў пасярод хаты. І бутэлькі няма, і пакета. Пусты стол, толькі муха на ім гарцуе ашалелая. Позна па гасцінец прыляцела. Гасцінец у Казікавых руках. Папёр да сваёй Настулькі-свістулькі. Яна рогі яму штодзень настаўляе, валэндаецца навідавоку ва ўсёй вёскі, швэндаецца па завуголлі з кім у галаву прыйдзе, а ён: кахаю, кахаю… Без яе жыць не магу. У маці апошняе з рук цягне. Каб табе… Цьфу! — вырвалася ў Тафілі мацернае слова. Слёзы з вачэй пацяклі. Дарэмна толькі на могілкі поўзала. Ногі адбіла, а свята няма. Няма свята…

— Што сядзіш? Ідзі свінню пакармі. Зелля нарві, бо сцяну прагрызе, — гыркнула Тафіля на дачку. Валя неяк спадылба глянула на маці, нешта прамармытала і выйшла з хаты.

Ужо браўся прыцемак. Сінія цені клаліся на зямлю, ахутваючы сваімі крыламі хаты, дрэвы, на вачах гусцелі. Цеплыня, што была ў дзень, некуды знікла. Ад зямлі падымаўся холад, які, здавалася, пранікаў нават пад самае сэрца.

— Ы-ы-ы! — заплакала Валя. Ёй так захацелася есці, а ў хаце ўжо нічога не было. Яна зашпіліла пінжак, засунуўшы рукі ў кішэні, і шоргаючы чаравікамі па свежым жвіры, які вёдрамі нацягала з ямы ад выгана на двор, — пасунулася на вуліцу.

Рэдка дзе блішчэла акно. Людзі не ўключалі святла, ужо сядзелі ля тэлевізараў. І сабакі не брахалі, схаваўшыся ў цёплых сваіх буданах. Валя ім зараз нават пазайдросціла. Самой бы схавацца ў салому, заплюшчыць вочы, перад гэтым нешта з’еўшы…

Валя панура цягнулася па вуліцы, не гледзячы па баках і адчуваючы, як зноў распальваецца ў галаве боль і пачынаюць скакаць у вачах дробныя мошкі. Яна ішла ні пра што не думаючы, ні аб чым не разважаючы. Ногі вялі некуды ўперад, быццам хто падштурхоўваў у спіну.

Мама добрая, цётка Гандзя добрая… Казік благі… Людзі добрыя… Людзі благія…

Яна дайшла да царквы, узіраючыся ў гэтую цёмную высозную мураванку, схаваную за магутнымі старымі спінамі вязаў. Ніхто не ішоў насустрач, з бакоў, ззаду. Яна была як адна ва ўсім гэтым свеце, нікому непатрэбная, галодная, халодная і зусім не такая, як іншыя.

— Ы-ы-ы, — зноў заплакала Валя, нечакана адчуўшы сваю безнадзейнасць і непатрэбнасць. У небе свяціў месяц і нібы клікаў да сябе, а ёй захацелася легчы пад дрэвам і заснуць. Аднак ногі вялі яе наперад, і яна, азірнуўшыся на царкву, перакрыжавалася, як некалі вучыла яе маці.

Месяц быў падобны на серп, якім Валя жала траву для свінні. Некуды ён знік, няйнакш Казік забраў. Усё забірае і нічога не прыносіць…

А ногі ідуць, ідуць. Па ўсім целе млоснасць і нейкая асалода, якая ёй вельмі падабаецца. Цёплыя хвалі бягуць па скуры. Чым бліжэй яна падыходзіць да гэтай хаты, тым мацней агортвае яе нешта, бы смага, што мацнейшая за голад і смачнейшая за гарэлку. І ногі пачынаюць дрыжаць, і мурашкі казытаюць скуру…

У акне хаты гарыць святло. Адтуль чуваць музыка, падобная да той, што Валя чула на вяселлі ў цёткі Гандзі, калі жаніўся яе сын. Вясёлая музыка, усе танцавалі. І нават Валя скакала тады. Ёй было весела.

Яна падышла да акна, на якім не была зацягнута фіранка. Кагор сядзеў за сталом і гуляў у карты з дзедам Мінам і яе братам Казікам. Перад імі стаяла пластыкавая бутэлька, якую яна пазнала б сярод тысячы іншых. Яны пілі і елі тое, што Валя здабыла на могілках. Аднак ёй было ўсё роўна. Яна бачыла перад сабой Кагора, і ёй хацелася прыхіліцца да яго. Прыціснуцца, пацалаваць, пагладзіць рукой па чорных з сівізной валасах і адчуць пах цыгарэт, поту, адэкалона і яшчэ нечага асаблівага, якога няма ні ў водным іншым мужчыне.

Даўно некалі яна ішла ад крамы з хлебам і алеем па вуліцы міма гэтай хаты, а Кагор ці, можа, Фядул, так назвала яго суседка, а ён жыў адзін, — стаяў ля варот. Ён нешта крыкнуў, паклікаў яе, і Валя спынілася і чамусьці пайшла за ім. Кагор завёў яе ў хату, пачаставаў віном, а потым… Ёй захацелася часта быць тут, адчуваць ягоныя моцныя рукі, распранацца і доўга ляжаць у стоме і асалодзе, хоць пасля ён выштурхваў яе з хаты ў каршэнь, мацюкаючыся горш за брата Казіка.

Цётка Гандзя і мама казалі, каб яна не хадзіла да Кагора, але Валя іх не слухалася і бегла, бегла да яго. Часам, седзячы дома, ёй здавалася, што чуе, як ён кліча яе, крычыць сваім хрыплым голасам. І яна падхоплівалася, бегла, нібыта апантаная незразумелай смагаю, якую калі не натоліць, не зможа жыць.

Ёй так захацелася прыхіліцца да Кагора, абняць яго, пацалаваць. І каб ён зноў зрабіў гэтак, як у першы раз. Тады перастане балець галава. Ёй будзе добра, добра…

Радасна ўсміхаючыся, Валя адчыніла дзверы і ўвайшла ў хату. Перад гэтым выцерла нават анучкай свае чаравікі, паправіла валасы грэбенем, які ледзь адшукала ў кішэні пінжака, бо там былі запалкі, мыла, нейкая паперка, цвікі, паламаны сцізорык і яшчэ нешта, што назбірала за дзень. Свае знаходкі Валя складвала ў скрынку ў каморы, але сёння забылася.

— Ы-ы-ы… Я, я... прыйшла, — сказала Валя і выцягнула вусны да Кагора, нібы цалуючы яго.

— Чаго прыперлася?!. — ускочыў з услона брат. — Пайшла адсюль, пайшла… Гані яе, Фядул, гані…

І Кагор, які быў з ёй пазаўчора такі ласкавы, такі добры, хоць і біў моцна па твары, схапіў Валю за каўнер пінжака і выкінуў за парог, быццам анучу. Валя ўпала, моцна выцяўшыся галавою аб плот. Чула, як яны рагочуць у хаце, спажываючы ўсё, што яна здабыла з мамай на могілках.

Ён трымаў яе за каўнер, штурхаў… Пахла яго рукамі, тварам, але яго вусны былі скрыўленыя ад злосці, і вочы чырвоныя як тады, калі сказаў: «Абрыдла. Прыйдзеш яшчэ раз — заб'ю…»

Аднак яна і пасля не раз была ў яго, і Кагор абдымаў яе, і ёй было з ім соладка. Яны смяюцца з яе, не любяць, ненавідзяць. Яны благія, благія… Людзі ёсць добрыя, а яны благія… Казік благі, Кагор благі…

Валя ўзнялася на ногі, азірнулася на царкву, крыж якой блішчэў у месячным святле. Месяц плыў па небе, а за ім — зоркі, і было ціха, ціха. Хоць бы сабака які гаўкнуў.

Яны благія, благія… Валя перакрыжавалася, чамусьці пацалавала сваю правую руку, потым перакрыжавала хату.

Ля плота ляжалі мятровыя дровы. Яна лёгка падхапіла адно бярвенца, другое, падцягнула да дзвярэй, падперла іх. Зазірнула ў акно: усе трое гулялі ў карты і дапівалі яе гарэлку.

Валя дастала з кішэні запалкі, запаліла адну, другую, трэцюю, паднесла яе да моху, які тырчэў з-пад бярвенца. Агонь ухапіўся адразу і пабег па сцяне хаты, ахопліваючы ўсё большую плошчу. Яна пастаяла якую хвіліну, назіраючы за гэтым, і стомлена пацягнулася дахаты, раптам успомніўшы пра свінню, якая галодная скуголіць у хляве, пра маму, што чакае яе. Ішла павольна і ніводнага разу не азірнулася на вогнішча, якое высока ўзнімалася над вёскай, асвятляючы царкву ўжо мацней за месяц.

## Мікалай Барада і конь Галубок

У Бярозе ля чырвонага касцёла, дзе які ўжо год ваенны магазін, Барада спаткаў Яся з Варажбітоў. Пастарэў чалавек, здаў. Зусім дзед. Ледзь ногі валачэ. Нібы ж равеснікі. Мусіць, гэта ў 36-м падхарунжы Манец умазаў Ясю кулаком. Ды так, што ён, бедны, без двух зубоў застаўся. Бяззубым і дахаты з войска вярнуўся. І правільна падхарунжы зрабіў: не калеч жывёлу, даглядай лепш, чым сябе. Гэта ж табе конь, а не жалезная машына. Але што зрабіў бы падхарунжы Манец, пабачыўшы сённяшніх коней? Няма гаспадара... Адны здыхлі. Каб сказаць, што такое наш калгас, варта толькі паказаць коней...

Барада стаяў ля ракі і думаў. Куды спяшацца? Спераду ляціць шалёная мутная вада, а ззаду ягоны конь паціху грызе сена. Хай паесць: усё роўна крылаў не мае, раку не пераляціць. Давядзецца аглоблі паварочваць назад.

Учора ўначы за Клябанцам ля старой канюшні выў воўк, бы яго хтось абязвечыў. Можа, у раку трапіў ды ратаваўся. Ад страху і выў. Ясельда ўжо тыдзень назад узбунтавалася. Столькі наглыталася вады, што папёрла з горла. Не палічыць, у колькіх месцах парвала гасцінец. Пяць мастоў змайстравалі ў яе на шляху, а ёй усё мала і мала. У Сіманіках падтапіла дубы. Яшчэ трошкі — ад здзічэлых груш ды яблынь, што кучаравіліся на хутаравым пляцы, і следу не застанецца. Кругом будзе вада, вада...

— І што ты тут, Мікалай, стаў? Едзь лепш на Падрэчы, — і не заўважыў, як падышла Каўбасеіха. — Да сенакосу вада супакоіцца.

— Бачу, бачу. Нешта ж будзе.

Ён і без яе ведае, што яшчэ з паўмесяца і — сціхне Ясельда. Толькі ад гульні ракі з вадою застануцца раны-вымоіны. Яны глыбокія, нібы які волат ці нябесны цар прайшоў нажом па зямлі. Цяжка будзе ездзіць возам у лес. Ну, нічога. Памалу, ды памалу. Ці першы год паказвае рака свой характар. За палякамі, калі тралявалі лес да Блудня на станцыю, не тое яшчэ было.

— Дык ты едзеш, Мікалай, чы не? — Каўбасеіха кранае яго за плячо.

Старая кабета, знямоглая. Ідзе, нібы на плячах капіца сена. Гэта ўсё калгас бокам выходзіць. Каня нават не даюць, каб дроў прывезці. Пахадзі за брыгадзірам Малахецкім, пакланяйся яму, чарку пастаў, а мо што і яшчэ. Мне не трэба кланяцца, проста папрасі, і не адмоўлю. Усё, каб было па-людску. Бачу, усё бачу. Я не быў быдлам і не буду.

— Еду, Антоля, еду, — Барада ўздыхнуў, гледзячы, як прэ ўскаламучаная вада, цягнучы за сабою галлё, бярвенні. — Пасля абеду прывязу. Ідзі дамоў. Як твой Янек?

— Ай, благі, зусім благі. Бегаў за гэнаю пензіяй, бегаў. Ледзь ногі цягне. Ці ж ты зарабіў сабе пензію, Мікалай?

— Хто ж мне дасць пензію? Я ж не калгаснік. Пражыву неяк і без іхняй ласкі. Но, Галубок! — Барада цмокнуў раз-другі, і конь, нібы пачуўшы ягоныя думкі, дажаваў сена і нетаропка рушыў ад першага моста да Падрэчаў. Дарога тут была спраўнейшая, і Барада, трошкі прайшоўшы пехатой, ускочыў на воз.

Недзе спераду роў трактар. Вароны на стогадовых вербах каркалі, каркалі. Сумна ім. Можа, гэтыя ж вароны сядзелі тут і год, і два, і дзесяць гадоў назад, калі ён ехаў міма вербаў у лес. Учора ў кіно казалі, што вароны доўга жывуць.

Пакаркала, пакаркала сабе і паляцела. А тут думай, як заўтра. Но, Галубок! Думаюць, што я дурны. Яны самі дурныя. Я не магу жыць у гэтай іхняй агульняй стайні. Як гляну на іх, плакаць хочацца. Скажу табе, Галубок, як і не жыву. Увесь час у пакутах, у раздарожжы. Калі ўжо яно скончыцца? Адзін Бог ведае... Набяром зараз галля ды завязём Каўбасеісе. Як не памагчы чалавеку? Чым у печы паліць будзе? Мо які запас і ёсць, але ж пакуль чалавек жывы, датуль і думае пра заўтрашні дзень. Прывязём ёй, Галубок, дроў, прывязём.

Неба штось хмарыцца, вецер халодны, каб які снег не сыпануў. Але нічога, Галубок, сена і бульба ў нас ёсць. На хлеб заробім. Бохан табе на дзень хопіць. Хочаш, куплю сёння белага? Ай, лепш не трэба. Запанееш, сена ўпоперак горла стане. Весялей варушыся. Пад'едзем бліжэй да Сашыцы. Там шмат сухастоін. Палохаюць мяне, што без дазволу важу дровы. А што яны, уласнасць старшыні калгаса? Купіў іх, як некалі Сімонік пры паляках? Дык Сімонік не еў, не піў. Злот да злота, грош да гроша. Пнуўся, пнуўся. Стаў гаспадаром, лесу займеў. А тут, бац — бальшавікі. Усё забралі. Дзякуй богу, што ў Сібір не саслалі. А гэты аднекуль прыйшоў прыблуда! Быў сухі, як трэска. Штаны на мяккім месцы свіціліся. Зараз не пазнаць. Жывот, бы ў жанчыны, што з дзесятак дзяцей нарадзіла. Нібы сам цяжарны. Пуза раз'еў. Знайшоўся мне начальнік. Ды я цябе не ведаў і ведаць не хачу. Но, Галубок...

Конь невысокі, вузкі ў касці. Шмат на воз не нагрузіш. Аднак Галубок ідзе шпарка, толькі носам пафырквае, нібы чалавек. Усё разумее, адчувае лепш за чалавека. Шоргату колаў амаль не чуваць на мяккай дарожцы. Хіба дзе на каранях падкіне і тады глухое: ляп-ляп...

Лес ціхі, спакойны. Сасна з сасною гамоніць, бяроза да бярозы хіліцца. Усё жывое і лагоднае, калі з ім па-людску.

Ля балота, не даехаўшы з паўкіламетра да Ясельды, рукаў якой тут прабіў сабе дарогу, Барада ссек з пару дзесяткаў сухастоін, падабраў таўставатага галля. Акуратна ўсё склаў на воз. Якраз атрымалася на паўдалонь вышэй за драбіны. Можна і назад да Сяльца. Пакуль не выбраліся на гасцінец, Барада ішоў пешкі. Там-сям, дзе калдобіны, падштурхваў плячом воз, дапамагаў Галубку. Ужо неўзабаве і бульбу саджаць. Сонца падымецца вышэй, зямля падсохне.

Насупраць Кавальца, толькі мінуў Могілкі, абагнаў «бобік». Затармазіў раптоўна. Галубок ажно мордаю ўваткнуўся ў брызент. Вылез з машыны тоўсты, распанелы старшыня калгаса. Падышоў амаль упрытык.

— Хто дазволіў браць дровы? Яці тваю пераяці! Забяру заўтра каня, забяру! — І зноў крыкам: — Хто дазволіў браць дровы!

Барада ўзняў уверх вочы і мякка, пасміхаючыся:

— Гаспадар дазволіў, гаспадар.

— Які шчэ гаспадар?

— Бог, пан начальнік, Бог. Ён — гаспадар над усім: і лесам, і людзьмі, і Ясельдаю...

Спакойна гамоніць Мікалай. Сядзіць на возе шыракаплечы, вялізны, нязвычная для тутэйшых барада. Конь пры ім. У калгас не ходзіць. Не п’е, не курыць. Нічога не просіць. Неяк не так, як усе. Непрыемна гэта.

— Пакажу табе і Бога, і чорта! Прыдурак!

Старшыня мо і па зубах ляпнуў бы яму, але ж у правай руцэ ў Барады сякера. Нібыта прытрымлівае яе. Што ў ягонай галаве? Старшыня доўга і адмыслова мацюкнуўся, зноў успомніўшы і Бога, і чорта, і маці, і дзяцей Мікалаевых, і паехаў сваёй дарогай. Крануў Галубка і Барада. Праз хвіліну забыў пра сустрэчу. Зверху ўсё бачна, і кожнаму будзе дадзена...

Вароны як разгаманіліся, пра нешта таксама турбуюцца. У яго да старшыні ніякага пытання няма. Пражыў амаль жыццё і нікому не кланяўся, нічога не прасіў. Усё здабываў сам. Абыдуся і на старасці. Калі прыйдзе апошняя хвіліна жыцця, значыць, так і вырашана наверсе... У мяне ёсць Галубок, які мне і таварыш, і субяседнік. Ён усё разумее. Но, Галубок!

Ідуць жанчыны з сахорамі на ферму, вітаюцца. Канечне ж, зайздросна ім, што едзе Мікалай на сваім возе, вязе дровы. Нейкая капейчына будзе. А галоўнае — сам сабе гаспадар. Іх яму шкада, але ў кожнага свая галава на плячах. Кожны жыве па сваім розуме. «Хто дазволіў браць дровы?..» Цябе не спытаў. Колькі дроў гніе па лесе. Ніхто не бачыць. Палку не вазьмі, не чапай! Няхай згніе, струхлее, абы не людзям. Вазіў на Галубку і буду вазіць. Ніхто мне не забароніць і не спыніць. Праўда, Галубок? Адвязём дровы Каўбасеісе, пасля адпачнеш. Дам табе сечкі з бульбаю. Папаю вадою. Каб быў авёс, зрабіў бы табе свята.

Каўбасеіха ўжо выглядвала з двара, чакала яго. Пачуўшы ляскат колаў, выскачыла на вуліцу, пляснула ад радасці рукамі. Канечне, Барадзе было прыемна, але нават выгляду не паказаў. Твар абыякавы, звычайная работа. Ці мала перавёз ён гэткім кабетам дроў. Усе радаваліся. З усіх бакоў лес, а паспрабуй вазьмі хоць палку. А тут табе адразу на двор. Хоць няшмат, але і грошы якія. На дзве пляшкі. Затое дровы сухія, не парахня. Бяры і ў печ. Барада толк у дровах ведае.

Дае яму Каўбасеіха грошы і думае: «Гэта ж калі прывязе па два вазы ў дзень, колькі ж грошай у месяц заробіць... Хітры Барада. Знайшоў сабе лёгкую працу. Коніка мае. Ні ў кога няма. А ён мае. Гэта ж бачыш як! Ці яна адмовілася б ад каня? Няхай самага здыхлявага. Падняла б, адкарміла. Дзе ж яго ўзяць? Як забралі з двара ў сорак дзевятым — і ўсё.

— Можа, капусты з таўканіцаю пасёрбаеш? — пытаецца, а ў галаве — толькі б не згадзіўся.

Ён і адмаўляецца. Ёсць свая хата, у печы булён, ды ў чыгуне пасоленкі. Возьме ў краме селядца для апетыту. Эх, людзі, людзі!.. Прывёз табе дровы, дзякуеш, а ў вачах зайздрасць. Галубок не дае вам спакою. Усе бараны. Хочаце, каб і я быў бараном. Хадзіў з вамі ў адным статку. Не, нічога не атрымаецца. Думайце, што хочаце і як хочаце.

— Можа, яшчэ з вазок прывязеш дроў, Мікалай? — пабегла за ім Каўбасеіха.

Небарака ты, небарака. Паехала б пасля вайны ў Польшчу на нямецкія абшары, жыла б па-панску. Спадніца — латка на латцы. Наўрад ці вырабіла ў Бярозе сваю пензію. Бегаў, бегаў Каўбасей дый які ўжо дзень ляжыць. Каб хоць падняўся, а то і пензія не спатрэбіцца.

— Пабачым, — толькі і прамовіў Барада.

Спыніўся ля хаты вазок брыгадзіра Малахецкага. Не ідзе — бяжыць. Мацюкамі сыпле, што гарохам. Прывык камандаваць. Баяцца яго больш за солтыса. Стары Сашко, калі быў солтысам, каб хоць голас павысіў. Паважалі:

улада! Гэты ж адразу ў крык, пагражае. Хоць ты і пры тэчцы, я цябе не баюся. Крычы колькі хочаш, вушы вытрымаюць.

— Колькі яму заплаціла? — звяртаецца брыгадзір да Каўбасеіхі. — Кажы, а то зараз жа забяром дровы. Ён украў іх у лесе. Кажы, колькі?

Барада, узяўшыся адной рукой за вуздэчку, а другой за аглоблю, задам выштурхаў каня з двара. Кабета нібыта і не слухае Малахецкага. Пабялела бедная ад страху, ажно мову ў яе адняло. Ужо і плача, амаль рукі цалуе начальніку. Ледзь гаворыць, толькі Барада ўсё чуе. Яшчэ, дзякуй богу, не глухі.

— Дала тры рублі... — сказала і заплакала. Здаецца, уляпіў па зубах яму, як некалі падхарунжы Малец Ясіку з Варажбітоў. Хай Бог яго пакарае за тое, што бедную жанчыну крыўдзіць.

— Забяром каня, забяром! — гэта ўжо да яго. — Хто даў табе права дровы вазіць і прадаваць?

Цябе не спытаў. Но, Галубок, но... Усім ты вочы засціў. Шчасце было б, каб бегаў у калгасным статку. Альбо найлепш, каб забралі на кілбасы. Учора глядзеў у кіно, што цыганы маюць коней па гарадах. Ніхто іх не забірае. Чаму селянін не мае права трымаць каня? Крычаць «незаконна». Хто выдумаў гэты закон? Пляваў я на яго. Цыганам можна, а нам нельга. Я што — не чалавек?..

У бацькі было трое коней і жарабя. Ці то нават двое жарабят. Я — ужо нейкі вораг. Што гэта за дзікунства? Каб мог, дык трымаў бы табун. Зажыў бы, як пан. Усім зайздросна, нешта маюць да Мікалая. Да вас не лезу, і да мяне не чапляйцеся. Но, Галубок, но... Паехалі.

Барада толькі ўзвысіў трохі голас, і конь адразу пабег трушком, быццам адчуваючы ягоны настрой. Нават хвастом не матляў, падціснуў да правай нагі. Ён быў згодны з гаспадаром ва ўсім. Толькі адно было непрыемна: дзядзька Мікалай ужо неаднойчы казаў, калі яны вярталіся з лесу альбо выбіраліся ў лес, што варта набыць яшчэ каня. Навошта яму гэта? Галубок і так стараўся, цягнуў як мог. Ён любіць свайго гаспадара. Ці будзе любіць той, якога дзядзька прывядзе ў хлеў? Дый як ім быць у адных сценах?..

Яны спыніліся на хвіліну ля клуба. На крывой замурзанай зялёнай дошцы была аб’ява, што ўвечары пакажуць кіно «Каліна чырвоная». Барада падумаў: «А якая павінна быць каліна?» Канечне, чырвоная. Колькі пражыў, а каліну іншага колеру не бачыў. Але ім там, наверсе, лепш ведаць. Ды якое кіно кінамеханіку Івану дадуць, такое і круціць. Трэба ж неяк грошы зарабляць. Ходзіць даўгалыгі, худы, у адных штанах і кашулі. Бедны, як і ўсе. Што ён за сваё кіно атрымае? А нішто. Можа, як прыбіральшчыца ў магазіне, гэтая Валя Шурына. Але ж паспрабуй узлезь на гэтае месца. А ні-ні. Убачыш, што за каліна і наколькі яна чырвоная.

Барада зайшоў у краму. Там былі толькі стары Сэльвесь і Богдан Віктар. Яны павіталіся. Як-ніяк, розніца ў гадах нязначная. Але што дзіва: з гадамі ўсе адасобіліся адзін ад аднаго, кожны ў сваёй шкарлупіне, чужыя, быццам з розных канцоў зямлі.

За прылаўкам усмешлівая Маня Катрынічавая, якая за Маляком. І яна ласкава спыталася: а што, дзядзьку Мікола, хочаце? Ён узяў аднаго селядца і некалькі боханаў хлеба. Што сам з’есць, а што Галубок. Паядзім, падмацуемся, адпачнём.

Эх, коні, мае коні... Была за Кавальцом насупраць могілак ладная будыніна. Гэта ж яе надумаў Ліхавід, нібыта казак з Дона. Прыехаў на жалезным возіку, лепшым, чымсь у войта быў, у шэрай папасе. Ён любіў коней, ведаў у іх толк. Будыніну з саману зрабіў. Здзіўляліся спярша, як гэта з гліны і саломы можна хлеў збудаваць. Дый навошта, калі вакол лесу неймаверна. Па-пан-

ску будаваць, значыць, з цэглы. Хто з цэглы ў тутэйшых месцах хлявы рабіў? Не было такой завядзёнкі. Хоць, калі ад Сяльца ехаць, дык каля аэрадрома, які збудавалі бальшавікі яшчэ пры першых Саветах перад вайною, былі Мартусавыя ямы. Немец Мартус быў, канечне ж, разумны і дасціпны чалавек. Столькі чырвонай гліны, якая здольна стварыць цуд! Ён пусціў завод і рабіў цэглу, а сельчукам засталася толькі памяць. Гліна — гэта зямля, ад якой холадна. Яна вельмі падатлівая. Што хочаш з яе злепіш. Аднак яна і цёплая, бы маці.

Канечне, у дрэве жывёле цяплей, здаравей. Летам не горача, а зімою не холадна. Такая была будыніна... І гэты малы смаркач падпаліў. Знайшлі месца дзе гуляць у хованкі. Лесу ім мала. Колькі конскіх душ развеяў вецер разам з попелам! Гэта ж цалюткі табун пайшоў у неба. Калі яны, жывыя, гарэлі, не маглі праз зачыненыя вароты вырвацца на волю, што было з іх сэрцамі?.. Каб умелі гаварыць, іхні крык пачулі б, можа, пад якой Францыяй. Такая бяда.

А цяпер гэтыя ж начальнічкі хочуць, каб падараваў ім Галубка. Не бываць такому! У той дзень як Галубок іржаў, як іржаў, капытом у сцяну біў і біў, нібыта адчуваў смерць табуна. Бяжыць пасля міма стайні, сапе і храпе. Мусіць, на гэтым месцы яму пахне смерцю. Пэўна, бачыць, як адзін за адным уздымаюцца коні ў паветра ў агні і дыме. Растаюць, быццам воск памінальнай свечкі.

Барада распрог Галубка, напаіў яго, даў поўнае вядро запаранай з мукою дробнай сеннай сечкі. Нейкі неспакой быў на душы. Мо ад таго, што наляцеў на яго Малахецкі, хоць, здаецца, ужо і не думаў пра гэта. Ён не крыўдаваў: яму ж трэба неяк таксама зарабляць свой кавалак хлеба. Усе жыць хочуць.

Ён паабедаў, слухаючы радыё. Перадавалі запісы песняў Русланавай. Ох, як прыгожа яна спявала! Адразу душа стала мякчэйшая. Слухаў бы, здаецца, бясконца.

Хата невялікая, цёплая. Неўпрыкмет пацягнула на сон. Ён прылёг на ложак, накінуў на сябе кажух. Вось ужо і стары, а ўсё хочацца, каб накрыла маці, правяла рукою па галаве: адпачні, сынок. Няхай бы бацькава папружка прайшлася па спіне. Адразу адчуў бы сябе дзіцем, адчуў, што нейчы сын. Няма іх даўно, а быццам пайшлі ўчора і няма за спінаю пражытых гадоў... Бацька чытае Біблію па складах, а потым — адкладвае яе ўбок і пачынае расказваць пра хлопчыка Давіда і асілка Галіяфа. Недзе ёсць вялізная пустыня, дзе жылі, а мо і цяпер жывуць яўрэі, Богам выбраны народ. Да іх унадзіўся бандыт па мянушцы Галіяф, не дае жыцця бедным людзям. Шкодзіць ім, разбурае жыллё. А часам і якога гаротнага яўрэя стукне па галаве. Пасля ён жывы ці не — ніхто не ведае. Хоць часцей за ўсё яго загортваюць у матэрыял, найлепш белы, і закапваюць у пясок.

Бандыт Галіяф пануе, жарэ і п’е, што хоча і колькі хоча. Хлопцу Давіду абрыдла гэта. Ён спрытны, галава мікіціць за дзесяцёх, а тое, што вырас меншы за Галіяфа, дык і нічога. Бывае малы, а наробіць ліхога і добрага больш за вялікага. Гэтак і Давід. Змайстраваў прашчу, рагатку па-нашаму, і пальнуў балбесу Галіяфу проста ў лоб. Бандзюга ад страху і болю ўпаў ды, убачыўшы, што з яго ўсе смяюцца, ад сораму памёр...

Праплывае недзе далёка-далёка ў галаве малюнак, як спатыкнуліся Галіяф з Давідам, як змагаюцца. Зверху над полем бою сядзіць бацька і смяецца, смяецца, пальцам паказвае на старэйшага сына. Потым туман ахапіў прастору, зацягнуў нібы коўдраю. Толькі вагаецца туды-сюды... А ўжо імчыць насустрач пятая батарэя чацвёртага ўланскага палка. На сівым жарабцы ездавым ён. Іх вітае сам прэзідэнт Польшчы Рыдз-Смiглы. Тупат коней, ляскат збруі і гармат, а збоку — бязмежны цёмны натоўп мужчын у чорных капелюшах і жанчын у белых сукенках. Ён азіраецца ад незразумелага пачуцця, нібы хтось

збіраецца скочыць ззаду яму на спіну і — нездарма: правае кола гарматы віхляе, амаль спатыкаецца, як бязногі жабрак, і будзе зараз нешта страшнае, жахлівае. Уздыбяцца коні, упадуць людзі, затрашчаць косці і белыя сукенкі. Па ўсім полі, як сляды вогнішчаў на зялёнай траве, ляжаць чорныя капелюшы. Рыдз-Сміглы ляціць, учапіўшыся за воблака, якое ўзнікла з дзядзькі Мікалая гарматы. А ён стаіць ля свайго сівога жарабца, што зламаў усе ногі, і просіць Бога дапамагчы. Значыць, гэта не простае воблака, а дым ад снарада, што забыліся яны з Ясем з Варажбітоў. Дым усё гусцее, гусцее...

І нешта ўжо не дыхаецца, быццам чыясьці шырокая далонь закрыла рот і нос. Але няма ахвоты расплюшчваць вочы, скідваць з ног кажух. Гойдае, як на хвалях ці ў дзіцячай калысцы. Але ж ён ужо з барадою, унукі дарослыя. А коні ржуць, ржуць. Найбольш чуваць сярод іх Галубка, які падскоквае, уздымаецца на дыбкі. Ягоную грыву шкуматае вецер, з ноздраў шугае агонь, а з вачэй — раўчуком слёзы. Плача, бы бабёр, што атабарыўся ў Дабрахінах ля балота за баркам. Потым кажа: «Дзядзьку! Гаспадар! Татачку! Уставай, уставай, бо пайду ад цябе...»

Нібы стома ўсіх мінулых гадоў абрынулася на цела і не выцякае з яго, прыплюшчвае да зямлі. Яшчэ ж рана ў яе ісці, шмат працы чакае, шмат. Хутка агароды араць. Коней у вёсцы няма. Балбату абяцаў дроў прывезці, і Марылі Скробатавай, і Гандзі Клёчкавай. І зноў Галубок: «Дзядзьку! Гаспадар! Татачку!»

Расплюшчыў Барада вочы, не мог не адазвацца Галубку. Спярша не зразумеў, дзе ён. Хата была паўнюткая дыму, які шчыльнай дзяругай ахутаў вокны, шафу, стол, услон, печ, дзверы. Нічога не відаць. Нехта моцна стукаў у дзверы, як ламаў іх. Вось-вось затрашчаць, тады шукай дошкі, рамантуй. Лепш сам адчыню.

Ногі чамусьці не трымалі цела, падгіналіся. Рукі трэсліся, як у астатняга сялецкага п'яніцы, цёзкі Мікалая, што жыў на Свіной вуліцы, на адну нагу штыльгаў, пакалечыўшы ў Данбасе.

Вобмацкам, вобмацкам, пацалаваўшы колькі разоў ілбом сцяну, нарэшце дапяў у сенцы і ледзь не ўпаў, зачапіўшыся за цэбар. Паспеў ухапіць засаўку і, не маючы зусім сіл, як малое дзіця, ледзь адсунуў яе.

Хлынула хваля святла і чысцюткага паветра. Ён убачыў белы твар суседа Сцяпана Данілеўскага. Той ухапіў яго і выцягнуў на двор.

Узняў дзядзька галаву, і адышлі і сон ды млявасць. Яго хата сярод белага дня гарэла, бы свечка. Полымя весела трашчала, прагна пажыраючы страху, якую ён летась зрабіў з маладога жыта, складваў саломінку да саломіны, аблашчыў іх сваімі рукамі. Думаў: надоўга хопіць страхі, перажыве і яго. Зімою цёпла, а летам — халадок. Здаровы дух, пах хлеба...

І па сценах пайшоў ужо гуляць агонь.

— Божа ж ты мой! — толькі вымавіў дзядзька Мікалай. Гарыць ягоная хата, якую ён склаў бервяно да бервяна. Спачатку на плячах дрэва цягаў, пасля дапамог Галубок. Дзе ён?

Конь стаяў ля плота суседа Рошкі. Жывы, слава Богу жывы!

— Божа ж ты мой... — зноў проста выйшла з дзядзькі Мікалая. — Людцы, што гэта такое?!.

Суседзі бегалі, вёдрамі цягалі ваду, лілі яе на агонь. Звычна камандаваў Данілеўскі. Як-ніяк, але ж быў калісьці старшынёй сельсавета. Шчыруюць людзі, спрабуюць патушыць хату Барады, а ў галаве ў кожнага: як гэта, скуль? Печ не тапіў, не курыць, а хата гарыць. Няхай Бог крые! І гэта ж побач, тут на плошчы, якая ўсё жыццё называлася з часоў Вялікага Княства Літоўскага ці калі гаспадарыла пані Каралева Бона, Местам. Была яшчэ тут рамізня, дзе стаяла некалькі пажарных вазкоў з помпамі. У іх запрагалі коней і ляцелі ратаваць зусім нядаўна Клебанца, што гарэў таксама з нечыёй нячыстай рукі.

Акінуўшы вокам людзей, што стаялі ланцужком ці насілі поўныя вёдры вады ад Севярынца, зірнуўшы на хату, што дажывала ад нейчага здзеку апошнія хвіліны, Барада ажно застагнаў ад бяды, адчаю і болю. Каму шкодзіў стары Мікалай? Мо паквапіўся на чужую жонку? Альбо ўкраў хоць на капейчыну сена, саломы ці бульбы? Ні ў кога нічога і ніколі не прасіў. Жыў сам па сабе, схаваў душу ў абалонку, якую стварыў для сябе, каб не залежаць ні ад уладаў, ні ад людзей. Значыць, не, усё роўна перашкаджаў некаму. Колькі дарог, шляхоў на гэтым свеце. Не раз чытаў у Бібліі, што ў кожнага свая дарога. Ён ішоў, здаецца, сваім гасцінцам, нікому не замінаючы. Аднак ёсць нехта, каму ён — бяльмо на воку. Нечым замінаў. Агонь, што бушаваў сярод яснага дня, хацеў знішчыць не хату — гаспадара.

Людзі супакойвалі Бараду, нешта казалі, але ён не чуў. Заплакаў ад крыўды. Потым ванітаваў, з яго выходзіў дым. Кашляў ледзь не да крыві. Здаецца, выварочвала вантробы.

Страха згарэла, абвугліліся сцены хаты. Была яна, як абсмалак, невялічкая і гаротная ля вуліцы, прыхіліўшыся пад дрэвамі. І ён гэткі ж адзінокі, прыгорблены, з ускудлачанай барадой, без шапкі, у адной кашулі. Не адчуваў холаду. Глядзеў на сваё жытло і не верыў вачам. Не мог успрыняць тое, што бачыў.

Памалу людзі разыходзіліся, азіраючыся на дзядзьку Мікалая. Ён ужо не плакаў. Стаяў бы ў роздуме. Хоць не здагадаешся, што ў душы чалавека. Аб чым ён мог зараз думаць ля свайго разбуранага гнязда? Аднак шкадаванне сябе, хаты, увесь гэты панічны настрой, які спачатку ўзнік у Барады, раптам мінулі. Зноў, як напрыканцы вайны, давядзецца яму ўспомніць цяслярскую справу... І тады, бы свечкі, гарэлі хаты на Прадмесці, на Новай вуліцы, на Бярозаўскай. Наступалі Саветы, а за каталіцкімі, ці, як называлі, польскімі, могілкамі і далей па пляцах, праз пастаўнік і да самага гаю немцы накапалі акопаў. Не сваімі рукамі, а сялянскімі. Навошта рабіць сваімі, калі чужыя ёсць. Саветы стралялі, стралялі і ніяк не маглі прабіцца. Адзін нямецкі кулямётчык засеў у акопе пад Лагерамі і выкасіў ці не полк рускіх. Ляжала пабітых, бы снапоў у добры ўраджай. Чулі ў Сяльцы пра «кацюшы», але дагэтуль не бачылі. Саветы паказалі: вогненныя стрэлы абрынуліся на вёску, спальваючы ўсё, што трапляла пад знішчальныя струмені. Хаты палалі, як папера, пад гвалт і енк людзей. І ў дзядзькі Мікалая хата ператварылася ў попел, застаўся комін ды печ. Ніякай коўдры ці кашулі. Быццам і не было. Вакол пустка, папар, плітніца.

Была вайна — гаспадарыў агонь. Цяпер зацішша — абвуглілася хата. Ад бяды ніколі не схавацца. Дзякуй, людцы, за спачуванне, але словы не вернуць дах над галавою.

У вачах старой Аўдолі і Хрэнавай Тафілі Барадзе пабачылася не спачуванне, а радасць, быццам пасвяткавалі. Тушылі пажар, ратавалі суседа, але добра ім, што ў суседа гаспадарка пайшла ў дым. Абедзве такія ўжо святыя, галовы разбіваюць, хвалячы Усявышняга, хрысцяцца штораз, пабачыўшы цыбульку царквы. Эх вы, авечкі, як казаў калісь настаўнік Пятро Андрэевіч! Вера павінна быць не ў словах, а ва ўчынках, у сэрцы. Каго падманваеце, каго ашукваеце. Самі сябе, а не барадатага Мікалая. Сваю душу, якой хлусіце, з якой здзекуецеся...

Гэтак ужо спакойна разважае ён, пазірае на людзей. Няма куды спяшацца. Ён ля сваёй хаты, для роздуму хапае часу. Няхай хоць падскочыць вышэй спаленай яе, аднак нічога не вернеш. Застаўся ад хаты толькі шкілет.

*Нездарма прыпомніў Пятра Андрэевіча. Шчыры быў чалавек, адукаваны, добры. Неяк яны разам мыліся ў лазні, і Пятро Андрэевіч, лежачы на гарачым услоне, баіў дзядзьку Мікалаю: «Ты ім — косць у горле. Зайздросцяць*

*табе многія. Сальеры атруціў вялікага Моцарта ад зайздрасці. Імператар Нерон ад зайздрасці спаліў вечны горад Рым. Думаеш, зайздрасць пастуха меншая за зайздрасць імператара? Усё тое ж. Глядзі, Мікалай, глядзі...»*

Што глядзець? Усё ужо перад ім. І цяпер ён ведае: ягоную хату падпалілі. Не боская гэта кара, не анёл сышоў з вогненным факелам з неба. Нечая суседская рука паднесла запалку да саломы. Ні па твары, ні па спіне не здагадаешся, хто з іх шкодзіў барадатаму Мікалаю, вынес свой прысуд. Каму ён перайшоў дарогу? Ці мо праўду казаў Пятро Андрэевіч?

— Мікалай, Мікалай!

Азірнуўся, пазнаўшы голас. Не вытрымала, прыбегла Гандзя, даведаўшыся пра пажар. На двор не зайшла, прыхілілася да плота на вуліцы. Твар белы, валасы ўскудлачаныя выбіваюцца з-пад хусткі. Пот і слёзы на твары.

— Слава богу, жывы! — выдыхнула, азіраючыся па баках.

— Жывы, як бачыш. Ідзі дамоў, — махнуў рукою. — Ідзі.

Яны даўно не жылі разам. Яна з дзецьмі на Прадмесці, а ён — сам тут. Так склаўся лёс. Ён нават не хацеў успамінаць, чаму пачаў жыць асобна. Прывык жыць адзін. Дзеці павырасталі, як птушкі, паляцелі ў свет. Яму было добра так, як ёсць. Зайздроснікі казалі, што ён гэтак жыў спецыяльна, каб мець два пляцы. Ва ўсіх адзін, а ў яго два, ды яшчэ і конь. Ён пра гэта не думаў: жыў як жыў.

Нехта штурхнуў у спіну. Барада павярнуўся. Галубок тыцкаўся ў яго галавою, камячыў губамі кашулю. Быццам супакойваў, перажываў за гаспадара, бедаваў разам з ім. Хоць і жывёліна, а разумее лепш за іншага чалавека, спагадае і не зайздросціць. Коню, ты мой коню... Каб не ты, заўтра панеслі б мяне за Кавальца на могліцы. Але ж як гэта ты з’явіўся ў сне і ў тую ж хвіліну, калі жыць ці памерці? Мабыць, Бог так зрабіў, каб праз Галубка атрымаў дапамогу.

Да прыцемкаў Барада калупаўся ля хаты, спрабуючы ўпарадкаваць хоць тое, што ацалела ад агню: абгарэлыя дошкі, бярвенцы. Сцены ж былі з кавалкаў. Пасля вайны лес везлі ў Данбас. Людзям на хаты не вельмі давалі. Ужо і тады патрэбны быў блат. Сельсавецкі Фядул усім абяцаў выбрацца з зямлянак за пару месяцаў, а гэта песня доўжылася не адзін дзесятак гадоў. Каб Фядул даведку даў на лес, нясі яму падзяку. Вядома ж якую: найперш сала і самагонку. Ён жа не абы-хто — начальнік: «Таварышы, мы ўсе таварышы! Бога няма і не будзе!» Не чакаючы спагады ад Фядула, Барада цішком навазіў лесу, хаваючы бярвенне на возе пад галлём. Калі бервяно, другі раз і больш. Яму і тады зайздросцілі, бо ў яго быў конь. Ён не пайшоў у калгас, дзе нават конюх ужо вялікі начальнік. Можа пазбыткаваць над беднай удавой.

Да вясны яшчэ бы да Мінску, а мужчыны ўжо абмяркоўваюць між сабой, плануюць падыходы да конюха Івана Казака. Ён ідзе па вуліцы, ног не чуючы пад сабой, вітаецца праз зубы. Ведае, сабака, што заўтра прыйдуць да яго прасіць коней, каб узараць соткі альбо прывезці дроў з лесу. Паказвае сваю перавагу над кожным суседам. Вось такая лёкайская сутнасць у людзях. Учора сам згінаў спіну, а сёння толькі пугу ўзяў у рукі, лічы, пастух, і ўжо нос задраў. Сам Бог нібыта яму таварыш. Эх, дурань, дурань... Ніколі не будзе з хама сапраўднага пана. Хам застанецца хамам, хоць ты дай яму тэчку ў рукі і пасадзі ў легкавік. Барада ўсё бачыць і смяецца, бо ў яго ёсць Галубок...

Зноў нехта штурхае ў патыліцу. Ззаду пах Галубка, сена і конскага поту. Нават, здаецца, дыму не чуваць. Вось хто адданы, верны да той хвіліны, пакуль жывы. Не зайздросціць. Штодня ён адчувае на спіне клапатлівую руку гаспадара. Ніколі не зведаў дубца ці пугі. Яму досыць гаспадарскага голасу. Адчувае, калі прыспешыць, а калі можна ісці нетаропка, не высільваючыся, не рвучы жылы ў аглоблях.

Барада пагладзіў каня па грыве, па звычцы памацаў спіну, ці не мокрая. Хоць ужо больш за гадзіну стаяў у двары. Зрабіў гэта інстынктыўна, не думаючы.

Усё-такі вакол моцна пахла дымам. І панура чарнелі недагарэлыя сцены хаты. І нікога не было жывога побач, акрамя Галубка. Да вечара яшчэ далёка. Начаваць ён пойдзе да Гандзі, хоць і запрашаў Данілеўскі. Але трэба, мусіць, да яе. Ці, можа, не... Ладна, будзе відаць.

Нешта нядобра было яму. Нейкі цяжар запоўніў, здавалася, усё цела. Нават ногі не хацелі ісці. Аднак запрог Галубка ў калёсы і рушыў у лес. Што стаяць бедаваць? Гэта ўжо не дапаможа. Да вечара ёсць час, падвязе яшчэ дроў Каўбасеісе. Цяпер яму спатрэбіцца больш грошай, каб аднавіць хату. На зайздрасць нядобразычлівым. Хай зайздросцяць. Мікалай не здаецца. З Галубком яны яшчэ о-го-го...

З паўкіламетра ад гасцінца ў яго былі нарыхтаваны дровы: бярозавы сухастой. Думаў сабе іх забраць. Цяпер трэба аддаць Каўбасеісе. Нічога, новых нарыхтуе. З Галубком прывязуць яшчэ не адзін воз.

У лесе было ціха і спакойна. Шаргацеў вецер. Быў ён халодны, з боку Гуты Міхаліна. Гэта, значыць, з поўначы. «Відаць, будзе снег», — падумаў Барада.

Да дроў ён пад’ехаць не мог. Месца было балоцістае, сырое. Таму даў Галубку сена і, нават не прывязваючы — куды пойдзе без яго, — пайшоў да свайго сховішча, каб у некалькі ходак прынесці дровы да воза.

На гэты момант ён нават забыў пра сваю бяду. Займаўся звычнай справай, якую прывык рабіць спакойна і добра. Дайшоў да нарыхтаваных дроў, трошкі перадыхнуў, усё-такі даўно восьмы дзесятак, і, ускінуўшы на плечы колькі здужаў сухастоін, рушыў назад. Па дарозе некалькі разоў адпачываў, слухаў лес і раптам здзівіўся, што так хутка праляцела яго жыццё. І, можа, ён сам вінаваты, што застаўся толькі з Галубком. Мала бачыцца з дзецьмі, калі яны наведваюць вёску. Магчыма, не так жыў, не тое рабіў... Дарэмна супраціўляўся... Можа, усё было дарэмным. І ад гэтых думак у яго нешта быццам паслабелі рукі. Стала цяжка несці дровы, але ён мацней прыціснуў іх да пляча і, трошкі хістаючыся, дайшоў да воза. Здаецца, упершыню ў жыцці ў яго дрыжэлі ногі і па твары пацёк халодны пот. Вакол усё было па-ранейшаму: ціха шумелі дрэвы, саладкавата пахла балотам. Аднак Барада раптам адчуў нешта іншае і праз імгненне ўбачыў гэта. Галубок марудна апускаўся на пярэднія ногі і хрыпеў, хрыпеў, хрыпеў. Барада падбег да каня, з рота якога цякла бела-крывавая пена, абхапіў за шыю, але не здолеў утрымаць. Галубок, ледзь не прыціснуўшы яго да зямлі, упаў і заціх, з заплюшчанымі са слязамі вачыма. Левы бок каня быў увесь у крыві.

Барада стаяў, глядзеў і маўчаў. Дрыжалі ногі і рукі, нібыта анямеў язык. Сабраўшы апошнія сілы, ён ухапіў з калёс рэшту сена, данёс да галавы Галубка, упарадкаваў і сеў, абняўшы яго за шыю...

## Абуджэнне пачуцця, альбо Гарадское каханне

Ён званіў, званіў, званіў у кватэру, але дзверы не адчынялі. Не падыходзілі да замка і ключы. Замок быў заменены...

Павел доўга не жаніўся. Жанчыны яго не цікавілі. У яго была адна любоў і захапленне — аўтамабілі. Яшчэ вучнем мог разабраць і сабраць любы рухавік. А калі скончыў інстытут, дык яму роўні не было як спецыялісту па аўтамабілях у невялікім гарадку, дзе ён тады жыў. Хутка сабраў грошай і прыдбаў аднапакаёўку ў Мінску, якую ператварыў у майстэрню. Машыну на пяты

паверх не зацягнеш, і ён заняўся толькі рамонтам аўтаматычных каробак перадач. Заказчыкаў хапала, і пацяклі грошы.

Аднойчы пазнаёміўся з дачкой суседкі. Тая запрасіла на дзень нараджэння. Не заўважыў, як застаўся на ноч, а жанчын у яго раней ніколі не было. Раніцай ашалелы і перапалоханы суседкай, што дачка непаўналетняя, згадзіўся стаць яе мужам. Рамантуючы з ранку да ночы свае аўтаматычныя каробкі, праз шэсць месяцаў нечакана стаў бацькам: нарадзіўся сын. Ад радасці ці ад перапалоху напіўся, а калі ачуўся і ўспомніў, колькі часу яны знаёмы з жонкай, зноў пайшоў у краму па гарэлку.

На трэці дзень свайго святкавання Павел апынуўся ў кафэ. Бяздумна сядзеў, панура гледзячы ў талерку і сёрбаючы нясмачны рыбны суп. Хацелася кінуць усё і з’ехаць куды вочы глядзяць. Урэшце рукі ў яго ёсць, галава на месцы, хоць і абдураная. Злосці на цешчу і жонку ў яго не было. Яны думалі пра сябе і рабілі як ім лепш. Трэба было толькі памікіціць, як жыць далей.

— Здароў, Пашка! — да яго за столік сеў з кубачкам кавы высокі чарнявы мужчына, якога не пазнаць Павел не мог. З Кастусём Захаранкам яны вучыліся на адным курсе, толькі ў розных групах. Выглядаў ён шыкоўна: дарагі касцюм, на пальцах левай і на правай рукі па залатым пярсцёнку. Модная прычоска, акуратна падстрыжаная чарнявая бародка з ледзь прыкметнымі сіваватымі валаскамі. Гладкі, загарэлы твар, нібы толькі што з поўдня, хоць зіма на дварэ. Але ж зараз абы грошы: зіма ці лета ўсё роўна. — Нешта ў цябе кепскі выгляд? Даўно я цябе не бачыў, Пашка.

І Павел, хоць ніколі з Кастусем сябрамі не былі, дапіўшы рэшткі гарэлкі, расказаў яму сваю няўдалую жыццёвую гісторыю. Яны сядзелі ў кафэ гадзіны дзве-тры, гаварылі, гаварылі…

— Не трэба табе нікуды ехаць, — сказаў Захаранка. — У мяне свая справа, хачу яе пашырацъ. Якраз па аўтамабільнай частцы. Я даўно хацеў цябе знайсці. Таму што мне патрэбен такі спецыяліст па аўтаматычных каробках. Не перажывай, жыллё і ўсё астатняе ў цябе будзе.

Іх сустрэча скончылася тым, што яны паехалі да Кастуся. Захаранка жыў у шыкоўнай пяціпакаёвай кватэры ў цэнтры Мінска з вокнамі на Свіслач. Павел ад багацця і прыгажосці мэблі, дываноў, карцін, якія ўбачыў тут, адчуў сябе ніякавата, не ведаў, як сябе паводзіць.

Дзверы ім адчыніла высокая хударлявая жанчына, тварам нечым падобная на Кастуся. Ззаду яе радасна ўсміхалася бялявая дзяўчынка гадоў пяці-сямі. Яна адразу кінулася да Захаранкі і пачала скакаць ля яго, нібы шчаня:

—Дзядзька прыехаў, дзядзька прыехаў. А што ты мне прывёз?..

Кастусь пазнаёміў Паўла з жанчынай. Гэта была яго родная сястра Зоя, а дзяўчынка — пляменніца. Яны жылі пакуль з ім, таму што пакінула мужа, які ледзь яе не знявечыў, пастаянна здзекаваўся. А дзе яго жонка? Ён пакуль у разводзе. Шмат работы, увесь час у камандзіроўках. Але хутка, відаць, ажэніцца.

— Не хачу, каб раслі бязбацькавічы, — засмяяўся Кастусь.

Зоя накрыла стол у вялікай гасцёўні пад прыгожай крыштальнай жырандоляй. Павел падумаў, што для яго ні разу такі стол не накрылі ні жонка, ні цешча. А тут у першы ж дзень такая павага, гонар, чалавечае стаўленне. Стала неяк і радасна, і вельмі сумна. Сумна да такой ступені, што, здаецца, каб быў сам-насам, заплакаў бы.

Яны сядзелі за сталом і зноў успаміналі студэнцкія часы, агульных знаёмых, хто дзе ўладкаваўся, дзе працуе, як жыве. Зоя маўчала, слухала іх размову. Яна перад вячэрай пераапранулася ў светла-ружовую сукню з кароткім рукавом і з даволі вялікім, але ў межах прыстойнага, дэкальтэ. У яе была тонкая доўгая шыя, невялікія вушы, непрыкрытыя валасамі. Рот

таксама быў невялікі, а губы, пульхныя, ледзь-ледзь падфарбаваныя светлай памадай. Вочы блакітныя і чыстыя, у іх, здавалася, адлюстравалася святло жырандолі.

Гадзін пад адзінаццаць Кастусь пачаў некуды збірацца. Падняўся з-за стала і Павел.

— У кватэры пакояў многа, — сказаў Кастусь. — Начуй тут. Думаю, няма чаго вяртацца табе да цешчы… А заўтра з усім разбяромся.

І Павел, трошкі паўпарціўшыся, але, адчуваючы, як моцна цягне на сон, застаўся… І, аказваецца, надоўга… Усё атрымалася банальна проста. Яго перажыванні і сумненні імгненна зніклі пасля сустрэчы з Захаранкам. Праз тыдзень ён атрымаў паперу аб разводзе з жонкай, дзе было напісана, што аліментаў яна патрабаваць не будзе. Кастусь патлумачыў: ён выплаціў суму грошай, якая задаволіла яе.

І вось ужо дванаццаць гадоў, як яны з Зояй муж і жонка. У іх адзінаццацігадовы сын Алесік і дачка Васіліна. Яны — быццам шчаслівыя. Здаецца, ён кахае Зою. А мо прывык? У іх усё ёсць. Тая пяціпакаёвая кватэра, двухпавярховая дача. Ён — адзін з заснавальнікаў кампаніі, гаспадар якой Кастусь. Але яны, акрамя ўсяго, цяпер і бліжэйшыя сваякі. Кастусь яму ва ўсіх справах цалкам давярае. Ён даўно ўжо не рамантуе аўтаматычныя каробкі, займаецца толькі тым, што цікава. Яму нават прыдумалі спецыяльную пасаду галоўнага кансультанта. Усе супрацоўнікі кампаніі яго баяцца і паважаюць. Як-ніяк, а швагер гаспадара. Па-другое, ён — спецыяліст высокага класа. Гэтага не адымеш. Дый наогул ён ні з кім не сварыцца, спакойны, вытрыманы, прыгожы мужчына — бізнесмен.

Аднак часам яму хочацца вярнуцца ў сваю маленькую аднапакаёўку на пяты паверх у доме без ліфта. Разбіраць аўтамабільныя каробкі, круціць гайкі. Днямі хадзіць у старых зашмальцаваных джынсах. І ні аб чым не думаць. Толькі ў працэсе работы пазіраць праз акно на высокую бярозу, на якой збіраюцца гуртамі вераб'і альбо вароны.

…Перад абедам Кастусь папрасіў яго з'ездзіць з юрыстам да натарыуса. Узніклі нейкія пытанні па афармленні машын, якія кампанія прадавала прадпрыемствам. Калі Павел сабраўся выходзіць з кабінета, у дзверы пастукалі. Увайшла, павітаўшыся, маладая жанчына, апранутая ў зялёны скураны касцюм. У руках сумачка і папка. У яе былі вельмі светлыя, амаль да паясніцы доўгія валасы. Мусіць, фарбаваныя, бо карані іх намнога цямнейшыя, чым пасмы. У яе таксама блакітныя вочы, як у Зоі, але намнога ярчэйшыя. Нібы паглыналі таго, хто быў перад імі. Менавіта так адразу сябе адчуў Павел і нават у нейкай ступені разгубіўся. Жанчына ўсміхнулася і сказала:

— Мяне зваць Вольга. Я — новы юрыст. Мы едзем з вамі да натарыуса.

Была ўжо зіма, але мароз стаяў слабы. На зямлі — толькі дзе-нідзе лапінкі снегу. Цямнела хутка. На вуліцы было не холадна, але няўтульна, сумна.

Яны выйшлі ад натарыуса стомленыя, галодныя, хоць і задаволеныя. Вольга аказалася юрыстам зубастым, а калі яшчэ Павел акуратна перадаў натарыусу ў канверце сто пяцьдзесят долараў, дык усё пайшло, бы па масле — усе праблемы, якія былі па афармленні аўтамабіляў, вырашыліся.

— Так хачу есці, што сіл няма, — выдыхнула Вольга, калі яны перабеглі вуліцу, кіруючыся да машыны.

— Я — не супраць…

Заехалі яны ў кафэ ў заводскім мікраараёне, недалёка ад вуліцы, дзе жыла Вольга. Так яна папрасіла, каб было прасцей дабрацца да дому. Пакуль падымаліся ў залу на другі паверх, Павел паспеў яшчэ раз добра агледзець сваю новую калегу. У яе была фігура спартсменкі, якая займаецца ці займалася мастацкай

гімнастыкай. Вузкія плечы, тонкая талія і шыракаватыя, але ў меру, сцёгны, якія падкрэслівала скураная спадніца. Пакуль ішлі па зале, Павел убачыў, што не адзін мужчынскі позірк накіраваны на іх. А дакладней, на Вольгу. З аднаго боку гэта яго раздражняла, а з другога — забаўляла, цешыла яго самалюбства. «Калі б ішоў з Зояй, наўрад ці хто глянуў», — раптам падумаў ён.

Планавалі толькі перакусіць і дамоў, але выйшла інакш. Неўзабаве зайграла музыка. І ён, забыўшыся, што за рулём, выпіў бакал шампанскага, потым яшчэ і яшчэ.

Шчыльна прыціснуўшыся адзін да аднаго, яны танцавалі ў паўцёмнай зале, калыхаючыся ў такт музыкі. Павел удыхаў пах яе валасоў, парфумы. Перад ягонымі вачыма быў пяшчотны твар, шырока расплюшчаныя вочы, у якіх свяціўся агеньчык, нібы клічучы да сябе. Быццам вакол нікога не было, акрамя іх. Толькі ён і яна.

Паўла ахапіла незвычайнае пачуццё, якога ён не адчуваў яшчэ ніколі ў жыцці. Яму здалося, што ва ўсім свеце няма для яго нікога даражэйшага за гэтую жанчыну. Першая жонка была проста выпадковай сустрэчай. Зоя — яна добрая, клапатлівая. Над ім трасецца, нібы курыца над кураняткам. Толькі яна не выклікае ў душы той радасці, неверагоднага шчасця, якое раптам абрынулася на яго ад Вольгі. Колькі разоў чуў пра імгненнае каханне, пра страсць да жанчыны, калі дзеля яе гатоў аддаць жыццё. І не верыў. Была прывычка, неабходнасць у імя сяброўства з Кастусём жыць з яго сястрой. Сын, які нарадзіла яму Зоя… Так, ён яго любіць і не забудзе… Аднак гэта ўсё не тое, не тое… Хоць яму сорамна перад Зояй, але яе тут няма, яна іх не бачыць…

Гучала музыка, а ён пацiху датыкнуўся вуснамі да Вольгінай шчакі, правёў імі па вуху, валасах. Яна павярнула твар, і Павел адчуў смак яе салодкіх вуснаў, ад якіх ап’янеў больш, чым ад шампанскага. Седзячы за сталом, ён не выпускаў са сваіх рук яе руку, перабіраў тонкія пальцы, ласкава гладзіў іх.

— Што мы з табой робім? — прашаптала, прыціснуўшыся да яго, Вольга. — Што мы робім?.. Зоя ж мая сяброўка… Што я раблю?..

Паўночы Павел правёў у Вольгі. Як у ліхаманцы, яны не маглі адарвацца адзін ад аднаго, шэпчучы ласкавыя словы. Ён бясконца гаварыў ёй, што моцна яе кахае. Яна, смеючыся, прасіла яго паўтараць гэта зноў і зноў…

Павел сеў у машыну, адчуваючы, што зусім няма сіл. Адчуванне, нібы суткі разгружаў, як у студэнцкія гады, таварныя вагоны.

Толькі ўвайшоў у кватэру, як адчыніліся дзверы ў спальні. Зоя ціха спытала:

— Дзе так доўга быў?

— На мытню ездзіў… Машыны прыйшлі… — у апошні момант прыдумаў ён. І сам здзівіўся, як лёгка схлусіў. Прыняў душ, для блізіру з’еў халодную сасіску і выпіў кавы. Заснуў адразу і прачнуўся позна. На стале на кухні ляжала запіска «Не забудзь паснедаць. Цалую, Зоя». Колькі хвілін ён сядзеў, успамінаў ноч і пакутаваў, што здрадзіў. Увесь быў у сумненнях, на душы было цяжка. Але як уявіў Вольгу, неяк палягчэла. Усё было так цудоўна, проста неверагодна. Як ён жыў дагэтуль у такім панылым прэсным свеце? Як жыць далей? Няўжо ён, толькі ўбачыўшы яе, адразу пакахаў? Нарэшце з’явілася жанчына, якую выбраў сам, а яна не адхіліла яго. Няўжо?..

Кожны дзень ён бачыў Вольгу на працы, гаварыў, жартаваў з ёй пры людзях і ледзь стрымліваў сябе, каб не выдаць паводзінамі свае пачуцці. Неяк бачыў, як, сустрэўшыся, радасна цалавалася з ёю жонка. Аб нечым яны ўзбуджана шчабяталі. Ён праходзіў міма, і Зоя сказала:

— Дарэчы, Павел, Волечка мая даўняя сяброўка...

Павел нешта прамармытаў і праскочыў міма, каб толькі пазбегнуць размовы. І хоць яны сустракаліся з Вольгай ужо больш як месяц, ніяк не мог звык-

нуцца з той сітуацыяй, у якой апынуўся. Яму ўжо было страшна спаць у адным ложку з Зояй. Баяўся ў сне назваць яе Вольгай. Ад работы не было ніякага задавальнення. Можа, кінуць яе? Але ён разумеў, што такіх грошай, якія яму плаціць Захаранка, нідзе не заробіць. А кожнае спатканне з Вольгай патрабавала грошай. Ікру яна любіла чорную, з шампанскім. Ёй падабаліся дыяменты ў белым золаце. Але пад настрой яна магла з Паўлам паесці бульбы з кіслай капустай. І спакойна рэагавала, калі ён казаў, што грошай пакуль няма.

Як бы там ні было, аднак выдаткі ў яго значна ўзраслі. Ён не мог зменшыць суму, што кожны месяц аддаваў жонцы. Не мог нават уявіць, што яна даведаецца пра іх сустрэчы, каханне… Яго каханне… Божа, што яму рабіць?..

Кастусь неаднойчы даваў яму немалыя грошы на рашэнне далікатных пытанняў, таму што давяраў, як сабе. Накшталт хабару натарыусу ці супрацоўнікам ДАІ пры афармленні аўтамабіляў, якія набывала кампанія за мяжой. Адзін раз, другі, і Павел пачаў з гэтых сум адкладваць сабе ў кішэню, гаворачы Кастусю, быццам давялося аддаць больш грошай, чым было дамоўлена.

Пад восень Захаранка надумаў стварыць аўтамабільную спартыўную каманду. Грошы былі. Толькі не хапала адпаведнай машыны класа «Формула-3» і аксесуараў. Іх ён даручыў прыдбаць Паўлу. Аксесуары, а гэта значыць, розная дробязь: палатка, адзенне для вадзіцеляў. Карацей, дробязь.

Ён дамовіўся па палатцы на пяць тысяч долараў, а Захаранку сказаў, што яна каштуе дзесяць тысяч. Кастусь моўчкі аддаў грошы, і ў той жа дзень Павел купіў Вользе завушніцы. Потым яна цалавала яго ад пазногцяў да валасоў, шаптала, як кахае свайго Паўлюсіка. Ён ненавідзеў гэтае слова «Паўлюсік»… Аднак маўчаў, бы загіпнатызаваны, слухаў яе голас, як найлепшую музыку на свеце.

Яны ляжалі з Вольгай у прасторным ложку ў атэлі, дзе сустракаліся апошнія тыдні. Ні пра што не хацелася думаць. Побач было свята, багіня, якая ўзняла яго з цёмнага поля, з пушчы, удыхнула святло будучыні, вечнасці, дала штуршок для жыцця…

І раптам ягоныя мазгі заварушыліся. Аднак ненадоўга… Ён бы здурнеў… Нават не ў стане гэтага асэнсаваць...

Нехта пастукаў у дзверы. Якую навалач сюды нясе?.. Ён падняўся з ложка і, па звычцы ўключыўшы святло, адчыніў. На парозе стаяў Кастусь Захаранка. На далоні ён трымаў завушніцы, што Павел падарыў Вользе.

— Ну, як табе мая былая каханка?..



## РАГНЕД МАЛАХОЎСКІ

* * *

За Айчыну змагацца ідуць ваяры,
Немаўлятам матулі пяюць калыханку.
Быццам крылы анёла, —
На стромкай гары, —
Туманеюць муры
Навагрудскага замка.

Іскрамётна
Увысь
Узняліся мячы,
І замерлі над грэшнай зямлёю нябёсы.
Ды ад лёсу свайго
Ваярам не ўцячы.
У агоніі б'юцца геройскія лёсы.

Звон у сэрцы
Пакутнай малітвай гучыць,
Ды цямнее да Боскага храма дарога.
Толькі зорка —
Адна на ўсё неба — зіхціць,
Як жывая душа
У слязіне Міндоўга.

Арашонае поле барвянай крывёй
У журбе асвятляе скупая заранка.
І лунае над замкам,
Над грэшнай зямлёй
Адзінокай матулі сівой
Калыханка.

---

***Малахоўскі Рагнед Юр'евіч*** *нарадзіўся 5 верасня 1984 года ў пасёлку Сяймчан Магаданскай вобласці (Расія). У 1987 годзе сям'я вярнулася на радзіму ў Нарачанскі край. Скончыў факультэт фінансаў і банкаўскай справы Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта (2009). Працуе ў часопісе «Полымя».*

*Аўтар паэтычнага зборніка «Беражніца» (2005).*

## ПОЛЫМЯ РАБІНЫ

*Уладзіміру Маруку*

І няма даўно ўжо той краіны,
Дзе дарогі ўсе вялі да Храма.
Падыду да полымя рабіны
Праз белабярозавую браму.

Прыхінуся да ствала шчакою,
Заблукаюць думкі недзе ў кроне.
І стаіць рабіна прада мною,
Бы князёўна ў велічнай кароне.

Гэтыя чароўныя хвіліны
Ісціну нашэптваюць таксама,
Што ішоў да простае рабіны,
А прыйшоў —
Прасветлены —
Да Храма.

Галасы пачую ў кожнай гронцы —
Душы продкаў лучацца з прыродай.
Над рабінай хмары-абаронцы
Адганяюць беды і нягоды.

Так сустрэну вечар парыжэлы,
Каб забыць надзённыя турботы.
У дыханні ветрыку нясмела
Скалыхнуцца крыжыкі лістоты.

І на сэрцы болей не трывожна...
І падоўжу ўзнёслыя імгненні —
Пасаджу з пяшчотай, асцярожна
Цень рабіны на свае калені.

* * *

Вольны ў поспехах
                і вольны
                        у няўдачах.
Хтосьці — ўсхваліць,
Хтосьці — пракляне.
Абураюся на лёсы,
                што ў нястачы,
Калі думкі топяцца ў віне.

Я — вандроўнік
            на чарговым скрыжаванні.
Хтосьці — ўбачыць,
Хтосьці — праміне.
Скарб душы —
            адказ на вечныя пытанні —
Адшукаць бы
          на халодным дне

Вольнай памяці.
Лятуць гады,
як зоры.
Хтосьці — зловіць,
Хтосьці — не.
Далягляду
супярэчлівыя ўзоры
Так выразна
бачу я
ў жыццёвым сне.

* * *

Мой чорны парасон —
Акраец ночы —
Растане ў навальнічным даляглядзе.
Настане час,
Якога не захочаш
Ты бачыць у маім нямым паглядзе.

Мой чорны парасон —
Крыло анёла,
Што здрадзіў на зямлі адвечнай веры.
Грымотаў бой.
На твары мёртвы сполах.
За мной адчайна зачыняеш дзверы…

Мой чорны парасон —
Мой паратунак.
Падорыць ноч
Нявыплаканы сон нам —
Апошні развітальны пацалунак.

Іду апошні раз
Пад парасонам…

* * *

Мне будучыня адкрывае візу.
Далей ад забыцця, далей ад болю!
Пагладжу грыву сонечнаму брызу
І выпушчу ў пакутны свет на волю.

Шырэе цесны шлях за невядомым,
Прарочыць дзён святло і цемру ночаў.
А вецер стаў да радасці знаёмым!
Ён попел тленных год развеяць хоча.

Ды ў сэнс сваіх вандровак я ці ўнікну?
І грыву ветру хто яшчэ пагладзіць?
Таму, самотны, нечакана знікну
У заўтрашнім дрыготкім далягладзе.

* * *

Сівая ноч
Хавае твар за небакраем,
Нібы саромеецца
Ў вочы зазірнуць
Паэту маладому,
Што жадае
Пад зорным небам
Сэрца музы
Закрануць.

Ён не дарэмна папрасіў
Спагады ў лёсу —
Даўно ў палоне
Супярэчлівасці дум.
Паэт
Акіне позіркам нябёсы,
Схавае ў вечным забыцці
Няўмольны сум.

Сівая ноч
Пакіне шнары на аблоках...
І невымоўная абудзіцца душа
Паэзіі,
Каб узляцець высока —
У промнях ясных
Аж да зорнага каўша.

## ПАЛАНЭЗ ВЯРТАННЯ

Вяртаюся,
Нібыта прачынаюся
Пасля трывожна-жудаснага сну.
Няхай ён не паўторыцца ніколі!
Разбуджу
Сваёй прысутнасцю зару
І ўстрывожу
Непакорлівыя хвалі...
Паланэз вяртання
Агніста найграе
На чарацінах пругкіх
Беспрытульны вецер.
І ўсё забуду, што было,
Бо застанецца толькі
Бераг родны,
Які не раз бяздумна пакідала
Маё неўтаймаванае
(Па маладосці)
Сэрца,
Каб аднойчы
Мне здарожаным
Вярнуцца.



Юлія ЗАРЭЦКАЯ

# АПАВЯДАННІ

***(З цыкла «Дунілавіцкія былі»)***

## Лётчык

Бывалыя людзі кажуць: маўляў, няма ў жыцці ні вечнага гора, ні вечнай радасці. Вечным бывае чаканне гора, калі хоць і радуешся чаму, але падсвядома чакаеш якой бяды, бо ведаеш напэўна, колькі б шчасце не доўжылася, але ўсё адно некалі яно скончыцца. Праўда, невядома толькі дакладна, калі і наколькі гэта будзе табе балюча. І вечным бывае чаканне радасці, калі ўсяго нацерпішся і жывеш толькі надзеямі і спадзяваннямі на шчасце: не можа такога быць, гэта ж несправядліва, калі гора змяняе яшчэ большае гора… Але такое чаканне ці такія чаканні ўласцівыя толькі людзям, якія нямала пажылі на свеце, якія шмат бачылі і добрага, і гораснага, і якія, што б з імі не здаралася, спадзяюцца на лепшае. А маладыя і нявопытныя, тыя, што «молада-зелена» і што не спазналі яшчэ ні гора, ні сапраўднага шчасця, калі паглядзець на іх, ды разабрацца, што і як адбываецца з імі, жывуць адно прадчуваннем радасці. Ім здаецца, што сонца заўсёды павінна свяціць ясна, вецер-вандроўнік быць лагодным і цёплым, а жыццё — вечным, светлым і радасным.

Люцік Казелька таксама думаў, што яму будзе ўсё жыццё свята. Невысокі, але ладны, стройны, з чупрынаю цёмных, амаль чорных валасоў, хлопец — зух і хват — жыў весела. Не сказаць, каб жыццё яго надта песціла, ці з неба яму штодзень сыпаліся цукеркі ўперамешку з чырвонцамі, але калі ты малады і здаровы, падстаў для радасці патрэбна не так і шмат.

Дык вось, Люцік нядаўна скончыў школу і нават паспеў ужо зарабіць мазалёў у калгасе, седзячы за рулём трактара, але, шукаючы лягчэйшай працы, раптам падаўся ў лясніцтва. (Свайго жылля ён, вядома, пакуль не меў, таму жыў, як і заўсёды, з бацькамі.) Цяпер замест руля ці гаечнага ключа новаспеча-

---

***Зарэцкая Юлія Францаўна*** *нарадзілася 8 студзеня 1978 года ў вёсцы Дунілавічы Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыла Дунілавіцкую СШ (1995), філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка (2000). Працавала рэдактарам, загадчыкам аддзела фельетонаў і пісьмаў, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Вожык». Цяпер — галоўны рэдактар альманаха сатыры і гумару «Вожык».*

*Апавяданні друкаваліся ў беларускіх літаратурных часопісах.*

ны лесаруб трымаў у руках то цяжкую сякеру, то звонкую пілу, і, пераходзячы ад спілаванага дрэва да другога, якое трэба спілаваць, Люцік марыў аб іншай рабоце, калі яго рукі будуць трымаць нешта менш важкае, хаця дакладна не ведаў, што...

Гэтыя рукі — моцныя, здатныя да працы, між іншым, ведалі і больш прыемны занятак, чым махаць сякераю ці шоргаць пілою. Напрыклад, абдымаць тонкія таліі маладых дзяўчат. А дзе, як не на танцах, такое магчыма? А яшчэ лепш — на вяселлях.

Але, Люцік не мінаў, бадай, ніводных танцаў у вёсцы, а ўжо як прапусціць вяселле?

Мушу сказаць, што гэты малады, вясёлы і нежанаты хлопец надзвычай лёгка атрымліваў запрашэнні: нехта ж павінен быў забаўляць купкі дзяўчат, апранутых у свае лепшыя строі, таксама запрошаных на вяселле. Тых дзяўчат, якія неймаверна нудзіліся, стоячы на высокіх абцасіках і падпіраючы сцены ў чаканні гжэчных кавалераў, якіх, між іншым, гэтым мясцовым прыгажуням і не хапала. (А кавалераў, як вядома, сапраўдным красулям заўсёды бракуе — ці ў маленькай вёсачцы, ці ў вялікім горадзе...)

На вяселлі Люцік звычайна садзіўся бліжэй да пашанотных старшых сватоў (тых, галоўных, перавязаных ручнікамі, бо сватамі ў гэтай мясцовасці завуць усіх мужчын, што гуляюць на вяселлі) і з-за стала вылазіў, толькі добра выпіўшы і як след пад'еўшы. Гэта няхай стары баязлівец, пужлівы і нерашучы сусед Талеасфер, садзіцца з краю, каб, як ён неяк прызнаўся захмялелым языком, калі, крый божа, надарыцца якая баталія, «спрытней уцякаць было з месца падзей». Люцікавы ж рукі добра былі «знаёмыя» і з гэтым нежаночым заняткам — брацца загрудкі ён умеў, і яшчэ ні разу не схаваўся пад печчу, калі пачыналася сапраўдная мужчынская баталія мясцовага значэння. Сведчаннем Люцікавай байцоўскай адвагі быў пярэдні зуб, дакладней, яго адсутнасць…

Паўтаруся, што не менш чым махаць сякераю ці кулакамі (злыя языкі не прамінуць, каб не выкрасліць з гэтага і так невялікага пераліку важкую прыладу працы), Люцік любіў танчыць. І не толькі таму, што танцаваць — не працаваць, а таму, што яго надзвычай цягнула да музыкі. Ледзь толькі да Люцікавых вушэй аднекуль з вёскі даляталі вясёлыя мелодыі ці напевы, ногі самі пачыналі падбрыкваць і выраблянь хай сабе і не надта вытанчаныя па, але спрытныя выкрунтасы, дык гэта дакладна.

Аднаго разу Люцік, праўда, намерыўся забыць пра танцы… Першы вясельны вечар ён шчыра адтанчыў ледзьве не да першых пеўняў і, уволю назаляцаўшыся ды наабдымаўшыся дзявочых станаў, прыхінуў нарэшце галаву да мяккай, як пух, падушкі. Пакімарыўшы колькі гадзін, Люцік падхапіўся, страсянуўся і адчуў найвялікшую ліхасць і непамыслоту, якая падсцерагае кожнага мужчыну раніцою пасля добрага застолля. Але, смага была нясцерпная. Люцік торапка апрануўся, ціха (прынамсі, так яму падалося) выслізнуў з пакойчыка, дзе ўвішная гаспадыня паслала нанач свату пасцель, і, усунуўшы неслухмяныя ногі ў туфлі, выпхнуўся ўрэшце на двор. Але смага, як высветлілася, перш чым завітаць да заўзятага танцора, наведала іншых сватоў, якія абступілі цяпер студню, як чубаткі — карытца з ячменем.

— Хлопцы, паміраю! Пусціце да студні! — залямантаваў быў Люцік, але яго асадзіў тоўсты, як калода, сват, здаецца, нейкі сваяк маладой. На некалі белай (відаць, яшчэ ўчора) кашулі ён меў усяго два гузікі, але і тыя былі не зашпіленыя, і таму сват бессаромна бліскаў на ўсю вуліцу гарбузовым пузам.

— Усе паміраюць! У чаргу!

Люцік уздыхнуў і прыстроіўся за мажным сватам. Калі ж урэшце першыя ахвяры смагі наталіліся, наш гаротнік, ледзь жывы, змог дапасці да выратавальнай студні. Напіўшыся сцюдзёнай вады, аж па шыі пабеглі тоненькія крыштальныя ручаінкі і схаваліся за гузікамі кашулі, Люцік заплюшчыў вочы і задаволена застагнаў.

— Хадзі, сват, закурым! — паклікаў яго той, што парадкаваў чаргу.

— Давай закурым, — азваўся Люцік весела. — Цяпер гэта якраз дарэчы.

Ён прымасціўся на шырокую лаўку, дзе сядзелі такія ж, як ён, шчаслівыя вадахлёбы, і дастаў пачак папярос. Прыкурыўшы, Люцік са смакам зацягнуўся…

— Ну ты, сват, учора і танчыў! — засмяяўся побач малады мужчына з гальштукам на голай шыі.

— Гэта я ўмею, — задаволена прамовіў Люцік. — У танцах я — першы спец. Я гэтымі нагамі… — пачаў распавядаць ён і раптам асекся.

Позірк яго спыніўся на нагах. Калі б на той лаўцы сядзеў паважаны чытач і разам са сватамі пачаў прыглядацца да Люцікавых ног, дык, дальбог, не ўгледзеў бы нічога цікавага. І чым, сапраўды, могуць заінтрыгаваць мужчынскія, валасатыя і крыху крываватыя ногі? Іншая справа — ножкі дзявочыя ці жаночыя. Але на лаўцы сядзелі адны штаны — ніводнай спадніцы! Таму мужчына-чытач мусіць расчаравана ўздыхнуць і змарнаваць яшчэ крыху свайго часу, каб больш пільна зірнуць на ногі Люціка, а затым перавесці позірк ніжэй, аж пакуль не спыніцца на абутку. Але, скажам шчыра, на вяселле можна было абуцца і лепш. Не жаніх, вядома, але…

— Што за ліха! — абурана ўскрыкнуў Люцік. — Бляха-муха! Ай-яй-яй-яй! — ускочыў ён, як уджалены. — Я ж учора новыя туфлі абуў — спецыяльна да вяселля ў шафе хаваў. І каб так за ноч стаптаць!..

— Дык ты ж першы спец! — не змаўчаў, падкалупнуў яго нейкі сват. — З такімі нагамі!..

Люцік, разгублены, збіты з панталыку, прысеў на лаўку і апусціў вочы долу. Туфлі, усе ў пыле, з прыкарэлай да падэшваў зямлёю, растаптаныя, дзенідзе парэпаныя, мелі выгляд, мякка кажучы, не вельмі прэзентабельны. Не тое што ў суседа… Люцік міжволі перавёў позірк на суседаў абутак. Новенькія, модныя, хай сабе і троху прыпыленыя: правядзеш анучаю — заблішчаць, як блін на сонцы! Ён лепш прыгледзеўся, затаіў дыханне, ажно ледзьве не перагнуўся папалам і раптам парывіста падскочыў:

— Гэта ж мае туфлі! Дальбог, мае!

Сусед тым часам, напружана паўзіраўшыся на Люцікавы туфлі, таксама падхапіўся:

— Вось жа мае туфлі!

— Ану, скідай!

— Аддавай мае!..

Сваты пашпурлялі з ног туфлі і кінуліся падбіраць кожны свае.

Мужчыны, што назіралі за гэтаю прыгодай, рогату не стрымлівалі. Ды і як было ўтрымацца, гледзячы на ўскудлачаных і прыхмялелых сватоў, якія, нібы зялёныя конікі, борзда скакалі басанож па зямлі.

— Я, сват, незнарок, — апраўдваўся Люцікаў сусед па лаўцы, невысокі, крыху паўнаваты мужчына з двума тоўстымі шкельцамі на носе, абуваючы другі туфель. — Выпадкова. Ды і не нашу я такіх, насатых.

— Сам ведаю, калі нутро сушыць, няма як разглядвацца, — пагаджаўся Люцік.

Ён паспеў ужо абуцца і цяпер, рэквізаваўшы з плота нейкую кваністую атымалку[1], старанна шараваў ёю свае новенькія, фасоністыя туфлі. Кар'еры першага вясковага танцора больш нічога не пагражала…

Але, Люцік любіў гуляць на вяселлях. А вось сам жаніцца не спяшаўся. Не паддавалі яму ахвоты ні прыклады шчаслівага сямейнага жыцця местачкоўцаў, ні тое, што нават удаўцы і ўдовы знаходзілі сваё шчасце, ні нават Тэлюсь, які, акрамя законнай, але надта хваравітай жонкі, меў яшчэ і «запасную», пра якую ведала ўся вёска.

Ды ўсё ж і Люціку ўрэшце давялося задумацца пра жаніцьбу. Хаця, шчыра кажучы, Люцік больш думаў не пра жаніцьбу, а пра тое, як ад яе адкруціцца. Але за ўсё ў гэтым жыцці трэба адказваць. І гэтую сентэнцыю пацвердзіла Яня Грабацэвіч, сустрэўшыся на вузенькай вясковай вулачцы з Люцікам і недвухсэнсоўна паказваючы яму на свой жывот.

Чым зацікавіла Яня зухаватага, стройнага Люціка, невядома. Невысокая, з тварам, на якім не выдаваліся ні бякла-блакітныя вочы, ні тонкія вусны, ні светлыя бровы, яна здолела прывабіць да сябе пекнага і зайздроснага кавалера. Перабіраць хлопцамі ды круціць носам Яні не выпадала, і калі аднаго разу на танцах Люцік затрымаў на ёй свой погляд, сэрца дзяўчыны затрапятала. Ва ўсім, што адбылося пазней, Люцік вінаваціў свайго тагачаснага кампаньёна. Калі б яны не спляліся з ім у той вечар, як сляпыя з Анкуд, нічога б не здарылася. А так менавіта ён, вясёлы і гарэзлівы Бахус, пераканаў яго ў тым, што гэта невысокая і не надта пекная дзяўчына — першая прыгажуня на вёсцы. І Люцік паслухаўся…

Назаўтра ён, праўда, пра тое забыўся. Ды і той, хто нашэптваў на вуха тыя словы, некуды знік, як у вадзе патануў. Засталася толькі несамавітая, светлабровая Яня, якая ў хуткім часе даведалася, якім падманлівым можа быць шчасце… Але гісторыя, што адбылася майскай зорнай ноччу, мела свой працяг, ды дзе — у чэраве Яні.

Гэтага Люцік ніяк не чакаў. Ён спалохаўся. Прыгожы, франтаваты паўлін перамяніўся ў зайца. А што робіць напужаны заяц? Вядома, пускаецца наўцёкі. Люцік уміг сабраў свае няхітрыя манаткі і, не развітаўшыся нават з бацькамі, пакінуў родны вугал…

Вёска ёсць вёска. Па меры таго, як рос Янін жывот, раслі і плёткі. Вёска хутка разгадала, хто мог абдымаць Яню адной майскай зорнай ноччу, чаму яна не адвяла моцных мужчынскіх рук і што з гэтага атрымалася… Невядомым заставалася толькі адно — куды знік Люцік?..

Тым часам жыццё ішло сваім парадкам. І як ні стараліся размінуцца Яня і Вікця, Люцікава маці, але вёска, хай сабе і шматлюдная, для гэтых манеўраў была надта маленькай тэрыторыяй.

Праўда, спаткаліся яны без сведкаў. Вікця, назбіраўшы ладны фартух шчаўя, цягнулася дахаты, калі насустрач ёй звілістай сцяжынкай, што агінала рэчку Заражанку, паказалася Яня. Адварочвацца, хавацца ці варочацца назад не было як — жанчыны ўбачылі адна адну. Заставалася ісці насустрач. Калі яны амаль параўняліся, Яня адступіла са сцяжынкі ўбок.

— Янечка, дзетка, даруй, — спынілася Вікця, і ў вачах яе заблішчэлі слёзы. — І яму, і мне, бо я ж матка ягоная. Колькі дзён і начэй мергавала[2], як падступіцца да цябе, ды так і не прыдумала, а тут вось само неяк атрымалася.

Яня слухала гэтую нізенькую, сухенькую жанчыну, але вачэй сваіх на яе не ўздымала. Так і стаяла, пазіраючы ўбок, на маладзенькую каліну, што

[1] Атымалка — ануча.
[2] Мергаваць — думаць.

зачырванелася спелымі ягадамі, якія, здавалася, нават ад лёгкага дотыку пэнкнуць[1] свежым, гаркаватым сокам. З цяжарнасцю дзяўчына пабрыдчэла, раздалася ўшыркі, твар яе стаў апухлы. Яня пазбягала людзей, і тое, што сутыкнулася цяпер знячэўку з тою, якую хацела бачыць ці не менш за ўсіх, было надзвычай непрыемнай неспадзяванкай.

— Куды ж ты ідзеш, з кветкамі? — заўважыла Вікця букет юргіняў, які трымала ў руках дзяўчына.

— На могілкі, — адазвалася Яня. — Куды ж яшчэ?

Вікця роспачна ўзмахнула рукамі:

— Даруй мне, Янечка, ляпаю абы-што!

З фартуха, край якога адхінуўся, пасыпалася на зямлю шчаўе.

— Ай, раскярэка[2] я старая! — разгублена прагаварыла жанчына і, цяжка апусціўшыся на адно калена, пачала збіраць рассыпанае шчаўе.

Яня прысела побач на кукішкі, паклала на зямлю кветкі, моўчкі ўзялася дапамагаць.

— Даруй ты мне, Янечка, — злавіла яе за руку Вікця. — Даруй. І так ты жыццём не пешчаная, пакрыўджаная: бацькі на могілках пад соснамі даўно ў сырой зямельцы ў вечным супакоі ляжаць, не паспелі табе хоць адну крывінку родную нарадзіць, а тут яшчэ гэта…

Тонкія вусны Яні задрыжэлі, скрывіліся, бледна-блакітныя вочы напоўніліся слязамі.

— Не плач, дзетка! — узмалілася Вікця. — Гэта я, грамазда[3] старая, зноў абы-што пляскаю. Досыць ты нагаласілася ды наплакалася. Але доля ў нас бабская такая…

— У каго якая, — выпрамілася Яня. — Пайду я.

— Пачакай, Янечка! — папрасіла Вікця. Яна паспрабавала ўзняцца, але нага ў калене зацякла, нібы змярцвела, і кабета ссунулася на бок. — Пачакай, дзетка! Зараз нага аджыве — пойдзем.

Вікця сцягнула з плеч цёплую кофту, зляжыла ў некалькі столак, пасцяліла побач.

— Прысядзь, Янечка, хоць на хвілінку. Хачу табе збаіць адну гісторыю, пра мяне.

Яня паслухалася, асцярожна прымасцілася побач.

— Я ж не толькі мёд апалонікам ела, — уздыхнула кабета. — Усялякага ў жыцці было. Але ж ты, відаць, і не ведаеш, як я Тытуса, мужа свайго, дахаты вяртала? — і запытальна зірнула на дзяўчыну. Яня здзіўлена ўскінула бровы ўверх. — Але, не ведаеш… Люціку тады чатыры годзікі мінула, меншаму, Юзіку, тры было, а Казюню — шэсць.

Жылі мы тады са свякроўкаю, моцна хварэла яна, лічы, увесь час ляжала. Таму, значыць, трэба і есці ёй падаць, і піць, і пасцелю перасцяліць, і памыць… Але я не наракала: ці ж яе правіна? Хто ж хварэць хоча? Ды і добрая яна была: хоць і жылі разам, а ніколі ў наша жыццё не мяшалася, не павучала, не загадвала. І хлопцаў старэйшых, Казюню з Люцікам, дапамагала мне гадаваць, калі яшчэ не кволілася, здаравейшаю была. Бо як Юзік знайшоўся, свякроўка ўжо з пасцелі не ўставала.

Гаспадарка ў нас вялікая была: конь, карова, свінні, птушкі… Хапала клопатаў, словам…

---

[1] Пэнкнуць — лопнуць.
[2] Раскярэка — няўдалы чалавек.
[3] Грамазда — дурніца.

— Цяжка было, — Яня паківала галавою ў задуменні.

— Але, Янечка, цяжка, — ахвотна пагадзілася Вікця. — Так цяжка, што Тытус мой не вытрываў, уцячы задумаў. На заработкі. Па тым часе многія ездзілі ў няблізкі свет па доўгі рубель. Прынамсі, абяцалі людзям вялікія заробкі. Вось і Тытус мой спакусіўся, задумаў падзарабіць. Але мне ні слоўца не сказаў, ад чужых людзей выпадкова даведалася. «Ах ты, паскуднік! — узнялася я. — На заработкі ён паедзе! А я? А дзеці? А маці? А гаспадарка? На каго ты іх пакідаеш? На мяне. А ў мяне што, сто жыл? Ці падумаў ты, што мне рабіць? З кім гора гараваць? Як я выжыву?..»

Увогуле я спакойнаю, ціхаю была, а тут ураз перамянілася. Загадала дзецям, каб апраналіся, сама спехам сабралася і рушылі мы на чыгунку, адкуль цягнік з завербаванымі мужчынамі павінен быў адпраўляцца. Спяшалася, каб не спазніцца, але ж поруч малыя… То Юзіка, то Люціка на рукі падхаплю, пранясу колькі, гляджу: і Казік румзае, хаду прыцішвае. З горам папалам прытэпалі мы ў Рапаева, дапялі да той станцыі. Распыталася там у людзей, куды збіраюць мужчын, дзе запісваюць і пабегла туды. Адшукала будынак, зайшла, агледзелася. Людзей не шмат таўклося, мала, можна сказаць. Ды мяне, як угледзелі вывадак мой, без чаргі пусцілі.

Зайшла ў кабінет, «дзень добры» дала.

— У вас тут, — пытаюся, — людзі завербаваныя адзначаюцца?

— Але, — пацвярджае лысаваты мужчына, што за сталом сядзіць, — тут.

— А Тытус Казелька ў вас у спісах ці ёсць?

— А хто вы такая будзеце, каб я адказваў?

— Жонка яго! Таму кажы хутчэй ды не марудзь! Некалі мне тут з табою лясы тачыць.

— Ого, якая смелая! — усміхнуўся лысаваты пісар і ўсунуў нос у паперы. — Але, ёсць такі — Тытус Казелька.

На мяне як цабэрак вады вылілі. Рукі-ногі ўміг захаладзелі. Але і спакойнаю стала — з выгляду. Усярэдзіне ўсё кіпіць, а на выгляд — хоць бы што.

— Дзякуй, — кажу, — таварыш начальнік, што паглядзелі. Я ж чаго і прыбегла сюды аж з Дунілавіч — баялася з мужам размінуцца. Ён жа, вушмала[1], дома торбы забыўся. Дык як прыйдзе сюды адзначацца, майце ласку, скажыце яму, што я іх у калідоры пакінула. Чакаюць яго там тры валізкі… — і выйшла з кабінета.

На дзетак не гледзячы, на ганак выйшла. І — трэба ж каб так супала! — якраз Тытус шыбуе, спяшаецца. Убачыў мяне і зніякавеў, адразу галаву ў плечы ўнурыў. А я з ганка сышла, на яго нават не зірнула і пайшла.

Ішла я, вядома, не спяшаючыся. Каб дагнаць паспеў. Ужо, лічы, апошнюю хату мінала, як пачула ягонае «Спыніся, Вікця!». А я знарок не прыпыняюся, нават хаду пачала прыспешваць. Ды не выцерпела доўга, азірнулася. Гляджу, а мой Тытус, увесь чырвоны, як рак, расхрыстаны, успацелы, прэ на руках два валізкі, а трэці сам тупае, за штаніну хапаецца. «Спыніся, Вікця! Нікуды я не паеду!»

«Ведама, не паедзеш, — усміхнулася я сама сабе. — Куды ж ужо, з трыма валізкамі…»

Вікця замаўчала. Маўчала і Яня.

— От, нагаварыла табе мех і торбу, — уздыхнула кабета. — Але ж я гэта з тае нагоды, што ўсялякае здараецца, а жыць — трэба.

— Жыць трэба, — задуменна прамовіла Яня і паківала галавою.

Вікця беражна, з аглядкай, лічы, не дыхаючы, прыабняла яе за плечы.

— Трэба жыць… — ціхенька прашаптала Яня.

---

[1] Вушмала — рассеяны чалавек.

…Дзяўчынка нарадзілася ў пару і, калі можна так сказаць, лёгка. «Пашкадаваў Божанька сірату, — шапталіся злыя языкі і нават не думалі зласловіць. — Злітаваўся. Хоць у нечым жа павінна памыснасць быць…»

І Вікця з Тытусам цешыліся. На людзях, вядома, у скокі не кідаліся, але дома, удваіх, радасна перагаворваліся:

— Вось і крывінка наша цяпер на белым свеце будзе!

— Ага, і мы ўнукаў прычакалі.

— Нос дык Люціка, дальбог!

— Што ты чаўпеш?! У яго бульбінай, а ў яе, маленькай, — акуратны, далікатны, як запінка…

І памагалі Яні, як маглі, і па хаце ўпраўляцца, і капейкаю, і добрым словам ды парадаю… А што вёска? Пагаварыла — і перастала. Хай сабе не горад, столькі падзей не здараецца, а ўсё ж…

Усё ж надоечы местачковец Віцька, п’яны як цэп, кідаўся біцца да Вэрці, аднаго з галоўных злых языкоў у мястэчку, якая плявузгала, быццам Люцік стаўся лётчыкам. Але, той Люцік, які толькі і ўмеў абдымаць тонкія дзявочыя таліі, танчыць, пакуль дашчэнту не стопча новыя туфлі (таго выпадку з блытанінаю чаравікаў першаму спецу ў танцах вёска не забылася і праз столькі зімаў і вёснаў) ды шукаць лёгкай працы.

— Маньчын сын, Антон, што на Урале жыве, спаткаў яго дзесьці там. Ледзь пазнаў, кажа. Пачаў распытвацца, што і як… Той і расказаў яму, што паехаў з вёскі, бо надакучыла гразь нагамі таўчы...

Тут Вэрця не ўтрымалася, каб не падпусціць шпільку:

— А пра тое, што бахура[1] дзеўцы зрабіў ды са страху драпака задаў, аж пыл курыўся, ні слова, гіцаль, не сказаў…

— Кажу табе, баба, што з яго лётчык, як сама ведаеш з чаго — куля. Вучыцца трэба на лётчыка. Гэта ж не канём кіраваць! — стаяў на сваім Віцька. — Ведаць трэба.

— Гэта я і без цябе ведаю — разумнік гэткі знайшоўся! — не залюбіла Вэрця. — Дык і вывучыўся. У жыцці галоўнае ўмець танчыць, а астатняму — гора навучыць…

Манька, як толькі атрымала ад паштаркі ліст ад сына з Урала ды перачытала яго па складах і ўслых два разы, усеўшыся на зэдліку ды начапіўшы на нос акуляры, найперш кінулася да хаты Казелькаў. Абодва старыя — і Вікця, і Тытус — якраз былі дома. Трымаючы ў руках пісьмо, Манька ўсё чыста пераказала, аж ад зубоў адлятала, і замоўкла. Маўчалі і Вікця з Тытусам. Пачакаўшы колькі хвілін дзеля прыліку, бо Манька любіла з людзьмі гаварыць, а не цішыню слухаць ды маўчаць, як нямым, яна выслізнула за дзверы і пабегла па вёсцы. Там яе нясцерпны сверб да балбатання з ахвотаю падтрымалі ўжо вядомая чытачу языкастая, рухавая Вэрця, суседка Яніна, кульгавы Пятрок і дастаткова іншых гаваркіх і лёгкіх на язык местачкоўцаў.

— Глядзі ты… — першым парушыў цішыню Тытус. — Лётчык…

— Чалавекам стаў… — згоднаківала галавою Вікця і пачала выціраць ражком хусткі слёзы, што пакаціліся па яе лёгкіх, бы павуцінка, маршчынках на твары…

А неўзабаве і самі бацькі нарэшце атрымалі ад сына-ўцекача доўгачаканае пісьмо. Люцік пісаў, што вывучыўся на авіяцыйнага тэхніка, работа добрая, падабаецца, жыве ніштo сабе, адзін… Прасіў прабачэння, што гэтак не па-людску атрымалася тады, чатыры гады таму, калі ён, нават не развітаўшыся

[1] Бахур — дзіця, народжанае па-за шлюбам.

з імі, даў драпака. Тлумачыў, што малады быў, дурны, вось і спужаўся… Ды назад ужо нічога не вернеш…

Вікця з Тытусам пасля таго пісьма паклікалі Яню да сябе жыць.

— Старая я ўжо стала, — казала Вікця. — Цяжка мне да цябе праз усю вёску бегаць. Ішла б да нас жыць — прасцей было б… Дапамагалі б табе, чым маглі, пакуль сілы мелі б…

— Дзякуй, цётка Вікця, за запрашэнне, ды не пайду я адсюль нікуды. Не людскіх языкоў баюся ды абгавораў — паплявузгалі ўдосталь, звыклася. Ды хата гэтая — бацькоўская. Адзінае гэта, што мне ад іх засталося. Куды ж я адсюль? А пра дапамогу… Вы ж і так мне з дзядзькам Тытусам столькі сабілі! Рупіліся, каб мы з дачушкаю і галоднымі не былі, і каб адзець ды абуць было што… Затое і кліча вас бабаю і дзедам. Яна ж падрасла ўжо во як, мне лягчэй стала. Дзякуй вам, але я тут, у бацькоўскай хаце, застануся… — Яня замаўчала, а затым ціха спытала: — А пра мяне ён у пісьме пытаўся?

Нават цвёрдае мужчынскае сэрца здрыганулася, і маўклівы Тытус напружаным, прыглушаным голасам прамовіў:

— Пытаўся… Пісаў, што брыдка яму… Шкадуе, што так усё тады зрабілася…

Вікця ўдзячна зірнула на мужа: яна б так з ходу зманіць не змагла б. Ды і твар выдаў бы — счырванелася б, як бурак… Але Яня да іх твараў не прыглядалася. У задуменні яна апусціла вочы долу і церабіла рукамі фартушок, на якім была вышыта маладзенькая каліна, што зачырванелася спелымі ягадамі, якія, здавалася, нават ад лёгкага дотыку пэнкнуць свежым, гаркаватым сокам... Дала яна веры ці не словам старога Тытуса, невядома. Але пачытаць пісьма, дзе Люцік просіць дараваць сваю правіннасць, не папрасіла. Можа, здагадвалася, што не было там такіх слоў, а можа, паверыла сказанаму. З надзеяю ў сэрцы жыць, вядома, лягчэй…

Але цяпер кожны раз, калі бачыла ў небе цёмную кропку, якая хутка рухалася, пакідаючы пасля сябе доўгую, белую, як воўна, і быццам утвораную з недасяжных пуховых аблокаў паласу, паказвала на яе дачушцы і казала: «Глядзі, гэта твой тата паляцеў!» І потым доўга, аж пакуль серабрыстая паласа не развейвалася, задуменна пазірала ў неба…

Яна не надта разбіралася ў тонкасцях авіяцыйнай справы, таму не ведала, што ні ў якім самалёце Люцік не ляціць, бо авіяцыйныя тэхнікі навучаны іншаму. Калі б усе работнікі з сярэдняй тэхнічнай адукацыяй задумалі б сесці за штурвал самалёта, дык што тады і было б? Але і той, хто разумеў больш за жанчын, усё адно карыстаўся мянушкаю, што навек прыстала да Тытусавага сына — Лётчык. Гэтае ганаровае і пачэснае званне Люцік насіў з поўным правам, бо нават авіяцыйных тэхнікаў у мястэчку ніколі не нараджалася.

Затое Люцік, Люцыян Тытусавіч Казелька, напраўду жыў адзін і думаў пра Яню не радзей, чым яна — пра яго…

## Дзе начуе хмель…

Для шаноўных чытачоў хачу адразу зазначыць: у Дунілавічах выпіць любяць не больш, чым у якіх «Гомлі» або «Мугулёве». Адно, што самыя цікавыя і смешныя прыгоды адбываюцца з чалавекам зазвычай тады, калі ён кульне чарку-другую і апынецца не ў вельмі пашанотнай, але надзвычай прыемнай і вясёлай кампаніі з Бахусам. І ў гэтым, дальбог, ніхто не вінаваты. Калі свеціць сонца — растае снег, калі няма дажджу — высыхае зямля, калі чалавек выпівае — здараюцца прыгоды…

Лілька Кукель, маладая, рухавая маладзіца з вялікімі прыгожымі карымі вачыма і фігураю, на якую прыемна было глянуць і яшчэ больш прыемна — абняць, мужа свайго паважала, іншым словам, баялася. Усё тыя ж усюдыісныя злыя языкі не сцерпяць, каб не ўдакладніць: каторага? Таго, першага, які пакінуў яе з дзіцем на руках, другога, ад якога яна сама ўцякла, ці, можа, трэцяга, з якім яны разводзіліся так, што ўся вёска рымела[1]? Славачак Лысёнак, адзіны сынок сваіх бацькоў, пестунок-пераростак, хутка нацешыўшыся сямейным жыццём, захацеў гэтак жа хутка з Лількай разбегчыся. Але бегчы ён хацеў не ўлегцы, не з адным паўпарожнім чамаданам, а важка — з шафаю, халадзільнікам, трумо… Дамовіцца з Лількай, каб усё было па-людску, не атрымалася. Таму калі дзялілі сумесна нажытую маёмасць, дык пры гэтым прысутнічаў мясцовы ўчастковы, або, як тут казалі,ураднік — сухарлявы, хітры Васька Антух, па мянушцы Шпрот.

Калі Славачак парадкаваў стол з табурэткамі, крэслы, нават каструлі з лыжкамі, Шпрот не ўмешваўся, адно маўкліва назіраў збоку. Калі ж Славачак расчыніў шафу, выкінуў на падлогу пасцельную бялізну і пачаў перабіраць наўлечкі[2] з ручнікамі, Шпрот усё ж не ўтрымаўся:

— Ды пакінь ты бабе анучы! Не ганьбі сябе!

Лысёнак зыркнуў на яго спадылба, не выпускаючы з рук наўлечку ў нейкія дробненькія ружовыя кветачкі, і злосна выкрыкнуў:

— Не сунь носа ў чужое! Я сваім мазалём на гэтыя прасцірадлы зарабляў, а яна будзе на іх з нейкім хахалем качацца!

Шпрот сціснуў зубы. Але калі Славачак пачаў дзяліць пустыя каробкі з-пад туфляў і ботаў, участковы даўся ў дзверы і больш не вярнуўся…

Гэты, чацвёрты па ліку (але не муж, у сельсавеце Лілька з ім не пісалася, адразу ўдакладняць нядобрыя языкі), быў нядрэнным чалавекам. І сыноў яе не крыўдзіў, і Лільку, грошы пад падушкаю не хаваў, лічы, не піў… Але, як кажуць, няма роду без выроду. Сашка быў жах які раўнівец! Тыя ж языкі з’едліва падкалупнуць: нездарма тое. Ну, можа, і нездарма, можа, і было што якое… Лілька — жанчына прывабная, а пакуль мяняліся ў яе мужы, была ж і вольнаю кабетаю. Ды што там варушыць старое — яно ж не сена! Калі і было, дык сплыло…

У той дзень Тадзік Чорны атрымаў у калгасе палучку. І яго сябрукі-механізатары, вядома ж, таксама атрымалі. Падзея значная і сур’ёзная, адзначыць трэба. Таму маладзейшы Мечык-ганец пабег у магазін па пітво, а астатнія пачалі збіраць закусь. У некага знайшоўся кус сала (праўда, крыху пажоўклага і аблепленага хлебнымі крошкамі), нехта прынёс цыбуліны (не куплёныя, а даўнейшага заводу — цвёрдзенькія, як бы прыплюснутыя, і ядраныя!), нехта — лусты хлеба… Словам, стол, які накрылі ў майстэрні на варштаце, атрымаўся прыстойны: закусі мора! І трошкі больш — выпіўкі…

Дадому разыходзіліся позна. На чыстым небе нават пачалі запальвацца першыя трапяткія, нясмелыя зоркі, а салаўі дык увогуле заліваліся сваімі бясклапотнымі песнямі на ўсё наваколле.

— Ты, Тадзік, як, дахаты дойдзеш? — спытаў у сябрука Восіп, злёгку пахістваючыся. — Бо калі не, дык я цябе праводжу.

— Я табе што, дзеўка, каб ты мяне па начах дахаты праводзіў? — ухмыльнуўся Тадзік, немалады, але яшчэ дужы мужчына, крамяны, што баравік. — Ты сам сябе лепш праводзь. Ды глядзі, каб не зрабілася, як тады…

---

[1] Рымець — дрыжэць, трэсціся.

[2] Наўлечка — навалочка.

А тады было так. Восіп, троху кульнуўшы за каўнер, вяртаўся апоўначы дахаты. Уваходныя дзверы ў хату Клаўдзя не зачыняла. Таму Восіп лёгка адчыніў іх, мінуў другія дзверы і раптам спатыкнуўся: правая нага неўспадзеўкі зачапілася за левую, так бы мовіць, падставіла ёй падножку. Але пацярпеў за тое гаспадар: ён імгненна паваліўся на падлогу. Хоць шлях дахаты быў недалёкім, Восіп, шчыра кажучы, добра такі прытаміўся. І калі цела апынулася ў гарызантальным становішчы, якое надзвычай спрыяе адпачынку, Восіп заснуў. Крышку пакімарыўшы, ён абудзіўся, страпянуўся і нечакана намацаў рукою клямку. «Бачыш дзверы — мацай клямку», — прамармытаў Восіп сваю любімую показку і пацягнуў ручку да сябе: не паддаецца. Напружыўся і зноў паспрабаваў адчыніць — тое ж самае.

— Клаўдзя, адчыняй дзверы! Муж прыйшоў! — зароў Восіп. — Я табе не цюцька, каб пад дзвярыма ашывацца! Клаўка! — і змоўк, асляплены яркім святлом, якое ўдарыла ў вочы.

Гэта жонка Клаўдзя, устрывожаная шумам, прыбегла на кухню і запаліла святло. Трывога яе хутка развеялася: Восіп ляжаў на падлозе якраз на тых дзверцах, што адчыняліся ў невялікі хатні скляпок, выкапаны пад падлогаю, і моцна трымаўся за клямку.

— Я табе зараз адчыню! — паабяцала Клаўдзя і падступілася да мужа.

Што было далей, любая замужняя (а гэта значыць, дасведчаная і спрактыкаваная ў сямейным жыцці) жанчына здагадаецца, ну, а мужчына — уцягне галаў у плечы і запэўніць, што нічога цікавага там не адбывалася…

— Ну, тады бывай, — махнуў Восіп рукою. — Заўтра сустрэнемся.

— Ага, — згадзіўся Тадзік. — Палечымся…

Сябрукі разышліся. І ногі кожнага, на «аўтапілоце», павялі іх да родных падворкаў. Але ногі Тадзіка, пачаўшы хаду ў патрэбным кірунку, па якойсьці невядомай прычыне потым «зблудзілі» і прывялі яго ўрэшце да іншай хаты. Яна была меншая, чым ягоная. І памаляваная не ў жоўты, а сіні колер. І вокны выходзілі пераважна не на вуліцу, а на падворак. І яшчэ шмат чым іншым рознілася гэтая хата ад хаты Тадзіка (а знайсці ў вёсцы дзве аднолькавыя хаты нашмат цяжэй, чым дваіх падобных людзей), але ноччу гэтыя адрозненні воку — тым больш падпітаму — амаль незаўважныя. Таму Тадзік упэўнена (прынамсі, так яму здавалася) ускараскаўся на ганак і ўхапіўся за клямку. Ён пацягнуў дзверы на сябе, але тыя ўпусціць гаспадара ў хату не захацелі. Такое нахабства і непавага да таго, хто сам рабіў іх калісьці, проста так з рук не сыходзяць. Тадзік «сабраў» усё сваё абурэнне ў правы кулак і наважыўся быў грукнуць ім у дзверы, але памяркоўна стрымаўся. «Выскачыць зараз Эдзя, убачыць мяне, трохі на падпітку, лаяцца пачне… Вось возьме ды ў хату не пусціць, — адумаўся Тадзік. Ён яшчэ хвіліну пахістаўся на ганку і рашуча тупнуў нагою. — А я вазьму, ды тут і распрануся. Не пакіне ж яна мяне голага на вуліцы, калі ў дзвярах убачыць». Ён зняў барвовы пінжак, крыху цеснаваты ў плячах, кашулю, картовыя штаны, зверху паклаў шапку-васьміклінку. Уздыхнуў: «Ну, здаецца, усё! Не! А разуцца?» Хістаючыся, націскаючы наском правай нагі на пятку левай, вызваліў яе ад чаравіка. І толькі прыстроіўся, каб аслабаніць правую нагу, як у хаце ўспыхнула святло і неўзабаве з-за дзвярэй данёсся насцярожаны жаночы голас:

— Хто там?

— Гэта я, Эдзя, пусці мяне ў хату! — азваўся Тадзік.

— Якая Эдзя?! — віскнуў спалоханы голас. — Які Тадзік?!

— Я, Тадзік, муж твой. Эдзя, пусці ў хату!

— Я не Эдзя!

— А хто ты?

— Лілька!

— А што ты тут робіш?

— Жыву!

«Во, бляха, пакінь бабу адну — дурноцця нейкага натворыць. Жыць некага ўзяла ў хату, ці што?» — падумаў Тадзік.

— Пакліч мне Эдзю, гаспадыню!

— Я тут гаспадыня!

«Во, халера, што робіцца — яна ўжо тут і гаспадыняю стала!» — ажно кроў прыліла да яго твару.

— А я — гаспадар! — топнуў ён нагою. — У сябе ў роднай хаце!

За дзвярыма стала ціха.

— Дзядзька Тадзік, гэта ты, ці што? — раптам пачуўся Лільчын голас з-за дзвярэй.

«Ну, нарэшце прызнала», — уздыхнуў Тадзік.

— Я!

— Ну, дык ідзі тады дахаты! — закрычала Лілька. — Чаго ты мне галаву дурыш!

— А дзе мая хата? — няўцямна прамовіў Тадзік.

— Хата твая там, дзе і раней стаяла! Выходзь на дарогу, паварочвай направа ды ідзі да скрыжавання — хата твая злева, на рагу, будзе. Успомніў?

— Дай падумаць, — пачулася на ганку. — Здаецца, успомніў!

— Ну, дык ідзі! А сюды дарогу забудзься!

«Як гэта я забыўся, дзе мая хата? Слухай, і дзверы зблытаў… — жаліўся сам сабе Тадзік. — А-а, усё зразумела! Мяне ж Лілька прасіла некалі, каб я дзверы ёй зрабіў? Прасіла. Зрабіў. Вось і зблытаў, бо мае, родныя, бо гэтымі рукамі!..» — ён абуўся і, радасны, папхнуўся дахаты.

Родныя дзверы адразу ж пазналі гаспадара і таму без усялякіх замінак упусцілі яго ў хату...

Раненька Эдзя, як звычайна, падаіла рыжую, у белыя плямы, карову Зорку і выгнала з хлява. Гонячы яе на канец вуліцы, туды, дзе ўжо прахаджваўся з пугай Мішка Кузьміч, якому сёння трэба было адбыць чаргу і накарміць статак разнамасных рагуль напоўніцу, сустрэла суседку Гунорцю. Пагналі сваіх карміцелек удзвюх, размаўляючы між іншым пра тое і пра гэта… Калі ж вярталіся вуліцай назад, Гунорця таўханула Эдзю ў бок:

— Глядзі ты, якая бессаромніца! Муж ёсць, хай сабе і не фіцыйны, а яна, не хаваючыся, з мужчынскімі порткамі!.. Цьфу!

Эдзя прыгледзелася. І праўда: Лілька, стоячы на ганку, трымала ў руках мужчынскія штаны. Яна нават прыўзняла іх і злёгку пакруціла, а затым моцна страсянула. Каля яе ног горкаю ляжалі яшчэ нейкія транты, якія здалёку цяжка было разгледзець. Эдзя прыкмеціла толькі зашмальцаваную васьміклінку, такую, якую некалі праз аднаго насілі ўсе вясковыя мужчыны.

— І што яна адтуль вытрасці хоча? — з’едліва рагатнула Гунорця. — Ці шукае што?

— Але, — падтрымала яе Эдзя. — Яна ўжо не першыя штаны ператрасае!

Яны мінулі Лільку, прыгожы поўны твар якой выглядаў надзвычай разгубленым і расчырванелым, і не стрымаліся, каб яшчэ раз не даць волю языкам:

— Во хахаль уцякаў — ажно штаны забыўся!

— Нейкі палахлівы гэтым разам трапіўся! Не пашанцавала Лільцы.

— Відаць, ноччу жонку сасніў — і кулём дахаты даўся!..

Кабеты развіталіся, і ўвішная, крутабокая Эдзя пакіравалася на сваё дварышча. Там яна яшчэ добрую гадзіну парадкавалася па гаспадарцы: працадзіла малако, замяшала і ўліла вісклівым свінням, сыпанула зерня і паставіла

чыстай вады сакатушкам… Калі ж, нарэшце, распацелая, укулілася ў хату, вялікая стрэлка гадзінніка збіралася на восьмы круг. Цішыню ў хаце раз-пораз заглушаў магутны Тадзікаў храп.

— А каб цябе! — усклікнула кабета і падалася ў пакой, адкуль даносіліся грымотныя гукі.

Тадзік ляжаў на ложку, раскінуўшы рукі. Галава яго спаўзла з падушкі і звесілася, быццам гаспадар меў намер неўзабаве прыхінуць яе да падлогі, на якой месціліся (непадалёк адзін ад аднаго) брудныя чаравікі. У пакоі лунаў дух Бахуса.

— Тадзік, уставай! — затрэсла мужа за плячо Эдзя. — На работу праспаў!

Тадзік ледзь варухнуўся і паспрабаваў узняць угору руку, што азначала: усё ў норме, працаваць буду, як бык.

Эдзя, як і ўсялякая кабета, што пражыла з мужам не адзін дзесятак гадоў, ведала адзін надзейны, як швейцарскі банк, і памоцны[1] сродак абуджэння свайго суджанага (якому, ведама, аддала лепшыя гады свайго жыцця; цікава, каму ж тады дасталіся горшыя?) пасля ўчарашняй цёплай, нават гарачай сустрэчы. Яна адчыніла на кухні шафачку, дзе за шклянкамі і бутэлечкамі хавалася паўлітэрка самагонкі. Наліла яе ў чарку, затым уздыхнула: разалье ж, сабака! — і пераліла ў гранёную шклянку. Дарэчы, гэтыя маніпуляцыі былі цалкам неапраўданымі: ніколі яшчэ хоць адна кропля гэтага напою не траплялала нікуды, апроч як у горла Тадзіка. Як толькі шклянка апынулася непадалёку ад яго носа, мужчына чмыхнуў, страсянуў галавою і расплюшчыў вочы.

— На, ахламон, палячыся! — уздыхнула Эдзя. — Толькі дзеля таго, каб на работу пайшоў, а то і будзеш так да абеду качацца! Апранайся — і бягом у майстэрні.

Неўзабаве дзёрзкая вадкасць апякла нутро Тадзіка, і ён паволі стаў вяртацца да жыцця. Праўда, свядомасць яго яшчэ недзе блукала ўначы па цёмных вуліцах мястэчка.

— Апрануўся ты ці што? — пракрычала з кухні Эдзя.

— Ці што… Апрануўся… — прамармытаў Тадзік і стаў навобмацак шукаць штаны. Тыя чамусьці ніяк не хацелі трапляцца пад руку. У хованкі з гаспадаром, як змовіўшыся, гулялі і кашуля, і пінжак, і, сорам сказаць, — шкарпэткі. Нават з'яўленне на парозе пакоя грознай Эдзі не прымусіла іх нейкім цудам з'явіцца на ложку, крэсле ці хаця б на падлозе.

— Чаго сядзіш голы? Апранайся!

— Зараз… Зараз… — прагугнеў Тадзік. — Толькі васьміклінку сваю адшукаю, завалілася недзе.

— Якая шапка? Дзе твае штаны? — пагрозліва крутнулася Эдзя да мужа.

— Відаць, там, дзе і пінжак з кашуляй.

— Гэта дзе?!

— Не помню, — матнуў Тадзік галавою і адкінуўся на ложак.

«Ён што, голы дахаты прыцягнуўся? — задумалася Эдзя. — Дзе ж тады яго адзежына? Можа, спаць дзе клаўся?.. А-а, на стажарню[2], мабыць, залез, каб у хаце смуроду не разводзіць ды мяне не будзіць. Распрануўся, нібыта дома, ды прылёг. Там жа і коўдра ёсць — я з мінулага разу знарок не прыбірала. А пад раніцу акалеў, цюцька бадзялы, ды ў чым быў, у тым у хату і прыцёгся!..»

Кабета з палёгкаю ўздыхнула і выйшла з хаты. Дзіўна, але драбіны каля стажарні не было. Зазірнула ў хлеў — стаіць.

[1] Памоцны — дзейсны, які дапамагае.

[2] Стажарня — лёгкае збудаванне адкрытага тыпу для захоўвання сена на вуліцы.

«І якой халеры ён, як злез, драбіну сюды прыцягнуў? — дзівілася Эдзя, цягнучы лесвіцу да стажарні, і сама сабе адказвала. — Ат, ці мала чаго п’янаму можа падацца! Добра, што хоць як злазіў, долу не грымнуўся!» Яна прыставіла лесвіцу і пачала караскацца ўверх. Але калі яе вочы амаль параўняліся з падстрэшкам, яны не заўважылі на сене ні картовых штаноў, ні барвовага пінжака, ні нават зашмальцаванай васьміклінкі.

«Што за ліха! — зазлавала Эдзя. — Можа, пад коўдрай?» — і рашуча залезла на стажарню. Але яе гімнастычныя практыкаванні былі марнымі — нічога, нават шкарпэтак, не валялася на мяккім сене. «Дзе ж ён бадзяўся?» — не магла супакоіцца кабета.

Варта зазначыць, што стажарня ў Чорных была высокая, і рупная Эдзя ўклала ды ўтаптала туды ўжо некалькі добрых вазоў пахкага, лугавога сена. Таму, седзячы цяпер у роспачы на высокай капе сена, разгубленая жанчына міжволі абвяла позіркам наваколле. Погляд яе чамусьці затрымаўся на Лільчынай хаце. Праўда, зусім хутка няпэўнае «чамусьці» перамянілася ў цвёрдае «чаму»: з коміна хаты... цягнуўся дымок. Нічога дзіўнага ў тым, што з коміна вясковай хаты ідзе дым, вядома, няма, хіба за адзіным выключэннем — калі гэта дзеецца зімою, ці позняй восенню, ці ранняю вясною, але ж не летам!

«Гляньце, сцюдзёна ёй, распусніцы, зрабілася! Не тое што ноччу, — з’едліва прамовіла Эдзя. — Вядома, у белы дзень няма з кім выкачвацца — працуюць усе!» — і, уздыхнуўшы, пачала памалу злазіць са стажарні. Недзе на трэцяй папярочцы яе апякла, бы жыгучка, нечаканая здагадка: у Лількі! У Лількі ён, бадзяка стары, начаваў! Гэта ж ён ноччу жонку сасніў — і дахаты даўся! І васьміклінка там ягоная ляжала — рудая, зашмальцаваная, як толькі адразу яе не прызнала!

Кабета ў імгненне апынулася на зямлі і шпарка кінулася да Лільчынай хаты. Балазе, бегчы было блізка — усяго з дзесятак хат мінуць. Не грукаючы ў дзверы, яна ўляцела ў хату і спынілася, як слуп. Прычына ўтрупення была важкай — Лілька хапатліва пхнула ў расчыненыя дзверцы печы нейкія транты.

«Ты гэта што... робіш? — Эдзіны бровы папаўзлі ўверх і ўмомант спыніліся. — Гэта ж Тадзікавы штаны!» Яна ўчапілася за калашыну: «А ну, аддай! Глядзі ты, што ўдумала: добрыя штаны паліць!» Кабета вырвала з Лільчыных рук мужавы штаны і, разгневаная, падступілася да той. «Ты чаму чужое дабро ў печы нішчыш? Хто табе такое права даў?»

Замест адказу Лілька моцна ўхапілася за штаніну, што вольна матлялася ў Эдзіных руках, і пацягнула да сябе:

— Што хачу, тое і раблю! Маю права. Мае штаны! Знасіліся — вось і палю!

— Твае штаны?! — у кабеты аж перахапіла дых ад такога нахабства. — Знасіліся?! Ды ім зносу няма і не будзе! Я гэты корт яшчэ пры саветах у магазіне купляла! Чаргу без канца-краю выстаяла, але дамаглася свайго. А потым Вальку ўпрасіла — яна за тыдзень іх пашыла. Гэтыя штаны яшчэ цябе перажывуць!

— Як жа — перажывуць! Спалю зараз — і гузіка не застанецца! — Лілька ўхапілася за другую калашыну і вырвала порткі. Але не таму, што была дужэйшай: Эдзя каго хочаш магла ўгамаваць[1], а толькі з той прычыны, што тая апусціла рукі.

«Гэта ж Тадзікавы штаны. У Лількі ў хаце — Тадзікавы штаны», — нарэшце ўсвядоміла кабета. Але разгубленасць мусіла хутка сысці, саступіўшы месца заўсёднай рашучасці. Эдзя ўперла рукі ў бакі:

[1] Угамаваць — уціхамірыць, супакоіць.

— Дык ты, верціхвостка, нарэшце і да гэтых штаноў дапяла! Ды ён жа табе, не раўнуючы, як бацька! — і пачала падступацца да Лількі. — Даўно ён да цябе цягаецца?!

— Хто? — выдыхнула Лілька.

— Дык ты яшчэ здзекавацца ўдумала: хто?! Тадзік мой!

— Дзядзька Тадзік?

— Ты яго і ноччу дзядзькам клікала?

— Ды нікога я не клікала! — карыя вочы Лількі напоўніліся слязамі. — Адна я ноччу спала. А раніцай выйшла на ганак — аж ён ляжыць.

— Тадзік?

— Прычым тут Тадзік? Скрутак нейкі. Пацягнула за нешта — а гэта штаны! Гляджу: там яшчэ пінжак нейкі, кашуля. Сабрала я гэтыя лахманы ды...

— Якія гэта лахманы?! — успыхнула Эдзя. — На штанах толькі адна латка — тыдзень таму сама лапіла. І кашуля, лічы, новая. А пінжак дык увогуле добры, ад сынавага выпускнога ў школе яшчэ застаўся. Той і панасіў яго мала, пару разоў апрануў усяго — мода, кажа, сышла. А майму старому дык і нямоднае добра — абы ў плячах не ціснула, — і асеклася: — Ты што, спаліла яго?

— Каго?! — жахнулася Лілька.

— Чаго! — плюнула Эдзя. — Пінжак той, каторы нямодны.

— Не паспела. Я печку шапкаю распаліла. Думала, пінжак пазней, як угарыцца добра...

— Добра гэта я табе зараз пярну[1], калі ты мне праўды не скажаш! — схапіла Эдзя Лільку за руку. — Пайшлі!

— Куды, цётка Эдзя?

— Да мяне дахаты. Я з вамі, галубкамі, хутка разбяруся. Я вам пакажу, я вам спраўлю... Вочную стаўку зраблю!

— Ой, цётка Эдзя, не трэба — не стаўце мне пад вока нічога! — загаласіла Лілька. — Мне на работу трэба ісці: як я з падбітым вокам пакажуся? У мяне і каровы няма, каб на рогі яе ківаць!..

— Так і пойдзеш: каб усе людзі бачылі, — і пацягнула Лільку за сабою...

— Тадзік, гад, уставай! Я табе каханку прывяла. Пазнаеш? — упхнула маладзіцу ў пакой Эдзя.

Лілька спынілася ў дзвярах і, закрыўшы вочы рукамі ды слаба войкнуўшы, адвярнулася. Тадзік, абуты ў чаравікі, у адных сямейных трусах, на якіх буйным цветам красавалі рамонкі, сядзеў на ложку і пра нешта засяроджана думаў.

— Пазнаеш? — узняла Эдзя штаны.

— Мае! — узрадаваўся мужчына і паспрабаваў устаць. — А кашуля дзе?

— Згарэла! — гаркнула знерваваная жонка.

— Пажар?! — умлеў Тадзік.

— У печы пажар. У ейнай, — не стрывала, каб не падпусціць шпільку, Эдзя і кіўнула на Лільку. — У яе начаваў?

— Не, — адмоўна пахістаў галавою муж. — Дома. Тут во, на ложку.

— А распранаўся дзе? — працягвала наступ жонка.

— От гэта — пытанне… — уздыхнуў Тадзік. — Сам думаю…

— Думайце хутчэй! У мяне зараз Сашка дамоў з начной прыйдзе! — узмалілася Лілька. — А я тут з вамі чорт ведама чым займаюся! — і знянацку ўскрыкнула: — Ведаю!

— Яшчэ б ты не ведала! — не змаўчала Эдзя.

Лілька не звярнула на гэты нядобры вокліч ніякай увагі.

---

[1] Пярнуць — моцна ўдарыць, выцяць.

— Вы ноччу хаты пераблыталі, памятаеце? Да мяне стукаліся, Эдзяй звалі…

— Нешта прыпамінаю… — наморшчыў лоб Тадзік.

— Дык я вас паслала… ну, да сваёй хаты. Памятаеце?

— Нешта прыпамінаю…

Яго жонка, якая на хвілінку прыціхла, рэзка і нецярпліва перабіла няспешныя мужавы ўспаміны:

— Чаго штаны здымаў?

— У хату хацеў!

— Да Лількі?

— Да цябе!

— Чаго ж ты тады… — пачала заводзіцца Эдзя і замоўкла.

Тадзік рэзка падхапіўся, ўзняў правы кулак і моцна страсянуў ім.

— Успомніў! Я ім грукнуць хацеў у дзверы, ды — перадумаў. Не хацеў цябе, Эдзечка, будзіць.

— А распранаўся чаго? — не адступалася жонка.

— Баяўся, што лаяцца пачнеш, у хату не пусціш, — мусіў прызнацца муж. — Дай, думаю, распрануся — не пакінеш жа ты мяне голага на вуліцы. Ды хаты, як на тое ліха, пераблытаў, да Лільчынай ногі прывялі.

— Ведаеце, дзядзька Тадзік, мой Сашка вам гэтыя самыя ногі таго… можа… Ён жа, самі ведаеце, які раўнівец, — пасур’ёзнела Лілька. — Гэта я толькі цяпер дазналася, дзякуй цётцы Эдзі, чые гэта ўборы ў мяне на ганку апынуліся. А раніцою, як ўбачыла, дык спужалася дужа: заб’е Сашка! Што рабіць, думаю? Вырашыла спаліць хутчэй тыя транты — каб і гузіка не засталося!.. А тут цётка Эдзя прымчалася, крычаць пачала…

— Слухай, Лілька, — перабіў яе Тадзік, — а дзе мая шапка? Дома пакінула, ці што?

— Ці што… — уздыхнула маладзіца.

— Спаліла яна тваю васьміклінку. Добра, што пінжак са штанамі паспела выхапіць, — зіркнула Эдзя на маладзіцу.

Лілька далася ў дзверы:

— Я б яшчэ з вамі лясы патачыла, ды некалі — сняданак ладзіць трэба. Сашка зараз вернецца!

— Бяжы, верціхвостка! — махнула рукою Эдзя. — Відаць, твая праўда…

— Але, Эдзечка, праўда, усё так і было, — заківаў галавою муж і неўспадзеўкі ўсхліпнуў.

— Чаго гэты ты, стары? — насцярожылася жонка.

— Васьміклінку шкада, — уздыхнуў Тадзік і ўзяўся апранацца…

«Эх, ты, разявака, — гнэціў[1] ён тым часам сябе, — трэба было ноччу Сашкам назвацца. Адчыніла б Лілька дзверы — а тут я, як кажуць, у поўным парадзе…»

— А пра Лільку ты таго, забудзься, — азвалася жонка. — І штаны абы-дзе не раскідвай, я іх у наступны раз па вёсцы шукаць не буду. І калі яшчэ раз так нажлукцішся, я цябе ў ЛПП здам!

— Добра, Эдзечка, добра, — згодна падтакваў Тадзік. — Дальбог, не буду.

А ў думках моцны, не такі ўжо і стары Тадзік прыгарнуў да сябе Лільку і моцна прыціснуў да сябе:

— Эх, гары мая васьміклінка!..

---

[1] Гнэціць — дакараць.



## Аляксандр БЫКАЎ

### ГАЛІНКА БЭЗУ

Няхай імпэту нестае,
Не той гарэза, —
Табе пакіну на стале
Галінку бэзу.

З нябёсаў майскіх праз гады
Святло пральецца.
У белай квецені сады —
Бяруць за сэрца.

Шлях ад нязгаданых сустрэч
Да вуснаў спелых —
Які ён доўгі насамрэч,
Які нясмелы…

Калі душу ізноў кране
Гук паланэза,
Прымі, як калісь, ад мяне
Галінку бэзу.

---

***Быкаў Аляксандр Генадзьевіч*** *нарадзіўся 7 верасня 1954 года ў Барысаве. Служыў у Савецкай Арміі. Працаваў на Барысаўскім дрэваапрацоўчым камбінаце, у шматтыражнай газеце Барысаўскага завода аўтатрактарнага электраабсталявання. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ (1985). З таго часу жыве ў горадзе Мядзел. Працуе загадчыкам аддзела эканомікі і рынычных адносін раённай газеты «Нарачанская зара».*

*Аўтар зборнікаў вершаў «Целую руки женщины моей» (1990), «Кветка папараць» (2005), «Пад небам буслiным» (2007).*

## ЖАМЧУЖНАЕ ВЯСЕЛЛЕ

Я спатыкаўся
І сяброў губляў…
Ды побач ты —
Пяшчотная і мужная.
Нам лёс вяселле,
Ціхае, жамчужнае,
Як рэха тых грымот,
Падараваў.

Дзень сённяшні і дзень,
Што ў цемры згас, —
Сусвету справа звыклая,
Руцінная.
А ты, як і жыццё,
Ў мяне адзіная.
І неба, і анёлы там —
За нас!

## НАРАЧ

Над высокім чаротам
Поўня тайнамі поўніцца.
Памаўчым мы, і потым
Мара даўняя ўспомніцца,
Што змалолася ў тло
За далёкімі далямі.
Вечных зорак святло
Разальецца над хвалямі.
У начной цішыні
Дрэмле Нарач насуплена.
Не вярнуць нам, ані,
Светлай мары, што згублена.
І не зведаць, адкуль
Тая сцежачка зорная.
Недзе плёсне акунь
Па-над хваляй азёрнаю…

## ДЗВЕ З'ЯВЫ

Дзве з'явы ў жыцці
Заўсёды мне сэрца натхнялі,
І цяжка сказаць,
Што патрэбна паэту найперш:
Ці неба начное,
Дзе зоркі зіхцяць, як каралі,
Ці позірк жанчыны,
Што просіцца сцішана
Ў верш.

## МАТЫЛЁК

Сонца восеньскае праз шкло
Саграває сівыя скроні.
Матылёк на маёй далоні —
Хоча ўзняцца зноў на крыло,

Бы змяніць ён жадае лёс.
За акном надыходзіць вечар,
І, нібыта ўспамін аб вечным,
Ціха кроны гараць бяроз.

## АСЕННЯЯ РАПСОДЫЯ

Зляціць лісток апошні непрыкметна.
І — цішыня, балючая на слых.
А восень зноў паабяцае лета
Пасля завей і лютаўскіх адліг.

І рук тваіх забытая пяшчота
Растопіць раптам стылыя снягі.
І чуйным сэрцам злоўленая нота
Мне верне зноўку вобраз дарагі.

Не здольны мы прадбачыць анічога.
Ды сонечны народзіцца прамень
І намалюе, як аловак Бога,
Блакітнавокі непаўторны дзень.

За дальняю, нябачнаю мяжою
Схавана што, — ні зведаць, ні пачуць.
Апошні ліст — анёлам над душою,
Пакуль сады ізноў не зацвітуць.

**Яўген ГАРАДНІЦКІ**

# UT PICTURA POESIS[1]

## *(Паэтыка і эстэтыка Уладзіміра Караткевіча)*

Насуперак шырокавядомаму выслоўю аб тым, што «стыль — гэта чалавек» (упершыню сфармуляванаму, дарэчы, вучоным-натуралістам Жоржам Бюфонам у яго прамове пры ўступленні ў Парыжскую акадэмію навук у 1753 годзе), на самай справе не так і часта сустракаюцца выпадкі гарманічнага паяднання чалавечых якасцей творцы з мастацкім светам, які ім ствараецца. Таму што ў дадзеным выпадку размова ідзе не толькі пра індывідуальныя асаблівасці стылю, творчага почырку аўтара, але і пра яго *асаблівыя*, вельмі блізкія і, можна сказаць, *інтымныя* ўзаемаадносіны з тым, на што скіраваны яго мастацкія памкненні, яго жаданне ўвасобіць у мастацкай форме запаветныя думы і адчуванні, а, значыць, пэўным чынам і самому *ўвасобіцца* ў сваіх творах.

Створанае ў літаратуры Уладзімірам Караткевічам — якраз надзвычай паказальны прыклад такога шчыльнага паяднання асобы аўтара і яго мастацкага свету. Чым гэта абумоўлена? Думаецца, не толькі неабходнай у такім выпадку *шчырасцю* пісьменніка, яго адкрытасцю перад чытачом, і нават не толькі яскравасцю таленту. Не менш важнымі фактарамі з’яўляюцца маштаб асобы, жыццёвая энергетыка творцы, адметнасць яго характару.

У «Чорным замку Альшанскім», апошнім рамане выбітнага пісьменніка, ёсць мясціна, дзе герой твора дае характарыстыку аўтару. Увогуле прыём гэты рэдка сустракаецца ў літаратурнай практыцы і па-свойму ўнікальны, добра выяўляе творчую раскаванасць пісьменніка, свабоду самавыражэння, калі да звыклай для яго стылю іроніі дадаецца яшчэ і самаіронія.

Антон Косміч, галоўны герой рамана, вядзе са сваімі новымі сябрамі размову на розныя тэмы. Закранаюць яны і літаратурныя пытанні. «Мылі, мылі костачкі інжынерам чалавечых душ (пачулі б яны гэта з трыбуны), і скончылася размова яшчэ на адной асобе, да якой я ўвогуле стаўлюся цярпіма:

— Ну а гэты... Караткевіч? — спытаў Шаблыка.

— А нішто сабе. Толькі чумавы нейкі, дурашны. Левай рукой правае вуха цераз галаву чухае... Ніколі не ведаеш, чаго ад яго чакаць» [1, с. 373].

У гэтых іранічных словах, у такой жартаўлівай форме выявіліся погляд пісьменніка на самога сябе, яго ацэнка ўласнага характару, а ў нейкай ступені і адносіны да творчасці. Літаратура — гэта творчыя пакуты, знясільваючая праца, але гэта таксама і *вясёлая справа*. Караткевіч, як ніхто іншы з беларускіх пісьменнікаў, мог спалучаць гэтыя полюсы творчага працэсу.

Гэта быў надзвычайны працаўнік, які не ашчаджаў сваіх сіл у натхнёнай, апантанай працы, што часта была папросту звыш чалавечых магчымасцей. Аднак, чытаючы яго творы, не можаш не адчуваць і той радасці, якую прыносіла аўтару творчая праца, сам працэс тварэння, раскрыцця ў слове шматфарбнасці, незвычайнасці, велічы свету.

---

[1] Жывапіс словам (лац.).

У тым жа «Чорным замку Альшанскім» у адным з эпізодаў выяўлены адносіны да творчай працы, да пісьма як да нейкага *свяшчэннадзейства*. Галоўны герой, ён жа апавядальнік, расказвае аб тым, як ён рыхтуецца да таго, каб сесці за пісьмовы стол. Апісваецца пры гэтым цэлы рытуал, прасякнуты адчуваннем урачыстасці моманту, калі «ты ўвесь, і скураю і нутром, падрыхтаваны да вялікай Работы, адзінага пэўнага, што ў цябе ёсць» [1, с. 203]. Няма сумнення ў тым, што ў дадзеным выпадку пачуцці героя падзяляе і аўтар. Тут выяўлены і яго, Караткевіча, погляды на значэнне творчасці ў жыцці чалавека, а, хутчэй за ўсё, таксама і яго асабістыя схільнасці ў наладжванні творчай працы, суправаджэнні яе пэўнымі сімвалічнымі дзеяннямі.

У кожнага пісьменніка могуць быць нейкія свае ўласныя звычкі і схільнасці, якія выяўляюцца падчас рэалізацыі ім творчай задумы. Гэта могуць быць нават якіясьці побытавыя дробязі, аднак жа трывала ўкаранёныя ў жыццёвы і творчы ўклад мастака. Яны настройваюць на патрэбны лад, спрыяюць стварэнню адпаведнага настрою. У Караткевіча былі свае, замацаваныя доўгімі гадамі мастацкай практыкі, звычкі. Пра гэта сведчыць у кнізе ўспамінаў «Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча» прафесар Адам Мальдзіс. Адзначаючы такую рысу свайго сябра як працавітасць, ён згадвае асобныя дэталі яго пісьменніцкай працы, напрыклад, тое, што Уладзімір Сямёнавіч любіў пісаць на добрай паперы, што для пісьма ім выкарыстоўвалася «добрае — кітайскае або паркераўскае — пяро». Па сутнасці, усё, пералічанае Мальдзісам, знайшло ўвасабленне пры апісанні таго, як рыхтуецца да працы герой у рамане «Чорны замак Альшанскі». Мальдзіс піша далей: «Караткевіч адносіўся да пісання як да свята. Асабліва ў маладзейшыя гады. Апранаў чыстую кашулю. Ставіў побач кубак моцнай кавы. Даставаў падрабязна прадуманы і неймаверна счырканы план дзеяння» [2, с. 223]. Каб пераканацца ў тым, наколькі блізка сыходзяцца ў гэтым выпадку факты з біяграфіі аўтара і героя, варта параўнаць прыведзены пасаж з успамінаў з адпаведным месцам у рамане.

Караткевіч адчуваў у сабе волатаўскую творчую сілу, здольнасць узняць цэлыя нярушныя пласты на мацерыку роднай культуры. Тое, што было ім задумана да здзяйснення, настолькі ўражвае сваім размахам, што немагчыма абысціся тут без згадвання выразу «творчы подзвіг». Караткевіч свядома ішоў на такі подзвіг. Захаваліся планы, што ствараліся пісьменнікам на пачатку яго творчага шляху і якія сведчаць пра маштабы яго мастацкіх сяганняў. Даследчык жыцця і творчасці Караткевіча Анатоль Верабей прыводзіць такія дадзеныя: «У 104-й папцы хатняга архіва пісьменніка захоўваецца ліст паперы ў лінейку, дзе ён падаваў тыя кнігі, якія марыў напісаць і якія маглі б скласці 78 тамоў» [3, с. 15]. Гэты спіс, змешчаны ў манаграфіі даследчыка, сапраўды ўражвае. Асабліва кідаецца ў вочы надзвычайная жанрава-тэматычная разнастайнасць плануемых твораў. На вялікі жаль, пісьменніку ўдалося толькі часткова ажыццявіць задуманае. Аднак і здзейсненае (а гэта 25 тамоў новага збору твораў, які неўзабаве пачне выдавацца!) таксама ўражвае і сваімі абсягамі, і мастацкай значнасцю, таленавітасцю ўвасаблення.

Грандыёзнасць задуманага, незвычайная па сваіх маштабах веліч творчых планаў вымагалі ад пісьменніка заўсёднай напружанай працы, надзвычайных творчых высілкаў. Іх ажыццяўленню, вядома, садзейнічалі ўсталяванне размеранага ладу працы, прытрымліванне пэўных звычак і правіл, апантаная працаздольнасць.

Аднак уседлівасць за пісьмовым сталом спалучалася ў Караткевіча з рысай увогуле процілеглага характару — з цягай да вандровак, падарожжаў, прагай пазнання новых прастораў і краявідаў. Гэтую рысу таксама адзначае Мальдзіс у сваёй змястоўнай, насычанай цікавымі фактамі кнізе, звяртаючы ўвагу на мабільнасць, «лёгкасць на пад'ём» свайго сябра. «У самы нечаканы момант ён мог усклікнуць: «Пайшлі!» або «Паехалі!». І ішоў (пакуль дазвалялі ногі) з аднаго канца горада на другі, ехаў да сваякоў або сяброў» [2, с. 198].

Пра сумесныя падарожжы з Караткевічам па роднай краіне і за яе межамі пакінулі ўспаміны многія яго сябры, у тым ліку Янка Брыль і Уладзімір Калес-

нік — самі заўзятыя падарожнікі. Пра вандроўкі пісьменніка сведчаць таксама многія яго творы, якія з гэтых вандровак, па сутнасці, і выраслі. У першую чаргу гэта датычыць бліскучых эсэ Караткевіча, яго нарысаў і такой па-свойму ўнікальнай дакументальнай кнігі, як «Зямля пад белымі крыламі», метафарычная назва якой стала адным з сімвалічных абазначэнняў нашай Радзімы.

Кожны твор, які ўзнікаў у выніку судакранання пісьменніка з новымі жыццёвымі прасцягамі, быў не проста фіксацыяй уражанняў і зборам фактаў, ён вызначаўся перш за ўсё *асабістым адкрыццём* свету, радасцю пазнання. Гэтым адкрыццём, гэтай радасцю аўтар спяшаўся падзяліцца з чытачом, імкнучыся пры гэтым захаваць першаснасць пачуццяў, данесці самае важнае — непасрэднасць адчуванняў разнастайных і шматаблічных падрабязнасцей жыцця. «Казкі Янтарнай краіны»... Колькі ў гэтым прачулым аповедзе пра Латвію і старажытную Рыгу такой вось непасрэднай аўтарскай захопленасці, увасобленай у яскравых, запамінальных вобразах!

Пачуццё бясконцасці жыцця, невычарпальнасці прасторы і часу, увасобленых у колерах, пахах, гуках! Гэтая юначая захопленасць жыццём, імкненне рухацца наперад у яго спазнанні асвятляюць дзівосным святлом выяўленыя аўтарам краявіды, надаюць ім незвычайную каларытнасць.

«Дарога вядзе ад хутара да хутара, мяккая, як аксаміт, расквечаная блакітнымі лужынкамі, звілістая і няпэўная, як палёт матыля.

Яна віецца ля рэчак і маленькіх гаёў, перавальвае цераз былыя ледавіковыя грывы, нырае ў крывавыя канюшыннікі.

Дыхайце, грудзі, спявайце, вусны, спяшайцеся ў дарогу, ногі!

І няхай трапеча над галавою жаўранак, няхай ляціць у твар вецер з не ходжаных яшчэ палёў» [4, с. 29].

Якая прасторная і жыццярадасная перспектыва адкрываецца разам з гэтым малюнкам-імпрэсіяй, падобным на выдых!

«Званы ў прадоннях азёр»... Гэта маляўнічы, эсэістычны твор падарожнай тэматыкі, якім быў адзначаны адзін з важнейшых момантаў у біяграфіі пісьменніка — адкрыццё ім беларускага Палесся, зараджэнне любові, захопленасці гэтым цудоўным, самабытным краем, якія будуць пранесены Караткевічам праз усё яго, на вялікі жаль, такое нядоўгае, але незвычайна насычанае, палымянае жыццё. Прыпяцкія разлівы, краса, веліч і спакой прыродных краявідаў, характар палешукоў, стыхія народнага жыцця — спаконвечнага жыцця на ўлонні прыроды, у гарманічнай паяднанасці з яе законамі... Усё гэта суладна лягло на душу пісьменніка, стала неад'емнай часткай яго духоўнага свету. Нездарма яго пацягнула на зыходзе жыцця, літаральна ў апошнія адлічаныя яму няўмольным лёсам дні, на Палессе, да Прыпяці — развітацца назаўжды з улюбёнай красой, з самім жыццём, з Беларуссю.

Душэўная шчодрасць, адкрытасць характару, эмацыянальная ўзнёсласць, рамантычнае служэнне ідэям красы і дабра — гэтыя рысы вобліку Караткевіча, пісьменніка і чалавека, былі ў суладнасці з самой стыхіяй жыцця, яе нязменнай, вольнай плынню. Магчыма, таму самым дарагім сімвалам жыцця, яго шчодрасці і несканчонасці, была для яго *рака*. Да рэк ён ставіўся як да жывых істот, у кожнай з якіх свой характар і нораў. Згадаем хоць бы такі верш, як «Дняпро і Ака. Ён і яна» са зваротам-маленнем: «Божа рэк, ажані / Мой Дняпро з прыгажуняй Акой...». З усіх на свеце рэк для яго *галоўнай* быў родны Дняпро — «мая рака», як ён назваў яе ў тых жа «Званах у прадоннях азёр», прысвяціўшы ёй асобны раздзел. Гэта ўзнёслы, паэтычны хваласпеў рацэ, якая была для пісьменніка ўвасабленнем магутнасці і велічы, сімвалам самой Бацькаўшчыны.

Аддаючы даніну іншым славутым рэкам Беларусі, Караткевіч прызнае ўсё ж першынство менавіта за Дняпром, сцвярджаючы, што няма на свеце лепшай ракі «за мой сонечны, за мой суровы і шырокі, за мой старажытны Дняпро...» [4, с. 56]. Звернем тут, дарэчы, увагу на саму форму выказван-

ня, яе стылёвую адметнасць. Яна гранічна набліжана да паэтычнага спосабу выражэння. Сінтаксічныя паўторы, што надаюць мове Караткевіча асаблівую ўзвышанасць, рытарычную ўзнёсласць, адна з найбольш характэрных рыс яго паэтычнага стылю. Акцэнтацыя ў дадзеным выпадку займенніка першай асобы, з дапамогай якой выяўляецца пачуццёвая суб'ектыўнасць, прыводзіць на ўспамін назву кнігі паэзіі «Мая Іліяда» — адной з самых яскравых паэтычных з'яў 1960-х. Назва гэта ўяўлялася мне заўсёды ў пэўным сэнсе загадкавай, хоць і было зразумела, што маецца на ўвазе перш за ўсё далучэнне да духоўнага свету антычнасці. Выразна абазначаная асабістасць успрымання становіцца больш зразумелай, мабыць, у супастаўленні дадзенай назвы з выразамі, падобнымі да вышэй прыведзенага — *мая рака*. Тут няма ні грама саманадзеянага эгацэнтрызму, а мае месца толькі выяўленне духоўнай *блізкасці* з усім існым на свеце.

Гісторыя і культура чалавецтва ў паэтычным свеце Караткевіча цесна спалучаюцца з быццём і самаўсведамленнем уласнага народа, і ажыццяўляецца гэта спалучанасць праз асабовасць адчуванняў, індывідуальнае ўспрыманне творцы. Каб выявіць такую цэласнасць светабачання, патрэбна валодаць вялікім мастацкім дарам. Мы бачым пацвярджэнне дадзенай заканамернасці ў шэрагу, прадстаўленым буйнейшымі імёнамі беларускага Парнаса: *Багдановіч, Танк, Караткевіч...* Творцы, якія былі здольны свой глыбокі і самабытны талент пашыраць за кошт звароту як да народных, фальклорных вытокаў, так і да сусветных мастацкіх здабыткаў.

Лісты, дасланыя ў свой час Караткевічам Максіму Танку, сведчаць не толькі пра піетэт, які адчуваў пачынаючы аўтар да агульнапрызнанага майстра паэтычнага слова, але і пра блізкасць эстэтычных пазіцый. У іх, у прыватнасці, знайшла адлюстраванне мара маладога паэта пра стварэнне (узнаўленне) беларускага паэтычнага эпасу. Знаходзячы ў творчасці Танка рэальныя падставы для ажыццяўлення ім такой місіі (напрыклад, вобраз Люцыяна Таполі — увасабленне народнага творчага духу), адрасат імкнуўся натхніць вялікага беларускага паэта на стварэнне шырокага эпічнага палатна, звядзенне ў адно мастацкае цэлае вобразаў і матываў, у якіх заключаецца гісторыка-культурны вопыт нацыянальнага быцця.

Творчасць Караткевіча, па сутнасці, уяўляе сабой у многім спробу рэканструкцыі такога кшталту эпічнасці, у якой выяўляецца народны менталітэт і народная эстэтыка, паўстае ў геразаваным абліччы народны ідэал. Ажыццяўленне такой маштабнай задачы вымагала ўжывання спецыфічных падыходаў, выкарыстання адпаведнай паэтыкі. Таму цалкам натуральным і заканамерным з'яўляецца зварот пісьменніка да сродкаў мастацкай экспрэсіі, уласцівых рамантызму. Гэта адпавядала як мастацкім устаноўкам, скіраваным на геразацыю і ўзвелічэнне героя, так і асабовым якасцям аўтара, характару яго светаадчування.

Хоць сам Караткевіч і адхрышчваўся ўсяляк ад залічэння яго ў рамантыкі, аднак жа аб'ектыўна ёсць усе падставы для таго, каб у многім звязваць яго творчасць менавіта з такой з'явай у літаратуры XX стагоддзя, як неарамантызм. Гэты стыль (у шырокім сэнсе паняцця) даваў магчымасць сінтэтычнага паяднання агульначалавечага, нацыянальнага і індывідуальнага, выяўлення самых агульных быццёвых заканамернасцей праз асабовае ўспрыманне. Пры гэтым пачуццёвая сфера станавілася дамінуючай у дадзенай мастацкай сістэме, менавіта ёю прадвызначаліся адносіны аўтара і яго герояў да ўсіх праяў быцця.

Трэба, аднак, заўважыць, што Караткевіч меў рацыю, калі не жадаў атаясамліваць сваю творчасць толькі з адным мастацкім напрамкам або стылем. Па-першае, для беларускай літаратуры такая сітуацыя, калі творчасць пісьменніка выходзіць далёка за межы аднаго напрамку, з'яўляецца надзвычай распаўсюджанай і звыклай. Па-другое, Караткевіч гэта якраз той аўтар, які ў сілу адметнасці свайго характару, шматграннасці творчай натуры не мог, нават пры жаданні, змясціцца ў рамках якога-небудзь аднаго напрамку. Занадта яскравым, непасрэдным і шматбаковым талентам быў ён надзелены, каб абмяжоўваць сябе толькі адной сферай. Калі задацца пошукам аналогій феномена Караткевіча, то, мабыць, ёсць

сэнс звярнуцца да эпохі Адраджэння (і не толькі беларускага, але і еўрапейскага), да постацей творцаў таго часу, якія вызначаліся шырынёй творчага кругагляду, універсальнай разнастайнасцю талентаў. Не толькі гуманістычнай скіраванасцю сваіх твораў блізкі Караткевіч да прадстаўнікоў гэтай эпохі, але і сакавітасцю, буйствам фарбаў мастацкай палітры, раблезіянскім размахам вобразаў і выяў.

З другога боку, Караткевіч у мастацкіх адносінах апярэджваў свой час, з'яўляючыся прадвеснікам, а, магчыма, і першым прадстаўніком літаратуры постмадэрнізму. Сёння аб гэтым усё больш настойліва пачынаюць заяўляць даследчыкі. Да такой думкі схіляе аналіз паэтыкі такіх яго твораў, як «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» і «Чорны замак Альшанскі».

Караткевіч — агульнапрызнаны майстар гістарычнай прозы. Яго намаганнямі беларуская гістарычная аповесць, раман сталі папулярнымі жанрамі літаратуры. Па сутнасці, менавіта з яго і пачынаецца бурнае развіццё сучаснай беларускай літаратуры на гістарычную тэму. Пры гэтым гістарычныя творы Караткевіча ўнікальныя па сваіх жанравых характарыстыках. Гістарычны матэрыял часта ўваходзіць у творы з выразна выяўленымі прыкметамі іншых жанраў — прыгодніцкай, дэтэктыўнай літаратуры; такім чынам утвараюцца спецыфічныя аўтарскія жанравыя формы. У творах Караткевіча гісторыя непасрэдна судакранаецца і ўступае ў дыялог з сучаснасцю, яна актуалізуецца ў свядомасці і ўчынках герояў-сучаснікаў.

Каб абудзіць у сучаснага чытача цікавасць да добра-такі падзабытай беларускай гісторыі патрэбны быў, сапраўды, такі самабытны, яскравы талент, які валодаў Караткевіч. Талент, які мог бы ажывіць прыцьмелыя ад часу фарбы, аднавіць галасы далёкага мінулага.

Караткевіч быў надзелены дарам жывапісання словам. У маляўнічасці, шматфарбнасці мастакоўскай палітры пісьменніка выявіліся яго прыроджаныя здольнасці эстэтычнага ўспрымання рэчаіснасці. Тут дарэчы будзе згадаць пра выдатныя вакальныя здольнасці Караткевіча і яго талент мастака-рысавальшчыка. Усё гэта сведчыць пра шматграннасць яго творчай асобы, а таксама і пра цэльнасць таленту, які мог з такой выразнасцю, мастацкай сілай праяўляцца ў розных сферах. І хоць схільнасці да спеваў і малявання заставаліся ўсё ж не галоўнымі ў справе яго жыцця, аднак і яны пэўным чынам уплывалі на агульны творчы настрой, садзейнічалі паўнейшаму раскрыццю творчага патэнцыялу пісьменніка. У дадзеным выпадку ўступаў у дзеянне прынцып узаемадапаўняльнасці.

Караткевіч пакінуў даволі вялікую колькасць малюнкаў, шаржаў, накідаў, якія ствараліся ім як бы між іншым, у хвіліны, вольныя ад пісьменніцкай працы. У многіх з іх выявіліся непараўнальны караткевічаўскі гумар, яго гарэзлівая ўсмешка. А разам з тым і ўменне ўхапіць некалькімі штрыхамі, рысамі запамінальны і самавіты вобраз. Вядома, падобныя рысавальныя практыкаванні маглі пасля знайсці свой працяг і ў літаратурнай працы, маглі падштурхнуць думку ў пэўным кірунку, дапамагчы знайсці патрэбны каларыт, ракурс гледжання. Мы знаходзім багата прыкладаў такога плённага ўзаемадзеяння розных мастацкіх сфер у творчай практыцы многіх аўтараў. Хоць Караткевіч і не спрабаваў выявіць сябе яшчэ і ў жывапісе як адным з відаў выяўленчага мастацтва, аднак колеры і іх адценні займаюць у яго творах вельмі істотнае месца, набываючы, па сутнасці, канцэптуальнае значэнне ў яго мастацкай сістэме.

У творах Караткевіча выразна прасочваецца колеравая апазіцыя *чорнага, цьмянага — белага, светлага*. Асабліва кантрасна выяўляецца яна ў паэтычных творах, у якіх колеравая гама ўвогуле атрымоўвае метафарычнае асэнсаванне. Як, напрыклад, у вершы «Крумкачы», дзе гэтыя птушкі, лунаючы ў «чорных хмарах», як «чорныя крыжы вякоў мінулых», сімвалізуюць сабой усё цяжкае і змрочнае, ад чаго імкнецца пазбавіцца лірычны герой. Або ўзяць, да прыкладу, верш зусім іншай танальнасці — «Дзіва на Нерлі», у якім шэдэўр старажытнарускай архітэктуры паўстае ўвасабленнем усяго самага светлага і дабрадзейнага ў жыцці

(«Белая песня ў лугах залацістых, / Кліч адзвінеўшых стагоддзяў зямлі, / Кволая-кволая, чыстая-чыстая, / Быццам дзяўчына, царква на Нерлі») [5, с. 82].

Аднак найбольш канцэптуальным з’яўляецца супрацьпастаўленне ў паэтыцы Караткевіча не асобных колераў, а наогул шматфарбнасці жыцця тым тэндэнцыям, якія вядуць да яго збяднення, выпусташанасці, пазбаўляюць яго цудадзейнасці і красы. Вельмі паказальным у гэтым плане творам з’яўляецца «Чорная балада Гаркушы», дзе супрацьпастаўленне буяння, зіхацення, пераліваў усіх колераў жыцця мёртваму змроку набывае выразна гуманістычнае гучанне. Эстэтычнае тут, як і ва ўсёй творчасці Караткевіча, цесна пераплятаецца з маральным і сацыяльным. Колеры жыцця страчваюць сваю яскравасць і зыркасць там, дзе распасцірае свае крылы зло. Але, з другога боку, яны, сімвалізуючы сабой радасць і веліч жыцця, яго незгасальную творчую сілу, якраз і з’яўляюцца адным з пераканаўчых аргументаў у заўсёднай спрэчцы дабра і зла.

Вялікі жыццялюб, захоплены прыгажосцю свету і роднай зямлі, Караткевіч пакінуў нам сваю разнастайную, надзвычай таленавітую, самабытную мастацкую спадчыну як запавет — цаніць і берагчы жыццё, якое з’яўляецца найвялікшым цудам. Нездарма апошні яго раман «Чорны замак Альшанскі» заканчваецца такім узнёслым, прасякнутым любасцю і захапленнем, выгукам: «О, жыццё!»

**Літаратура:**

1. Караткевіч, Уладзімір. Збор твораў: у 8 т. Т. 7. Мінск: Маст. літ., 1990.
2. Мальдзіс, Адам. Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча: Партрэт пісьменніка і чалавека. Мінск: Маст. літ., 1990.
3. Верабей, Анатоль. Абуджаная памяць: Нарыс жыцця і творчасці Уладзіміра Караткевіча. Мінск: Маст. літ., 1997.
4. Караткевіч, Уладзімір. Збор твораў: у 8 т. Т. 8. Кн. 2. Мінск: Маст. літ., 1991.
5. Караткевіч, Уладзімір. Збор твораў: у 8 т. Т. 1. Мінск: Маст. літ., 1987.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 23 верасня 2010 года.

Яўген Гарадніцкі
«Ut pictura poesis»

**Рэзюмэ**

Творчасць Уладзіміра Караткевіча ў многім выяўляе народны менталітэт і народную эстэтыку. У артыкуле даследуецца паэтыка твораў аднаго з самых папулярных беларускіх пісьменнікаў, гарманічнае паяднанне чалавечых якасцей творцы са створаным ім мастацкім светам.

Jauhen Haradnitski
«Ut pictura poesis»

**The Summary**

Uladzimir Karatkevich’s art as a writer brightly brings to light the national set of mind and folk aesthetics. The author of the article analyzis the poetics of works of one of the most popular belarusian writers and harmonious unity man’s qualities of the master with the world of his fictitious characters.

# ЯКУБ КОЛАС — ДЗЕЦЯМ



*Зінаіда Мікалаеўна Камароўская.*

## РАДКІ, СПАЗНАНЫЯ З МАЛЕНСТВА

Зорка Коласа, што з’явілася амаль 130 гадоў таму, сваім святлом радуе нас і будзе радаваць не адно пакаленне беларусаў. У кожным узросце мы знаходзім свайго Коласа і пасля вяртаемся да яго зноў і зноў. Сіла паэтычнага слова Якуба Коласа настолькі магутная, што, дакрануўшыся да яго аднойчы, з’ядноўваешся з ім назаўсёды. Яшчэ ў маленстве мы, вясковыя дзеці, просячы матулю дазволіць пакатацца на санках, дэкламавалі:

— Мамачка-галубка! —
Просіць ён так міла, —
Можа б ты на рэчку
Пагуляць пусціла?
Я не буду доўга,
Зараз жа вярнуся,
Трошачкі на рэчцы
Ў санках паважуся.

*(«На рэчцы зімою»)*

Ці напрадвесні, удыхаючы ледзь прыкметны, але ўжо такі жаданы водар надыходзячай вясны, прыжмурыўшы ад сонечнага бляску вочы, перабіваючы адзін аднаго, весела выгуквалі:

Уцякай, мароз-дзядуля!
Чуеш ты, стары, ці не?
На пагорках — булі-гулі! —
Песні чуюцца вясне.

*(«Песня аб вясне»)*

І крыху пазней, падлеткамі ўжо, ідучы ў школу ваколіцай вёскі, дзе бруіла між алешын празрыстая звонкая рачулка Краснапёрка, і калі прыгажосць наваколля паланіла душу і сэрца, узнікалі ў памяці радкі:

Між алешын, кустоў,
Дзе пяе салавей,
І шуміць і грыміць
Срэбразвонны ручэй.

*(«Ручэй»)*

Працуючы ў музеі і маючы магчымасць чытаць і перачытваць Коласа, яго рукапісныя старонкі, кожны раз упэўніваюся ў геніяльнасці паэта, якая праяўляецца ў даступнасці і запатрабаванасці чытача рознага ўзросту.

Асаблівае захапленне і замілаванне выклікаюць творы, напісаныя для дзяцей, казкі ў яго апрацоўцы. Якуб Колас у казках бачыў надзейны стрыжань выхавання маладога пакалення. Гэта адна з самых даходлівых формаў вобразнага пазнання свету і адначасова эстэтычная асалода, якую атрымліваюць дзеці. Якуб Колас апрацаваў звыш 40 народных казак, напісаў безліч вершаў для дзяцей.

Шчаслівае спалучэнне таленту настаўніка і паэтычнага дару дало магчымасць карэктна падысці да выхаваўчага працэсу ад казак для дзяцей і да аповесцей для моладзі, застаючыся на заднім плане як умудроны жыццём чалавек, якога хочацца слухаць, які ўмее засцерагчы ад памылак і вельмі добра разумее дзіцячую і юнацкую псіхалогію.

Творы Якуба Коласа, напісаныя звыш 100 гадоў таму, актуальныя і сёння, кожны радок, кожнае слова нясуць у сабе вялікі сэнс, запавет, навучанне. Няхай не пададуцца гэтыя словы пафаснымі, але ўсё жыццё, адведзенае яму Богам, наканаванае Лёсам, Колас імкнуўся перадаць людзям праз радкі сваіх твораў.

Казкі, паданні, народная творчасць спадарожнічалі заўсёды. У сям'і будучага паэта панавалі кнігі, тут ведалі шмат твораў А. Пушкіна, І. Крылова, А. Міцкевіча на памяць. Падмурак, закладзены ў дзяцінстве бацькам Міхалам, маці Ганнай, дзядзькам Антосем, быў моцны і надзейны. «Ад сваёй маці я чуў многа народных песень, якія так моцна кранал і захаплялі мяне сваёй паэзіяй, шчырасцю, прастатой», — пісаў Якуб Колас.

Час уносіць свае карэктывы ў вывучэнне спадчыны свайго народа, у традыцыйны падыход да знаёмства з творчасцю славутых пісьменнікаў. Каб заахвоціць і звярнуць да першакрыніц дзяцей, супрацоўнікі музея праводзяць інтэрактыўныя экскурсіі, святы, імпрэзы, стварылі лялечныя пастаноўкі па творах Якуба Коласа. Казкі песняра маюць выхаваўчую накіраванасць. Яны невялікія па памерах, у іх створаны вобразы-тыпы, якія адпавядаюць пэўным рысам людзей. Так, у казцы «Воўк-дурань» асуджаецца імкненне лёгка, без намаганняў здабываць хлеб. Вялікае запатрабаванне ў школьнікаў і дзяцей малодшага ўзросту маюць пастаноўкі казак «Музыкі», «Савось-распуснік» і інш. Пераступаючы парог Дома Коласа, наведвальнікі, асабліва дзеці, адчуваюць подых мінулых часоў, дзе пануе паэзія, узнёсласць, любоў да роднага слова.

Кожны, хто падымаецца па скрыпучай лесвіцы на другі паверх, да мемарыяльных пакояў, паўз галерэі фотаздымкаў вядомых гасцей дома, і прыпыняецца ля ўзноўленага інтэр'ера сталовай, уяўляе, як вечарамі, за вялікім сталом, утульна прытуліўшыся да дзядулі, унукі зачаравана слухаюць аповед пра рака-вусача.

Вершаваная казка «Рак-вусач» упершыню была надрукавана ў часопісе «Беларускі піянер» у 1926 годзе. У аснову яе пакладзена казка, змешчаная ў кнізе «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» пад назвай «Цяжкая доля». Паэт пашырыў рамкі сюжэта, увёў у твор новыя эпізоды, карціны, герояў.

Адметнае месца ў творчасці Якуба Коласа займаюць «Казкі жыцця». Яны ўключаюць 32 навелы і ствараліся пісьменнікам усё жыццё. У літаратурнай экспазіцыі музея «Казкам жыцця» адведзены асобны раздзел, паколькі гэтыя глыбока філасофскія творы з'яўляюцца яркім прыкладам творчага падыходу да традыцый казачнага эпасу, пры напісанні іх выкарыстоўваўся нацыянальны фальклор. Яны выклікаюць вялікую цікавасць як у дарослых, так і ў школьнікаў рознага ўзросту. А для дашкольнікаў штогод, напярэдадні дня нараджэння Якуба Коласа, у памяшканні музея ладзіцца свята «Казкі жыцця», на якім дзеткі дэманструюць сваё майстэрства дэкламавання вершаў, танчаць, выконваюць песні беларускіх аўтараў. І апагеем свята з'яўляецца сустрэча з сынам Якуба Коласа, Міхасём Канстанцінавічам Міцкевічам, героем вядомай паэмы «Міхасёвы прыгоды», у аснову сюжэта якой былі пакладзены фактычныя матэрыялы і падзеі, што адбываліся з малодшым сынам у дашкольным узросце. Гэты твор мае вялікае педагагічнае, выхаваўчае значэнне. Дзякуючы яму маленькі чытач вучыцца пазнаваць асаблівасці прыроды, развіваць сваю фантазію.

Сёння малодшы сын песняра — вядомы вучоны, доктар тэхнічных навук, нястомны прапагандыст творчай спадчыны свайго бацькі. Але юнацкі запал і непаседлівасць і сёння не страчаны Міхасём Канстанцінавічам на даволі значным адрэзку жыццёвага шляху. На сустрэчах з дзецьмі ён можа падрабіць галасы птушак і звяроў, чым выклікае моцнае захапленне прысутных, прачытаць свае вершы і эпіграмы і, як і яго славуты бацька, хораша, мудра даць жыццёвыя парады маладому пакаленню. Творы Якуба Коласа ў майстэрскім выкананні Міхася Канстанцінавіча маюць своеасаблівае гучанне.

Дзіцячыя ўражанні — самыя моцныя ў жыцці. І калі хто наважыўся зрабіць падарожжа ў краіну свайго дзяцінства — калі ласка, завітайце ў Дом Коласа, а таксама на радзіму яго маленства, у Наднёманскі край. Тут, на Стаўбцоўшчыне, вас чакаюць непаўторныя мемарыяльныя сядзібы, дзе нарадзіўся паэт (Акінчыцы), дзе прайшло яго маленства (Ласток). Несумненна, успаміны аб ім сталі асновай славутай паэмы «Сымон-музыка», прысвечанай моладзі.

Найбольш цікавыя гады паэта знайшлі адлюстраванне ў адным з найвыдатнейшых твораў — паэме «Новая зямля». Гэта Альбуць ці, як прыгожа названа цудоўная мясціна аўтарам, Парэчча. Радкі «Мой родны кут, як ты мне мілы!.. Забыць цябе не маю сілы!» сталі сімвалам Беларусі.

Смольня — сядзіба, дзе ў хаце здзейсненай нарэшце мары аб уласным кавалку зямлі Міцкевічаў (1910 год) адбылася першая сустрэча двух волатаў беларускай літаратуры — Янкі Купалы і Якуба Коласа ў 1912 годзе.

Усе мемарыяльныя сядзібы злучаны ўнікальнай кампазіцыяй з драўляных скульптур па матывах герояў твораў Якуба Коласа, створанай у 1990—1992 гадах музеем сумесна з аддзелам культуры Стаўбцоўскага райвыканкама. Кожная мясціна, звязаная з імем Якуба Коласа, — гэта адкрыты ўрок для падрастаючага пакалення, гэта запавет песняра не выракацца родных каранёў, каб стаць сапраўдным чалавекам.

У лісце да дзяцей Брэсцкага дзіцячага дома Якуб Колас пісаў: «Ваша пара, ваш час — самыя лепшыя ў жыцці, і калі вы не скарыстаеце яго для навукі, для сапраўднай падгатоўкі да жыцця, дык вы ўпусціце тое, чаго потым будзе цяжка вярнуць, нагнаць. Хацелася б таксама чытаць вашы пісьмы на беларускай мове. Не трэба зневажаць мову народа, сярод якога вы жывеце, не трэба рабіць так, каб наша роднае слова не мела сабе прытулку ў сваёй роднай краіне».

***Зінаіда Камароўская,***
***дырэктар Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа.***

## ПА СТАРОНКАХ «МІХАСЁВЫХ ПРЫГОД»

**Пра тое, як ствараліся «Міхасёвы прыгоды», як і пра тое, што значыць сама літаратура ў яго жыцці, мы папрасілі расказаць галоўнага героя згаданай паэмы Якуба Коласа, малодшага сына песняра, доктара тэхнічных навук Міхася Канстанцінавіча Міцкевіча.**

***— Паважаны Міхась Канстанцінавіч, вось ужо 75 гадоў дзеці нашай краіны з захапленнем чытаюць «Міхасёвы прыгоды». Многім гэты коласаўскі твор, як і мне асабіста, дарагі з ранніх гадоў жыцця. Што б вы маглі сказаць пра тое, як адносіўся да дзяцей Якуб Колас у жыцці?***

— Па сутнасці Якуб Колас настаўнік. Ён настаўнічаў, выхоўваў і падрыхтоўваў дзетак у першыя і сярэднія гады навучання ў пачатковых школах, таму адносіўся да іх вельмі і вельмі ўважліва. Адчуваючы, што не хапае матэрыялаў для іх навучання, Колас распрацоўваў свае методыкі: і методыку выкладання мовы, і ўвогуле методыку навучання дзяцей. Ён прапрацаваў нямала крыніц, і кніжачка «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» спецыяльна была ім падрыхтавана, каб дзеткі маглі ўспрымаць усё наваколле, бачачы і адчуваючы прыроду, усё тое, што адбываецца ў жыцці, ад самага пачатку, ад асновы той прыроды, у якой яны знаходзіліся. І канечне Якуб Колас ужо мэтанакіравана выбіраў і моўныя, і літаратурныя сродкі, каб дзеці лягчэй засвойвалі прадмет. На працягу ўсяго жыцця прагледжваецца яго пільная ўвага да школы і да школьнікаў, да мовы, каб яе вывучалі ў школах. Гэта было ў Коласа на працягу ўсяго жыцця. І ў публіцыстыцы, і ў вершах. Многа вершаў прысвечана дзецям і непасрэдна датычыцца дзетвары. Яны вельмі лёгка завучваюцца на памяць. Калі Якуб Колас займаўся справаю выкладання беларускай мовы, ён гэта пытанне дасканала распрацоўваў па розных методыках. Трэба сказаць, што гэта значная навуковая праца пра тое, як лепей падаць школьнікам матэрыял, каб яны маглі добра навучыцца чытаць, рассказваць і асэнсоўваць змест твора. Бо кніга — гэта самая галоўная крыніца ведаў для людзей рознага ўзросту, і разлучацца з кнігай нельга, калі чалавек хоча падняцца вышэй таго ўзроўню, на якім ён знаходзіцца.



*Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч.*

***— Наколькі Якуб Колас дапускаў вымысел у творах для дзяцей?***

— Амаль уся творчасць Якуба Коласа грунтавалася на фактычным матэрыяле. Напрыклад, верш «Дронік». Сапраўды ў 1935 годзе я злавіў дразда з перабітым крылом, карміў яго, даглядаў, клапаціўся аб ім, пасля ў Мінск перавёз, а потым забыўся пра яго, і той памёр. Якуб Колас усё гэта апісаў у памянёным вершы. У вершы «Рагатка» таксама расказваецца пра выпадак, які адбыўся на самай справе. Мы з сябрамі ішлі купляць гумку для рагаткі, а нейкі хлопец адабраў у нас грошы. Наіўныя былі і сказаць няпраўду, схлусіць для нас было непрымальным. І, канечне, дзеці былі вельмі даверлівыя і іх было лёгка падмануць. Так яно і адбылося. Тут жа з'явіўся і гэты верш. Рагатка — рэч дурная, але такая праўда напісання твора.

***— Чаму Якуб Колас звярнуўся да апісання менавіта вашых дзіцячых прыгод?***

— Па-першае, мае старэйшыя браты жылі, можна сказаць, без бацькі, калі ён быў мабілізаваны ў армію, калі жыў далёка ад сваёй сям'і. І, канечне, паўплываць на выхаванне сыноў, убачыць, што адбываецца ў сям'і, не мог. А пазней ужо з меншым, са мною, ён і ў лес у грыбы хадзіў, і каля вогнішча разам сядзелі... Таму тыя падзеі, якія адбываліся ў маім дзяцінстве, ён адлюстраваў у паэме «Міхасёвы прыгоды», якой у гэтым годзе споўнілася 75 год. Там фактычна ўсё грунтуецца на сапраўдным жыццёвым матэрыяле. Трохі, можа быць, зменены

імёны. Не было Цішкі і Грышкі, а Інка, Юлька, Наталька, Ганулька — гэтыя дзяўчаты непрыдуманыя. Быў і Ванька з будкі чыгуначніка. Імёны, падзеі — гэта ўсё гісторыя. Але часта Галоўліт прыдзіраўся да шэрагу сказаў Якуба Коласа, таму, можа, і ён крыху дабаўляў мастацкай афарбоўкі. У заканчэнні аднаго з раздзелаў «Міхасёвых прыгод», дзе забіваюць гадзюку, калі кінулі яе на агонь, было напісана: «Каб больш не было яе духу, // На агонь палажылі псяюху». Галоўліт забараніў пісаць слова «псяюха», як лаянкавае. Таму радкі прыйшлося крыху змяніць: «Каб больш не было яе паху, // На агонь палажылі кусаху». Але ўсіх такіх дробязей не ўспомніш. Фактычна, ніякага вымыслу не было, усе падзеі рэальна адбываліся ў жыцці.

***— Міхась Канстанцінавіч, а якая геаграфія дзіцячых твораў Якуба Коласа?***

— Паколькі большасць твораў носіць аўтабіяграфічны характар, то яны ўжо звязаныя і з геаграфіяй. «Новая зямля» — Стаўпеччына, як непасрэднае месца дзеяння, але сам твор мае агульначалавечы характар. Трылогія «На ростанях» — Палессе. Многія вершы напісаны і ў Мінску, і на Пухавіччыне. Тыя мясціны, дзе жыў Якуб Колас, і якія запалі ў яго сэрца, адлюстраваны і ў яго творах. Паэма «Міхасёвы прыгоды» была напісана ў Мінску пасля таго, як мы ў 1934 годзе летавалі ў Тальцы.

***— А ці не засталося нешта па-за ўвагай Якуба Коласа? Былі ж, напэўна, яшчэ жыццёвыя выпадкі, якія маглі б увайсці ў гэту паэму?***

— Канечне, такія выпадкі былі. І адзін з іх, калі я атруціўся сушанымі грыбамі суседа. Якуб Колас не напісаў і пра тое, як мы з Юркам пайшлі на Свіслач, селі на беразе і назіралі, як плавае цэлы вывадак ужо вялікіх гусей. І раптам адзін гусь забіў крыламі і пайшоў пад ваду. Ніхто не ведае, хто яго пацягнуў. Можа, выдра, можа, сом. Гэта была такая жудасная карціна! Можна шмат прыгадаць розных цікавых падзей.

***— Міхась Канстанцінавіч, раскажыце, калі ласка, пра сваё дзяцінства. Якім яно вам узгадваецца?***

— Успаміны са свайго дзяцінства я змясціў у кнізе «Пад бацькоўскім дахам», якая пабачыла свет у мінулым годзе ў выдавецтве «Беларуская навука». Якуб Колас вельмі шмат працаваў і часу займацца з дзецьмі ў яго не хапала. Ён быў надзвычай загружаны напружанай працай. Калі зараз гэта ўспамінаю, то дзіўлюся, колькі ж трэба было яму мець сіл і энергіі, каб вырашыць усе свае пытанні і ў Акадэміі навук, і ў Саюзе пісьменнікаў, і ў сваёй пісьменніцкай рабоце, і тое-сёе дома... Толькі ў вольныя часы, напрыклад, у нядзелю, ён мог дазволіць сабе паехаць са мной у горад. Але тое не так часта здаралася — раз-два на год. А ўжо летні адпачынак праводзілі разам. Тут, канечне, можна ўспомніць многае... Згадваю, як летам 1930 года мы збіралі грыбы на Банцараўшчыне. Згадваю, як бацька прыносіў мне кулі са стрэльбішча, якое знаходзілася непадалёк. Была, відаць, кепская заслона, і кулі разляталіся па лесе. Бывала, што мы самі траплялі пад абстрэл, і даводзілася хавацца за дрэвамі. А для малога куля — гэта ж рэліквія. Хадзілі і на рэчку купацца. У грыбную пару Якуб Колас уставаў рана. Гадзін у пяць ішоў у лес, таму мяне малога не падымаў. І ў летні перыяд ён таксама займаўся сваёй пісьменніцкай працай. Але атмасфера ў сям'і была вельмі лагодная. Бацька надзвычай пяшчотна адносіўся да дзяцей. Іншы раз загадкі загадваў, прасіў штосьці вылічыць... Я ніяк не мог зразумець, якая розніца паміж вярстой і кіламетрам. Ён кажа: «На адну чатырнаццатую частку больш». А я яшчэ ў школу не хадзіў, таму не разумеў. Трэба было б, каб ён паказаў графіч-

на, але гэтага чамусьці не зрабіў. Як настаўнік, даваў такую работу, дзе патрэбна падумаць. Якуб Колас прывучаў мяне назіраць за прыродай, бачыць прыгажосць, якая атуляла нас з усіх бакоў.

***— Ці ўсё было гладка ў вашых адносінах з бацькам, ці гучалі якія-небудзь пярэчанні?***

— Ніякіх спрэчак і сварак не было. У маленстве, калі я яшчэ не хадзіў у школу, ён, скажам, мог пакласці мне пад падушку варанае яйка, намалюе хатку, бусла і скажа: «Глядзі, Міхаська, што табе бусел прынёс». Іншы раз шакаладку пакладзе, ці пячэнне, каб малы ўзрадаваўся. Час жа быў няпросты, і харчовае пытанне стаяла востра. Трымалі карову і парсюка. Старэйшым братам даводзілася іх пасвіць, але яны не дужа любілі гэту справу. Былі ў нас сабакі, якіх старэйшыя браты спрабавалі дрэсіраваць. Якуб Колас да жывёл адносіўся вельмі лагодна і акуратна. Як настаўнік умеў далікатна пераканаць, што правільна, а што не. Маці ж таксама была настаўніцай, таму і яна ўмела ўлагодзіць усе пытанні, і справядліва, але даволі жорстка кіравала сваімі дзецьмі. Можна сказаць, што ад выхавання бацька быў крыху ў баку, не так шмат удзяляў нам, малым, часу. А дзецьмі больш займалася маці, нашай вучобай, нашымі паводзінамі. Выхаванне ляжала ў асноўным на яе плячах.

***— Раскажыце, калі ласка, пра пакаленне вашага дзяцінства, якія агульныя рысы з сучаснымі дзецьмі?***

— Зараз цяжка параўноўваць, бо трэба ўлазіць у скуру сучаснай моладзі. Толькі звонку, агулам можна нешта сказаць. Сённяшняя моладзь адрозніваецца многім. Па-першае, адукацыя сёння больш грунтоўная, больш глыбокая, бо зараз шмат кніг і падручнікаў. У мае дзіцячыя гады амаль не было мастацкай літаратуры. І калі сярэдні брат прыносіў якую-небудзь прыгодніцкую кнігу, то даваў яе мне з умовай, што прачытаю за адзін дзень. Гэта былі добра пашарпаныя кнігі без пачатку і без канца, і невядома, хто быў іх аўтар. Толькі нашмат пазней, калі перачытваў, даведваўся, чые былі гэтыя кнігі. Калі брат Юрка падарыў мне кніжку Марка Твэна «Прыгоды Тома Соера», гэта стала вельмі радаснай падзеяй для мяне. У маім падлеткавым узросце бацька ўлетку прывозіў мне стосы кніг, каб я ўсё прачытаў. Ён браў іх з бібліятэкі Саюза пісьменнікаў. Бацька сачыў, каб я чытаў не абы-што, а добрую, якасную літаратуру. Пазней я многае стаў чытаць з ягонай асабістай бібліятэкі, хоць яшчэ многага і не разумеў.

Асяродак наш складалі такія ж самыя школьнікі, ладзілі свае дзіцячыя гульні, бо нічога іншага не было. Даводзілася прыдумваць усё самім. Цяпер жа ёсць і гітары, і магнітафоны, і мабільныя тэлефоны... Зусім іншы парадак жыцця. Гэта не параўнаць з тым, што было. У нас усе цацкі былі самаробныя. Рабілі рагаткі, самапалы (цяга да зброі заўсёды ёсць у мужчыны, гэта нешта генетычнае). У школе быў даволі дружны асяродак. Стараліся вучыцца. Дапаможнікаў было вельмі мала, немагчыма параўнаць з сённяшнім днём. Не хапала ілюстраванага матэрыялу. Можна было толькі марыць аб такім патоку інфармацыі, які сёння магчыма атрымаць пры дапамозе камп’ютара і тэлебачання. Набыццё ведаў ішло куды маруднейшымі тэмпамі, чым яно можа ісці сёння. На жаль, як даводзіцца бачыць, многія сённяшнія школьнікі не валодаюць тымі пытаннямі, якімі валодалі мы ў свой час. Нягледзячы на сучасныя магчымасці, няма такой зацікаўленасці да вучобы, якая была раней. У нас былі някепскія педагогі і настаўнікі, якія прыходзілі ў школу па сваім прызванні. У настаўнікі павінны ісці самыя здольныя людзі. Бо самае важнае — гэта выхаванне і адукацыя пісьменных талковых людзей. А гэта трэба рабіць пачынаючы з маленства. І калі настаўнік зможа выкарыстаць усё тое багацце, што сёння назапашана

ў літаратуры і навуцы, і даць гэта школьнікам, то яны пакажуць неверагодна высокія вынікі. Па сутнасці, самая адказная справа дзяржавы — адукацыя. Нішто не дае столькі для развіцця краіны і народа, як навука. А каб падрыхтаваць людзей да навукі, патрэбна напружаная праца з першага школьнага класа. Калі б гэта адбывалася, то сёння мы жылі б у зусім іншых абставінах, і ўзровень жыцця быў бы зусім іншым. Але нельга папракаць моладзь у тым, што яна не карыстаецца ўсімі магчымасцямі, якія ёй дадзены. Вінаватыя абставіны, у якіх яна жыве. Настаўнікі ў школе і бацькі дома павінны зацікавіць школьную моладзь набываць веды. Для гэтага патрэбныя сапраўдныя педагагічныя падыходы. Гэта не так проста, бо навучанне — справа сур'ёзная, трэба пераадольваць многія цяжкасці.

***— Што б вы раілі чытаць дзецям?***

— Трэба больш чытаць прыгодніцкай літаратуры. Творы Прышвіна, Маўра, Талстога, Горкага. Самыя выдатныя творы ў пісьменнікаў — аб іх юнацкіх і маладых гадах. Адна з лепшых кніг Янкі Маўра — «Шлях з цемры», вартая ўвагі яго кніга «ТВТ». Зараз столькі літаратуры, што проста вочы разбягаюцца. Трэба выбіраць найлепшае, тое, што добра ўспрымаецца дзецьмі, тое, што можа іх зацікавіць чытаць кнігі. Бо тэлебачанне, кіно, Інтэрнэт не даюць таго, што дае кніга. Варта глядзець фільмы на навуковыя тэмы, фільмы, прысвечаныя прыродзе. Трэба выкарыстоўваць усе сродкі, каб зацікавіць дзяцей вучыцца. Але галоўнае — больш і больш чытаць кніг, бо пры гэтым чалавек не толькі развівае само ўменне чытаць і асэнсоўваць, аднак ён яшчэ адчувае сябе і героем твора, з'яўляецца мастаком-дэкаратарам, якому трэба многае ўявіць. Кніга праводзіць вялікую выхаваўчую працу, каб чалавек не набіваў гузакі ў жыцці, набіраўся вопыту з мастацкай літаратуры.

Я не педагог і не філолаг, таму цяжка параіць чытаць штосьці канкрэтнае. Для кожнага ўзросту трэба падбіраць сваю літаратуру. Варта больш увагі надаваць гуманітарнай падрыхтоўцы школьнікаў. Бо з такой падрыхтоўкай людзі на шмат лягчэй успрымаюць усё астатняе. У школе трэба больш чытаць паэзіі, у тым ліку на конкурснай аснове, рабіць пастаноўкі па мастацкіх творах. Моладзь вельмі таленавітая, хутка ўспрымае ўсё, але з ёй трэба працаваць. І для гэтага патрэбны кваліфікаваныя кадры. І значыць самая высокая аплата працы павінна быць у настаўнікаў. Настаўнікаў і ўрачоў — людзей, хто непасрэдна звязаны з жыццём чалавека. Павінна быць і разумная палітыка дзяржавы.

***— Чаго не хапае нашай літаратуры?***

— На маю думку, літаратуры не хапае гістарычнага рамана, які пачаў распрацоўваць у свой час Уладзімір Караткевіч. І гэта вялікі недахоп у выхаванні ў моладзі патрыятызму, гуманнасці, любові да сваёй краіны і народа. А ўвогуле, беларуская літаратура надзвычай багатая.

***— Што для вас значыць быць сынам Якуба Коласа?***

— Я ніколі гэтым не хваліўся, нідзе з гэтым не высоўваўся па прычыне свайго выхавання. Ён проста быў для мяне бацькам.

***Гутарыў Рагнед Малахоўскі.***

## ПАМЯТНАЕ З МАЛЕНСТВА

**Казімір КАМЕЙША**

### І вярнуцца ў дзяцінства…

Толькі пачаў развітвацца з чарговым летам, і зноў радкамі земляковай паэмы праспявалася даўняе:

Лецейка ты, лета!
Гучна песня спета…

Яшчэ з дзіцячых гадоў самі сабой паўтараюцца ў памяці гэтыя мілагучныя словы, а з імі ўсплывае і вобраз галоўнага героя «Міхасёвых прыгод». Здаецца, я і сам сяджу разам са шчаслівым Міхаськам пры той самай «яме» на рэчцы Талька, дзе:

Збоку роўны вал чыгункі,
Мост жалезны над вадой,
Дзе вагоны чарадой
На вадзе кладуць рысункі
Ды бягуць ды грукацяць,
І Міхася весяляць.

Мае дзіцячыя прыгоды былі надта ж падобнымі на тыя, якія дарыла дзяцінства маленькаму Міхасю. Былі ў мяне тыя ж самыя грыбныя ды ягадныя бары нерушу, скрутак вужа мы таксама прымалі за вялізную рыбіну.

Прайшлі гады, мінула дзесяткі летаў, і жыццё само падрыхтавала і падарыла мне знаёмства, ды нават сяброўства, з тым самым галоўным героем паэмы, але ўжо не Міхаськам, а паважаным і вядомым у свеце навукі і культуры Міхасём Канстанцінавічам Міцкевічам, сынам славутага песняра Якуба Коласа. І вось мы сядзім у рэдакцыі часопіса «Полымя» ды згадваем тыя казачныя мясціны бліз Талькі ды Загібелькі.

А яшчэ жыццё захацела, каб і сам я надзейна прапісаўся ў тых самых мясцінах, дзе разгортваюцца ўсе галоўныя дзеі паэмы. Сёння маё лецішча якраз і знаходзіцца на Пухавіччыне, не так і далёка ад Талькі і Загібелькі, так хараша апетых Коласам.

Твору, які пісаўся паэтам паводле жывога жыццёвага матэрыялу, яркія дэталі якога высвечвала ды падахвочвала сама непаўторная прырода, было наканавана вялікае жыццё. Ім і сёння зачытваецца школьная моладзь. Я і сам з хваляваннем перачытваю яго вясёлыя старонкі, і нібы вяртаюся ўвачавідкі ў сваё дзяцінства.

А як хараша бачацца за радкамі паэмы і душа самога песняра, яго любоў да дзяцей і прыроды! Ён жа выступае добрым саўдзельнікам тых прыгодніцкіх рэалій. Застаецца верыць, што «асалоды, поўнай цераз край» ад таленавітай паэмы Якуба Коласа хопіць яшчэ на многія пакаленні.

**Віктар ГАРДЗЕЙ**

### Светлыя прыгоды

У тыя далёкія пяцідзесятыя гады мінулага стагоддзя, калі не зарубцаваліся яшчэ раны такой страшнай вайны з фашызмам, мы, вучні Малакругавіцкай пачатковай школы, запоем чыталі дзіцячыя кнігі беларускіх пісьменнікаў, бо ні радыё,

ні тэлебачання тады не было — толькі кнігі. Вядома ж, любімым нашым паэтам стаў Якуб Колас. Са школьных чытанак, у першую чаргу, помняцца і сёння многія і многія ягоныя вершы: «Сілачом стаіць дуб разложысты, і здалёк відаць пышны чуб яго…», «Уцякай, мароз-дзядуля! Чуеш ты, стары, ці не…», «Не сядзіцца ў хаце хлопчыку малому, кліча яго рэчка, цягнуць санкі з дому»… Зімы ў той час, трэба сказаць, былі суровыя, марозныя, але, начытаўшыся шчырай, даверлівай паэзіі Я. Коласа, так і хацелася папрасіцца ў дарослых, каб адпусцілі на вуліцу: «Я не буду доўга, зараз жа вярнуся, трошачкі на рэчцы ў санках паважуся…»

Гэты цудоўны верш мне на вочы патрапіўся ў кнізе Якуба Коласа «На рэчцы зімой», напісанай яшчэ ў даваенны час. Для беларускіх дзяцей народны пісьменнік стварыў і шмат іншых твораў — вершаваную казку «Рак-вусач», аповесць пра Сцёпку і Алёнку «На прасторах жыцця», зборнік апавяданняў «У старых дубах», ён жа апрацаваў шэраг народных казак, з якіх мне асабліва падабаюцца «Як пеўнік ратаваў курачку», «Гарошак», «Два зайцы». Мудрыя, павучальныя беларускія казкі ў запісах мастака слова ўвайшлі ў скарбніцу вусна-паэтычнай творчасці нашага народа.

Аднак з часін далёкага дзяцінства і да сённяшняга дня настрой мне заўсёды падымае дзівосная па рытміцы, гуку, паэтычных вобразах Коласава паэма «Міхасёвы прыгоды». «Надакучыла дзецям зіма — ім разгону зімою няма». Як гэта адпавядала майму настрою, калі на дварэ лютуе завіруха, а ў хаце змрочна і пуста! «Міхасёвы прыгоды» я чытаў многа разоў: і пры лямпе на печы, і на белым ад квітучай дзяцеліны поплаве, і на залацістым баравым узлеску. Вельмі ж імпанавалі мне, малому шаляніцы, дзівосныя прыгоды хлопчыка Міхася, якога пасля ангіны, адзёру і іншых хвароб бацька завёз на ўлонне прыроды. У гулях і забавах Міхась папраўіўся хутка: лавіў рыбу, збіраў грыбы, ягады і зусім не баяўся ваўкоў. Але не забываў, канечне, і пра свае хлапечыя штукарствы: «Узяў кошык ён і пачаў трасці, каб суніц вяршок мог са дна ўзрасці». Пасля такога вынаходніцтва ягады збіліся ў камяк, з кошыка пацёк ружовы сок. Дарослыя толькі пажартавалі з нябогі, і, дадому ідучы, празвалі яго — «ягадны спец-сыравар». Праз многія гады, калі і сам ужо добра пасталеў, аднойчы на традыцыйных «Каласавінах» у Мікалаеўшчыне я асмеліўся і папытаў у сына Якуба Коласа — Міхася Канстанцінавіча, якому прысвечана гэтая цудоўная, вечная паэма:

— Напэўна, дзесьці тут вы трэслі кош, каб больш стала ягад?

— Не, гэта было ў Тальцы, дзе тады жыла наша сям'я, — адказаў Міхась Канстанцінавіч, і яго шчаслівы твар прыкметна пасвятлеў ад прыемнага ўспаміну дзяцінства.

Сёння многія і многія з нас, прадстаўнікі пасляваеннага пакалення, могуць з гонарам сказаць: «Мой Якуб Колас». Так яно і ёсць. Асабліва для мяне. Яшчэ ў дзяцінстве з трылогіі «На ростанях» я з радасцю даведаўся, што ў нашых краях, у палескай вёсцы Люсіна на пачатку мінулага стагоддзя жыў і працаваў настаўнікам малады Якуб Колас. Тут берагуць і шануюць памяць народнага песняра: створаны музей Я. Коласа, на падмурку школкі, дзе ён калісьці працаваў, устаноўлены памятны знак, а мясцовы сельгаскааператыў «Цельшына» мае літаратурную назву знакамітай сёння вёскі Люсіна з рамантычнай аповесці «У палескай глушы».

**Мікола МАЛЯЎКА**

## З любоўю да дзяцей

Яшчэ ў «Другім чытанні для дзяцей беларусаў» (1929) была змешчана казка «Цяжкая доля». Якуб Колас перапрацаваў яе, дапоўніў, пашырыў кола дзеючых асоб — і атрымалася ўжо новая, вершаваная казка «Рак-вусач».

Прыгоды адбываюцца ў падводным царстве. Там, пад каранямі ракіты, жыў рак —

З доўгімі вусішчамі,
З чорнымі вачышчамі,
Зыркімі, лупатымі,
З лапамі разгатымі,
Шырачэзны ў шыі,
Клюшні — во якія!
А як вусам павядзе —
Страшна зробіцца ў вадзе!

І вось гэты рак засумаваў — убіў сабе ў галаву, што ён самы няшчасны на свеце. Вылезе з нары, сказаў, толькі тады, калі ўбачыць пакутніка яшчэ большага, чым ён сам.

Што рабіць? Паважаны сом сабраў на сход усю рачную рыбу. Самых няшчасных паслалі да рака, але ніхто яго не разжалобіў.

Рак сядзіць у нары,
Высунуўшы клешні,
І не есць ні ікры,
Ні тае яешні.

Чапля падказала, што трэба паклікаць жыта. І жыта прыйшло на рачны бераг, расказала раку пра сваю долю. Рэжуць яго сярпамі, вяжуць у снапы, б'юць цэпам на таку, труць каменнямі ў муку, месяць у дзежцы, садзяць у печ гарачую. Толькі і ўздыхне лягчэй, калі з печы дастануць ды вадою халоднаю абальюць. Такая доля цяжкая, што і ворагу не пажадаеш.

І сказаў тут рак-вусач:
— Грамада! Ты мне прабач!
Мая журба ў прах пабіта —
Зваявала мяне жыта,
І ад гэтае пары
Прападай мой сум стары!..

Казка чытаецца лёгка, з усмешкаю: сом — грозны, але справядлівы, язь — каварны, карась — хітры, плотка — добрая і спагадлівая. Усе яны жывуць, разважаюць, палохаюцца і выкручваюцца з бяды, як і мы, бывае, грэшныя. Напэўна, Якуб Колас і сам усміхаўся, спісваючы характары рыб з людзей, якіх сустракаў у жыцці.

**Алена МАСЛА**

## Шчыры дыялог з дзецьмі

Пару гадоў таму, калі «Мастацкая літаратура» выдавала ілюстраванае «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» Якуба Коласа, мне выпала быць рэдактарам гэтай кнігі. Па-рэдактарску прыдзірліва ўчытваючыся ў кожны радок, я для сябе брала ўрокі майстэрства ў класіка. Разважлівасць, мудрасць, філасафічнасць, метафарычнасць яго твораў для дзяцей, алегарычнасць і, разам з тым, прастата аповеда — вось узор для тых, хто стварае дзіцячую літаратуру. Дзеці пазнаюць свет, усё для іх нова — але таму яны і самыя чуйныя, патрабавальныя чытачы.

Мяркуючы па творах, Якуб Колас добра разумеў гэта і ніколі не «сюсюкаў» з дзецьмі, а выходзіў на вельмі шчыры з імі дыялог — вось гэта, на маю думку, трэба бачыць і памятаць найперш.

І асаблівая мая любоў — «Казкі жыцця» Коласа. Я таксама ўспрымаю казку не як нагрувашчванне прыдуманых здарэнняў, а як расповед пра пражытае і перажытае. Толькі зафіксаванае ў казачных вобразах, на мой погляд, і ёсць праўдзівейшае адлюстраванне свету. Ва ўсякім разе, дзіцячага, яшчэ не падзеленага на ўмоўнае дарослае «жывы» і «не жывы».

## ПАТРЫЯТЫЗМ ВЫРАСТАЕ З ЛЮБОВІ

Каб любіць Радзіму, быць яе патрыётам, неабходна мець сваю годнасць, любіць сваіх блізкіх, свой народ, сваю зямлю. У выхаванні патрыятычных пачуццяў вучняў дапамагаюць урокі мовы і літаратуры.

Клуб «Спадчына», якому ўжо чатырнаццаць год, ствараўся ў нашай школе з мэтай абуджэння цікавасці да звычаяў, абрадаў нашых продкаў, прывіцця любові да гісторыі Беларусі, да роднай мовы, знаёмства з сучаснымі творамі і іх аўтарамі, развіцця эстэтычнага густу і творчасці дзяцей. Пасяджэнні, якія адбываюцца ў сценах школы, прысвячаліся Еўфрасінні Полацкай, Максіму Багдановічу, Якубу Коласу, Янку Купалу, Уладзіміру Караткевічу. Яны часта праходзяць з удзелам пісьменнікаў. Вучні прымаюць удзел у мерапрыемствах, арганізаваных музеем Якуба Коласа, у вечарах, што праводзяцца ў Доме дружбы. Адбываюцца вандроўкі па гістарычных мясцінах Беларусі з мэтай вывучэння гісторыі, культуры, традыцый роднага краю. Часта наведваем музеі і тэатры. Цесна супрацоўнічаем з тэатрам «Зьніч» і яго кіраўніком, артысткай Галінай Дзягілевай. Са сваімі спектаклямі тэатр не аднойчы выступаў у нашай школе...

Вялікую дапамогу ў патрыятычным выхаванні вучняў аказвае музей Якуба Коласа. Кожны навучальны год пачынаецца традыцыйным святам, прысвечаным Дню ведаў, якое праводзіць музей. Дзеці маюць магчымасць сустрэцца з пісьменнікамі, пачуць жывое беларускае слова. На літаратурных чацвяргах, што праходзяць у музеі Якуба Коласа, вядзецца гаворка пра жыццё і творчасць многіх вядомых беларускіх пісьменнікаў. Завяршаюцца такія сустрэчы заўсёды выступленнямі фальклорных калектываў і папулярных ансамбляў. Так нашы вучні дакранаюцца яшчэ і да беларускага спеўнага слова, таму і самі з ахвотай выступаюць і спяваюць на сваіх школьных святах — «Калядах», «Гуканні вясны», «Беларускім ручніку» і інш.

Заўсёды лічу, што калі вучань за адзінаццаць гадоў вучобы хоць некалькі разоў сустрэнецца з паэтам, хоць некалькі разоў затоіць дыханне ад цудоўных вершаў, ад светлай думкі, ад паэтычнага высакароднага слова — значыць настаўнік сваю задачу выконвае.

Да 65-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне члены клуба «Спадчына» вырашылі прыняць удзел у гарадскім конкурсе на лепшы праект краязнаўчага маршруту «Мой край». Тэма нашай работы — «Боль і смутак — Трасцянец». Матэрыялы распавядалі пра сумна вядомы лагер смерці. Экскурсіі па тэрыторыі, дзе быў лагер, фотаздымкі, схемы лагера, наведванне музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, сустрэча з людзьмі, што былі ў дзіцячым доме ў Трасцянцы пасля адыходу фашыстаў — гэта работа стала асновай праекта.

«Пабываўшы ў Трасцянцы, ступаючы па зямлі, што яшчэ помніць ахвяр лагера смерці, перад вачыма паўстала жудасная карціна, — зямля, палітая крывёю, — пісала ў сваім сачыненні Вольга Ляшчынская, вучаніца 9 «Е» класа. — Памяць пра Трасцянец будзе стукаць у нашы сэрцы і патрабаваць прадухілення новай вайны».

1 верасня гэтага года на Дні ведаў — новай сустрэчы з супрацоўнікамі Коласаўскага музея і прадстаўнікамі рэдакцыі часопіса «Полымя» — вялася гаворка аб творчасці для дзяцей народнага пісьменніка Беларусі Якуба Коласа. У ёй прымалі ўдзел і вучні нашага 8 «А» класа. З увагай слухалі школьнікі малодшага сына Якуба Коласа Міхася Канстанцінавіча Міцкевіча, каму ў свой час была прысвечана бацькам знакамітая ў нашай літаратуры паэма «Міхасёвы прыгоды»; вядомую дзіцячую пісьменніцу, галоўнага рэдактара часопіса «Бярозка» Алену Масла; паэта, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы, галоўнага рэдактара часопіса «Полымя» Міколу Мятліцкага. Сваімі думкамі пра творы для дзяцей Якуба Коласа падзяліліся і нашы вучні. Знакамітыя творы народнага песняра нясуць і сягоння сваю духоўную вахту.

***Тамара Цалуйка,***
***настаўніца беларускай мовы і літаратуры***
***98-й сярэдняй школы горада Мінска.***

**Дзмітрый Пашкевіч:**

— «Міхасёвы прыгоды» вельмі цікавы твор. Ён нагадаў мне дзяцінства, як мы з бацькамі хадзілі ў грыбы і ягады. Калі чытаеш «Міхасёвы прыгоды», то нібыта сам становішся Міхасём, радуешся і сумуеш разам з ім. Пасля прачытання раздзела «Рыбацтва», мне вельмі захацелася парыбачыць, чаго я ніколі не рабіў.

Забрала Міхася турбота,
Падшыбла Міхася ахвота,
Аб гэтым сказаў ён і маме:
Рыбу павудзіць на яме.
Юрка ссукаў яму лёску,
Ванька зрэзаў бярозку —
Выйшла вудзільна «на пяць»,
У рукі было што узяць.
Кручок, паплавок адмысловы —
Былі там майстры і галовы,
І быў у іх творчы размах,
Рабілі яны не за страх.
Затое ж і вуда — адна любата!
Ну, сцеражыся цяпер, драбната,
Рыб’я сямейка,
Ёрш і уклейка!

Міхась быў з горада, але калі захварэў на дыфтэрыт, бацькі яго адправілі ў вёску. І калі пачалася восень, Міхась стаў сумаваць па горадзе, хоць звычайна ён быў вельмі вясёлым і жартаўлівым хлапчуком. Калі ў канцы паэмы Міхась развітваецца з летам, мне таксама стала сумна. Я запомню гэты твор, бо ён апавядае пра цікавыя прыгоды маленства.

**Вольга Клімовіч:**

— З захапленнем чытала паэму Якуба Коласа «Міхасёвы прыгоды». Вельмі шмат часу я праводзіла ў вёсцы, таму ўспаміны менавіта пра яе. Памятаю, як сцюдзёнай зімою, нягледзячы на мароз, бегла на вуліцу і да цемры гуляла з сяброўкай. Маці заўсёды гаварыла, каб я не гуляла доўга, бо магу прастудзіцца, але ніякая хвароба мяне не брала. Я каталася з горкі на санках, ляпіла снегавіка і проста весялілася. Гэта былі радасныя імгненні.

Разам з вясною пачынаецца крыгаход. Мы з сяброўкай стаім каля ракі і праводзім вачыма кожную крыгу.

— Вось тая падабная на сэрца, — выкрыкваю я, — але сяброўка не чуе. Яна сама заварожана гэтым відовішчам і мусіць таксама бачыць у кожнай крызе сваю, непадобную ні на што фігуру. Летам мы хадзілі на раку. Як хораша акунуцца ў цёплую ваду! Бывалі дні, калі з бабуляй хадзілі па ягады. Я ніколі не любіла лес, бо там шмат змей, якіх вельмі баюся, але калі я знаходзілася недалёка ад бабулі, то было не так і страшна. Вось такія ўспаміны ўсплылі ў маёй памяці пасля прачытання «Міхасёвых прыгод» Якуба Коласа.

**Дзмітрый Шамко:**

— «Міхасёвы прыгоды» вельмі цікавыя і павучальныя. Якуб Колас напісаў гэты твор у падарунак свайму малодшаму сыну і ўсім дзецям Беларусі. У паэме расказваецца пра жыццё Міхася ў вёсцы: як ён хадзіў на рыбалку, як збіраў ягады, пра яго новых таварышаў. Калі я чытаў «Міхасёвы прыгоды», то ўспамінаў сваё дзяцінства, калі зімой катаўся на санках, калі летам купаўся ў рацэ Талька (тая самая, пра якую расказвае Якуб Колас), як хадзіў у грыбы і ягады, калі прыязджаў у вёску да бабулі і дзядулі, як дапамагаў ім на агародзе. Мне спадабаўся гэты твор, таму што ў ім шмат яркіх карцін маленства — і майго ў тым ліку:

Талька — слаўная рачушка,
Грунт яе пясчаны,
Бераг мяккі, як падушка,
Дзірваном засланы.
Луг квяцісты па ўзбярэжжы,
А трава, як лава.
Па грудах дубы, як вежы,
Паглядзець цікава.
А буслоў тых і не злічыш —
Цэлыя брыгады!
І такія іх абліччы,
Бы вядуць нарады.
Тут і чаплі, гусі, качкі,
І сіваваронкі.
Колькі шуму і гарачкі,
Спеву і гамонкі!

**Вераніка Бухал:**

— Паэма Якуба Коласа «Міхасёвы прыгоды» — адзін з лепшых твораў для дзяцей у нашай беларускай літаратуры. У ім мноства неверагодных прыгод. У адрозненні ад іншых дзяўчынак я вельмі люблю лавіць рыбу. Якое адчуваеш захапленне, калі выцягваеш з вады вялізнага карася!

Знаёмыя мне і ягады, і грыбы. Як марудна іх збіраць і як прыемна класці спелыя, прыгожыя ягады ў рот!

Але ўсё добрае калі-небудзь заканчваецца. І вось апошнія дні лета. І як сумна з ім развітвацца!

Чарай асалоду
Чэрпалі, як воду,
Поўнаю, за край.
Залатое лета!
Дык прымі ж за гэта
Шчырае «бывай»!

Я люблю ездзіць у вёску, бо ведаю, што там мяне чакаюць дзядуля і бабуля, вялікі сабака Бобік, прыгожая кошка Мурка. А якая цудоўная прырода ў вёсцы! Блакітная рачулка, зялёны лес, вялікі луг...

**Настасся Тройчук:**

— Прачытаны апошнія старонкі паэмы Якуба Коласа «Міхасёвы прыгоды». Мне вельмі шкада развітвацца з галоўным героем Міхасём. Яго цікавыя гісторыі дзяцінства ўразілі і зацікавілі мяне. Больш за ўсё мне спадабаўся раздзел «Ягады». Ён нагадаў мне выпадак з майго жыцця. Міхась паўстае перад чытачом жартаўлівым, смешным з дзіцячымі дурыкамі. Калі ўсе збіралі ягады, Міхась суніцы клаў у рот, і яго кошык быў зусім пусты. Праз некалькі хвілін хлопчыку надакучыла збіраць суніцы і дарослыя пасадзілі яго адпачыць, паставілі побач з ім кошыкі з ягадамі, а самі пайшлі напаўняць кошык Міхася. Вельмі ж спакушалі яго гэтыя салодкія, смачныя сунічкі. І стаў класці адну за другой у рот і не прыкмеціў, як з’еў усе ягады. Спалохаўся хлопец і пачаў выпраўляць бяду — устрасаць кошык.

Чытаючы паэму «Міхасёвы прыгоды», кожны адчувае штосьці агульнае з галоўным героем.

**Якуб КОЛАС**

## МІХАСЁВЫ ПРЫГОДЫ

***(урывак з паэмы)***

### Грыбы

Адышлі суніцы,
Выбралі чарніцы,
Перастала рыбка
Брацца на кручок.
Ідуць у брусніцы
Дзеўкі, маладзіцы,
А Міхася цягне
Бор і хвайнячок.
Дарыць бор сасновы
Падарунак новы:
Сталі паяўляцца
Па лясах грыбы.
Ды ці знойдзеш словы
Апісаць іх сховы —
Хвайнякі, палянкі,
Беразняк, дубы,
Апісаць дарожкі,
Дзе хадзілі ножкі
Грыбнікаў заўзятых,
Ну, як наш Міхась?
Пачакайце трошкі —
Абмінем парожкі,
Грыбнікаў заўзятых,
І пяскі, і гразь.

Эх, як слаўна ў лесе,
У зялёнай стрэсе,
Дзе сукі-галіны
Вывелі шатры!
У шатры-навесе
Вы наглядзіцеся,
Як жывуць, якія
Ёсць там жыхары...
Ды ўжо лепш у часе
Вочкамі Міхася
Паглядзець на з’явы,
Што даюць лясы.
Слухай, Валік, Тася,
Ты, Алёнка, Вася:
З кошыкам Міхась наш
Ідзе ў верасы.
Не адзін ён — з татам,
Дружба іх заўзята;
Аднаму ж малому
Лёгка заблудзіць.
Ды і страшнавата.
А лес так зацята
Цёмнаю гушчэчай
На цябе глядзіць!

Грае чырвань на усходзе,
А Міхась ужо ў паходзе,
У руках кашолка, нож —
Без нажа грыбнік не гож.
Разгарнуўся ва ўсе бокі
Па узгорках лес высокі,
І такі прыемны пах:
Як нюхнеш, дык скажаш: «Ах!»
А імхі — зялёны, белы —
Рассцілаюць коўрык цэлы.
Ускрай сцежак — верасок,
На дарожцы — бель-пясок.
Хто ні пройдзе па трапіне,
На пясочку след пакіне.
А чые ж гэта сляды?
Хто ішоў тут і куды?
Ды якія кіпцюрышчы!
Гэта, пэўна, след ваўчышчы.
— Тата, глянь, зірні сюды:
Ці не воўчыя сляды?
Міхасёк сляды чытае.
Што не ясна, запытае.
Паглядзелі — так і ёсць:
Воўк ішоў, нязваны госць!
І Міхасю страх цікава.
Ён ідзе, бяжыць рухава,
Галасок яго звініць —
Ёсць аб чым пагаманіць.
Лес патроху ажывае,
Ды гамоніць, ды спявае.
Свішча тонка арабок,
Там варкуе галубок.
Цецярук, як пад зямлёю,
Дзесь такуе за гарою.
А дзятлы, як дактары,
Бор выслухваюць стары,
Ды, прысеўшы на галіне,
Б'юць насамі па хваіне.
А вунь там, на стромкай елі,
Дрозд выводзіць свае трэлі,
Сойкі голасна крычаць,
Ястрабы ў гняздзе пішчаць.
А там нейкі абармот
Нібы дражніць: «Дод! дод! дод!»
Выйшлі на поле
Каля Загібелькі.
Рэдка пабачыш
Гэткай зямелькі:
Суха і чыста,
Вымецена нібы,
Вёска на горцы.
Дрэвы ўскрай сядзібы.
Важна стаяць там
Дзядзькі-азяроды,
Дбала вартуюць
Гумны, гароды.
Буслы на хвоях
Маюць свой будынак,
Вуллі-калоды
Там знайшлі прыпынак.
Хвойнік навокал,
Ды густы, як шчотка.
Бор і пралесак
Між ім, як бародка.

Лес і пералескі
Разам з хвайнякамі
Страх як багаты —
Чым? — баравікамі!
Шапкі іх чорны,
Самі яны крэпкі:
Возьмеш у руку —
Гіпсавыя злепкі.
Звярнулі з дарогі ў барок,
Агледзелі першы грудок —
Пуста, адны мухаморы.
Вось горка.
На горцы пясок.
Яловец. Сям-там верасок,
Сям-там равочкі-разоры.
І чуецца радасны крык —
Гукае Міхась: «Баравік!»
І сам прысядае на дол
Ды вочкамі водзіць вакол.
Аж зірк — між калюшак
Другі капялюшык!
І што за асоба!
Краса і аздоба!
Не чорны — хутчэй сіваваты.
Дзябёлы, таўсматы,

На ёмкім камлі
Сядзіць пры зямлі,
Як нейкі асэсар
Ці важны прафесар.
Ну, проста не зводзіў бы воч!
Аж глянуў — і трэці наўзбоч!
І радасць Міхася забрала,
Міхасева сэрца ўзыграла.
Ён радасны справіў галас:
— Сюды ідзі, тата!
Грыбоў тут багата —
Баравіковы калгас!
Акрыяў яго дух,
Забраў яго рух.
Ён тупае, ходзіць,
Вачэй з іх не зводзіць,
Разгортвае шышкі.

— Ну, што ж?
Ідзіце, брацішкі,
У кош!
Ды грыбнік Міхась наш не просты:
Спрыяе ён грыбнаму росту —
З карэньчыкам не вырывае,
А ножыкам — чык!
Каб вырас другі баравік:
Ад корня нітка адыходзіць жывая,
А з нітачак гэтых,
Што йдуць ад карэння,
Новае выйдзе
Грыбоў пакаленне.
Вось у чым штука,
Грыбная навука.
Хадзілі па горцы
Туды і сюды,
Хавалі на выраст
Грыбок малады,
Ростам з арэх —
Брацъ такіх грэх...
Багатая тут ім
Спажыва была:
Грыбоў каля сотні
Ім горка дала!
Ды што за грыбочкі
На горачцы той!
І горку назвалі
Яны «залатой».
Другія мясцінкі
Пайшлі аглядаць,
Дзе водзіцца гэтая
Грыбная знаць:
Груды, пералескі,
Ускрайкі баркоў,
Дарожкі і сцежкі
Паміж хвайнякоў.
Снуюць, аглядаюць,
Ну, кожны гарбок,
Уздушынку дола,
Галінкі, ламок.
І бачыць Міхаська —
Мільгнуў баравік!
Ён весь захадзіўся,
Як той рухавік.
Падбег, прысядае
Ды зорыць, як хорт,
Аж глянуў — паганка!
Бадай цябе чорт!
Такую зрабіла абразу!
Ўзлаваўся Міхась,
З коранем вырваў паганку-заразу
Ды аб пень яе лясь!
А сам азірнуўся,
Малы наш буян,
Ці бачыў хто ў лесе
Яго той падман?
А следам за гэтым
Другая праява,
Хоць смешная трохі,
Ды болей цікава.
Вось грудок
Пажарок —
Лес гарэў калісьці.
Бачыць — лом,
Моху ком
І сухое лісце.
Можа тут
Шалапут
Баравік стаіўся?
Ды не вер,
Брат, цяпер:
Раз ужо змыліўся!
Ён зірнуў,
Карпануў
І назад адскочыў.
Там залёг
У бярлог...
Што ж то за клубочак?
Не сцярпеў,
Паглядзеў,
Што ж гэта быць можа?
І пазнаў,
Загукаў:
— Тата, а вось вожык!
Вожык звіўся ў клубок
І маўчок —
І ні чхне, хітруга.
Дай жа глянуць, дружок,
Галубок,
Што ты за звяруга!
Пакажыся ты нам
Сам-насам,
Без сваіх іглятак.
Раскапалі, а там —
Трое важанятак!
І калючачак пук,
І ні ног, ні шыі.
А бадай іх кадук —
Смешныя ж якія!
Пацешыўся з іх наш хлапец —
Ну і стварэнні на свеце!
Закрыў ён курганік-капец
І сказаў ім: «Жывеце».
Агледзеўшы ўсе хвайнякі,
Грыбныя мясціны,
Груды, раўчавіны,
Ідуць у барок грыбнікі.

Цікавае месца барок:
Таўшчэзныя хвоі
Стаяць у спакоі
І ўвесь аздабляюць лясок.
Навокала вольны прастор,
І тут іх сямейка,
Сасняк-самасейка,
Як шчотачка паверсе гор.
І любіць Міхаська барок
І хвою старую,
Што хлопца чаруе
І здзіўлены пестуе зрок.
А ладная хвоя,
Ну, варта засняць.
Не здолеюць трое
Стан-комель абняць!
Кара — чарапіца,
Галіны — шатры.
Рунее ігліца,
Як жыта, ўгары.
На ёй спачывае
Бліскучы прамень —
Усмешка жывая,
Што дарыць ёй дзень.
У кроплях расінак,
Як сонца зірне,
Мільёны іскрынак
Гарaць на сасне.
Калі ж замірае
Падвечар абшар,
На хвоі іграе
Багрысты пажар.
І ўсе яе шаты,
І навісь галін,
І комель шурпаты —
Рысунак адзін.
Пазірае Міхаська на хвою,
На загнутыя ў кольцы сукі —
У прыроды свае мастакі! —
На шацёр над яго галавою.
І цікава — сукі і галіны
Больш развіты з адной стараны —
Любяць сонца, відаць, і яны,
К поўдню цягнуцца з гэтай прычыны.
Тут Міхась адпачывае
Ды любуецца барком,
Хвояй і баравіком,
Што «рэкордным» называе,
І, на белым сеўшы моху,
Лічыць ён баравікі —
Штук за сто. Трафей які!
Ды сілкуецца патроху.
А як прыйдзе ён дадому
Ды на сена ляжа спаць,
Лес уявіцца малому,
А ўваччу грыбы стаяць.

***На атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь***

**Вольга РУСІЛКА**

# МАГУТНАЯ ПЛЫНЬ ЭПАСУ

З'яўленне гістарычнай тэтралогіі У. Гніламёдава «Уліс з Прускі» (2006), «Расія» (2007), «Вяртанне» (2007), «Валошкі на мяжы» («Полымя», 2009, № 8—9) стала годным адказам на заканамернае пытанне пра наяўнасць у сучаснай беларускай літаратуры твораў, якія варта было б паставіць у адзін шэраг з неаспрэчнай класікай — раманамі Я. Коласа, К. Чорнага, І. Мележа. Гэтую думку можна падмацаваць спасылкамі на незвычайна актыўнае для сённяшняга літаратуразнаўства асэнсаванне і аднадушна высокую ацэнку твораў пісьменніка ў перыядычным друку (грунтоўныя даследаванні В. Локун, Я. Гарадніцкага, М. Мішчанчука, З. Драздовай, інтэрв'ю з пісьменнікам М. Мікуліча, В. Паклонскай, У. Давыдава, ацэнка твораў у артыкулах В. Жураўлёва «Дыялог лаканізму і панарамнасці» і А. Раманчука «Сапраўднасць таленту» і інш.). Упэўнена, што справа не ў бясспрэчным аўтарытэце У. Гніламёдава-акадэміка, доктара філалагічных навук, аўтара паўтара дзесятка манаграфій і звыш трох з паловай соцень (!) артыкулаў, па якіх вучыліся ледзь не ўсе сённяшнія крытыкі. Справа ў маштабнасці задачы, якую паставіў перад сабой аўтар: стварыць у раманах гісторыю беларускага народа праз гісторыю сваёй сям'і, паказаць, як гаворыць сам У. Гніламёдаў, «чалавека XX стагоддзя, ці, дакладней, чалавека ў плыні часу мінулага стагоддзя» («ЛіМ», 2007, 19 кастрычніка). Справа і ў тым, што вырашэнне гэтай звышскладанай задачы, якую не кожны аўтар адважыцца і ўзняць, атрымалася сапраўды высокамастацкім, таленавітым і цікавым для чытача. Якраз для таго, «самага шырокага», як звычайна пішацца ў анатацыях да кніг. Таго, які, спатоліўшы аж да аскоміны цікавасць да дэтэктываў, жаночых раманаў і разняволенай фантастыкі, апошнім часам усцешвае мяне ў зусім выпадковых прыватных гутарках просьбай: «Парайце, што можна вартага і сур'ёзнага пачытаць у сённяшняй беларускай літаратуры». Спачатку я нават была разгубленая — пры ўсёй маёй павазе і прыхільнасці да малых празаічных форм, «сечкі-зацемкі» — гэта ўсё ж для філалагічна падрыхтаванага чытача, выхаванага на брылёўскім лірызме, а ў мяне пыталіся пра класічны добры эпас з цікавай і новай тэмай, сюжэтам, героямі, да якіх прывыкаеш як да родных, з подыхам часу і дакладнасцю побытавых, пейзажных, партрэтных малюнкаў, з пазнавальным зместам. Цяпер мне ёсць што прапанаваць, і першы ў спісе — раман «Уліс з Прускі».

Гэты твор пачынаецца з назвы — удалай, інтрыгуючай, густа замешанай на класічнай антычнай традыцыі і беларускім каларыце. Канцэптуальнай, бо адразу заяўлены ўласцівы ўсім творам Гніламёдава-празаіка прыём цытацыі (Уліс — Адысей, а чацвёртая і пятая частка рамана якраз і расказваюць пра поўнае прыгод сямігадовае падарожжа беларуса Лявона Кужаля, прататыпам якога стаў дзед пісьменніка Лявонцій Міхайлавіч Сцепанюк, у далёкую Амерыку па грошы і ўдачу). Аднак гаварыць, што змест твора вызначаецца менавіта гэтымі часткамі, было б не зусім правільна, хоць яны, безумоўна, самыя займальныя, лёгкія для ўспрымання і напісаны на абсалютна новым для нашай літаратуры фактычным матэрыяле. Большая ж частка рамана, тры яго першыя раздзелы,

прысвечаны няспешнаму, спрадвечнаму ў сваёй усталяванасці і традыцыях жыццю палескай вёскі Пруска напачатку XX стагоддзя. Падзейнасці тут нямнога, і аўтар шчодра насычае старонкі рамана цікавымі і апраўданымі ў кантэксце далейшых твораў гістарычнымі і легендарнымі звесткамі пра продкаў — прусаў, яцвягаў, велетаў, якіх яшчэ называлі люцічамі, лютвою, літвою, ліцвінамі. Гэтыя звесткі падаюцца вуснамі вясковага патрыярха Кірылы (Лявонкавага дзядулі), знаўцы ўсіх прускаўскіх паданняў. Першыя старонкі рамана ўводзяць чытача ў дакладны і канкрэтны час — 2001 год — і прастору: «Вёска называлася Пруска, і выгляд, які яна мела, менш за ўсё наводзіў на думку, пра якія-небудзь змены. Знаходзілася яна на паўночна-заходняй ускраіне беларускага Палесся...» У вёсцы ўсяго хат трыццаць, аднак жыхары з гонарам называюць яе сялом. «А як жа!» — уступае ва ўяўны дыялог з чытачом наратар, — ёсць і царква, і карчма, і царкоўнапрыходская школа, і свойураднік. Своеасаблівая разгорнутая экспазіцыя часу і прасторы дапаўняецца важнай для далейшага разумення «людзей і падзей» агульнай характарыстыкай прускаўцаў, якую проста немагчыма не працытаваць, бо ў немалой ступені гэта вызначэнне тагачаснага нацыянальнага характару беларуса, які жыве ў кожным з нас: «З выгляду гэта былі, не ў прыклад іх продкам-велетам, людзі сярэдняга росту, каржакаватыя, міралюбівыя і дружалюбныя. Прысутнічала ў іх норавах славянская мяккасць. Затое жыццястойкасці, трываласці, фізічнай і маральнай, хапала, здаецца, усім. Тыя, хто іх ведаў, знаходзілі, што характару прускаўцаў уласцівы некаторая рахманасць, нерашучасць, замаруджанасць руху, але разам з тым і ўпартасць. Суседзі адзначалі гасціннасць прускаўцаў... Што ўмелі прускаўцы — гэта цярпець. Тут ім, мусіць, не было роўных». Мастацкае асэнсаванне нацыянальнага (ці ўсё ж дакладней — рэгіянальнага) характару на самым пачатку твора падагульняецца філасофскай высновай, якая варта таго, каб назваць яе вызначэннем сэнсу чалавечага жыцця: «Нутраная спалучанасць з зямлёй, вадой і небам, зладжанасць з усім навакольным жыццём нарадзіла ў іх падсвядомае адчуванне нязмушанай неабходнасці сваёй прысутнасці ў свеце...»

У першых, экспазіцыйных частках рамана яўна дамінуе калектыўнае «мы» прускаўцаў (натуральна, бо галоўны герой — яшчэ «падлётак»), што дае магчымасць шматлікіх экскурсаў у гісторыю (Вялікае Княства Літоўскае, рэкруцтва, унія і вяртанне ў праваслаўе, вайна з Напалеонам, прыгоннае права і суд вёскі з панам Падгурскім). З самага пачатку ўвесь час у творы відавочна блізкая прысутнасць аўтара , які адчувае крэўную роднасць і любоў да сваіх герояў («Обозреватель», №12 за 2010 год), што не перашкаджае гаварыць пра іх з дасціпным гумарам і пэўным акадэмізмам, чым гэты гумар толькі ўзмацняецца: «Прускаўцы былі людзьмі з некалькі, як кажуць у такім выпадку мовазнаўцы, замаруджаным моўным тэмпам. Думкі варочаліся ў іх галовах з эпічнай непаспешлівасцю». Аўтарская ацэнка выразна выяўлена і ў апісанні светапоглядных уяўленняў прускаўцаў: «хрысціянскія запаведзі і водгукі язычніцкіх паданняў перамяшаліся ў свядомасці мясцовага люду». Каляды і Раство, Вербніца і Вялікдзень, Зелянец, Купалле, Тройца — старонкі, прысвечаныя гэтым святам, захапляюць не толькі значным пазнавальным зместам, але і ўмелай эстэтызацыяй, нават рамантызацыяй этнаграфічнага матэрыялу. Тое ж можна сказаць і пра апісанне вясковага побыту — хаты, клуні, звычайных страў, адзення, — і пра насычаныя багаццем канкрэтных дэталей, даставерныя малюнкі сялянскай працы (сяўба, касьба, жніво, малацьба, будоўля) і адпачынку («попрадкі», гасцяванне, баўленне часу ў Мордкавай карчме). Народныя песні, танцы, прыпеўкі, дасціпныя, часам грубаватыя жарты і — на іншым эмацыянальным полюсе — галашэнні — усё гэта, разам з вышэйназваным, стварае беларускую этнакультурную аснову твора, якая дапаўняецца дэталямі побыту мясцовых яўрэеў і цыган, а ў далейшым будзе пашырацца амерыканскім, украінскім, польскім матэрыялам, супастаўляцца і параўноўвацца з ім.

У пачатку ж рамана «Уліс з Прускі» рамантызацыя этнаграфічнага матэрыялу заканамерная яшчэ і таму, што такім чынам даецца фон для паказу зараджэння і выспявання першага інтымнага пачуцця галоўнага героя Лявона — у час хаджэння з «гвяздой» і «папрадак» ён прыглядаецца да Ганны. «Гэта быў мясцовы тып прыгажуні: стройная дзявочая пастава, сама чарнявая. У тоўстай, перакінутай праз плячо касе — чырвоны каснічок. І губы таксама ярка-чырвоныя, як ягады дзікага глогу». Гэта аўтарскае апісанне знешнасці гераіні, і яно адрозніваецца ад усхваляванага ўнутранага маналога Лявона: «Адкуль яна такая, на анёла падобная, як у царкве... Дык вось яно, мусіць, тое хараство, пра якое часам згадваюць людзі...» Партрэт Ганны, яе імя, характар, нешчаслівы жыццёвы лёс выклікаюць асацыяцыі найперш з гераіняй мележаўскай «Палескай хронікі» і з яшчэ адной палескай прыгажуняй — коласаўскай Ядвісяй. Аднак У. Гніламёдаў апісвае адметную рамантычную гісторыю кахання —з болем доўгага расстання, шчымлівым ліставаннем закаханых, снамі і горыччу здрады Ганны, якая выйшла замуж за даўняга Лявонавага непрыяцеля Трахіма (гэта таксама аддаленая рэмінісцэнцыя з Мележа — і па гучанні імя блізкае, і любоўны трохкутнік падобны, толькі што мележаўскі Яўхім усё ж менш агідны ў дэталях і ўчынках).

Першая, палеская частка рамана нездарма выклікае паралель з Коласам і па часе, які апісваецца, і па этнаграфічнай дакладнасці і эпічнай немітуслівасці думкі — У. Гніламёдаў у гутарцы з М. Мікулічам называе твор «У палескай глушы» лепшай аповесцю беларускай літаратуры («Настаўніцкая газета», 12 красавіка 2008 года).

Аднак найбольш яўная сувязь гэтай часткі твора — з мележаўскімі «Людзьмі на балоце». Акрамя адзначаных паралеляў у вобразнай і сюжэтнай сістэме твораў, багацця этнакультурных звестак, гэтыя творы аб'ядноўвае галоўнае — погляд на гісторыю з пункта гледжання беларуса-селяніна, асэнсаванне зямлі і працы на ёй як асновы чалавечага жыцця. І ў гэтым сэнсе вобраз Лявона Кужаля, як адзначаюць многія даследчыкі, безумоўна нацыянальны архетып, які стаіць упоравень з героямі беларускай класічнай літаратуры — Міхалам з паэмы Я. Коласа «Новая зямля» і Васілём Дзятлам з «Палескай хронікі» І. Мележа (не разумею толькі, чаму крытыкі звычайна ўжываюць замест прозвішча Васіля яго вясковую мянушку «Дзятлік», наўрад ці той сэнс, які ўкладваў Мележ у гэтую мастацкую дэталь, працуе на аўтарытэт архетыпа).

Цалкам пагаджуся з З. Драздовай — раман У. Гніламёдава — не рэмейк, і героі, і сюжэт яго самастойныя. Другая яго частка напісана на абсалютна новым для беларускай літаратуры матэрыяле — жыццё беларусаў, якія паехалі на заробкі ў далёкую Амерыку. Лявон Кужаль не першы і не адзіны з прускаўцаў, хто адважыўся на такое, але тут ужо «мы» цалкам саступае апавяданню Лявона, яго ўнутраным маналогам і перажыванням. Усё, што бачыць герой у чужой краіне, ён суадносіць з родным, дзівячыся на гарадскія муры, параўноўваючы элеватарную вежу з Камянецкім стоўпам і ацэньваючы сядзібу эмігранта-ўкраінца Бузука «рыхтык, як у нас у Прусцы». Лявон бачыць ва ўрбанізаванай і індустрыяльнай Амерыцы як станоўчае (свабода і багатыя магчымасці знайсці сабе месца, механізацыя і тэхнічны прагрэс, асабліва ў сельскай гаспадарцы, правы жанчын), так і адмоўнае (адчужанасць людзей, іх жорсткасць у дачыненні да эмігрантаў, расізм). Герой спрабуе сябе ў новых прафесіях (мыйшчыка вокнаў, ліфцёра, ліцейшчыка на заводах Форда, рыбака на Вялікіх азёрах), пра якія аўтар, трэба адзначыць, гаворыць з добрым веданнем справы, аднак большая частка амерыканскага жыцця героя праходзіць у Маршалтаўне, на ферме Бузука. Сюды прывёў Лявона інстынкт «прыроднага земляроба», які дапамагае ўбачыць у чужым пейзажы не толькі адметнае, але і агульнае, сутнаснае: «Ад зямлі ішла пара, а разам з ёю спакваля сачылася просьба: зямля прасіла плуга, каб ажывіў радавыя, плодныя сілы, абудзіў да наканаванай лёсам і прыродай дзейнасці — зелянець, красаваць, налівацца». Мы маем магчымасць даведацца пра дэталі побыту цяпер

ужо сельскіх амерыканцаў, але з той жа ўважлівасцю і падрабязнасцямі: што елі на сняданак, абед і вячэру, як апраналіся, якія гатункі бульбы, яблык, гароднiны садзілі, якія прыпынкі па чыгунцы трэба праехаць да таго Маршалтаўна. Усё гэта, як і дакладныя партрэты і амерыканскія пейзажы, напісаныя, як правіла, на супастаўленні з прускаўскімі (індзейскага лета з бабіным), адпавядае ўстаноўцы аўтара, які адзначае, што заўсёды ідзе ад факта («Полымя», № 12 за 2007 год) і з'яўляецца прыхільнікам традыцый рэалізму («Беларуская думка», № 5 за 2010 год). Амерыканскі каларыт мастацкаму дыскурсу надае ўключэнне ў аўтарскую мову і гаворку герояў фраз на англійскай мове, якія потым трывала ўвойдуць і ва ўласную мову беларускіх «амерыканцаў» («keep smiling», манкі бізнес і інш.).

Дзве часткі рамана «Уліс з Прускі» звязаны ўнутрытэкставымі сувязямі праз пазасюжэтныя элементы: сцэны сяўбы, касьбы, жніва ці малацьбы на ферме Бузука, калі Лявон дзівіцца жняяркам і малатарням, вяртаюць да адпаведных апісанняў прускага жыцця, нераўнадушная да Лявона дачка гаспадароў Анет прымушае яшчэ раз успомніць мілейшую яго сэрцу Ганну, Дзень удзячнасці нагадвае Дзяды, дэмакратычная краіна Амерыка дазваляе крытычна глянуць і на свой народ: «ушчаміць адзін аднаго стараюцца. Мо таму, што ні нас, ні мовы нашай не прызнаюць».

Пасталелы галоўны герой усё часцей рэфлексуе: «пакутлівая хвароба настальгія», «...з'яўляючыся невядома адкуль, пранізвала ўсю яго істоту, перахоплівала дыханне». Значна больш, чым на ранейшых старонках, увага надаецца ўнутраным маналогам Лявона, які, назіраючы жыццёвыя трагедыі, задумваецца над сэнсам чалавечага існавання: «Для чаго ж жыве чалавек? Мае ён якое прызначэнне ў жыцці ці не мае? Душа разрывалася ад супярэчнасцей».

Зарабіўшы грошай на тое, каб аддаць пазыку пану Падгурскаму, і даведаўшыся, што Ганна выйшла замуж за Трахіма, Лявон вяртаецца ў Пруску. Падводзячы вынік яго вандроўцы, аўтар робіць выснову: «Забягаючы наперад, аднак, нельга не сказаць, што і праз дзесяць, і праз дваццаць, і праз больш гадоў ён не раз будзе шкадаваць, што пакінуў гэтую такую багатую на розныя дзівосы краіну, шырокую і па-сапраўднаму свабодную».

З вобразам галоўнага героя неадрыўна звязаны топас дарогі, спачатку блізкай, апісанай з такой дакладнасцю, што ствараецца ўражанне, нібы і сам едзеш з Лявонам і дзедам на возе, — у Камянецкае народнае вучылішча, якое дало веды і пазнаёміла з нелегальнай літаратурай; затым далёкай, пра якую таксама гаворыцца з выключным багаццем дэталей, — у Амерыку, якая канчаткова сфарміравала характар, і, з трывогай і няпэўнасцю, — назад ў Пруску. Гэта ў першай кнізе. У другім рамане, «Расія», канцэпт дарогі набывае больш трагічны і змрочны сэнс (ён нечым нагадвае шлях купалаўскіх «Паязджан») — гэта горкі шлях бежанцаў з Прускі ў далёкую Самарскую губерню, жахлівыя і бессэнсоўныя дарогі салдата Першай сусветнай вайны і, нарэшце, зноў пакутлівае вяртанне да парога бацькоўскай хаты. Яно і дало назву трэцяму раману «Вяртанне», але ў ім, як і ў раздзелах з «Валошак на мяжы», немалады ўжо Лявон ужо менш знаходзіцца ў дарозе рэальнай, затое больш шукае духоўна, вызначаецца не толькі ў сямейным і побытавым жыцці, але і ў грамадска-палітычным.

Раман «Расія» ў часопісным варыянце публікаваўся з падзагалоўкам «Сямейная хроніка ў духу барока» (дух барока для аўтара — перш за ўсё ў атмасферы няпэўнасці) і мае дакладныя храналагічныя межы: 1915 — 1922 гады (магія лічбы «сем» — столькі часу быў Лявон у Амерыцы, столькі Адысей быў у палоне німфы Каліпса). Аўтар расказвае пра чалавека ў віры лёсавызначальных для славянскіх народаў падзей — Першай сусветнай вайны, Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года, калектывізацыі і грамадзянскай вайны. Наватарства У. Гніламёдава ў тым, што ён узнаўляе добравядомыя і апісаныя ў літаратуры падзеі з пункта гледжання сучаснага лёсу двух братніх народаў — рускага і беларускага, бо прускаўскія бежанцы перажываюць цяжкія часы ў патрыярхальным самарскім

сяле Запалонне, дзе іх прынялі як братоў (такую «агульную думку» выказвае ў час першай сустрэчы прускавец Пятро Ламака), з цеплынёй і ўвагай.

Ідэя «агульнасці славянскага дому» (В. Локун) знаходзіць сваё канкрэтнае ўвасабленне ў тым, што сям'я Кужалёў жыве ў хаце «буйнога стэпавага гаспадара» Ільі Аляксандравіча Платонава, які ўмеў выдатна весці гаспадарку. Прыглядаючыся да новай рэчаіснасці, Лявон параўноўвае яе ўжо не толькі з прускаўскай, але і з амерыканскай (і загоны, і пейзажы, і сельскагаспадарчую тэхніку, якой у Платонава не менш, чым у амерыканскага фермера). Параўноўваюцца і такія «смачныя» дэталі, як апісанне страў (што да святочнага стала Платонавых — дык гэта сапраўднае раблезіянства), святкаванне традыцыйных свят, якое ў Запалонні адрознівалася большым размахам («на Пакроў тры дні пілі, чатыры — апахмяляліся»).

Аўтарская ўстаноўка на сцвярджэнне еднасці рускага і беларускага народа ўвасабляецца і праз тое, што запалонаўская Фёкла, нявестка Ільі Аляксандравіча, становіцца лёсам і адзіным каханнем Лявона. Вобраз Фёклы, прататыпам якой стала бабуля пісьменніка, створаны з асаблівай любоўю і павагай: партрэт, у якім падкрэслена «блакітнае свячэнне» аўры; характар, у якім адчувалася «шырыня душы і рашучасць», дзелавітасць і энергія; шчырасць і самаадданасць у адносінах да Лявона і яго сям'і і клопат пра сына Васю; умелыя, працавітыя рукі. Непадобная, як піша У. Гніламёдаў, ні да прускаўскай Ганны, ні да амерыканскай Анет, Фёкла нагадвае шолахаўскую Аксінню. Лявона цягнула да яе, «як тую збажыну ў барабан», Фёклу, хоць яна і адчувала сябе грэшніцай, вабіць да Лявона тое, «што ён быў жывой, цэльнай натурай — без схільнасці да занудлівага самакапання». Пра каханне да Фёклы, як і раней пра каханне да Ганны, пісьменнік гаворыць рамантычна і разам з тым плоцева: «Ён таксама ўчуў, як убірае ў сябе пахучы водар яе напоенага сонечнай утомай цела, і быў бяссільны парушыць няўмольны ход падзей. Яна ўся парывіста прытулілася да ягоных грудзей. «Будзь што будзе», — адначасова падумалі яна і ён і забыліся на ўсё».

Трэба сказаць, што ва ўсіх раманах У. Гніламёдава прысутнічаюць умела выпісаныя эратычныя сцэны: і ў апісанні сямейнага жыцця Лявона і Фёклы (гэта пры тым, што эстэтызаваць сямейныя інтымныя сцэны значна цяжэй, чым юнацкае каханне або сітуацыю псіхалагічна апраўданай здрады), і расказ пра наведванне падлеткам Васем публічнага дома і інш. Гэта адзін з прыёмаў зацікавіць чытача і разам з тым канцэптуальная ўстаноўка аўтара, які гаворыць: «Каб дабіцца праўдзівасці адносін, я не мог адмовіцца ад адлюстравання інтымнага боку жыцця маіх герояў» («Обозреватель», 26 сакавіка 2010 года).

Самыя трагічныя старонкі рамана прысвечаны падзеям Першай сусветнай вайны і рэвалюцыі, надыход якіх успрымаецца як страшнае насланнё, выпрабаванне чалавечнасці. Безумоўна, У. Гніламёдаў абапіраецца на вопыт сусветнай літаратуры, якая асуджае вайну (Э.-М. Рэмарк, А. Барбюс, Э. Хэмінгуэй, М. Горкі), працягвае традыцыі М. Гарэцкага («На імперыялістычнай вайне»). «Вайна перакрэсліла ўсе ўяўленні аб жыцці. Яна была вялікім прыніжэннем для чалавека». Асабістае «я» зноў адыходзіць на другі план, на першым — калектыўнае «пачуццё страху і жахлівасці ад таго, што адбывалася навокал», асабліва ў рэалістычных апісаннях бою: «Азвярэлыя ад крыві людзі арудавалі штыкамі і прыкладамі, рвалі рукамі і зубамі, крышылі і знішчалі адзін другога». Аўтар нават не дзеліць людзей на супрацьлеглыя бакі, гаворачы, што Лявон не адчуваў нянавісці да таго рыжага немца, якога давялося забіць. І пейзажныя замалёўкі, якія перадаюць стан параненага Лявона, вызначаюцца ўніверсальнасцю: «Зверху ўсё цяжэй навісалі хмары, з якіх церусіліся мяккія сняжынкі. Знізу, пад параненым, снег умінаўся, падтаваў, і чалавек апускаўся ўсё глыбей і глыбей, усёй істотай адчуваючы, як нешта невымерна цяжкае і неадольна моцнае памалу цягне яго ўніз, углыб гэтай халоднай і непрыветнай зямлі».

Атрымаўшы георгіеўскі ордэн і ледзь не страціўшы параненую руку, Лявон вяртаецца ў Запалонне іншым чалавекам: «Узмоцніўся скепсіс і прыгнечанасць. Жыццё здавалася суцэльным ланцугом драм і трагедый». Ратуе яго сялянская ўстойлівасць характару і каханне Фёклы, «безагляднае і непахіснае».

Аднак жыццё ў некалі спакойным Запалонні віруе рэвалюцыйнымі падзеямі, якія падаюцца праз хранікальна-дакладнае аўтарскае апісанне палітычнага становішча, уключэнне рэальных дакументаў часу, якія У. Гніламёдаў вывучаў у самарскіх архівах, і іншых пазасюжэтных элементаў (дзённік бальшавіка Мішы Касякіна, брата Фёклы, апісанне падзей прафесійным рэвалюцыянерам Андрэем Кляновікам). У дачыненні да той часткі рамана, якая расказвае пра падзеі рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, як і ў дачыненні да наступнага рамана «Вяртанне», робіцца асабліва відавочным вывад В. Локун пра падзел раманнага поля на дзве стылёва адрозныя апавядальныя лініі, якія ствараюць вобраз гістарычнага часу і псіхалагічна дакладныя малюнкі жыцця народа, «вобразна-псіхалагічную і хранікальна-падзейную» плыні. Гэтыя плыні ўдала дапаўняюць адна адну: пры ўсім даверы да дакументаў, абсурднасць падзей успрымаецца мацней, калі чытаем сцэну расстрэлу бальшавікоў казакамі: яны перадаюць карабін васьмігадоваму Саньку, і ён расстрэльвае камбедаўца Фролку, які некалі забіў яго дзеда Мілягіна. Эпізод працягваецца зусім ужо жудасным малюнкам — абезгалоўленае цела старшыні камбеда Фёдарава робіць некалькі крокаў па залітай крывёй зямлі...

«...Белыя, чырвоныя, яшчэ нейкія... Нічым яны фактычна паміж сабой не розняцца», — развжае Лявон. Ён не прымае рэвалюцыю, як і Фёкла: «Рэвалюцыя — памрока, як зацьменне сонца». А Ілья Аляксандравіч і ўвогуле лічыць бальшавізм «прыпадкам, які здарыўся з нашым вопчаствам».

Падзеі грамадзянскай вайны, «тыф, халера, галадамор», узмацняюць прыцягненне роднай Прускі, аднак Лявон з сям'ёй вяртаецца ўжо ў новую рэчаіснасць — капіталістычную Польшчу. Раман «Вяртанне» і прысвечаны жыццю народа Заходняй Беларусі пад уладай Польшчы, пра якое аўтар з уласцівай яму дасведчанасцю і ўвагай да факта расказвае як вуснамі Лявона і яго аднавяскоўцаў, так і мовай дакументаў. Часцей, у параўнанні з папярэднімі творамі, аўтар перадае функцыі наратара бальшавіку Андрэю Кляновіку як, скажам, на старонках, прысвечаных рэвалюцыйнай сітуацыі ў «прыкантужанай вайной Германіі», і тады мяняецца аўтарская мова, болей жорсткімі і аднaзначна бунтарскімі становяцца ідэйныя акцэнты. Хоць аўтар неаднаразова называе Кляновіка і Кужаля сябрамі, адзінства поглядаў у іх няма: у спрэчцы пра класавую барацьбу Лявон гаворыць, што беларусаў выратуе працавітасць, і адчувае, што ў праграме Кляновіка «было нешта штучнае і вельмі рызыкоўнае». Часцей жа Лявон у такіх размовах проста маўчыць. Увага да вобраза Кляновіка невыпадковая — гэта калі і не галоўны герой, то адзін з асноўных у раманах хронікі, і знаёмімся мы з ім яшчэ на старонках, прысвечаных юнацтву Лявона Кужаля (мітынг у Брэсце) і яго амерыканскай адысеі. Сюжэтная лінія Кляновіка ва ўсіх раманах хронікі ідзе паралельна з лініяй Кужаля, часам, асабліва ў «Вяртанні», пісьменнік выкарыстоўвае «шахматны» прынцып пабудовы сюжэта, пераключаючыся на падзеі жыцця прафесійнага рэвалюцыянера. Кляновік, нібы містычная істота, заўсёды аказваецца дзесьці побач з Лявонам і дапамагае яму вырашаць жыццёвыя цяжкасці; Кужаль пастаянна цікавіцца лёсам сябра, а калі яго след па нейкіх прычынах (часцей знаходжанне ў турме) губляецца, то мы, у лепшых традыцыях мадэрнізму, знаходзімся «ў чаканні Кляновіка» ці ў кампаніі яго двайніка Косці Хлябіча (між іншым, сына Ганны і Трафіма). Большая ўвага, у параўнанні з папярэднімі кнігамі, надаецца ўнутраным маналогам і няўласна-простай мове Кляновіка — з дапамогай гэтых сродкаў малюецца вобраз апантанага ідэяй «апостала навукі Карла Маркса», які беларусаў лічыў «дрымучым народам» і сялян «не любіў і ў душы нават не паважаў». Чытаючы артыкул моднага публіцыста Адольфа Няўчынскага, які лічыў, што нацыянальнае пытанне на «крэсах» можна вырашыць толькі на мове шыбе-

ніц, Кляновік думае: «чым горш, тым лепш. Вышэй будзе свядомасць!» Недастаткова свядомым, на яго думку, з'яўляецца Лявон Кужаль — «Звычайнага ў табе многа, сялянскага... Такія для рэвалюцыі не гадзяцца...» Менавіта праз нарацыю і ўнутраныя маналогі Кляновіка мы даведаемся пра становішча ў КПЗБ, «сепаратысцкі» рух унутры партыі, «нацыянальны момант у дзейнасці Тарашкевіча і Мятлы», смелыя і нават авантурныя, з гумарам, учынкі партызанскага камандзіра Кірылы Арлоўскага і многія іншыя падрабязнасці, якія ствараюць, незалежна ад ацэнак Кляновіка, пераканальную палітычную сітуацыю. Такі прыём значна ўзбагачае твор, дазваляе перадаць жыццёвую поліфанію і аб'ектыўную карціну грамадскага становішча ў Заходняй Беларусі. Чытач, як і аўтар, усё роўна сімпатызуе Кужалю, прымае яго пазіцыю і часам нават глядзіць на свет яго вачыма, аднак мае права, тым больш амаль са стогадовай адлегласці, не абмяжоўвацца сялянскім светапоглядам і на аснове разнастайных звестак і жыццёвых установак выпрацаваць уласную ўніверсальную філасофію часу. Выхаваны на папярэдніх раманах, чытач ужо і не здзіўляецца энцыклапедычным ведам аўтара і ашаламляльнаму багаццю канкрэтных фактараў і дэталей, а проста ўдзячна прымае інфармацыю, напрыклад, пра наручнікі парыжскай фірмы «Renuet», надзетыя на вязня, ці пра камплект арыштанцкага адзення. На фоне такой створанай аўтарам атмасферы дакладнасці не выклікае сумнення і дасведчанасць аўтара ў больш складаных пытаннях: дзейнасць Камінтэрна і эміgranцкага ўрада БНР, пагадненне беларускіх партызан з урадам БССР пра падрыхтоўку ўзброенага паўстання ў Заходняй Беларусі, затым фактычная адмова ад яго і арышты паўстанцаў, якія перайшлі на савецкую тэрыторыю, санацыйны рэжым Пілсудскага, праца Беларускай Сялянска-Рабочай Грамады, у якой было каля 100 тысяч чалавек на чале з Тарашкевічам...

Багаты фактычны матэрыял, як ні дзіўна, не шкодзіць лёгкасці ўспрымання твора, як і апублікаваных раздзелаў рамана «Валошкі на мяжы». Грамадска-палітычная падзейнасць удала дапаўняецца цікавымі фактамі з сямейнай хронікі (такімі, як замужжа Лявонавых сясцёр: Фядора збегла з-пад вянца з кавалерам, а Варка выйшла замуж за пакінутага сястрой жаніха) і новымі, арыгінальнымі звесткамі пра побыт вяскоўцаў, звычаі, сельскагаспадарчую працу.

Падагульняючы размову пра маштабныя эпічныя творы У. Гніламёдава, яшчэ раз адзначым іх высокі ідэйна-эстэтычны ўзровень. Вядома, для доктара філалагічных навук не існуе сакрэтаў мастацкага майстэрства, аднак іх увасабленне не было б магчымым без арганічнага прыроднага таленту пісьменніка, які дадзены Уладзіміру Васільевічу. Арыентуючыся на класічную эпічную традыцыю, пісьменік узбагачае яе «з улікам найноўшых дасягненняў сучаснай апавядальнай паэтыкі» (Я. Гарадніцкі). Так, будуючы сюжэт, аўтар выкарыстоўвае, побач з традыцыйным лінейным апавяданнем, прыёмы вяртання, забягання наперад, «шахматнага» размяшчэння фабульнага часу, вядзе нарацыю ад імя розных асоб (у тым ліку і праз дзённікі, ліставанні). Гэта, безумоўна, ажыўляе чытацкую ўвагу, як і прыём загадкі (так, у першым рамане мы даведаліся пра трагічную смерць Ганны, аднак толькі ў «Вяртанні» аўтар адназначна гаворыць пра тое, што Трахім бязлітасна штурхнуў жонку пад колы цягніка). Увядзенне аўтарскіх разваг, цытаванне гістарычных дакументаў, апісанне побыту ўдала спалучаецца з дынамічнымі, лёгкімі, неабцяжаранымі аўтарскай мовай дыялогамі. Асаблівым майстэрствам вызначаюцца разнастайныя, адпаведныя аўтарскай ідэйнай устаноўцы, паэтычныя пейзажы, насычаныя вобразна-выяўленчымі сродкамі і мясцовай канкрэтыкай. Сапраўднай удачай аўтара стала сістэма выдатных вобразаў-персанажаў, прычым і героі, і другародныя, і дапаможныя, і нават выпадковыя персанажы падаюцца праз разнастайныя спосабы экспазіцыі і характарыстыкі (у прыватнасці, праз яркія дэталі партрэта, моўную індывідуалізацыю, унутраныя маналогі). Як адзначалі крытыкі, адзін з самых яркіх вобразаў — вясковы дзівак-вандроўнік Кузёмка, «скрынка з чуткамі і навінамі», у партрэце якога пад-

крэсліваюцца каларытныя асаблівасці: «чалавек у бравэрцы, на галаве — магерка, нагавіцы запраўлены ў боты з зіхоткімі халявамі». Аднак не ўступае Кузёмку па выразнасці і нечым падобны да яго запалонаўскі Таццянка, і айцец Гіпаліт, і настаўніца Хелена Пакорская, і многія іншыя.

Моўнае майстэрства У. Гніламёдава, відавочнае з прыведзеных цытат, заключаецца ў зайздросным лексічным багацці, ва ўмелым стварэнні мясцовага каларыту («дзяўчук», «халадно», «могліцы» — так і сёння гавораць у Заходняй Беларусі), мэтазгодным увядзенні іншамоўнай лексікі (рускай, англійскай, польскай, яўрэйскай, украінскай). Не магу пагадзіцца з З. Драздовай, якая лічыць, што ў рамане «Расія» «было бы более уместно давать речь заполоновцев, говорящих на русском языке, в оригинале» («Нёман», № 8 за 2010 год). Вядома, рашэнне пісьменніка, які выбраў шлях адаптацыі рускай мовы да беларускай і стварэння нейкага «сярэдняга варыянта», было рызыкоўным, і мусіць жа У. Гніламёдаў яго добра ўзважыў і прадумаў. Цяжка ўявіць сабе шматлікія дыялогі, з якіх і складаецца кніга, дзе кожная рэпліка даецца то па-руску, то па-беларуску. Неяк жа героі між сабою разумеліся, а словы, сэнс якіх можа быць няясным суразмоўцу, аўтар тлумачыць у тэксце. Думаецца, і чытачу так зручней, ва ўсякім выпадку, асобныя фразы запалонаўцаў лёгка запамінаюцца і пры выпадку з гумарам узнаўляюцца: «ай да ну!» ці платонаўскае «астаёцца недаўмяваць».

І ў заключэнне пра адну фразу У. Гніламёдава, якую не маглі абысці ўвагай усе, хто, пісаў пра яго творчасць. Аўтар называе сябе наратыўшчыкам і постмадэрністам («ЛіМ», 19 кастрычніка 2007 года). З тым, што гэта постмадэрнізм, адназначна не згодна В. Локун, менш катэгарычная — З. Драздова. М. Мішчанчук звяртае ўвагу на інтэртэкстуальнасць і прыёмы модульнай паэтыкі, аднак таксама не вызначае мастацкі метад, якім карыстаецца пісьменнік, як постмадэрнізм. Канечне, каб расставіць акцэнты ў такой сур'ёзнай размове, трэба вызначыцца ў адзінстве падыходаў (існуе некалькі канцэпцый постмадэрнізму). Ні на што не прэтэндуючы, адважуся на некалькі заўваг. Цытацыя, відавочная ў творах У. Гніламёдава, не мае дачынення да постмадэрнізму, тыпалагічнай прыкметай якога з'яўляецца іронія, сцвярджэнне анамальнага становішча традыцыйных форм у сённяшняй літаратуры. Для постмадэрнізму ўласціва эклектыка любых форм традыцый, У. Гніламёдаў цытуе пераважна класіку рэалістычнай літаратуры. Выкарыстанне гатовых форм, сітуацыя мастацкага запазычання ўжываецца постмадэрністамі пераважна з мэтай кампенсаваць недахоп уласнага зместу, што У. Гніламёдаву не пагражае. Пра постмадэрнізм у яго творчасці, на маю думку, можна гаварыць хіба ў сэнсе рэабілітацыі мастацкай традыцыі, перш за ўсё рэалізму. Я б вызначыла мастацкі метад У. Гніламёдава як новы рэалізм, што на сучасным эстэтычным узроўні выкарыстоўвае дасягненні беларускага і сусветнага класічнага рэалізму.

Творы У. Гніламёдава ўжо сталі самай значнай з'явай сучаснага літаратурнага працэсу. Калі дадаць, што хутка будуць апублікаваны новыя часткі рамана «Валошкі на мяжы» і аўтар закончыў новую кнігу, у якой адлюстраваны падзеі Другой сусветнай вайны, то можна канстатаваць новы ўздым беларускай прозы, якая годна асэнсоўвае гістарычны лёс свайго народа.

# Уладзімір КАРАТКЕВІЧ: «ЛЮБУЮ СПРАВУ РАБІЦЬ ХВАЦКА»



*У свой час, а дакладней напачатку 1980 года мне пашчасціла ўзяць інтэрв'ю для балгарскай газеты «Культура» ў вядомага беларускага пісьменніка Уладзіміра Сямёнавіча Караткевіча. Неўзабаве наша гутарка і была змешчана на старонках гэтага папулярнага ў Балгарыі літаратурна-мастацкага выдання. Лічу, што развагі аднаго з самых любімых у Беларусі пісьменнікаў, выказаныя ў інтэрв'ю ў свой час пра жыццё і творчасць, будуць цікавымі і сягоннянняму чытачу, каму дарага імя слыннага Майстра Слова.*

***Роза Станкевіч***

***Пазнаць таямніцы мастацкага свету Уладзіміра Караткевіча без шчырай, адкрытай гаворкі з ім немагчыма. Да таго ж трэба ведаць усю творчасць пісьменніка, каб адчуць хваляванне яго аналітычнага розуму і яго імкненне да раскрыцця складаных праблем мінулага Беларусі. Часта ў творах У. Караткевіча пераплятаецца старажытная веліч і дынаміка прыгодніцкага апавядання ў легендарна-паэтычным пераламленні гістарычнай рэальнасці. Стыль яго нагадвае мне чымсьці старажытны, амаль бязлюдны замак, як замак Яноўскіх («Дзікае паляванне караля Стаха»), які адраджаецца майстэрскаю рукою ўлюбёнага ў справу і спрактыкаванага рэстаўратара.***

***Пакуль ветлівы гаспадар гатаваў каву, я, седзячы ў зручным крэсле, магла агледзецца: у доме пісьменніка — асаблівая, артыстычная ўтульнасць. На сцяне вісяць старажытныя беларускія скульптуры з дрэва. А з кутка мудра глядзіць на мяне Майсей — таксама драўляная скульптура, як пазней растлумачыў Уладзімір Караткевіч, знойдзеная проста ў балоце, у адной са шматлікіх яго экспедыцый па роднай зямлі.***

***…І вось ужо цёпла дымяцца кубкі, і гаркава-чорны напой схіляе да гутаркі.***

— Вельмі дзіўна атрымалася са мною, — усміхаючыся, пачынае ён. — Шчыра кажучы, я не збіраўся стаць пісьменнікам. Але пісаць пачаў даўно, яшчэ ў школе. Пісаў і вершы і прозу — у асноўным для сябе. Сёе-тое з маёй пісаніны было змешчана ў школьным рукапісным часопісе. А аднойчы разам з сябрам вырашыў пабываць на радзіме нашага любімага Янкі Купалы. Пешшу дайшлі

да Вязынкі. Аб гэтым падарожжы я напісаў і паслаў жонцы паэта Уладзіславе Францаўне ліст. Яна ўключыла яго ў зборнік «Янка Купала. Збор матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці паэта». Так з᾿явіўся мой першы друкаваны твор… У гэтым жа годзе адзін мой знаёмы папрасіў, каб я прыслаў яму проста так, пачытаць, свае вершы (тады я настаўнічаў на Украіне), і ён занёс іх у «Вожык» і «Полымя». З «Вожыка» я атрымаў пісьмо прыблізна такога зместу: «Малады чалавек, з Вашым талентам лепш біць і брукаваць каменне на бруку». Мяне гэта, прызнацца, не вельмі і засмуціла. А вось у «Полымі» пасля гэтага цалкам ужо нечакана для мяне з’явіўся мой верш «Машэка», і я падумаў, што ўсё ж нешта змагу рабіць. Пасля паступова пачалі друкаваць мяне і іншыя часопісы.

***— Перш чым пачаць пісаць, чалавек пачынае чытаць. Ці помніце першую прачытаную вамі кнігу?***

— Шчыра кажучы, першую кнігу не помню, таксама як і не помню сябе такога, каб не ўмеў чытаць. Пачаў чытаць у трохгадовым узросце: непрыкметна навучыўся ад старэйшых. Дома была вялікая бібліятэка, і я захапляўся мастацкай літаратурай, часцей за ўсё не па ўзросце. Пазнаёміўся паступова з беларускаю, рускаю і ўкраінскаю літаратурамі, пазней — з польскай.

***— Зразумела ж, як і ва ўсіх, у вас былі любімыя аўтары, любімыя творы?***

— Што датычыць любімых твораў, то іх вось так — раз і назаўсёды — няма. У кожным узросце меў улюбёнцаў і багоў. Чытаю кожнага ў залежнасці ад настрою. Калі ён светлы — то Пушкіна, гнеўны — ранняга Купалу, Багдановіча, Шаўчэнку, калі настрой філасофскі і грэбліва непрымірымы да смуроду і пошласці — проста хоць на дуэль — Лермантава, Гарэцкага і Льва Талстога, роўны — добрыя гістарычныя раманы Сянкевіча, лепшыя рэчы Аляксея Талстога.

І, прызнаюся, хоць ведаю, што сёй-той скрывіцца, перад працай, якая патрабуе разлічанай, завостранай думкі, вельмі люблю чытаць добрыя дэтэктывы. Сапраўды добрыя. Да іх залічваю не толькі, скажам, творы Сімянона і лепшыя раманы Агаты Крысці, але й роднага па духу Стывенсана. І калі браць вяршыні, на якія нават дыхаць цяжка, — «Братоў Карамазавых».

***— А ў каго з іх вы вучыліся пісьменніцкай справе?***

— У каго вучыўся? Складанае пытанне. Бадай што, ні ў кога не вучыўся манеры і спосабу мыслення. Затое ва ўсіх вучыўся любві да чалавека і людзей, людства і жаданню па меры сваіх слабых сіл таксама хоць крышку дапамагчы ім. Хоць бы на адно кароткае імгненне.

Вучыўся іхняму жаданню падаць чалавеку, калі яму, можа, сумна і самотна, сігнал: «Смялей. Ты не адзін». З беларускіх пісьменнікаў вучыўся гэтаму, мабыць, найбольш у Багдановіча, Купалы, Коласа і Гарэцкага. Іншых ужо назваў. Ага… сярод іх ледзь не забыў Кіплінга. Аднак заўсёды стараюся заставацца ўсё ж самім сабою. Калі добрая думка, якая хвалявала мяне гадамі, выльецца на паперу, а пасля я сустракаю нешта падобнае і выказанае глыбей і лепей у творах іншых сучасных пісьменнікаў, адчуваю вялікае задавальненне. Гэта азначае, што думка насілася ў паветры, што так думалі і іншыя, што я не адзін.

***— Што больш за ўсё хвалюе вас, калі пачынаеце працаваць над новай кнігаю?***

— Думаю пра тое, каб напісаць першы аркуш без адзінай памаркі. Гэта значыць, што пасля ўсё пойдзе добра. Маё своеасаблівае правіла: я не прытрымліваюся «эстэтыкі пакрэсленага рукапісу». Любую справу трэба рабіць хвацка. Дзесяць гадоў вучыся, але калі ўзяўся за сякеру, дык сячы як належыць. Думаю над кожнаю фразаю, варочаю яе ў мазгах нават сто разоў, кожны раз мяняючы, вымаўляю яе ўголас, перабіраю мноства варыянтаў і толькі тады запісваю самую, на мой погляд, удалую, начыста і намёртва.

***— Пра што вы пішаце, або іншымі словамі: асноўная рухаючая сіла вашай творчасці?***

— Справа ў тым, што ў наш час людзі ў чымсьці нівеліруюцца. Носяць аднолькавае аддзенне, жывуць у падобных дамах, кватэрах, хатах, ядуць адны і тыя ж стравы,

і побыт людзей амаль аднолькавы — ці будзе гэта ў Маскве, ці ў Мінску, у Вільні, у Рызе… Але ж кожны народ цікавы ў многім менавіта сваім спосабам жыцця, мыслення. Калі, скажам да прыкладу, узяць дзесяць тысяч аднолькавых кавалачкаў смальты і пакласці іх побач, то атрымаецца проста падлога ў ваннай, а калі кавалачкі будуць markznakaляровымі — можна зрабіць цудоўную мазаіку. Я за тое, каб кожны народ, і ў першую чаргу мой, меў свой воблік, меў свой колер, свае адценні, быў непадобны да суседа, выклікаў пачцівае здзіўленне і жаданне яму наследаваць, жыць такім самым яскравым, непадобным, страшэнна прыцягальным жыццём.

***— А для каго пішаце?***

— Для тых, хто любіць і чытае мяне — каб парадаваць іх. Для тых, хто не любіць — каб раззлаваць. Для тых, хто яшчэ не ведае гісторыі, даўняй культуры і літаратуры Беларусі, — каб абудзіць іх цікавасць.

***— Часта сюжэты ў вас мудрагелістыя…***

— Так. І гэта таму, што я стараюся пражыць свой век як найцікавей, каб дзень не быў падобны на дзень. Калі працую — ну, тады, вядома, дні больш-менш аднолькавыя і розняцца толькі тым, пра што я сёння пішу, тады я проста працую без адпачынку, і днём і ноччу. А вось калі работы часова няма — то тады я іду ў мора з рыбакамі, лаўлю з імі рыбу, слухаю і прымаю ўдзел у іх размовах… Швэндаюся па самых глухіх кутках і фатаграфую (хай па-аматарску) старыя цэрквы, курганы, гарадзішчы, тыпы людзей… Еду ў іншыя гарады і прападаю там па кнігасховішчах ці ў розных цікавых людзей… Іду ў лес, раскладваю вогнішча, хаджу па вёсках, складаю ў копы сена, адным словам, працую і жыву. Трэба здымацца ў кіно ў ролі каталіцкага святара — здымаюся. Трэба «пагутарыць» з мядзведзем — гутару. Трэба бервяно абчасаць — умею.

***— Карыстаючыся пачатай тэмай, запытаю: што вам найбольш падабаецца ў самім сабе?***

— Абсалютна нічога.

***— А што не падабаецца?***

— Вы што, допыт мне ўчыняеце? — з усмешкаю і ўяўнай строгасцю пытае ён. — А ўвогуле, магчыма, і не падабаецца і падабаецца мая звычка ўмешвацца ў розныя справы, якія чыняцца на белым свеце. Падабаецца блукаць у такіх мясцінах, дзе яшчэ мала хто быў, апускацца ў пячоры, лазіць па падземных хадах пад старымі будынкамі, разгадваць усякага роду загадкі… І ў той жа час гэта мне не падабаецца, таму што прыносіць кучу бедаў. Нядаўна, напрыклад, два таварышы ўздумалі паўтарыць адзін апісаны мною маршрут і моцна пацярпелі там. Я прашу ў іх прабачэння і засцерагаю: перш чым узяцца за нешта такое, спытайце ў мяне. Мінулі гады і ўчора адносна бяспечнае месца можа сёння пагражаць, скажам, абвалам, ці нават нечым горшым. Не рызыкуйце там, дзе рызыкаваў я. Бо там, дзе я ішоў на рызыку, я, урэшце, адказваў толькі за самога сябе. Сабой, а не пакутамі сумлення за кагосьці.

***— А калі паставіць пытанне так: ці знаёма вам пачуццё творчай няўпэўненасці?***

— Не. Я ніколі не бяруся пісаць аб тым, да чаго ў мяне не ляжыць душа. Калі я ведаю, аб чым я хачу пісаць, я ведаю і як пісаць. Таму ў мяне практычна няма чарнавікоў. Ёсць толькі накіды сюжэта. Накіды гэтыя падобныя на галаваломку, сам чорт нагу зломіць. Там усё: героі, абстаноўка, планы месца дзеяння, жыллё дзейных асоб аж да таго, што відаць з кожнага акна, падрабязныя біяграфіі герояў (яны пасля не ўвойдуць у твор, але, ведаючы іх, я ведаю, як будзе паводзіць сябе чалавек у самых складаных абставінах), манеры герояў, іхнія ўчынкі і іншыя дэталі. Абдумаю як след — сядаю за стол. Калі штосьці не клеіцца, пахаджу па пакоі, пакуру, каву згатую — і зноў за работу. Слова павінна ўлезці на сваё месца адразу, як цвік. І апошняя гэта справа сто разоў выцягваць яго абцугамі і забіваць зноў.

***— Уладзімір Сямёнавіч, а чаму вы назвалі свой апошні празаічны твор «Зброя» аповесцю? Ці не з'яўляецца яна своеасаблівым працягам рамана «Каласы пад сярпом тваім»: галоўныя ж героі адны і тыя ж?***

— Не. Гэта не працяг рамана, а яго адгалінаванне. Галоўныя героі тыя ж, але яны дзейнічаюць у іншых умовах і іншы раз не зусім так, як табе хочацца. Дзеянне адбываецца ў Маскве. Але гэта не Масква Пушкіна і Бялінскага, дзе жывуць высокімі ідэаламі ці, прынамсі, добрымі манерамі, дзе ветліва цалуюць ручкі дамам, дзе гутараць аб высокіх матэрыях, дзе пануе павага да людзей. Гэта Масква Сухараўкі і Хітрова рынка, маскоўскае дно, якое і Гіляроўскаму не снілася.

***— Значыць, аповесць трэба ўспрымаць як самастойны твор, калі я не памыляюся?***

— Толькі так. У нас, у Прыдняпроўі, норавы заўсёды былі і ёсць такія: калі гулянне — стаў апошні рубель, калі просіш — то ад душы, а пагражаеш каму-небудзь — яму не здабраваць! А тут Алесь трапляе ў абсалютна чужое, незразумелае яму асяроддзе, дзе можна прыгразіць і забыць, дзе на словах можна даравацы, але да смерці помніць зло і пры зручным выпадку ўдарыць. Адным словам, дзе законы такія: хочаш выжыць — умей хітрыць, выкручвацца, хлусіць.

***— Але ж мэта ў Алеся і яго сяброў застаецца па-ранейшаму тая ж.***

— Так, ім трэба знайсці і купіць зброю, хоць бы 3000 ружжаў для паўстанцаў. А гэта справа далёка не простая.

***— Пэўна, таму аповесць называецца «Зброя», ці яе назва мае і іншую, унутрана-падтэкставую нагрузку?***

— Ваша праўда, назва — сімвалічная. «Зброя» — гэта значыць, што так нельга жыць далей грамадству, у якім жыве Алесь, што наступіў час мяняць самадзяржаўны лад, што народ прыйшоў да гэтага і рыхтуе сваю зброю.

***— Як растлумачылі б вы сваю нязменную цікавасць да гістарычных сюжэтаў?***

— На гістарычных сюжэтах я ствараю сваю матрыцу будучага. Калі ты ў пэўнай сітуацыі калісьці зрабіў так, а не інакш, то і праз сто, тысячу гадоў ты ў падобных абставінах зробіш у нечым падобны ўчынак. Кожны гістарычны сюжэт — гэта адкрытая размова з сучаснікам. А дзе яшчэ можна паказаць так поўна чалавека, што стаіць перад выбарам, кім яму быць, калі не на фоне гісторыі, вайны, экстрэмальных умоў, у якія трапляе гэты чалавек і праяўляецца ўвесь да канца, да тых рыс характару, якія ён, можа, і сам не падазраваў у сабе?

***— А што вы скажаце пра свой раман «Чорны замак Альшанскі»? У чым побач з прыгодніцка-дэтэктыўным — і гісторыя, і сучаснасць.***

— Гэта чысты дэтэктыў. І нічога больш.

***— Дазвольце не згадзіцца. Ва ўсіх вашых творах (і гэты раман не выключэнне), на мой погляд, прысутнічае як характэрны ўнутраны падтэкст гісторыка-патрыятычны пачатак, які нясе ў сабе сапраўдную ўлюбёнасць ва ўсё роднае: прыроду, гісторыю і культуру Беларусі. І калі адкінуць усё гэта і глядзець на раман толькі як на займальны «чысты» дэтэктыў то, напэўна, — гэта не Караткевіч.***

— А я ніколі не лічыў дэтэктывам раманы пра маёра Проніна. Дэтэктыў, калі яго разумець як трэба, гэта таксама добрая літаратура (другая справа, ці здолеў я ў «Замку» ўзняцца да яе). Перш за ўсе таму, што там не павінна быць голай схемы, па якой дзейнічаюць загадзя ясныя нам героі, а павінны быць жывыя людзі. І яшчэ павінна быць смяротная нянавісць да зла.

***— Кажучы пра сувязь гісторыі і сучаснасці, я хацела б пачуць вашу думку аб тым, па якой прычыне некаторыя пісьменнікі і творы з часам «старэюць».***

— Цяжка адказаць на гэта пытанне адназначна… А вы ўспомніце, колькі шэрых клетак у чалавечым мазгу. Яны стамляюцца. Яны адміраюць. Стамляецца і старэе пісьменнік, а разам з ім і чытач. Старэюць праблемы. Старэюць часы. Не так ужо рэдка бывае, што целам чалавек яшчэ малады, а душою безнадзейна стары. І наадварот. Гэта — бяда. Крыўдна і тое, што маючы ў галаве шмат новых сюжэтаў, ты не можаш, як у маладосці, сядзець за сталом па дзесяць—дванаццаць гадзін не ўстаючы… Я хачу сказаць вось што. Творы, напісаныя пісьменнікам на ўзлёце сіл, часцей за ўсе і астаюцца яго лепшымі творамі, жывуць доўга.

Думаю, што мала хто цяпер стане перачытваць «Астравы ў акіяне» Хемінгуэя, але тое, што ён напісаў на ўзлёце сваіх творчых сіл — «Па кім б'е звон», «Стары і мора» — будзе хваляваць яшчэ доўга.

***— Прабачце, я мела на ўвазе тое, што некаторыя пісьменнікі (або іх асобныя творы) праз гадоў 20—30 , а то і менш, ужо не цікавыя і да іх не вяртаюцца. Напэўна, у маім пытанні не так прагучала слова «старэюць». Працягваючы пачатую думку, я спытала б: якія чалавечыя якасці вы больш за ўсе цэніце ў пісьменніку? Якія якасці не старэюць?***

— Праўдзівасць! Ніколі не хлусі, калі пішаш. Асабліва пра дужа важныя пытанні зла і дабрыні, любві і нянавісці, смерці і бяссмерця, гуманізму і чалавеканенавісніцтва.

Але нават і ў малых дробязях дзейнічае гэты закон: не хлусі, пішы так як ёсць (другая справа, што выпадкі могуць быць неймаверныя). Усё адно: калі чагосьці не ведаеш, лепш не бярыся за пяро.

Была са мной адна гісторыя: атрымліваю ліст ад аднаго чытача маёй «Чазеніі», вучонага-біёлага, які абвінавачваў мяне ў тым, што схлусіў, апісваючы эпізод з леапардам (там ён адгрызае галаву ў забітага ім звера). Маўляў, такога не бывае. Ведаю я звычкі многіх звяроў, сам шмат назіраў за імі на Далёкім Усходзе. Расказвалі мне пра такую прывычку і шматлікія палясоўшчыкі, з якімі я сустракаўся там. Але, відаць, для майго біёлога і гэтага мала. Тады мне давялося-такі палазіць па кнігах. І ўрэшце я ўсё ж знайшоў. У кнізе «Запаведнік «Кедравая падзь», выдадзенай да 50-годдзя гэтага запаведніка, я ўрэшце чорным па белым прачытаў на старонцы 43: «Интересно, что у всех его (леопарда) жертв, даже если они не полностью съедены, всегда отсутствует голова».

Кнігу гэтую, у ліку іншых, пісаў дырэктар запаведніка, мой добры знаёмы А. Панкрацьеў. Трэба пісаць так, каб не хлусіць ні ў вялікім, ні ў малым (якім бы неверагодным не было тое, пра што расказваеш). Трэба, каб табе неаглядна верылі. Тады ў цябе будзе больш шанцаў, што ты даўжэй не «састарэеш».

***— Фолкнер аднойчы сказаў: «Калі хочаш даведацца, хто добры пісьменнік, запытай у яго калег, яны ўкажуць на яго сваёй непрыязнасцю». Колькі ў гэтай парадаксальнай думцы рацыі?***

— Ну калі, скажам, прымяраць гэтую думку на мяне, то няма на Беларусі «горшых» пісьменнікаў, чым Барадулін і Танк, Панчанка і Брыль, або, скажам, Быкаў. Ніколі ў жыцці я не «ўказваў на іх сваёй непрыязнасцю», хоць я не ўсяядны і некаторыя іхнія рэчы могуць мне не падабацца. Гэта пісьменнікі, якія зрабілі б гонар кожнай літаратуры. А Фолкнер? Што ж, магчыма, Фолкнер па-свойму ў чымсьці мае рацыю. Гэта, мабыць, было сказана ў хвіліну цяжкага расчаравання ў сабе і ў людзях, калі на хвіліну падумаў, што праца твая дарэмная, у хвіліну, калі табе ў адказ на парыў душы адказалі ўдарам. Крывадушныя людзі не пераводзяцца.

***— Уладзімір Сямёнавіч, уявіце сабе, што вас папрасілі скласці анталогію з пяці аўтараў сусветнай літаратуры. Якіх бы вы выбралі?***

— Я ўжо адказаў. Гэта ўсё адно, што выбраць пяць чалавек, якіх можна ўзяць ва ўратавальную шлюпку. Толькі пяць, а астатнія загінуць. Не ўжо! Я бяру з сабою ў шлюпку ўсіх, а калі яна пры гэтым затоне разам са мною, то няхай. Нельга пакінуць кагосьці. Усе яны аднолькава пакутавалі над словам і над лёсам людзей. — Паказваючы на кніжныя паліцы, ён працягвае: — Усе яны мае любімыя пісьменнікі. Іх так шмат, і кожны з іх мне да смерці дарагі. Усе яны са мною і толькі пяцёх з іх — я не магу назваць. Вазьміце ўсіх, хто любіў людзей, мучыўся за іх і быў сумленны. Вазьміце ўсіх, хто ўзяў за правіла цудоўныя словы Дон-Кіхота: «Сеньёры, вас пяцёра і вы напалі на аднаго. Значыць, няма вашай рацыі. Бараніцеся, сеньёры!»

Усё жыццё найлепшыя з нас стараюцца быць вернымі гэтаму прынцыпу. Былі верныя. Верныя зараз. І дасць Бог… будуць яшчэ.

А як гэта ўдавалася ў кожнага — хай судзяць людзі.

## Вячаслаў РАГОЙША

# НА РАКАЎШЧЫНЕ,
# У МАІМ РОДНЫМ КУЦЕ...

У вялікім чалавекалюбным сэрцы Уладзіміра Караткевіча, якое было «распята за ўсе мільярды двухногіх» («...Быў. Ёсць. Буду»), мясціўся цэлы свет. Зразумела, асабліва запаветныя куточкі ў ім займалі родныя пісьменніку Аршаншчына, Рагачоўшчына, а таксама Кіеў, дзе ён вучыўся ва ўніверсітэце, Астравеччына, радзіма яго сябра Адама Мальдзіса, і некаторыя іншыя, дарэчы, увогуле нешматлікія, мясціны. Магу з усёй адказнасцю і прыемнасцю сказаць: сярод апошніх — і мая родная Ракаўшчына.

Ракаўшчына — паняцце не адміністрацыйнае, а культурна-гістарычнае. Калісьці ў яго ўваходзілі (дый і цяпер уваходзяць) землі на ўсход ад Ракава, у бок Мінска (з Новым Полем, Старым Ракавам, Аксакаўшчынай, Траскоўшчынай, Вялікім Сялом і інш.), ажно да вытокаў Іслачы каля гары Святой (цяпер — Дзяржынская), і на захад, у бок Валожына і Івянца (з Пярэжарамі, Душкавам, Бузунамі, Яршэвічамі, Пугачамі, Падневічамі і інш.), ледзь не да сярэдзіны Іслачы і часткі Налібоцкай пушчы. Насельніцтва гэтай даволі значнай тэрыторыі гуртаваў і гуртуе якраз Ракаў, дзе пры ўсіх уладах (а яны тут у XX стагоддзі мяняліся 11 разоў!) месціліся розныя адміністрацыйныя органы, рэлігійнае жыццё забяспечвалі царква, касцёл і сінагога, а эканамічнае — знакаміты штотыднёвы кірмаш. У 1921 годзе Ракаўшчыну па жывому разрэзала дзяржаўная мяжа паміж СССР і Польшчай, але праз васемнаццаць гадоў яе не стала. Пасля Вялікай Айчыннай вайны колішняе прыгранічнае польскае мястэчка ўваходзіла то ў склад Радашковіцкага раёна Маладзечанскай вобласці, то — у Маладзечанскі раён Мінскай вобласці, пакуль нарэшце не зрабілася своеасаблівымі варотамі Валожынскага раёна пры ўездзе ў яго з боку Мінска.

З Ракаўшчынай Уладзімір Караткевіч пазнаёміўся, а пасля і зблізіўся дзякуючы перш за ўсё майму з ім сяброўству. І паспрыяў гэтаму ніхто іншы, як Адам Мальдзіс, з якім я быў добра знаёмы яшчэ з таго часу, калі сённяшні паважаны прафесар і пісьменнік працаваў адказным сакратаром радашковіцкага «Сцяга Ільіча», а я, вучань Ракаўскай СШ, дасылаў у раёнку свае вершаваныя вопыты. Зразумела, ведаючы, што Мальдзіс сябруе з аўтарам «Каласоў пад сярпом тваім», я не раз прасіў пазнаёміць мяне са славутым ужо на той час пісьменнікам. На пачатку лета 1966 года такая магчымасць з'явілася. Прычым, «выйшаў» на мяне сам Караткевіч. Праз Мальдзіса.

А справа была ў тым, што адзін з пляменнікаў Караткевіча, які заканчваў школу на Рагачоўшчыне, захацеў паступаць на філфак БДУ. Яшчэ і сёння правінцыйныя, найперш вясковыя, школы, на жаль, па ўзроўні падрыхтоўкі вучняў не могуць параўняцца з гарадскімі. Што ўжо казаць пра той час! І дзядзька захацеў дапамагчы пляменніку — знайсці для яго кваліфікаванага кансультанта. Цяпер гэта называюць рэпетытарствам, тады, здаецца, і слова такое не ўжывалася, дый з'ява не была распаўсюджанай. «Кансультантам» — вядома, па парадзе Мальдзіса — павінен быў стаць я, тагачасны аспірант філфака БДУ. І вось аднойчы ў канцы мая 1966 года дзверы 341-га пакоя аспіранцкага інтэр-

ната па вуліцы Кастрычніцкай, 2 шырока расчыніліся, і Мальдзіс, прапускаючы перад сабой высокага, стройнага, у белай вышыванай кашулі Караткевіча (яго я бачыў дагэтуль толькі здалёк на розных літаратурных сустрэчах), прамовіў з жартам:

— Прымай, гаспадар, нязваных гасцей, якія ўсё ж лепш… за татарына. Знаёмся: класік Караткевіч!

Забягаючы наперад, скажу: у сяброўскім коле мы ўсе нават у вочы звалі Караткевіча «класікам». Ён не пярэчыў. Разумеў гумар, умеў сам пажартаваць, апрача таго, відавочна, ведаў сабе цану. Тады ж я ўважліва пaглядзеў на Уладзіміра Сямёнавіча. Ці не прыме ён гэта слова за жарт, ці не ўсміхнецца? Не ўсміхнуўся.

Не буду казаць, што я не мог адмовіць Караткевічу ў ягонай просьбе. І хоць не меў я яшчэ выкладчыцкага вопыту, ніколі да гэтага не быў «рэпетытарам», усё ж даў згоду правесці з яго пляменнікам (з умовай: толькі «на грамадскіх пачатках») некалькі ўрокаў-кансультацый па беларускай мове і літаратуры. Відаць, дзядзька хлопца быў задаволены тымі кансультацыямі, бо ўжо на пачатку жніўня падараваў мне сваю фотакартку з надпісам: *«Дарагому Славу Рагойшу ад У. Караткевіча, які дужа яго паважае. 5. VIII. 66. Менск»*. А ў канцы таго ж года, у час нашай першай сумеснай паездкі ў Ракаў, уручыў мне свае «Вячэрнія ветразі» з наступнай дэдыкцыяй: *«Дарагому Славу Рагойшу, міламу чалавеку — з падзякай — за ўсё. Ул. Караткевіч. 9. XII. 66»*. Пляменнік Караткевіча аказаўся здольным, хоць і не зусім падрыхтаваным, юнаком. Ён даволі паспяхова (мяркую, не без маіх намаганняў) здаў уступныя экзамены, увогуле добра, дзякуючы працавітасці, правучыўся ва ўніверсітэце ўсе пяць год, урэшце стаў выдатным настаўнікам роднай мовы і літаратуры, а пасля — і дырэктарам адной са школ у сваім прыдняпроўскім краі…

Я згадаў першы прыезд Караткевіча ў Ракаў. З намі тады быў і Адам Мальдзіс. Нас гасцінна сустрэлі мае бацькі, якія добра ведалі Мальдзіса (па яго працы ў раённай газеце), начуліся ад мяне пра Караткевіча. Маці па маёй парадзе прыгатавала некалькі беларускіх страў — бабку-дранку, верашчаку з блінамі, вантрабянку (якраз закалолі парсюка), бацька — пару пляшак «пушчанкі». Запрасілі суседа і бацькавага стрыечнага брата настаўніка гісторыі ракаўскай школы Васіля Пятровіча Налецкага. І палілася бяседа. Васіль Пятровіч, апантаны краязнавец, аўтар цікавых краязнаўчых нарысаў у мясцовым і рэспубліканскім друку, захоплена расказваў пра багатую гісторыю Ракава, яго цікавых людзей, знакамітыя падзеі. Узгадваліся, помню, і паход на Маскву напалеонаўскіх войск, частка якіх рухалася самым кароткім шляхам з захаду на ўсход — праз Ракаў, і падзеі паўстання Кастуся Каліноўскага на нашых землях, і прыезд у мястэчка ў 1908 годзе Элізы Ажэшка на запрашэнне братоў Здзяхоўскіх, і кантакты аднаго з братоў, Мар’яна, з Львом Талстым, і знішчэнне фашыстамі ў 1942 годзе ў Ракаўскім гета амаль тысячы яўрэяў, і інш. Уладзіміра Караткевіча, у прыватнасці, зацікавіў час, калі памежны Ракаў быў пад уладай «панскай Польшчы»: быт і ўзровень жыцця насельніцтва, адносіны палякаў да беларусаў, узаемаадносіны каталіцкай і праваслаўнай канфесій і г. д. Тут ужо рэй павёў мой бацька Пётр Іосіфавіч, колішні жыхар недалёкіх Пярэжар, які скончыў Ракаўскую польскую сямігодку, прайшоў службу ў польскай арміі, ваяваў з фашыстамі ў складзе Чырвонай Арміі… Яго навелы пра ракаўскіх памежных кантрабандыстаў, айца Сеўбу, які за абарону праваслаўя сядзеў у Картуз-Бярозе, прымусовую паланізацыю праваслаўных беларусаў, прыход на Ракаўшчыну Чырвонай Арміі ў 1939 годзе, пачатак ВАВ, баі за Кёнігсберг, сустрэчу з амерыканцамі на Эльбе і інш. Караткевіч слухаў з не меншай цікавасцю, чым пра падзеі даўно мінулых дзён. Час ад часу ён даставаў нататнік, нешта запісваў. У тым ліку, відаць, і новыя для яго дыялектызмы. Так, у прыватнасці, зацікавіла яго слова «патайнік» — схаваны ў зямлі валун, на які звычайна натыкаецца плуг пры арбе…




Нарэшце настаў час экскурсіі па Ракаве, якую мусіў весці я. Тады яшчэ ўзвышаўся каля касцёла вялікі будынак царскай пошты на высокім падмурку, з глыбокімі сутарэннямі, куды на адрас «Минская губ., почта Раков, помещику Марьяну Здзеховскому» прыходзілі лісты з Яснай Паляны ад Льва Талстога. «Вось бы зрабіць тут музей беларускай пошты!» — усклікнуў Караткевіч. На жаль, гэтага не здарылася, сам жа будынак неўзабаве згарэў. Як, дарэчы, і барак для рабочых у Паморшчыне (вёсачка, якая пазней злілася з Ракавам), дзе перад нараджэннем Янкі Купалы амаль тры гады жылі яго бацькі… Пабачылі мы і рэшткі сядзібы Здзяхоўскіх, і старажытнае гарадзішча Ва́лы на беразе Іслачы, і насыпны курган у яе пойме, дзе пры раскопках яшчэ на пачатку XX стагоддзя знаходзілі крамянёвыя нажы, наканечнікі для стрэл і інш. «А кажуць, што наша гісторыя пачалася з 1917 года. А дулю не хочаце, панове-дабрадзеі!» — часам вельмі эмацыянальна суправаджаў убачанае і пачутае Уладзімір Сямёнавіч. Экскурсію весці дапамагаў мне Мальдзіс, які з часу працы ў радашковіцкай раёнцы ведаў не толькі гісторыю, але і тапаграфію Ракава не горш за мяне. «Адась, змоўч, не перашкаджай «братку-ракаўцу», гэта ж не твой Астравец…», — час ад часу па-сяброўску перапыняў Караткевіч Мальдзіса, калі той нечакана ўрываўся ў мой аповед.

З Ракава госці выязджалі радасныя, поўныя ўражанняў і ўдзячнасці мне і маім бацькам за цёплы прыём. І калі Караткевіч у згаданым дарчым надпісе на «Вячэрніх ветразях» дзякаваў «за ўсё», то ў гэтым «усё» была, несумненна, і паездка ў Ракаў.

З таго часу і ажно да сканчэння нядоўгага жыццёвага шляху Караткевіча ў 1984 годзе — амаль два дзесяцігоддзі — доўжылася наша з Уладзімірам Сямёнавічам сяброўства. Спачатку асабістае, потым — сяброўства сем'ямі, якое распачалося менавіта ў Ракаве на «вяселлі веку». Так назвалі наша з Таццянай Кабржыцкай вяселле, зладжанае на пачатку лістапада 1967 годзе ў ракаўскай хаце маіх бацькоў паводле народных традыцый (са сватамі, дзяльбой караваю, выкраданнем маладой, народнымі музыкамі і інш.) ні то Караткевіч, ні то Мальдзіс. Чаму «вяселле веку»? Многае на ім было незвычайным. Маладая была ажно з Украіны, са Львова. Бацька яе — вядучы тэнар Львоўскай оперы заслужаны артыст Украіны Вячаслаў Апанасавіч Кабржыцкі. Маці Клаўдзія Васільеўна — урач-оталарынголаг, карэнная руская, з Томскай губерні, з таго роду, які даў рускаму і сусветнаму кінамастацтву двух вядомых дзеячаў: Сяргея Бадрова-старэйшага (яна — родная цётка ягонай маці) і дачасна загінулага Сяргея Бадрова-малодшага. Малады таксама быў не лыкам шыты: яшчэ летам аба-

раніў кандыдацкую дысертацыю і з верасня працаваў выкладчыкам на славутай кафедры беларускай літаратуры Белдзяржуніверсітэта. Загадчык гэтай кафедры прафесар Міхась Рыгоравіч Ларчанка пагадзіўся стаць першым сватам. Другім быў — Васіль Налецкі, красамоўца з добра пастаўленым голасам. Ніл Гілевіч, Алег Лойка, Фёдар Янкоўскі, Адам Мальдзіс, Язэп Семяжон, Валянцін Рабкевіч, Генадзь Шупенька, Сяргей Панізнік, Мікола Прашковіч, Пятро Рогач, Леанід Акаловіч, Мікола Пашкевіч, Фёдар Мазура, блізкія і далёкія родзічы, сябры, суседзі (жанатыя — з жонкамі) — усяго звыш ста чалавек — весяліліся ледзь не тыдзень. Колькі арыгінальных тостаў было! Якія толькі песні і як хораша ні спявалі! Беларускія, украінскія, рускія, польскія… Якраз адзначалася 50-годдзе Кастрычніцкай рэвалюцыі, і савецкая ўлада дала свайму народу дастаткова выхадных.

Тое вяселле можна назваць «вяселлем веку» і таму, што яно з’явілася для Караткевіча, на той час ужо немаладога кавалера, добрай нагодай, каб за адзін раз пазнаёміць з большасцю сяброў сваю абранніцу. У Ракаў Уладзімір Сямёнавіч прывёз з Брэста «на агледзіны» (па нашай з ім папярэдняй дамоўленасці) Валянціну Браніславаўну, дацэнта Брэсцкага педінстытута імя А. С. Пушкіна. Для многіх гэта стала вялікай нечаканасцю, ледзь не шокам. «О, Валодзя можа выдаць нечаканасць!» — выдыхнуў Адам Мальдзіс. І выдаў… Праўда, прайшлі яшчэ доўгія чатыры гады да застолля ў мінскай кватэры па вуліцы Веры Харужай, 48, пакуль Валянціна Нікіціна стала афіцыйна Вялянцінай Караткевіч. За час замуства былая выкладчыца гісторыі КПСС Валянціна Браніславаўна значна змянілася: дасканала авалодала беларускай мовай, стала сапраўднай патрыёткай, паплечніцай і дарадчыцай Уладзіміра Сямёнавіча па многіх пытаннях. Што не зробіць з чалавекам каханне!

Тады ж, на вяселлі, маладыя атрымалі падарунак — вялікі насценны гадзіннік з боем. На пасярэбранай манаграме было выгравіравана: *«Няхай шчасця гадзіны адлічвае Тані і Славе гэты гадзіннік. Караткевіч, Мальдзісы, Прашковіч, Панізнік. 7. 11. 1967».* Вядома, тэкст для манаграмы напісаў Караткевіч. А ўжо назаўтра за вясельным сталом ён выдаў чарговую «чаканую нечаканасць» — артыстычна прадэкламаваў экспромтам напісаную ў Ракаве «Эпіталаму Таццяне і Славе». Тым самым ён не толькі выклікаў у маладых сардэчную ўдзячнасць, а ў гасцей — усеагульную ўвагу і павагу, але і ўвёў у сучасную беларускую паэзію новы вершаваны жанр. Вось гэта эпіталама:

Кахання Бог у светлай сіле
Сядзіць між нас. Я п’ю нагбом
За вас: прыгожых добрых, мілых,
За ваш стары і новы дом.

Да схілу дзён сваіх астанніх
Мы вам сябры. Няхай жыве
Наш гонар: Слава і Таццяна,
Сябры ад сёння і — навек.

Малю аб вечным і адзіным:
Хай шчасны будзе на вякі
Шлюб Беларусі і Ўкраіны,
Шлюб Львова й Іслачы-ракі.

*Ул. Караткевіч. 8 лістапада 1967 года.*

У гэтай эпіталаме, як, па сутнасці, і ва ўсіх іншых творах, нават самых інтымных, Караткевіч — грамадзянін, патрыёт — застаўся самім сабой. Апяваючы звычайны шлюб, ён экстрапаліруе падзею на ўзаемаадносіны дзвюх братніх


Эпіталама Таццяне і Славе

Кахання бог у светлай сіле
Сядзіць між нас. Я п'ю [illegible]
За вас: прыгожых, добрых, мілых,
За ваш стары і новы дом.

Да схілу дзён сваіх астанніх
Мы вам сябры. Няхай жыве
Наш гонар: Слава і Таццяна,
Сябры ад сёння і — навек.

Маю аб вечным і адзіным:
Хай шчасны будзе на вякі
Шлюб Беларусі і Украіны,
Шлюб Львова і Іслач-ракі.

Ул. Караткевіч, 8 лістапада 1967 года

дзяржаў, асабліва блізкіх для яго самога, — Беларусі і Украіны. Балазе і нагода добрая надарылася: маладая — з Украіны, малады — з Беларусі. Тым самым прыватная з'ява выйшла ў свет грамадскіх інтарэсаў.

Прачытаўшы эпіталаму, Караткевіч прапанаваў усім гасцям распісацца пад ёй. Многія распісаліся. Некаторыя — не. У асноўным — «дырэктарскі корпус» былога саўгаса «Ракаўскі», бацькавы калегі па працы. Відаць, яны помнілі, што́ бывала за калектыўныя пісьмы…

З часу «вяселля веку» з Уладзімірам Сямёнавіча мы сталі на «ты». Нітавалася наша сяброўства не толькі агульнымі літаратурнымі і грамадскімі зацікаўленнямі, маім захапленнем яго выключнымі шматграннымі талентамі, заўсёды добрым стаўленнем яго да мяне, але таксама і звычайным суседствам у мінскім доме па Карла Маркса, 36, куды Караткевічы пераехалі з вуліцы Веры Харужай, 48, а пасля і мы з Серабранкі, з праспекта Ракасоўскага, 111. Суседства, зразумела, абумовіла нашы частыя, ледзь не штодзённыя, кантакты. Але і дагэтуль мы нярэдка бывалі ў Караткевічаў на Веры Харужай, як і Караткевічы ў нас — на Ракасоўскага. Кантакты мінскія і паездкі на Ракаўшчыну асабліва пачасціліся, калі Саюз пісьменнікаў выдзеліў мне аўтамашыну «Жыгулі» (у той час свабодна купіць аўтамабіль было нельга, яго «выдзялялі» па чарзе сваім супрацоўнікам асобныя ўстановы і арганізацыі). На тых «Жыгулях» мы з Караткевічам аб'ехалі амаль усю Валожыншчыну. Былі ў Люцінцы, дзе жыў і тварыў Дунін-Марцінкевіч, і на яго магіле ва ўрочышчы Тупальшчына, наведалі ў Івянцы народнага мастака Апалінарыя Пупко ў яго доме, што нагадваў сапраўдны мастацкі музей. Праз Пяршаі заехалі ў Валожын, потым — у Вішнева. Неяк з'ездзілі ў Гальшаны, палазілі па развалінах замка. Пабывалі ў Багданаве на магіле мастака Фердынанда Рушчыца. Што да Ракаўшчыны, то тут крокі Караткевіча памятаюць многія мясціны.

Помніцца, аднойчы Караткевічы задумалі набыць лецішча. Але не ў «калгасе» — садовым кааператыве, а недзе ў вёсцы ці яшчэ лепш — на хутары. Вячаслаў Міхасёнак, знаёмы настаўнік і паэт з недалёкіх Дуброваў, прапанаваў свой варыянт. Мы з Караткевічамі паехалі ў Дубровы. Хата, асабліва размяшчэнне яе (ледзь не на балоце), не спадабалася ні Валянціне, ні Уладзіміру. Пачалі калясіць па Ракаўшчыне. Хутар у Моньках, які тады прадаваўся, прыйшоўся даспадобы. Хата стаяла на ўскрайку поля, з трох бакоў да яе падступаў лісцвяны і яловы лес. Якраз была вясна, у кустоўі свае рулады выводзілі салаўі. Уладзімір Сямёнавіч гатовы быў паставіць кропку ў пошуках лецішча. Але… Ад аўтастрады хутар аддзялялі чатыры кіламетры палявой дарогі. Трэба машына. А хто яе будзе

вадзіць? Пэўныя прычыны не дазвалялі ні гаспадару, ні гаспадыні мець вадзіцельскія правы…

Помніцца і такое. Улетку 1983 года, пасля амаль адначасовага пахавання жонкі Валянціны і любімай цёткі Жэні, Уладзімір Сямёнавіч быў у надта кепскім стане — і душэўным, і фізічным. Каб адцягнуць яго ад змрочных думак, даць магчымасць «дыхнуць чыстым паветрам», мы з Таццянай запрасілі яго пажыць у Ракаве. Улетку тут звычайна адпачывалі мае цесць і цешча, людзі неардынарныя, інтэлігентныя, якіх Уладзімір Сямёнавіч ведаў яшчэ з 1967 года, з «вяселля веку». Калі мець на ўвазе і маіх бацькоў Валянціну Антонаўну і Пятра Іосіфавіча, сялян з багатым жыццёвым досведам, то кампанія такая магла зацікавіць Уладзіміра Сямёнавіча як чалавека і пісьменніка. І ён, сапраўды, станоўча ўспрыняў нашу прапанову. Праўда, спаць вырашыў не на сваёй халасцяцкай канапе, якую пасля жаніцьбы аддаў нам («Бярыце, завязіце ў Ракаў, можа яшчэ спатрэбіцца») і якая дагэтуль стаіць у бацькоўскай ракаўскай хаце на Пляцы Волі як музейны рэлікт, а на сенавале, у бацькавым гуменцы («Дайце мне маю Рагачоўшчыну ўспомніць!»). Харчаваліся звычайнай сялянскай стравай. Бацькі мелі агарод, трымалі карову, курэй. Цешча з Украіны гатавала выдатныя ўкраінскія баршчы, за якія Уладзімір Сямёнавіч кожны раз галантна цалаваў ёй руку. Строга вытрымлівалі «сухі закон». Удзень на «Жыгулях» ездзілі па ваколіцах Ракава. Наведалі выдатныя прыіслацкія мясціны — Салаўёў кут, Медзьвядку, Рынкава балота… Загаралі, купаліся ў Іслачы. Заязджалі на могілкі ў Пярэжарах, дзе вечны спакой знайшлі мае дзяды і прадзеды. Спыняліся каля мураванага Белага Слупа, дзе, згодна з паданнем, пахаваны ў 1812 годзе французскі генерал… А вечарамі доўжыліся гутаркі, у якіх закраналіся самыя розныя тэмы — ад гістарычных, актуальных сацыяльна-палітычных да сацыякультурных, у тым ліку тэатральных. У іх прымаў актыўны ўдзел і тагачасны галоўны дырыжор і мастацкі кіраўнік Вялікага тэатра оперы і балета БССР народны артыст СССР Яраслаў Вашчак, львоўскі сябра цесця і цешчы яшчэ з пасляваеннага часу. Ён нярэдка прыязджаў з Мінска нават пасля вячэрніх спектакляў. У час тых ракаўскіх сустрэч Вашчак цвёрда вырашыў паставіць оперу па нейкім творы Караткевіча. Мы з Таццянай Вячаславаўнай параілі рамантычнае «Дзікае паляванне караля Стаха». Святлане Клімковіч было заказана лібрэта, Уладзімір Солтан па просьбе Яраслава Антонавіча згадзіўся надаць яму музычнае гучанне. Мастацкім кіраўніком і дырыжорам спектакля стаў сам Вашчак. На жаль, Караткевіч не дажыў да пастаноўкі оперы. Дый Вашчак, які, перамагаючы бязлітасную хваробу веку, ледзь не да апошняга свайго дня праводзіў рэпетыцыі, пару тыдняў не дажыў да прэм’еры. Хоць пасля заслужана (як і кампазітар Солтан) быў пасмяротна ўганараваны званнем лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі…

Але летняя ідылія 1983 года, на жаль, працягвалася нядоўга. Не прайшло і тыдня, як Уладзімір прамовіў: «У цябе мне хораша, але адвязі мяне дадому… Налета пастараюся пабыць даўжэй». Мае ўгаворы пабыць даўжэй поспеху не мелі. Я здагадваўся пра прычыну ад’езду. Толькі папрасіў: «Валодзя, трымайся… Калі што — гукай нас».

Наступны, 1984-ы, год стаў апошнім, калі мы сустракаліся з Уладзімірам Караткевічам. Ён пачуваўся дрэнна. Страшэнна балеў жывот. Аднойчы, калі ён, скурчыўшыся, ляжаў у сваёй кватэры на канапе, я спытаўся: «Табе баліць, але як? Параўнай з чым-небудзь свой боль». «Усё роўна як дзесяць распаленых жалязкаў пякуць у жываце». Ведаючы яго рамантычны лад мыслення, я ўспрыняў гэта як гіпербалу. А сам падумаў: «Калі і не дзесяць, то нават аднаго хопіць… Як толькі ён, бедны, трывае?» Дактары ставілі дыягназ: цыроз печані. Пасля аказалася, цырозу не было…

Яшчэ недзе вясной таго года я нагадаў Уладзіміру пра яго абяцанне частку лета правесці ў Ракаве. У мяне, апрача іншага, было жаданне пазнаёміць Караткевіча з Бадровымі, якія летам намерваліся прыехаць да нас з Масквы на

адпачынак. Сяргей Бадроў-старэйшы быў ужо вядомы тады як кінасцэнарыст і рэжысёр, у прыватнасці стваральнік такіх шырокавядомых фільмаў, як «Любімая жанчына механіка Гаўрылава» з Людмілай Гурчанка ў галоўнай ролі, «Каўказскі палонны» і інш. І знаёмства Бадрова з Караткевічам магло скончыцца стварэннем выдатнага фільма па адным з твораў беларускага пісьменніка. Я і цяпер помню нейкі нібыта вінаваты выраз твару Уладзіміра, калі ён на мой напамінак адказаў: «Бачыш, Слава, як я старэю — нават памяць падводзіць. Абяцаў табе, а забыўся, што сёлета мы, выпускнікі Кіеўскага ўніверсітэта 1954 года, дамовіліся аб сустрэчы: роўна 30 год як скончылі ўніверсітэт. А тут Ждановіч і Драчоў падбіваюць паплаваць на плыце па Прыпяці. Хочацца яшчэ раз зірнуць на Палессе. Так што даруй. Але ж застаецца яшчэ канец лета і пачатак восені. Тады і заедзем да тваіх сімпатычных дзядзькі Пятра і цёткі Валі. Пацягаемся па ракаўскіх лясах, пазбіраем грыбоў…»

Абяцанне, на вялікі жаль, аказалася не выкананым. Бадровы ў тое лета да нас прыехалі. Усёй сям’ёй. Сяргей Бадроў-старэйшы з жонкай, маці, сынам Сяргеем, тагачасным вучнем адной з маскоўскіх школ, які пазней удала зарэкамендаваў сябе як акцёр не толькі ў фільме бацькі «Каўказскі палонны», але і ў такіх папулярных фільмах, як «Брат-1» і «Брат-2». Сяргей Бадроў-малодшы, дарэчы, у тое лета захапіўся творчасцю Уладзіміра Караткевіча. Ягоны аднагодак наш сын Максім цэлымі днямі, а то і па вечарах чытаў і перакладаў яму на рускую мову «Чорны замак Альшанскі». Хлопцаў нават нельга было даклікацца на абед ці вячэру. Нам думалася пра сустрэчу Бадровых з Караткевічам. Аднак пад канец ліпеня ў хату прынеслі неспадзявана-трагічную тэлеграму ад Адама Мальдзіса пра заўчасную смерць нашага агульнага сябра. У дзень пахавання мы ўсе вырушылі ў Мінск. А перад гэтым Сяргей Бадроў-малодшы і Максім на ракаўскіх палях нажалі ледзь не сноп жытнёвы. Сцябліны потым пераламалі. З васільковым пярэвяслам, паніклымі каласамі, наш сноп-букет адмыслова-сімвалічна вылучаўся сярод мора чырвоных і белых ружаў і гваздзік, што ў той дзень укрылі магілу пісьменніка на Усходніх могілках Мінска…

# ЛІСТЫ ВАСІЛЯ БЫКАВА ДА УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА

*«…Я заўжды гатоў пакланіцца твайму ўмельству, душэўнай чысціні і ўзнёсласці…»*

**В. Быкаў**

*Сярод вялікай колькасці разнастайных па складзе і змесце фондаў асабістага паходжання вядомых беларускіх вучоных, пісьменнікаў, грамадска-культурных дзеячаў у аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі захоўваецца рукапісны архіў вядомага беларускага пісьменніка Уладзіміра Сямёнавіча Караткевіча, якому 26 лістапада 2010 года споўнілася б 80 гадоў.*

*Імя Уладзіміра Караткевіча шырока вядома як у Беларусі, так і за яе межамі. Паэт, празаік, публіцыст, перакладчык, кінасцэнарыст, ён быў аднолькава таленавіты амаль ва ўсіх літаратурных жанрах. Творчасць Караткевіча — адметная з'ява ў беларускай літаратуры. Усім лепшым, што ён паспеў стварыць, магла б ганарыцца любая сучасная літаратура. Ён па праве можа лічыцца класікам беларускай гістарычнай літаратуры. Па яго сцэнарыях зняты мастацкія і дакументальныя фільмы, пастаўлены тэатральныя і радыёспектаклі, па яго лібрэта Д. Смольскім напісана опера «Сівая легенда», паводле яго аповесці У. Солтанам створана опера «Дзікае паляванне караля Стаха». Творы пісьменніка перакладзены на многія мовы свету.*

*Яшчэ пры жыцці У. Караткевіч перадаў на захаванне ў бібліятэку частку рукапісаў сваіх твораў (у 1970 і 1981 гадах). У 2000 годзе ад сястры пісьменніка Наталлі Сямёнаўны Кучкоўскай, якая шмат зрабіла для захавання творчай спадчыны У. Караткевіча, ЦНБ НАН Беларусі атрымала астатнія дакументы архіва.*

*Літаратурная (дакументальная) спадчына Уладзіміра Караткевіча дае шырокае ўяўленне пра яго жыццёвы і творчы шлях, інтарэсы, прыхільнасці, сяброўскія сувязі, дае ўнікальную магчымасць зазірнуць у творчую майстэрню пісьменніка, прасачыць усе стадыі стварэння таго ці іншага твора ад першапачатковай задумкі да канчатковага варыянта.*

*У рукапісным архіве захоўваюцца чарнавыя накіды і аўтографы ранніх вершаў, апавяданні юнацкіх гадоў, планы і накіды так і не напісаных твораў. Сярод захаваных матэрыялаў — аўтографы і машынапіс з аўтарскай праўкай раманаў «Каласы пад сярпом тваім», «Чорны замак Альшанскі», «Нельга забыць», аповесцей «У снягах драмае вясна», «Лісце каштанаў», «Зброя», «Легенда аб бедным д'ябле і адвакатах Сатаны», драмы «Кастусь Каліноўскі», п'ес «Званы Віцебска», «Калыска чатырох чараўніц», «Маці ўрагану», «Трошкі далей ад Месяца», легенд і навел, апавяданняў, нарысаў, эсэ, артыкулаў, кінасцэнарыяў, казак, паэтычных перакладаў і інш. Шмат дакументаў, а гэта ў асноўным рэцэнзіі і водгукі на яго творы, маюць рукапісныя заўвагі і каментарыі пісьменніка, часам жартаўлівыя, часам рэзкія, абураныя і разгубленыя ад неабгрунтаванай крытыкі таго ці іншага твора. Чарнавікі вершаваных і паэтычных твораў ранніх гадоў маюць шматлікія малюнкі на палях, што робіць іх асабліва цікавымі і каштоўнымі.*

*Асобныя раздзелы складаюць студэнцкія працы У. Караткевіча, яго малюнкі, якія дэманструюць яшчэ адну грань таленту пісьменніка, запісныя кніжкі і блакноты з рабочымі запісамі і нататкамі, зробленымі падчас шматлікіх вандраванняў па розных кутках Беларусі і былога Савецкага Саюза, дзённікавымі запісамі і накідамі вершаваных і паэтычных твораў. Фонд дапаўняюць дакументы да біяграфіі пісьменніка, фотаздымкі У. Караткевіча індывідуальныя і разам з блізкімі і сябрамі, дакументы калекцыйнага характару.*

*Вельмі багатая эпісталярная спадчына пісьменніка. У фондзе захоўваецца перапіска з вядомымі паэтамі і пісьменнікамі, дзеячамі культуры, сябрамі: Я. Брылём, В. Быкавым, А. Мальдзісам, Г. Кісялёвым, Р. Барадуліным, Л. Геніюш, З. Нядзелям, М. Забэйдам-Суміцкім, М. Абала, Г. Крыжанавай-Брындзовай і шмат іншымі.*

*Даўняе сяброўства звязвала Уладзіміра Караткевіча з народным пісьменнікам Беларусі Васілём Быкавым. Дакументальныя сведкі гэтага захаваліся ў архіве. Гэта — фатаграфіі, чарнавікі жартаўлівых надпісаў У. Караткевіча пад фотаздымкі, зробленыя падчас сумеснага адпачынку ў Піцундзе, аўтограф апошняга верша У. Караткевіча пад назваю «Васілю Быкаву», напісанага да 60-годдзя з дня яго нараджэння, а таксама сяброўскі шарж В. Быкава на У. Караткевіча. Што датычыцца лістоў, то іх захавалася няшмат. Пяру В. Быкава належаць 10 лістоў, 5 паштовак і 1 запіска. Сярод лістоў і паштовак ёсць запрашэнне В. Быкава на таварыскую вячэру ў сувязі з 60-годдзем з дня яго нараджэння, адрасаванае У. Караткевічу.*

*Сёння пра пісьменніка напісана шмат, і многае з яго творчай спадчыны апублікавана. Спадзяёмся, што публікацыя пісьмаў В. Быкава да У. Караткевіча дапоўніць ужо вядомыя звесткі пра абодвух пісьменнікаў, іх адносіны і тыя жыццёвыя абставіны, у якіх гартавалася іх сяброўства і ствараліся шэдэўры беларускай літаратуры.*

*Лісты В. Быкава друкуюцца паводле правапісу арыгіналаў, што захоўваюцца ў ЦНБ НАН Беларусі ў фондзе № 11 «У. С. Караткевіч», вопіс 2, адз. зах. № 644.*

***Таццяна Жук,***
***загадчык сектара аддзела рэдкіх кніг***
***і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі.***

**№ 1**

**[29 снежня 1965 г.]**

Володзя, дарагі чалавеча, добры дзень!

Шкада, што будучы ў Мінску, я не паспеў, як хацеў таго, пагутарыць з табой, павініцца і, можа, апраўдацца ў вядомай табе справе. Я не зусім разумею ўсіх чацвярых Вас, але трохі здагадваюся і хачу выкласці тут некаторыя свае меркаванні.

Мне зусім абыякавы, як чалавек той аўтар (і адзін і другі, дарэчы), пра каго вы пісалі. Я не сябра іх і я не дамагаюся ад іх нічога. Але ў іх творах я заўважыў нешта такое, што для мяне прынцыпова важна ў сучаснай літаратуры, і я паспяшаўся адзначыць гэта ў друку і падтрымаць. Няхай яно, гэта важнае, рэалізавалася, можа, і недастаткова, але той факт, што ў гэтых аўтараў, якія перад тым пісалі зусім інакш, з'явілася такая менавіта тэндэнцыя, не павінен быў ігнаравацца нашай літаратурай як для самой літаратуры, так і для саміх аўтараў. І тут я разважаў безадносна да іх асоб, я забыўся знарок на тое, што адзін нядаўна перад тым выступаў на адным даволі важным паседжанні супраць мяне, а другі, можа, не заўсёды шчыры да мяне, — я думаў пра іх рэчы і нават болей — пра тое, што можа быць далей, пасля гэтых рэчаў. Магчыма, што я перахваліў, перадаў ім больш, чым яны тое заслугоўвалі, але рабіў я гэта свядома, зноў жа не столькі для іх, колькі для літаратуры, для чытачоў і для тых, хто яшчэ шукае свае сцежкі

ў мастацтва, каб паказаць, ткнуць іх носам, дзе яно, гэтае мастацтва, у якім баку яго трэба шукаць. Я б з большым, вядома, задавальненнем напісаў так пра каго з іншых, маладых, напрыклад, але ці мая віна, што маладыя пішуць з вялізнаю аглядкай і пачалі ўжо, за выключэннем некаторых, баяцца ўласнага ценю. Што ж датычыць Ул. Караткевіча, дык тут я не спец, зноў жа цябе даволі дружна абараняюць разумныя хлопцы і, я думаю, у маёй падтрымцы ў Беларусі ты не маеш патрэбы. А вось у Маскве, дзе гэта трэба, я заўжды называю цябе і твае творы і прапаную. І па-мойму, урэшце прарвешся ты і там.

Вось тое, што я хацеў сказаць у сваё апраўданне.

А ўвогуле я думаю, што мы зразумеем адзін другога. Нам няма што дзяліць, няма ў чым разыходзіцца. І калі часам здараецца што благое, дык яно хіба што — непаразуменне.

Віншую цябе з Новым і, будзем спадзявацца, — Лепшым. І дай бог табе такіх жа поспехаў у 66-м, якіх ты дасягнуў у 64 і 65!

З павагай і дружбай — твой *Васіль.*

P. S. Мой нізкі паклон тваім хаўруснікам.

**№ 2**

**[1966 г.?]**

Валодзя, здароў, браце!

Дзякуй за прывет. Я да цябе зайду сёння або заўтра. (Здаецца, Чарнышэўскага 7 кв.57?).

Дабра табе,<br>са шчырасцю — *Васіль.*<br>Субота, Гродна.

Запіска напісана алоўкам на кавалачку паперы ў клетку.

**№ 3**

Валодзя, дарагі дружа!

Некалькі дзён назад прачытаў тваю «Чазенію». Малайчына, здорава! Проста, хораша, рамантычна, дужа чалавечна. Чытаў з асалодай тым больш, што антураж гэты і мне дужа знаёмы. Але ты выплеснуў на некалькіх старонках столькі дзіваў таго краю, што гэта не снілася нават аўтарам далёкаўсходнім. Таленавіты ты, браце, проста надзіва, я заўжды гатоў пакланіцца твайму ўмельству, душэўнай чысціні і ўзнёсласці. Дай бог табе і надалей несці ўсё гэта на радасць літаратуры.

А ўрывак з «Хрыстоса»[1] ў нас пакуль што ляжыць. Я падрыхтаваў, перадрукаваў ды, мабыць, не ў час… Ну але не бяда, як-небудзь зробім.

Чуў, ты быў на здымках[2], увогуле гэтая справа цікавая, калі не прымаць яе блізка да сэрца і ставіцца паблажліва. Калі ж вельмі сур'ёзна і з высокімі памерамі, то бяда! Думаю, аднак, ты знайшоў меру гэтых адносін.

Ну а мы тут жывём патроху. Не надта каб… Трохі пішам. Трохі тужым. Чакаем — чаго, невядома.

Дык усяго табе найлепшага. Прывітанне тваёй матулі, з якой я размаўляў аднойчы па тэлэфоне.

Моцна абдымаю<br>твой *Васіль.*

14.4.67 г.

---

[1] Раман У. Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні».

[2] Здымкі ў Крыме мастацкага фільма «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» па сцэнарыі У. Караткевіча.

**№ 4**

Валодзя, даражэнькі!

Перакапаў усё, перапытаў — няма. Памяць мая (склератычная) упарта падказвае, што я высылаў усё, што нам не спатрэбілася ў твой ці Навумаў адрас[1]. Помніцца, размаўляў па тэлэфону з тваёй мамай на гэты конт. Ты быў у Крыму на здымках.

Пасылаю табе ўсё, што ў мяне засталося — падрыхтаваны да друку кавалак. Пра астатняе папытай у Н. Кісліка. Або, можа, у тваіх паперах. Магчыма, атрымала маці ў тваю адсутнасць.

І прабач, браце. Я буду несці ў сваёй душы камень-віну, калі гэта не знойдзецца.

Абдымаю і лабызаю
твой *Васіль Б.*

14 чэрвеня 68 г.

**№ 5**

**[10 жніўня 1970 г.]**

Дарагі Валодзя!

Атрымаў твой вялікі падрабязны ліст, поўны тугі і непакою. Але турбавацца ў адносінах да мяне нявартa. Усё надта проста, так, як ты і здагадваешся. Паколькі рэч на беларускай мове не надрукавана, цэнзура адмовілася візіраваць. У апошні момант давялося зняць рэмарку аб перакладзе і пусціць у друк нібы рускі твор[2]. А што я яшчэ мог зрабіць? Добра, што сам перакладаў, а як бы было, каб перакладаў нехта? Ды і наогул добра яшчэ абышлося. Беларускі ж варыянт з восені мінулага года ляжыць у «Полымі», — П [...] супраць публікацыі, а Кавалёў кажа: «Што ж я, братка, зраблю, калі аддзел супраць?». Ён усё спіхвае на аддзел. Праўда, цяпер вырашылі вярнуцца зноў да аповесці — праз тыдзень мяркуюць правесці яшчэ адно абмеркаванне на рэдкалегіі. І гэта — пасля надрукавання ў Маскве! Пасля рознага роду абмеркаванняў на розных узроўнях і цэнзурнага дазволу. І гэта нашыя людзі, сябры, калегі па пяру, землякі, сябры ўрэшце.

Як яно будзе далей — не ведаю. Вядома, можна горда маўчаць, кінуць літаратуру. З маіх аповесці[3] не удостаиваются[4] кнігі. А чацвертая — і наогул выхада на роднай мове. Дык што рабіць — маўчаць па-беларуску і наогул ці, можа, варта яшчэ што-небудзь вякнуць на якой-небудзь іншай мове? Хоць бы і на рускай? Пакуль на ёй яшчэ, як бачыш, засталася нейкая магчымасць. Я гэтым, аднак, нічога не сцвярджаю, а толькі разважаю. Гэта пытанне, якое не вырашыш у адзін прекрасный[5] вечар — гэта праблема жыцця. Але што рабіць? Вядома, так ці інакш, знікшы з беларускай л[ітарату]ры, мала каго засмуціш, а некаторых толькі парадуеш. І можа найперш не хочацца даваць ім вось гэтае радасці…

Так што, як ні выламвай мазгі, а гэты самы вялізны? стаіць над галавой. І над усім жыццём.

Вось так!

А табе, браток, дзякуй за харошы твой братні непакой. Я цябе разумею.

Абдымаю. І дай табе бог сонейка! І ўратуе ад халеры!!!

Твой *В.*

---

[1] Рукапіс рамана У. Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні».

[2] Аповесць В. Быкава «Сотнікаў». Была апублікавана на рускай мове ў часопісе «Новый мир», 1970, № 5, на беларускай мове — у часопісе «Полымя», 1970, № 11.

[3] Аповесці В. Быкава «Мёртвым не баліць», «Праклятая вышыня», «Круглянскі мост».

[4] Так у пісьме.

[5] Так у пісьме.

**№ 6**

Дарагі Валодзя,

наконт Д […] я пажартаваў, вядома, веру тваім словам — калі не, дык не. Не будзем пра гэта, хай, абыдзецца.

Будзь здаровы і пісучы, сустрэнемся — пагаворым.

Шчыры паклон тваёй маме і Валі[1].

Твой *Васіль.*

Адасю[2] маё шанаванне, дзякуй яму за пісьмо.

25.III.73.

**№ 7**

**[29 снежня 1979 г.]**

Wesołych Noworocznich swiat państwy Korotkowiczowych życzy państwo Bykowych з Менеску.

P. S. Życzymy wszystkiego najlepszego w każdej dziedzine życia.

Тэкст — на віншавальнай паштоўцы. Да яе дададзена выразка з газеты «Чырвоная змена» з нататкай «Прэм’ера фільма» пра мастацкую стужку «Дзікае паляванне караля Стаха» па матывах аднайменнай аповесці У. Караткевіча з фотаздымкам У. Караткевіча і кінарэжысёра В. Рубінчыка.

**№ 8**

**[6 ліпеня 1980 г.]**

Дарагі Валодзя,

атрымаў твае мілыя паштоўкі, дзякуй табе. Вельмі жадаю табе добрага жытла ў цудоўным і любым для мяне месцы — Друскеніках, хай там гартуецца тваё здароўечка. Мы тут маемся як-кольвек. Часам бачуся з Грышкам[3], але ён непаседа — усё на колах: то быў у Алма-Аце, то рвануў у Вушачу. Я таксама збіраюся рвануць, толькі не вырашыў яшчэ — куды?

Дык душэўнай лагоды табе, дружа Валодзя!

Пакланіся Чурлёнісу, возеру, царковачцы драўлянай і хвойнаму бору каля Друскенік. А будзеш у Ротніцы — то пакладзі кветачку на магілу Чачота.

Абдымаю — *Васіль Б.*

Далей тэкст — на паштоўцы.

І пішы! Усюды, дзе я выступаў, пытаюцца пра цябе — што ты пішаш. Кажу: нешта значнае і дужа цікавае. Рады.

Твой *В.*

**№ 9**

**[1981 г.]**

Даражэнькія Валя і Валодзя,

нічога так не жадаем вам у Новым, 1982 годзе (годзе Сабакі), як добрага здароўечка. Дарэчы, сабе таксама.

І моцна абдымаем вас, — ваш *В.* і *І. Быкавы.*

Тэкст — на віншавальнай паштоўцы.

---

[1] В. Караткевіч — жонка У. Караткевіча.

[2] А. Мальдзіс — беларускі літаратуразнавец, крытык, празаік, публіцыст.

[3] Р. Барадулін — беларускі паэт, перакладчык. Народны паэт Беларусі.

### № 10

**[28 верасня 1982 г.]**

Дарагія Валя і Валодзя!

Напэўна, у вас там цудоўна, у нас не вельмі… Восень залатая, але сцюдзёная. І яшчэ мы засядаем. Віншуем і рукапляскаем.[1] Як — можаце меркаваць па тым, што пасылаем.

Добра вам дабыць!

І прыехаць у край сцюдзёны.

Абдымаем, *Ірына* і *Васіль.*

Пісьмо адрасавана ў Дом творчасці літфонду ў Піцундзе.

### № 11

**[27 кастрычніка 1982 г.]**

Дарагія В² !

Шлем вам 2 (два) паклоны і 1 (адну) выразку з «Чырвонкі» за 26.10.82 і жадаем здароўечка — добрага і надоўга.

Вашы *Быкавы* — 1 (адзін) *Васіль* і (1) адна — *Ира*[2].

Да пісьма дададзена газетная выразка артыкула В. Іпатавай «Дзівосны свет гісторыі…», прысвечанага творчасці У. Караткевіча.

### № 12

**[1982 г.]**

Дарагія і мілыя нашы Валя і Валодзя!

Хай Новы, 1983 год будзе лепшы за мінулыя гады. Для вас і для нас. Хай падорыць ён нам добрае здароўечка і здзяйсненне мараў нашых — святых і грэшных.

Абдымаем вас сардэчна
*Васіль* і *Ірына Быкавы*.

Тэкст — на паштоўцы з відам Крамлёўскай набярэжнай у Маскве.

### № 13

**[20 кастрычніка 83 г.]**

Ул. Караткевічу ў Аршанскае выгнанне (эміграцыю).

Дарагі Выгнаннік!

Трохі ты Свін, бо ўцёк сабе ў старажытную Оршу (Ршу) і сядзіш, не падаючы голасу. А тут ужо чуткі… чуткі. Розныя, у тым ліку і дурныя.

Хоць бы кідануў паштоўку.

І — калі вернешся?

Мы тут сядзім, ходзім, засядаем, чытаем… І пра Караткевіча ў тым ліку (напр. у «ЛГ»)[3]. Ірына каторы дзень тузае мяне за палу, каб напісаў. Здабыла адрас… Так што цяпер ты раскрыты, і мы закідаем цябе лістамі (асеннімі).

---

[1] Магчыма, маецца на ўвазе святкаванне 70-годдзя з дня нараджэння М. Танка.

[2] Так у пісьме.

[3] Артыкул К. Султанава «Ожившие фрески». Литературная газета, 1983, 27 ліпеня.

А пакуль што абдымаем.
І напамінаем, што любім і жджэм.

І сумуем[1]
твае *Ірына* і *Васіль*.

**№ 14**

**[30 снежня 1983 г.]**

Дарагі Валодзя,

вельмі жадаем, каб ты быў здаровы і шчаслівы ў Новым, 1984 годзе, з якім мы цябе сардэчна віншуем. І новых табе радкоў, паэтычных і празаічных, новых удалых фільмаў і прызоў. У чаканні ўсяго гэтага абдымаем цябе з пяшчотай —

твае *І.* і *В. Быкавы.*

Тэкст — на віншавальнай паштоўцы.

**№ 15**

**[Без даты]**

Валодзя, даражэнькі, што здарылася?

У чым гэта я правінаваціўся, каго я абараняю, за каго заступаюся — нічога не разумею.

Пытаўся ў Алексея[2] — і ён не разумее. Можа б вы растлумачылі спярша, а ўжо потым кідалі каменні, білі палкамі, секлі розгамі ды і чацверталі.

Але перад гэтым апошнім паводле ўсіх параграфаў сучаснай юрыспрудэнцыі вы павінны выслухаць маё апошняе слова.

Ваш грэшнік *Васіль-касы*.

P. S. А ўсё роўна люблю вас — усіх чатырох чарцюкоў і не баюся, бо і вы таксама не можаце мяне не любіць, бо я люблю вас і г. д. і да т. п.

На палях пісьма — жартаўлівыя малюнкі В. Быкава.

---

[1] Дапісана І. Быкавай.

[2] А. Карпюк — беларускі пісьменнік.

**Галіна ЮРКЕВІЧ**

# УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ І ОРША

Орша — адзін з найстаражытнейшых і найцудоўнейшых гарадоў Беларусі, «беларускі Суздаль», сапраўдная жамчужына Віцебскага Паазер'я. Орша старажытная і адначасова маладая спрадвеку славіцца сваімі культурнымі традыцыямі, каштоўнымі духоўнымі набыткамі. Славай і гонарам горада з'яўляюцца знакамітыя землякі. Сярод іх пачэснае месца займае паэт і празаік, эсэіст і сцэнарыст, літаратуразнаўца і перакладчык, гісторык — Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч.

«Орша — мой любы горад, мая спрадвечная маці» — так пісаў аб сваёй радзіме Уладзімір Караткевіч. І гэта ўзаемна. Орша не толькі любіць яго, але і ганарыцца ім. Імя пісьменніка-земляка ўшанавана ў назве вуліцы і гарэльефе мастаком Юрыем Паляковым з Талачына, на школах, дзе вучыўся і працаваў — мемарыяльныя дошкі, школьны музей у ДАСШ № 3, які ў лістападаўскія дні 2010 года адзначае сваю 21-ю гадавіну, бацькоўская хата, пабудаваная ў 1946 годзе (вуліца Караткевіча, 10), з мемарыяльнай дошкай, зробленай мастаком Мікалаем Тарандой, ад імя нашчадкаў — помнік у Прыдняпроўскім парку на месцы даваеннай хаты, экскурсійны маршрут і Аршанскі музей У. Караткевіча.

У Оршы па вуліцы Леніна, 26 стаіць прыгожы старажытны аўтэнтычны будынак, помнік грамадзянскай архітэктуры канца XIX — пачатку XX стагоддзя, які гарманічна спалучаецца з сучаснымі прыбудовамі і надбудовамі. З 1925 года тут знаходзіўся гарадскі радзільны дом, у якім і нарадзіўся 26 лістапада 1930 года будучы славуты пісьменнік — Уладзімір Караткевіч. Таму і невыпадкова, што мемарыяльны музей пісьменніка быў адкрыты менавіта тут.

Бацькі пісьменніка пераехалі ў Оршу з Рагачова ў 1917 годзе. Спачатку сям'я здымала паўдома па вуліцы Пецярбургская, зараз вуліца Леніна. А ў 1939 годзе ў самым прыгожым, маляўнічым куточку на беразе Дняпра па вуліцы Зялёнай пабудавалі хату, якая падчас вайны згарэла. Цяпер на месцы даваеннай хаты ўстаноўлены помнік, аўтарам якога з'яўляецца скульптар Віктар Голубеў. Ён быў адкрыты ў 1992 годзе, як падарунак да 925-годдзя горада. Сімвалам хаты стаў зруб, на якім бачым выяву рамантычна-задумлівага юнака — такім паўстае Караткевіч у сваіх ранніх творах. Разгорнутая кніга нагадвае вядомыя вобразы — тут і чорны замак Альшанскі, і дзікае паляванне Караля Стаха, і Бусел — той, з «Зямлі пад белымі крыламі»…

У тры з паловай гады навучыўся чытаць, у шэсць — пісаць вершы, крыху пазней — апавяданні, але больш за ўсё маленькі Валодзя, па ўспамінах яго старэйшай сястры Наталлі, любіў маляваць. Намалюе каля 20 чалавечкаў і ніводны з іх не падобны на другога. У экспазіцыі музея змешчаны шэраг малюнкаў, шаржаў, якія сталі асновай для цэлай кнігі. У 2006 годзе ў Оршы выйшла навукова-папулярнае выданне «Свет вачыма Караткевіча (малюнкі, аўтапартрэты, карыкатуры, шаржы)». Эпіграфам да яго паслужылі словы Рыгора Барадуліна: «А мастак Караткевіч мог бы, відаць, спаборнічаць з пісьменнікам Караткевічам. Бездакорна валодаў лініяй, кампазіцыяй. Некалькімі штрыхамі мог перадаць

характар, улюбёна-рамантычна ці здзекліва-гратэскава». У выданне ўвайшлі матэрыялы з фондавых збораў Установы культуры «Музейны комплекс гісторыі і культуры Аршаншчыны», а таксама тое, што было даслана ў музей Аленай Сінькевіч, Адамам Мальдзісам, Сяргеем Панізнікам, Анатолем Вераб'ём, Вячаславам Рагойшам і інш.

У першы клас Валодзя пайшоў у школу № 3, якая была побач з домам. Скончыў тры класы і паехаў да сваёй старэйшай сястры Наталлі ў Маскву на летнія канікулы. Пачалася вайна. На цэлых тры гады разлучыліся з бацькамі і толькі пасля сустрэліся ў Арэнбургу. Потым некалькі месяцаў пражыў з маці і цёткай Жэняй у Кіеве і ў 1944 годзе вярнуліся ў Оршу. Дом згарэў, некаторы час жылі ў зямлянцы і толькі ў 1946 годзе бацька купіў хату ў вёсцы і перавёз яе ў Оршу.

Гэты будынак і да сённяшняга дня знаходзіцца па вуліцы Караткевіча, 10. Усё сваё жыццё тут пражыла пляменніца Раіса, дачка старэйшага брата Валерыя, які загінуў пад Масквой у 1941 годзе. Але, на вялікі жаль, 30 верасня 2004 года яна пайшла з жыцця. Зараз тут жыве яе муж Юрый Барабаш, які асабіста ведаў пісьменніка і заўсёды з цеплынёй і гумарам успамінае пра Уладзіміра Караткевіча на вечарынах у музеі і школах. І зараз каля хаты стаіць той хляўчук, на гарышчы якога пісьменнік зрабіў сваю «летнюю рэзідэнцыю», дзе яму так добра і натхнёна працавалася.

Калі сям'я вярнулася з эвакуацыі ў Оршу, Валодзя не змог пайсці ў 3-ю школу, бо яна згарэла, але для настаўнікаў і вучняў імя Уладзіміра Караткевіча засталося і застаецца самым дарагім і блізкім. Школьны музей неаднаразова быў пераможцам шматлікіх конкурсаў. Ён атрымаў дыплом І ступені Міністэрства адукацыі Беларусі за прапаганду жыцця і творчасці вядомага беларускага пісьменніка, нашага земляка Уладзіміра Караткевіча, мае і іншыя ўзнагароды. У музеі шмат цікавых экспанатаў: успаміны, рукапісы, фотаздымкі, кнігі і інш. Асабліва дарагім экспанатам з'яўляецца здымак з подпісам: «Мілым маім аршанцам з маёй 3-яй школы. Ул. Караткевіч.», падараваны настаўніцы беларускай мовы Л. Паўлоўскай падчас чытацкай канферэнцыі па кнізе «Дзікае паляванне Караля Стаха». Шмат зрабіла для ўшанавання памяці пісьменніка і папулярызацыі яго творчасці настаўніца рускай мовы і літаратуры Л. Радомская, падхапілі і працягваюць гэту працу беларусазнаўцы Т. Грабовік і І. Байкова.

Як ужо адзначалася, школа № 3 згарэла, таму Валодзя пайшоў вучыцца ў школу № 1 і менавіта тут сустрэўся з маладой таленавітай настаўніцай мовы і літаратуры Кацярынай Іванаўнай Грыневіч, якой і паказаў свае вершы. У школе дзеці выпускалі рукапісны часопіс «Званочак», у якім Уладзімір Караткевіч змяшчаў свае вершы і нават сваю аповесць «Загадка Неферціці».



*Помнік У. Караткевічу ў роднай Оршы.*

У дзесятым класе У. Караткевіч перайшоў вучыцца ў школу № 5. Правучыўся адзін год, атрымаў атэстат сталасці і ў 1949 годзе стаў студэнтам факультэта рускай філалогіі Кіеўскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Пасля першага курса школа № 5 атрымала падзяку за добрыя веды студэнта У. Караткевіча. Неўзаметку праляцеў студэнцкі час, два гады працы ў вёсцы Лесавічы і зноў вяртанне ў родную Оршу. Пачынае працаваць настаўнікам рускай мовы і літаратуры ў старэйшых класах, а ў 5—6 выкладаць нямецкую мову ў школе № 8. І зараз, калі прыходзяць вучні У. Караткевіча ў музей, яны ўсамінаюць, што яго ўрокі былі самыя цікавыя: урок-роздум, урок-разважанні, урок-вандроўкі, урокі паэзіі. Заходзіў у клас шырокімі крокамі. Урок пачынаўся адразу. Ён мог сесці за першую парту. Шмат чытаў вершаў, але ніколі не прызнаваўся, што піша сам, казаў, што вершы яму дасылае сябар. І зусім іншыя былі ўрокі літаратуры, калі настаўнік чытаў прозу. Гэта былі маленькія спектаклі, а ў ролі артыста выступаў ён сам. У школе вельмі пасябраваў з настаўнікам фізікі Уладзімірам Ліпінскім. Як успамінае М. Ліпінская, сяброўства гэта было сапраўднае: збіраліся вечарамі, рабілі насценныя газеты з сяброўскімі шаржамі, цікавымі карыкатурамі і гумарэскамі. У. Караткевіч расказваў шмат паданняў, легенд, цікавага з гісторыі, складаў віктарыны і крыжаванкі. Шмат чытаў вершаў, зрэдку спяваў. У гэтай школе працаваў драматычны гурток, дзе У. Караткевіч як добры мастак рабіў дэкарацыі і нават разам са сваімі вучнямі выконваў невялічкія ролі. Пісьменнік прызнаваўся: «Як ні дзіўна, я не хацеў быць літаратарам. Вершы пісаў для сябе. А ў будучым хацеў быць літаратуразнаўцам».

Гады настаўніцтва былі плённымі і ў літаратурным плане. Хоць праца ў школе адымала час ад творчай дзейнасці. Ён поўны творчых пошукаў і планаў. У лісце да свайго дзядзькі М. Садавога ў снежні 1958 года пісаў: «А задум у мяне столькі, што калі б была свабода і далі б мне гадоў шэсцьдзесят жыцця — напісаў бы сто тамоў». Сапраўды, у Оршы былі напісаны: першы варыянт аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха», аповесці «У снягах драмае вясна», «Цыганскі кароль», першая п’еса «Млын на Сініх Вірах», выйшла ў свет першая кніга паэзіі «Матчына душа», многія старонкі пазнейшых вядомых твораў таксама былі напісаны тут. Уладзімір Караткевіч цудоўна ведаў гісторыю свайго горада, ганарыўся ёй і імкнуўся ўвекавечыць яе на старонках сваіх кніг. Цікавіла яго і слаўнае мінулае Куцеінскай лаўры. Пісьменніка-гісторыка, тым больш аўтара гістарычных дэтыктыўных твораў, захаплялі расповеды аб манастырскіх таямніцах: падземных скляпеннях і хадах. Юнаком сам спрабаваў прайсці іх разам з сябрамі. Гэтыя падземныя хады ён апісаў у паэме «Слова пра чалавечнасць». А на старонках



*Подых гісторыі (фрагмент экспазіцыі Аршанскага музея У. Караткевіча).*



*Рабочы стол У. Караткевіча.*

рамана Уладзіміра Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім» знайшлося месца і для апісання Оршы канца XIX стагоддзя. У адным інтэрв'ю пісьменнік казаў пра гэты раман так: «Пачынаўся ён з Дняпроўскіх легенд і паданняў, з паэтычнай і вельмі прыгожай прыроды ад Рагачова да Оршы». Узгадваюцца падзеі аршанскай гісторыі і ў рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», у многіх нарысах і эсэ. А ў лірычных творах аб родных мясцінах так многа пяшчоты і замілавання.

Сапраўднай одай роднаму гораду стала эсэ Уладзіміра Караткевіча «Рша камен», якое было напісана да 900-годдзя Оршы: «Горад-працаўнік, горад-паэт, горад-воін, горад-вучоны — жыць табе яшчэ тысячы і тысячы год. Нізкі табе паклон ад усіх тваіх сыноў». А ў прывітанні да землякоў у газеце «Ленінскі прызыў» у год юбілею ён пісаў: «Што можна сказаць у двух словах пра твой гонар і славу тваю, родны наш горад? Хіба што яшчэ раз распісацца ў любві і вечнай адданасці да цябе. Вечнай любові і вечнай адданасці».

Орша памятае і ганарыцца сваім пісьменнікам. У 1994 годзе тут быў створаны музей «Нашы славутыя землякі». Адзін з раздзелаў яго экспазіцыі планавалася прысвяціць Уладзіміру Караткевічу. Аднак у 1995 годзе паступіла прапанова ад Саюза пісьменнікаў Беларусі аб стварэнні ў Оршы музея У. Караткевіча. У верасні 1997 года музею славутых землякоў была нададзена назва «Аршанскі музей У. С. Караткевіча». У 2000 годзе да 70-годдзя з дня нараджэння пісьменніка адчыніўся будынак музея з невялікай экспазіцыяй. Мастакамі якой былі Ігар Куржалаў і Сяргей Дзмітрыеў з Наваполацка. А з 1 лютага 2002 года музей гасцінна адчыніў дзверы для сваіх наведвальнікаў.

На першым паверсе будынка размясцілася музейная экспазіцыя пад агульнай назвай «Партрэт пісьменніка і чалавека». Унікальныя фотаздымкі і дакументы, рукапісы і кнігі, асабістыя рэчы і творы мастацтва даюць магчымасць бліжэй дакрануцца да літаратурнай спадчыны Уладзіміра Караткевіча і глыбей асэнсаваць яе значэнне для нас, сённяшніх беларусаў. Цэнтральную частку экспазіцыі першай залы займае творчая майстэрня пісьменніка — фрагмент мінскай кватэры. У цэнтры — рабочы стол, стол-працаўнік, стол-рамантык. На ім заўсёды ляжалі папкі з рукапісамі, добрая папера і добрае паркераўскае пяро. На стале можна было пабачыць нешта незвычайнае: то каменьчыкі, мінералы, то каменную сякеру і іншае. На кніжных паліцах — шматлікія сувеніры, прывезеныя з падарожжаў ці падараваныя сябрамі: прыгожыя кубкі, цацкі, кнігі з бібліятэкі пісьменніка з яго асабістым экслібрысам.

У 2005 годзе да 75-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча была адчынена другая зала музея, якая прысвечана яго літаратурнай спадчыне. Галоўны мастак — Уладзімір Іваноў з Оршы. У афармленні гэтай залы — узнёслы і рамантычны настрой, бо па стылі сваёй творчасці Уладзімір Караткевіч быў пісьменнікам-рамантыкам. Рукапісы аўтара, яго кнігі на розных мовах свету, узнагароды, фотаздымкі са спектакляў і кінафільмаў, творы многіх мастакоў па матывах творчасці Уладзіміра Караткевіча, кнігі даследчыкаў яго спадчыны.

Унутры экспазіцыі, як яе неад'емная частка, знаходзіцца навукова-даследчы цэнтр. Ён уключае навуковую бібліятэку, метадычныя матэрыялы, працоўнае месца даследчыка. Гэта дае магчымасць працаваць непасрэдна ў самой экспазіцыі, робіць яе жывой і дзейнай. Тут жа можна пачуць і голас самога пісьменніка, які спявае сваю любімую песню «Ой, косю, мой, косю», чытае свае вершы. Таксама паслухаць музычныя творы беларускіх выканаўцаў на яго вершы, убачыць мастацкія фільмы, сцэнарыі да якіх напісаны самім Уладзімірам Караткевічам, пазнаёміцца з музейнымі прадметамі, якія не ўвайшлі ў экспазіцыю.

На другім паверсе музея — выставачная галерэя, дзе праходзяць тэматычныя і мастацкія выстаўкі, ладзяцца літаратурна-музычныя гасцёўні, творчыя вечарыны, прэзентацыі кніг, сустрэчы з цікавымі людзьмі.

За час існавання музей стаў культурным цэнтрам горада. Значны ўклад у яго стварэнне і развіццё ўнеслі былыя загадчыкі музея В. Сцяпанаў, І. Байкова. І зараз самаадданa працягваюць гэтую справу навуковыя супрацоўнікі музея В. Пашковіч, Т. Груца. І словам, і справамі дапамагаюць у гэтай працы пляменніца пісьменніка А. Сінькевіч, даследчыкі і прыхільнікі творчасці пісьменніка: Адам Мальдзіс, Анатоль Верабей, Сяргей Панізнік, Уладзімір Арлоў і іншыя.

20 ліпеня 2010 года стартавала водная экспедыцыя «З Уладзімірам Караткевічам ад Оршы да Рагачова», прысвечаная 80-годдзю з дня нараджэння пісьменніка. Бо ён сам па жыцці быў заўзятым падарожнікам, і па рэках Беларусі таксама. Галоўная мэта воднай экспедыцыі — ушанаванне памяці і прапаганда жыцця і творчасці пісьменніка. Падчас яе адбыліся сустрэчы з прыхільнікамі яго творчасці ў Ляўках, Магілёве і Рагачове, быў зняты цудоўны матэрыял аб мясцінах, якія любіў Уладзімір Караткевіч.

Кожны год у лістападзе ў Оршы праходзіць Тыдзень памяці Уладзіміра Караткевіча. У музеі, у школах, бібліятэках адбываецца шмат мерапрыемстваў, прысвечаных жыццю і творчасці пісьменніка: сустрэчы з літаратарамі, прэм'еры кніг, конкурсы. У лістападаўскія дні 2010 года прайшла III Міжнародная канферэнцыя «Уладзімір Караткевіч — глабальны погляд». А 26 лістапада, як заўсёды, аршанцы і госці горада сабраліся на традыцыйныя літаратурныя чытанні «І не знікаць паэтам вечна…», бо літаратурная спадчына вядомага беларускага пісьменніка, нашага земляка, — сапраўдная скарбонка мудрасці, яе жыватворная крыніца.

## ЛІСТАПАД

**1**

115 гадоў з дня нараджэння Крыловіча Уладзіміра Мікалаевіча (1895—1937), беларускага акцёра, заслужанага артыста БССР.

85 гадоў з дня нараджэння Каліны (сапр. Капелян, дзяв. Лукашэвіч) Клаўдзіі Канстанцінаўны (1925—1994), беларускага празаіка.

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Пакаташкіна Валянціна Пятровіча, беларускага жывапісца, педагога, заслужанага настаўніка Рэспублікі Беларусь.

**2**

80 гадоў з дня нараджэння (1930) Баршчэўскага Аляксандра Андрэевіча (псеўд. Алесь Барскі), беларускага паэта, літаратуразнаўца, публіцыста, перакладчыка, фалькларыста, педагога, грамадска-культурнага дзеяча. Жыве ў Польшчы.

50 гадоў з дня нараджэння (1960) Наварыча Алеся (сапр. Трушко Аляксандра Іванавіча), беларускага празаіка.

**3**

120 гадоў з дня нараджэння Пушкарэвіча Канстанціна Аляксеевіча (1890—1942), беларускага гісторыка літаратуры, перакладчыка, славіста-педагога.

**5**

90 гадоў з дня нараджэння Асновіча Сямёна (Самуіла) Пятровіча (1920—2005), беларускага скрыпача, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь.

**6**

210 гадоў з дня нараджэння Ходзькі Леанарда (1800—1871), выдаўца, гісторыка, публіцыста, бібліёграфа.

**7**

80 гадоў з дня нараджэння (1930) Царанковай (дзявочае Сцяфанава) Людмілы Пятроўны, беларускай спявачкі, заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь.

**8**

120 гадоў з дня нараджэння Пачопкі Янкі (Івана Пятровіча; 1890—1977), беларускага паэта, празаіка, фалькларыста.

**10**

100 гадоў з дня нараджэння Каржанеўскага Антона Станіслававіча (1910—1991), беларускага жывапісца.

**11**

85 гадоў з дня нараджэння Чабярук Алены Іванаўны (1925—2007), беларускага мовазнаўца.

**12**

125 гадоў з дня нараджэння Грамыкі Міхайлы (Міхаіла Аляксандравіча (1885—1969), беларускага празаіка, драматурга, вучонага.

90 гадоў з дня нараджэння Макаёнка Андрэя Ягоравіча (1920—1982), беларускага драматурга, народнага пісьменніка БССР.

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Скрыпнічэнкі Георгія Сяргеевіча, беларускага жывапісца і графіка.

**13**

80 гадоў з дня нараджэння (1930) Крыкавай Валянціны Іванаўны, беларускай артысткі балета, народнай артысткі Беларусі. Жыве ў Санкт-Пецярбургу.

**14**

110 гадоў з дня нараджэння Чарнушэвіча Нічыпара Фёдаравіча (1900—1967), беларускага паэта, перакладчыка, драматурга.

105 гадоў з дня нараджэння Васілька Міхася (сапр. Касцевіч Міхаіл Восіпавіч; 1905—1960), беларускага паэта.

60 гадоў з дня нараджэння Кін-Камінскага Уладзіміра Тадэвушавіча (1950—1995), беларускага акцёра.

**15**

75 гадоў з дня нараджэння (1935) Кісялёва Георгія Пятровіча, беларускага графіка, мастака па медалях.

**16**

105 гадоў з дня нараджэння Скрыгана Яна (Івана Аляксеевіча; 1905—1992), беларускага празаіка, паэта, заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь.

**17**

115 гадоў з дня нараджэння Платнера Ісака (Айзіка Хаімавіча; 1895—1961), беларускага паэта, празаіка. Пісаў на ідыш і беларускай мовах.

85 гадоў з дня нараджэння Ясючэні Уладзіміра Мікалаевіча (1925—1945), беларускага паэта.

80 гадоў з дня нараджэння Лысіка Яўгена Мікітавіча (1930—1991), украінскага і беларускага мастака, народнага мастака Украіны.

**20**

80 гадоў з дня нараджэння (1930) Ігнаценкі Рыгора Канстанцінавіча, беларускага празаіка.

75 гадоў з дня нараджэння (1935) Апіёка Мікалая Апанасавіча, беларускага жывапісца, графіка, сцэнографа, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Ткачонка Аляксандра Леанідавіча, беларускага акцёра, народнага артыста Беларусі.

**21**

110 гадоў з дня нараджэння Дзянісава Міхаіла Іванавіча (1900—1971), беларускага спевака, народнага артыста БССР.

100 гадоў з дня нараджэння Судніка Міхаіла Раманавіча (1910—1995), беларускага мовазнаўца, заслужанага дзеяча навукі Рэспублікі Беларусь.

85 гадоў з дня нараджэння Геруса Сямена Пятровіча (1925—1998), беларускага графіка.

**23**

110 гадоў з дня нараджэння Ярмолінай Ларысы Аляксандраўны (1900—1984), беларускай актрысы, тэатральнага дзеяча, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.

100 гадоў з дня нараджэння Астапенкі Змітрака (Дзмітрыя Емяльянавіча; 1910—1944), беларускага паэта.

100 гадоў з дня нараджэння Міронава Аляксандра Яўгенавіча (1910—1992), беларускага празаіка, заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь. Пісаў на рускай мове.

**24**

105 гадоў з дня нараджэння Любімава Льва Уладзіміравіча (1905—1979), расійскага і беларускага дырыжора, народнага артыста БССР.

50 гадоў з дня нараджэння (1960) Ермалаева Уладзіміра Аляксеевіча, беларускага ваеннага дырыжора, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь.

**25**

85 гадоў з дня нараджэння Дзям'янава Анатоля Дзямідавіча (1925—1972), беларускага скульптара.

80 гадоў з дня нараджэння (1930) Красінскага Анатоля Віктаравіча, беларускага кіназнаўца.

**26**

85 гадоў з дня нараджэння Семянякі Юрыя Уладзіміравіча (1925—1990), беларускага кампазітара, народнага артыста БССР.

80 гадоў з дня нараджэння Караткевіча Уладзіміра Сямёнавіча (1930—1984), беларускага паэта, празаіка, драматурга, публіцыста, перакладчыка, кінасцэнарыста.

**27**

110 гадоў з дня нараджэння Пуксты Рыгора Канстанцінавіча (1900—1960), беларускага кампазітара, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.

95 гадоў з дня нараджэння Навумава Міхаіла Якаўлевіча (1915—1979), беларускага мастака-афарміцеля, жывапісца.

**28**

110 гадоў з дня нараджэння Асторынай Аляксандры Паўлаўны (1900—1982), беларускай актрысы, заслужанай артысткі БССР.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Кузьміча Мікалая Пятровіча, беларускага мастака дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**29**

105 гадоў з дня нараджэння Аўчыннікава Мікалая Аляксеевіча (1905—1980), беларускага жывапісца.

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ І ПАДПІСЧЫКІ «ПОЛЫМЯ»!

**Ідзе падпіска на І паўгоддзе 2011 года:**

*індывідуальная льготная для настаўнікаў (індэкс — 00471)*

на 1 месяц — 6100 руб.
на 3 месяцы — 18 300 руб.

*індывідуальная (індэкс — 74985)*

на 1 месяц — 9400 руб.
на 3 месяцы — 28 200 руб.

*ведамасная (індэкс — 749852)*

на 1 месяц — 14 800 руб.
на 3 месяцы — 44 400 руб.

*ведамасная льготная для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь (індэкс — 00727)*

на 1 месяц — 12 000 руб.
на 3 месяцы — 36 000 руб.

***e-mail: polymya@bk.ru***

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220034, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, паэзіі, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 288-22-37.

Стыльрэдактар *М. М. Гілевіч*
Камп'ютэрная вёрстка *С. І. Таргонскай*

Падпісана ў друк 15.11.10 г. Фармат 70×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80. Ул.-выд. арк. 18,33. Тыраж 2792 экз. Заказ 2947.
Рэгістрацыйны № 9 ад 22.07.09 г.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79. ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.